АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# ЗАГАДКІ



ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА» МІНСК 1972

З 14
Бел Ф

Рэдакцыйная калегія:
**В. К. Бандарчык, М. Я. Грынблат,**
**К. П. Кабашнікаў, А. С. Фядосік,**
**В. І. Ялатаў**

Складальнікі:
**М. Я. Грынблат, А. І. Гурскі**

Рэдактар тома
**А. С. Фядосік**

**314** Загадкі. Рэд. А. С. Фядосік. Мн., «Навука і тэхніка», 1972. 448 с. (АН БССР. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Беларус. нар. творчасць). 10 500 экз. 87 к. У перапл.

Загадкі належаць да тых жанраў беларускага фальклору, у якіх найбольш ярка праявілася мудрасць народа, яго тонкая жыццёвая назіральнасць, любоў да паэзіі, трапнага слова.

Кніга з'яўляецца першым асобным і навуковым выданнем беларускіх народных загадак, сабраных з максімальнай паўнатой. Значная частка запісаў публікуецца ўпершыню. Том забяспечаны ўступным артыкулам, навуковым каментарыем і паказальнікам збіральнікаў.— Літ. у падрадк. заўвагах.

**7-3-3**
**41-72**

**Бел Ф**

# БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ЗАГАДКІ

У вуснапаэтычнай творчасці беларускага народа ёсць нямала выдатных твораў, якія перажылі цэлыя эпохі і заўсёды вызначаюцца сваёй мудрасцю, ідэйнай глыбінёй і высокай мастацкай формай.

Вусная народная творчасць з пачатку свайго ўзнікнення адлюстроўвае жыццёвы вопыт людзей, іх багатую фантазію, кемлівасць, дасціпны розум, а таксама ўсе ступені развіцця грамадства, гераічную барацьбу з прыгнятальнікамі, запаветныя мары і спадзяванні народа.

Паяўленне разнастайных жанраў вуснапаэтычнай творчасці, сярод якіх вылучыліся і адмыслова хітрыя загадкі, з'явілася вынікам багатага жыццёвага вопыту ў абагульненні з'яў навакольнай рэчаіснасці.

Хоць загадкі з'яўляюцца адным са старажытных жанраў фальклору, але ў параўнанні з іншымі жанрамі вуснай паэзіі першыя публікацыі іх з'явіліся даволі позна, у першай палавіне XIX ст. Гэта, відаць, тлумачыцца тым, што на загадкі мала звярталі ўвагі збіральнікі народнай творчасці.

Найбольш ранняя публікацыя беларускіх загадак адносіцца да 1849 г.[1]

Пачынаючы з другой палавіны XIX ст.. загадкі ўсё больш прыцягваюць увагу збіральнікаў беларускага фальклору і ўсё часцей з'яўляюцца на старонках перыядычнага друку, а пасля — у фальклорных і фальклорна-этнаграфічных зборніках. Так, у этнаграфічных зборніках пачатку 50-х гадоў XIX ст. публікуюцца беларускія загадкі, запісаныя С. П. Мікуцкім[2], І. Юркевічам[3].

У 1866 г. выходзіць у свет першы выпуск «Сборника памятников народного творчества в Северо-Западном крае» пад рэд. П. А. Гільтэбранд-

---

[1] «Могилевские губернские ведомости», 1849, № 9. Тут было змешчана 56 загадак.

[2] С. П. Микуцкий. Белорусские песни и загадки, записанные в Витебской губ. в имении Зябки Дрисенского уезда. Памятники и образцы народного языка и словесности русских и западных славян. СПб, 1852—1856, тетрадь I—IV, стар. 235—242.

[3] И. Юркевич. Остринский приход Виленской губ. Лидского уезда. Этнографическое обозрение, вып. I. СПб, 1853, стар. 283—293.

та, дзе побач з песнямі змешчаны 93 беларускія загадкі, якія былі запісаны студэнтамі Пецярбургскай духоўнай акадэміі і Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі.

Вядомы збіральнік беларускага фальклору І. І. Насовіч у 1869 г. выдаў зборнік «Белорусские пословицы и загадки», у які ўключыў каля 80 беларускіх загадак, а ў 1874 г. выйшаў у свет яго вялікі «Сборник белорусских пословиц», куды ўвайшло 130 беларускіх народных загадак. Да асобных загадак аўтар дае тлумачэнні і робіць свае заўвагі, прыводзіць варыянты некаторых з іх. Нягледзячы на тое, што сустракаюцца двухсэнсоўныя загадкі або загадкі нецэнзурнага характару, зборнікі І. І. Насовіча не страцілі сваёй пазнавальнай і навуковай вартасці.

П. П. Чубінскі ў першым томе «Трудов этнографическо-статистической экспедиции в Западно-Русский край, снаряженной ИРГО...» змясціў 35 беларускіх народных загадак, запісаных у Бельскім павеце Гродзенскай губерні. Запісы, зробленыя П. П. Чубінскім, каштоўныя тым, што ўказваюць на месца, адкуль узяты фальклорны твор, а таксама ўяўляюць цікавасць да вывучэння паўднёва-заходніх гаворак беларускай мовы.

Самы багаты збор беларускіх народных загадак належыць выдатнаму беларускаму этнографу і фалькларысту Е. Р. Раманаву. У «Белорусском сборнике» (1886) ён публікуе 451 загадку, а ў «Материалах по этнографии Гродненской губернии» (1911) — яшчэ 206 народных загадак. Усяго Е. Р. Раманавым надрукавана каля 800 загадак. Але не ўсё тое, што было сабрана ім, убачыла свет. У XII і XIII выпусках «Белорусского сборника», ужо падрыхтаваных да друку, было яшчэ каля 600 запісаў беларускіх загадак. На жаль, гэтыя рукапісы загінулі ў час Вялікай Айчыннай вайны.

Загадкі, як і іншыя фальклорныя творы — песні, казкі, легенды і г. д., давалі Е. Р. Раманаву невычарпальны матэрыял для вывучэння быту народа і яго жыцця.

Аўтар у сваіх зборніках не дае іншай класіфікацыі загадак, акрамя іх паалфавітнага («Белорусский сборник»), або «павяскоўнага»[4], калі можна так назваць («Материалы по этнографии Гродненской губернии»), размяшчэння. Але па разнастайнасці тэматыкі і мастацкіх якасцях сабраныя Е. Раманавым загадкі маюць вялікую цікавасць для даследчыка.

У 1886 г. В. Дыбоўскі надрукаваў у польскім антрапалагічным зборніку «Zbiór wiadomości do antropologii krajowej» (1886) больш 100 беларускіх народных загадак, запісаных ім у Мінскай губерні. Гэтыя запісы маюць пэўную лінгвістычную каштоўнасць: яны выразна перадаюць асаблівасці жывой мовы Міншчыны.

[4] Збіральнік указвае вёску, а пасля без пэўнай паслядоўнасці падае загадкі, запісаныя ў названай ім мясцовасці.

У 1890 г. Д. Булгакоўскі ў «Записках императорского русского географического общества по отделению этнографии» змясціў 210 беларускіх загадак, сабраных ім у Пінскім павеце Мінскай губерні. Загадкі без адгадак падаюцца ў зборніку адна за другой, з указанием парадкавага нумару. Адгадкі даюцца асобна. Збіральнік размясціў загадкі бессістэмна. Ён нават не прытрымліваўся прынцыпу размяшчэння іх у алфавітным парадку ці па адгадках, як гэта рабілі многія з папярэдніх складальнікаў. Але самі загадкі цікавыя па зместу і добра перадаюць асаблівасці мовы Піншчыны.

Беларускія загадкі прыцягваюць увагу і вядомага збіральніка беларускай вуснапаэтычнай народнай творчасці канца XIX ст. П. В. Шэйна. У яго кнізе «Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края» (1893) змешчана 146 народных загадак, у якіх адлюстроўваюцца розныя бакі жыцця народа. Збіральнік прыводзіць варыянты асобных загадак, дае заўвагі і тлумачэнні да некаторых з іх. У мове загадак захоўваюцца асаблівасці мясцовых гаворак тых абласцей Беларусі, дзе зроблены запіс.

Зборам беларускіх народных загадак займаўся і А. Гурыновіч, які апублікаваў свае запісы ў польскім антрапалагічным зборніку «Zbiór wiadomosći do antropologii krajowej» (1893).

Каля 150 беларускіх загадак змясціў у польскім антрапалагічна-археалагічным і этнаграфічным зборніку «Materyaly antropologiczno-archeologiczne i etnograficzne» (1897) Л. Васілеўскі.

У 1898 г. выходзіць у свет першы асобны зборнік беларускіх народных загадак Н. Я. Нікіфароўскага («Простонародные загадки»). У ім змешчаны невялікі ўступны артыкул самога збіральніка, дзе аўтар выказвае свае думкі пра тэматыку беларускіх загадак, іх форму і віды, пра ўтварэнне новых і жывучасць старых загадак і г. д. Але выказванні аўтара далёка няпоўныя. Зусім нічога не сказана аб загадцы, як аб жанры фальклору, аб паходжанні загадак, не растлумачана іх класіфікацыя і г. д.

Загадкі ў зборніку раздзелены на 10 тэматычных груп: прадметы духоўныя і рэлігійна-паважаныя; чалавек і часткі яго цела, дзеянні чалавека; ежа і пітво; адзенне і абутак; будынкі і часткі іх; мэбля і хатняе начынне; вупражныя прадметы і земляробчыя прылады; жывёлы; расліны; з'явы прыроды, нябесныя целы, поры года і дня.

У параўнанні з іншымі фальклорнымі зборнікамі, у якіх загадкі падаюцца ў алфавітным парадку, па адгадках або зусім бессістэмна, размяшчэнне Нікіфароўскім па тэматычных групах з'яўляецца першай спробай класіфікаваць беларускія загадкі. Гэта класіфікацыя, магчыма, і зручная пры карыстанні зборнікам, і ўсё ж яна недасканалая, пазбаўлена

гістарычнай паслядоўнасці, таму што выяўляе ў аўтара (між іншым, як і ў яго папярэднікаў) адсутнасць матэрыялістычна-дыялектычнага погляду на прыроду і грамадства.

Гэты невялікі зборнік (33 старонкі) з агульнай колькасцю 532 загадкі, па выразу самога Н. Нікіфароўскага, быў «скарбам для свайго часу» і заставаўся адзіным асобным зборнікам загадак на працягу многіх гадоў.

Невялікая колькасць загадак была апублікавана ў зборніку Е. А. Ляцкага «Материалы для изучения творчества и быта белорусов» (1898). У кнізе змешчана больш за 2000 прыказак, прымавак і загадак, але апошнія аўтар нават не вылучыў з ліку прыказак і прымавак. Пры запісах іх Е. Ляцкі вялікую ўвагу ўдзяліў захаванню моўных асаблівасцей Барысаўшчыны. У 1905 г. 207 беларускіх загадак апублікаваў У. М. Дабравольскі на старонках часопіса «Живая старина».

Каля 600 загадак змешчана ў фундаментальнай працы М. Федароўскага «Люд беларускі» (1935). Амаль да кожнага асноўнага тэксту прыводзяцца варыянты. Акрамя гэтага, аўтар указвае, у якім з папярэдніх зборнікаў тая ці іншая загадка ўжо публікавалася. Запісы М. Федароўскага адзначаюцца дакладнасцю як з боку пашпартызацыі, так і ў граматычных адносінах. Размешчаны загадкі ў зборніку па адгадках у алфавітным парадку. Трэба адзначыць, аднак, што побач з загадкамі, выдатнымі па свайму ідэйнаму зместу і мастацкіх вартасцях, сустракаюцца загадкі двухсэнсоўныя, слабыя ў мастацкіх адносінах і нават нецэнзурныя. Гэта, відаць, тлумачыцца тым, што М. Федароўскі імкнуўся запісаць як мага больш народных твораў, і яго, як і многіх іншых збіральнікаў фальклору XIX ст., мала хваляваў іх ідэйны і сацыяльны змест. Тым не менш зборнік М. Федароўскага з'яўляецца каштоўным укладам у беларускую фалькларыстыку.

У савецкі час разам са зборам старых традыцыйных загадак запісваюцца і друкуюцца загадкі, народжаныя новым жыццём, спачатку на старонках газет «Звязда», «Іскры Ільіча» і інш., а пасля ў фальклорных зборніках «Чырвоная Армія і абарона Радзімы ў беларускай народнай творчасці» (1938); «Дарэвалюцыйная і савецкая Беларусь у народнай творчасці» (1938); «Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі» (1939) і інш.

У пасляваенныя гады выходзяць зборнік Р. Р. Шырмы «Беларускія народныя песні, загадкі і прыказкі» (1947), у якім змешчана 44 загадкі, і зборнік Я. Рапановіча «Беларускія прыказкі, прымаўкі і загадкі» (1958), дзе змешчана 553 загадкі (пераважна перадрукаваныя з дарэвалюцыйных публікацый). Я. Рапановіч усе загадкі ў зборніку падзяляе на 5 наступных раздзелаў: чалавек, яго рэчы, часткі цела; дамашнія рэчы і прылады працы; расліны і жывёлы; з'явы прыроды; тэхніка і культура; іншыя тэмы.

Аднак такая класіфікацыя з'яўляецца адвольнай і далёка няпоўнай, таму што яна не ахоплівае ўсёй тэматычнай разнастайнасці загадак, якія публікуюцца ў зборніку. Не захоўваецца і гістарычная паслядоўнасць. Сустракаюцца ў зборніку загадкі, слабыя па мастацкіх якасцях.

Яшчэ менш увагі звярталі даследчыкі на тэарэтычнае вывучэнне загадак. Да цяперашняга часу няма прац, спецыяльна прысвечаных беларускім загадкам. Агульны агляд іх даў акадэмік Я. Ф. Карскі ў манаграфіі «Беларусы» [5]. Аўтар гаворыць аб блізкасці формы загадак да прыказак і прымавак і ў той жа час адзначае характэрныя рысы загадак: іх алегарычнасць, асаблівасці будовы мастацкага вобраза на падабенстве (часта далёкім) прадмета, які загадваецца з прыкметамі другога. Я. Карскі таксама ўказвае на тое, што загадкі, будучы адным з самых старадаўніх жанраў фальклору, з цягам часу змянялі свае функцыі. Сам жа змест загадкі часта выяўляе эпоху яе ўзнікнення (напрыклад, адлюстраванне першабытнага светапогляду на розныя стыхіі ў найбольш старажытных загадках аб з'явах прыроды). Аўтар высвятляе агульнае паходжанне многіх усходнеславянскіх загадак.

З навейшых навуковых прац аб беларускіх загадках можна адзначыць работу П. П. Ахрыменкі [6]. Не спыняючыся на тэматыцы беларускіх загадак, аўтар асноўную ўвагу звяртае на іх паэтыку, дае дастаткова поўнае азначэнне жанру, гаворыць аб паходжанні загадак, разглядае іх формы і віды і г. д. Некаторыя звесткі аб гэтым жанру прыведзены і ў хрэстаматыі для вышэйшых навучальных устаноў [7], а таксама ў кнізе К. П. Кабашнікава [8].

У апошні час выйшаў з друку вучэбны дапаможнік па беларускаму фальклору для філалагічных факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў [9], у якім у раздзеле загадак, напісаным П. П. Ахрыменкам, даюцца больш падрабязныя звесткі аб тэматыцы беларускіх загадак, чым у папярэдняй яго працы.

Такім чынам, у беларускай фалькларыстыцы адсутнічае не толькі поўны збор загадак, але і грунтоўныя даследаванні гэтага жанру.

Загадкі належаць да аднаго з самых старажытных і так званых малых жанраў фальклору. Яны ўзніклі тады, калі чалавек поўнасцю быў яшчэ ва ўладзе прыроднай стыхіі, і з'явы прыроды для яго былі незразумелай,

---

[5] Е. Ф. Карский. Белорусы, т. III, ч. I. М., 1916, стар. 406—417.
[6] П. П. Ахрыменка. Беларускія загадкі, прыказкі і прымаўкі. Мінск, 1961, стар. 1—12.
[7] Вуснапаэтычная творчасць беларускага народа. Хрэстаматыя. Мінск, 1959, стар. 90—92.
[8] К. П .Кабашнікаў. Нарысы па беларускаму фальклору. Мінск, 1963, стар. 71—74.
[9] Беларуская вуснапаэтычная творчасць. Мінск, 1966, стар. 85—91.

страшнай таямніцай. Старажытны чалавек думаў, што на вадзе і ў лесе, у будынку і ў полі — усюды яго падпільноўваюць варожыя свядомыя сілы, пасылаючы бяду і няўдачы. Ён лічыў, што птушкі, звяры — разумныя істоты, якія ведаюць чалавечую мову. Варожыя таямнічыя сілы неабходна было перахітрыць, а ад звяроў і птушак утаіць свае дзеянні. Таму людзі сталі ўжываць умоўныя назвы прылад лоўлі і палявання, назвы звяроў і птушак.

Тэрмін «загадка», відаць, утварыўся ад старажытнага «гадати», што азначае думаць, разважаць.

Загадка — гэта іншасказальнае вобразнае апісанне якога-небудзь прадмета або з'явы на аснове падабенства паміж утоеным прадметам, які трэба адгадаць, і тым, які замяняе яго ў загадцы. Яна ж прадстаўляе сабой мудрагелістае пытанне, пераважна выражанае ў форме метафары, у якой загадваемы прадмет можна распазнаць па другарадных, сходных, ці па намякаючых на яго адзнаках, напрыклад: «Ляцелі белыя гусі, крылля русы, да нельга з іх па пёрышку вырваць» (*Снег*). «У лесе адрублена, у лаўцы куплена, на руках плача» (*Скрыпка*)[10].

Загадкі вызначаюцца трапнасцю выразаў, афарыстычнасцю і сцісласцю формы. З аднаго боку, у загадках, як у прыказках і прымаўках, адлюстраваўся багаты гаспадарчы і жыццёвы вопыт працоўнага народа. З другога — у іх знайшлі выражэнне творчая фантазія, кемлівасць, дасціпны гумар народа, яго паэтычныя здольнасці.

Змены ў жыцці, эканоміцы і культуры, якія адбываліся на працягу існавання чалавечага грамадства, знаходзілі сваё адлюстраванне і ў загадках.

Загадкі звычайна загадваліся вечарамі і пераважна старэйшымі людзьмі, якія ў пэўным традыцыйным парадку задавалі пытанні моладзі, перадаючы ёй свой вопыт і веданне іншасказанняў. У некаторых народаў вечары загадак існавалі яшчэ ў перыяд родавага ладу. Веданне ўмоўнай мовы дыктавалася грамадскім і гаспадарчым жыццём роду. Так, адной з умоў прыняцця ў род у абрадзе выпрабаванняў было ўменне адгадваць загадкі. У гэтым заключалася адна з функцый старажытных загадак (гэта былі загадкі-пытанні).

У даўнія часы значную ролю адыгрывала іншасказальная мова ў ваенных і пасольскіх справах. Наўгародскі летапіс, напрыклад, сведчыць аб тым, што ў пачатку XI ст. у час ваеннага паходу князь Яраслаў Мудры праз лазутчыка атрымаў сігнал пачынаць бітву іншасказальнымі словамі «дати мёду дружине».

---

[10] Загадкі, прыведзеныя ва ўступным артыкуле ў якасці прыкладаў, узяты з данага тома.

Уменне адгадваць загадкі пры размове стала расцэньвацца як адзнака мудрасці і кемлівасці чалавека. У вясельных абрадах з мэтай выпрабавання здагадлівасці і разумовай сталасці жаніха ўжываўся такі звычай: раней чым сесці поруч з нявестай жаніх павінен быў адгадаць загадкі, прапанаваныя яму родзічамі нявесты. Загадкі выкарыстоўваліся і ў некаторых іншых жанрах фальклору, нават у легендах. Больш таго, часам на сюжэце загадкі будаваліся цэлыя фальклорныя творы. Прыкладам можа служыць легенда «Бяздоннае багацце», якая па сутнасці з'яўляецца разгорнутым сюжэтам распаўсюджанай загадкі: «Чаго на свеце багацей няма?» (*Зямлі*). Кароткі змест вышэйназванай легенды заключаецца ў тым, што тураўскага князя Яраслава выратаваў ад немінучай смерці храбры загоншчык Ранцэвіч. Удзячны князь прапанаваў яму скрыню золата. Але мудры Ранцэвіч папрасіў у князя такі дар, які б заўсёды быў невычэрпным:

«Праўда, князю, тут многа золата, але ўсё-такі дно можна дастаць, дык, мабыць, гэта тваё залатое багацце не вечнае; калі-небудзь прыйдзе канец яму. Ды й золата больш патрэбна князю, як простаму чалавеку. Дай ты мне, княжа, гэткі дар, каб я ў ім дна знайсці не мог.

Князь задумаўся і кажа:

— Каб я сабраў ўсё сваё багацце, то і тады дно яму знойдзеш.

Засмяяўся загоншчык і кажа:

— Пойдзем, князь, я табе пакажу бяздоннае багацце.

І выйшаў на двор, узяў лавецкі меч і блізка ўвесь усунуў ў зямлю.— Вось тваё, княжа, багацце, у якім дна няма...» [11]

Загадкі ўжываюцца і ў беларускіх казках, песнях, частушках. Вось як будуецца, напрыклад, казка-загадка «Мужыцкая загадка каралю»:

«Аднаго разу чалавек вёз фуру дроў. Напаткаў яго кароль і пытае:

— Дзе павязеш?

— Вязу прадаваць.

— А што ты за іх возьмеш?

— Дваццаць грошы.

— Што ты з іх зробіш?

— Пяць аддам, пяць пазычу, пяцьма жонку жыўлю, пяць у ваду пушчу.

І раз'ехаліся. Кароль задумаўся, што то за загадка, паззываў сваіх падданых, але яе ніхто не адгадаў, аж знайшоў таго самага чалавека і той яму растаўкаваў:

— Пяць,—кажа,—на радзіцы, пяць на дзеці, пяць для сябе і для жонкі, а пяць на падаткі» [12].

---

[11] «Крывіч», 1923, № 3, стар. 2.
[12] Казкі і легенды роднага краю. Склаў К. П. Кабашнікаў. Мінск, 1960, стар. 220—221.

А вось прыклад ужывання загадак у песнях:

—А сваціцы, галубіцы вы мае,
Загадаем вам сем загадак, згадайце:
А што расце без кораня, скажыце?
А што ідзе без повада, скажыце?
А што стаіць без рук, без ног, скажыце?
А што раба, не малюючы, скажыце?
А што ліха, не гадуючы, скажыце?
А што плача, слёз не мае, скажыце?
— А сваціцы, галубіцы вы мае,
А мы ж вашы ўсе песенькі ўмеем,
А ў чужым баку, у чужой старане адказаць сумеем:
Камень расце без кораня, скажам вам,
Вада ідзе без повада, скажам вам,
Слуп на небе без рук, без ног, скажам вам,
Зязюлька раба, не малюючы, скажам вам,
Нявестка ліха, не гадуючы, скажам вам;
Скрыпка плача — слёз не мае, скажам вам [13].

Выкарыстоўваюцца загадкі і ў частушках:

Як я была маладая,
То я была бела,
А як жа я пастарэла,
То зачырванела.
(*Каліна*) [14]

У беларусаў загадванне і адгадванне загадак адбывалася пераважна ў восенскія і зімовыя вечары, асабліва на каляды. Загадвалі іх у форме пытанняў. З цягам часу вечары загадак гублялі сваё сур'ёзнае значэнне і ўсё больш набывалі характар забавы. Зразумела, што са знікненнем звычаяў карыстацца зашыфраванай мовай загадка-пытанне страціла сваё першапачатковае прызначэнне і стала сродкам забавы на народных зборышчах.

Увайшлі загадкі і ў мастацкую літаратуру. Але дзе б яны ні ўжываліся і ў якой бы ролі ні выступалі, асноўнае прызначэнне іх — развіваць мысленне чалавека і даць пазнанне свету ў вобразнай мастацкай форме. Многія загадкі былі ў адпаведны час своеасаблівай зброяй народа ў барацьбе з прыгнятальнікамі. Такія, напрыклад, сатырычныя загадкі пра паноў і папоў: «І ў царкву ходзіць і людзям шкодзіць» (*Поп*). «Многа трэба, кажа, для неба, а ён не аддае ды сам жарэ» (*Поп*). «Вош не вош, а за мужыцкім каўняром жыве» (*Пан*).

Тэматыкай загадак з'яўляецца шматгранны свет прадметаў і з'яў навакольнай рэчаіснасці: з'явы прыроды, чалавек, яго працоўная дзейнасць і матэрыяльны быт, сацыяльныя адносіны, жывёльны і раслінны свет і г. д.

[13] АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 6, бл. 1, л. 30.
[14] M. Federowski. Lud bialoruski, t. IV, 1935, стар. 472.

Загадкі аб прыродзе найбольш старажытныя і распаўсюджаныя. У іх адлюстраваліся назіранні людзей за нябеснымі свяцiламі, над зменамі, што адбываюцца на працягу года ў прыродзе.

Неба, сонца, зоркі, зямля, вада, дзень, ноч, холад, цяпло ператвараюцца ў вобразы, падказаныя працай і бытам селяніна (сонца — сіта; неба — поле або дзяружка; зоркі — статак, гарох; месяц — пастух, акрайчык хлеба і г. д.): «Выслана дзяружка, насыпана гарошку, паложана хлеба булка» (*Неба, зоркі, месяц*). «Ні стуку, ні груку на двары — сівы конь на зары» (*Світанне*). «Бяжыць ліска каля лесу блізка: ні следу знаць, ні яе дагнаць» (*Сонца*). «Маткіну скрыню не паднімеш, дочкіну трубку не скатаеш, братнінага коніка не паймаеш» (*Зямля, дарога, вецер*).

У загадках пра людзей у алегарычнай форме гаворыцца аб чалавеку, яго знешнім выглядзе і будове цела. Гэтыя загадкі ствараюцца на канкрэтных прадметных параўнаннях з рэчамі гаспадарчага і хатняга ўжытку і хатняй жывёлай: «Ляжыць калода сярод балота: не гніе, не сохне» (*Язык*). «Гаршчок вумён, сем дырачак у ём» (*Галава*).

Многа загадак пра хатнюю жывёлу і птушак, культурныя расліны. У іх жывёльны і раслінны свет і самі з'явы прыроды падобны да прылад працы, прадметаў быту і хатняга ўжытку, да паводзін людзей: «Два бодні, чатыры паходні, сёмая махта» (*Карова*). «Белая, як снег, пузатая, як мех, на лапатах ходзіць, рогам есць» (*Гусь*). «Загадаю загадку, закіну за градку, ну няхай мая загадка да налецця ляжыць» (*Азімае жыта*). «Сядзіць пані ў зялёным жупані, хто яе ўбача, той заплача» (*Цыбуля*). «Косці на лугу, скура на таргу, а галава ў клеці» (*Каноплі*).

Асноўны тэматычны круг загадак звязан галоўным чынам з жыццём селяніна, яго працай, бытам, гаспадаркай. Праца селяніна (ворыва, сяўба, касьба, жніво, малацьба і г. д.), сельскагаспадарчыя прылады, прадметы што звязаны з жывёлагадоўляй, рыбалоўствам, ткацтвам, кавальствам, гатаваннем ежы і іншыя — вось змест загадак такога роду. У іх выразна выступаюць характэрныя рысы вытворчасці з панаваннем ручной працы і прымітыўнай сельскагаспадарчай тэхнікі: «Пяць авечак стажок скубуць, а пяць дарожкай бягуць» (*Жанчына прадзе*). «Рыбка бялява, хвосцікам віляла, лясы ламала, горы стаўляла» (*Каса*). «Граблі гару звярнулі» (*Стог*). «Воўк стаіць, а вушы скачуць» (*Ступа і таўкачы*). «Дзве сініцы ненасытчы, што ні дадуць, то і з'ядуць» (*Жорны*).

У радзе загадак і адзнакі для характарыстыкі прадмета запазычаны таксама з працоўнай практыкі чалавека: «Ішло хлопцаў дваццаць пяць, пасля зімы сляды знаць» (*Барана*). У іншых жа загадках паказваецца выраб той або іншай рэчы або паходжанне яе, або спосаб яе скарыстання: «Білі мяне, білі, білі, калацілі, на кавалкі рвалі, па полі цягалі, на ключ замыкалі — і на стол паслалі» (*Лён, настольнік*).

Шырока распаўсюджаны былі загадкі, у якіх у алегарычнай форме апісваліся сялянская гаспадарка, прадметы быту і хатняга ўжытку: «Уніз макушкамі, уверх камлямі» (*Саламяная страха*). «Усім цёпла — яму сцюдзёна, а ўсім сцюдзёна — яму цёпла» (*Склеп*). «Што ты стаіш, крывы, кульгаты? — Зялёнае, кудравае сцерагу» (*Плот і жыта*). «Два каты — чатыры хвасты» (*Лапці і аборы*). «Старэнькі дзядок па хаце пройдзе, пыл стаўбом пойдзе» (*Венік*). «Крывулька крывая, а ўсіх корміць» (*Лыжка*). «Жалезны ток, свінны пераскок, пасад грачаны» (*Патэльня, падмазка, блін*). У большасці выпадкаў вобразы гэтых загадак — метафарычныя, яны створаны праз увасабленне нежывых прадметаў. Для параўнання часцей за ўсё бяруцца вобразы жывой прыроды: «Цыганка, паганка па золаце скача» (*Качарга*). «Рыжы бык да чорнага ліжа» (*Агонь*).

Сярод беларускіх загадак ёсць нямала такіх, у якіх адчуваецца сацыяльны пратэст сялянскай беднаты супраць класавай няроўнасці і нянавісць да эксплуататараў. Гэтыя загадкі, карыстаючыся алегорыяй, у сатырычнай форме гавораць аб панах, папах і іншых эксплуататарах: «Трое жывуць, скуру дзяруць, голыми пускаюць. Хто адгадае?» (*Пан, поп і стараста*). «Яна не воласць, не карчма, а шмат няслі туды дабра» (*Царква*). «Сам барадаты, пузам багаты» (*Поп*).

Бытавалі загадкі, у якіх адлюстраваліся традыцыі шанавання старэйшых, а таксама перажыткі патрыярхальнай сям'і ў вёсцы, пра народныя святкаванні і абрады каляндарнага года.

Захаваліся загадкі пра асобныя адрэзкі часу (год, месяц, тыдзень, дзень і г. д.), напрыклад: «Брат сястру даганяе, а сястра ад брата ўцякае» (*Дзень і ноч*). «Стаіць пакой, а ў тым пакоі дванаццаць вакон, а на тых вокнах па чатыры паны, а ў тых паноў па сем вянкоў» (*Год*).

Рэдка сустракаліся загадкі аб абстрактных з'явах, асабліва такіх, як рэлігія, паняцце аб жыцці і смерці, аб прасторы і часе і г. д.: «Хутка бяжыць — не дагоніш» (*Час*). Часцей такія загадкі літаратурнага паходжання.

Такім чынам, у разнастайнай тэматыцы загадак адлюстравалася мудрасць народа, які набываў свой жыццёвы вопыт і пазнаваў свет у працэсе працоўнай дзейнасці пры непасрэдным сутыкненні з прадметамі і з'явамі навакольнага свету. Савецкі даследчык рускіх загадак У. П. Анікін піша: «У загадках ярка адлюстраваўся паэтычны склад селяніна, яго любоў да «рэчыўнага» свету жыцця...

Іменна таму прадметы ў загадках акрэслены рэзка, даны ў фарбах, гуках, вызначаны іх формы...

Свет у загадках рухаецца, гучыць, пераходзіць з адной якасці ў другую, паказаны ў той дыялектыцы, якая ўласціва самому жыццю» [15].

---

[15] Загадки русского народа. Сост. Д. Н. Садовников. М., 1959, стар. 18.

Народныя загадкі вызначаюцца канкрэтнасцю і рэалізмам. Загадваемыя прадметы ўзяты са штодзённага працоўнага жыцця селяніна. Якасці і ўласцівасці прадметаў таксама вызначаюцца па іх ролі ў жыцці і працы людзей. Вядомага збіральніка рускіх загадак Д. Н. Садоўнікава «ў загадках прыцягвала не архаіка, а сучаснасць, тое, як у іх адлюстраваліся быт і светапогляд сялянства» [16].

Загадка заключае ў сабе не толькі знешняе азначэнне прадмета або з'явы, але і актыўныя, дзейсныя адносіны да іх чалавека. «Для народнай загадкі,— пісаў У. І. Чычараў,— характэрна, што яна не спыняецца толькі на знешнім баку адлюстравання, а бярэ з'яву, прадмет, жывы арганізм у цэлым, разнастайна вылучаючы той ці іншы бок або дэталь у ім і яго існаванні, якая тыпова і можа адкрыць, аб чым ідзе гутарка» [17].

Метафарычныя загадкі найбольш старадаўнія. У іх з'явы прыроды, раслінны і жывёльны свет прыпадабняюцца прадметам быту, прыладам працы, хатнім жывёлам, паводзінам і дзеянням людзей: «Дзяжа старая, а века новае» *(Зямля і снег)*. «Крыкнуў вол на сто азёр, на сто міль, на ўвесь мір» *(Гром)*. «Белая карова трыснік паламала» *(Снег на галінках дрэў)*. І наадварот, прадметы хатняга ўжытку, прылады працы прыпадабняюцца з'явам прыроды, дзеянням людзей і г. д.: «Верабей вала дзержыць» (*Замок*). «Вутка ў моры, хвост у горы» *(Вядро і початка)*. «Стаіць бычок смалены бачок» *(Заслонка)*. «Пад ліпай мяцеліца мяце» *(Прасяванне мукі)*. «Канёк-гарбунок усю хату аб'ездзіў» *(Мятла)*.

Метафары могуць будавацца і на скрытым параўнанні аднаго прадмета або з'явы з другім: «Залатыя горы растуць у летнюю пору» *(Копы)*. «Дзве сястрыцы сцюдзёным малачком мыюцца» *(Палазы)*; на выключэнні падобных адзнак з загадваемага: «Зялёная, а не луг, белая, а не снег, кучаравая, а без валасоў» (*Бяроза*). «Чатыры нагі, а не звярушка, многа пер'я, а не птушка» *(Ложак з падушкамі)*; на поўным паглынанні скрытага прадмета мастацкім вобразам у загадцы: «Сярод лесу агонь гарыць» *(Каліна)*. «Махнула птушка пяром — закрыла ўвесь свет крылом» *(Ноч)*.

Аднак загадка не заўсёды заключае ў сабе метафару. Не менш частыя формы загадак — кароткае апісанне або сціслы расказ. У такіх загадках даецца апісанне якасных адзнак і ўласцівасцей утоенага прадмета: «Спераду шыльца, ззаду вільца, спадыспаду палатно, а зверху аксаміт» *(Ластаўка)*. «Чырвоны колер, вінны смак, каменнае сэрца» (*Вішня*). «Сам дзядок нізак, ды мае сто рызак» *(Качан)*. «Выходзілі дванаццаць малайцоў, выносілі пяцьдзесят два сокалы, выпускалі шэсцьдзесят пяць лебядзей» *(Год)*.

Некаторыя загадкі (звычайна алегарычнага характару) будуюцца ў форме дыялога, напрыклад:

---

[16] Загадки русского народа. Сост. Д. Н. Садовников, стар. 15.
[17] В. И. Чичеров. Русское народное творчество. М., 1959, стар. 327.

«Куды бяжыш ад хваста, крывая, не праста?

— А чорт табе, падстрыжана аўца» *(Рака і сенажаць)*.

Даволі пашыраныя былі загадкі-пытанні. Яны не вызначаліся вобразнасцю і не давалі простых або ўскосных падказак на адгадку: «Што бяжыць без повада?» (*Вада*). «Што бела не белючы?» (*Лебедзь*). «Што гарыць без агня?» *(Зара)*. «Што расце без кораня?» *(Камень, сажа ў коміне)*. Да гэтага ж віду загадак прымыкаюць жартоўныя загадкі-пытанні: «Чаго не абнясеш кругом хаты?» (*Вады ў рэшаце*). «Чаго цераз хату не перакінеш?» (*Пяро*). «Чаго за хвост не падымеш?» (*Клубок нітак*).

Мала адрозніваюцца ад іх загадкі-пытанні аб якасцях або ўласцівасцях прадметаў, якія выражаны ў вышэйшай або ў найвышэйшай ступені. «Што чалавеку самае мілае?» *(Сон)*. «Што радчайшае ад вады?» *(Вецер)*. Асобную групу складаюць загадкі-задачы: «Ляцела два статкі гусей. Першае статка гаворыць: «Дайце нам адну гусь, тады ў нас будзе пароўну». А другое статка гаворыць: «Дайце вы нам адну гусь, тады ў нас будзе ў два разы больш». Колькі было гусей у адным і другім статку?» (5 і 7).

Сустракаюцца загадкі, якія будуюцца на гукавых вобразах. Вобразнае раскрыццё загадваемага дасягаецца пры дапамозе адпаведных гукаў, якія нагадваюць стрэл з ружжа, малацьбу і г. д. Гукавы вобраз заключае адгадку: «Лятаюць гуські, дубовыя наскі і гавораць: «То-та мы» *(Цапы)*.

Своеасаблівымі з'яўляюцца загадкі, у якіх утоены прадмет называецца недагаворанымі або змененымі словамі. Такія загадкі нагадваюць умоўны прафесійны жаргон і выключна цяжкія для адгадвання, напрыклад: «У рагулі чатыры кулі, а ў брыкулі дзве кулі» (*Саскі ў каровы, кабылы*). «Ляцеў лютар, сеў на калютар, пытаецца ў кухтаркі: «Дзе твае пыхтаркі?» — «Мае пыхтаркі ў стрыкаторым горадзе» (*Каршун, курыца, кураняты, крапіва*).

Апошнія два віды загадак пабудаваны на апісанні. Па свайму паходжанню іх трэба лічыць такімі ж старажытнымі, як і загадкі, што пабудаваны на метафары.

Рад загадак пабудаваны на асабовых імёнах, якія ўжываюцца ў якасці агульных і замяняюць утоены прадмет, дзякуючы чаму ўвасабляюцца з'явы і прадметы і ажыўляюцца мастацкія вобразы ў загадцы: «Е на свеце Кася — на цэлы свет расцяглася, каб устала, дык і неба б дастала» *(Дарога)*. «Біўся Глінскі з панам Галубінскім, а без Селівона справы няма» *(Гаршчок, апалонік, соль)*.

У шмат якіх загадках мастацкі вобраз ствараецца праз увасабленне нежывых прадметаў, якія дзейнічаюць як жывыя істоты: «Летам апранаецца, а зімой раздзяваецца» *(Лісцёвыя дрэвы)*. «Вышэй за ўсіх стаіць, навокал глядзіць, у белай кашулі і люльку курыць» (*Комін*). «Ні свет, ні зара, сагнуўся і пайшоў са двара» (*Каромысел*). «Матка таўстуха, дачка красуха, сын перабор пайшоў на двор» (*Печ, агонь, дым*).

Зрэдку ўтоены прадмет у загадцы маскіруецца пры дапамозе амонімаў: «Ад чаго гусь плыве?» *(Ад берага)*.

Нямала бытавала ў народзе і двухсэнсавых загадак: не зусім прыстойных па загадцы і зусім бязвінных па адгадцы. Часцей за ўсё яны ўжываліся, як жартоўныя, застольныя — на вяселлях, хрэсьбінах і г. д.

Пабудаваць мастацкі вобраз у загадцы і раскрыць яе думку магчыма дзякуючы алегарычнай форме загадкі і багатай вобразнай мове. Не выпадкова таму ў загадках шырока выкарыстоўваюцца разнастайныя мастацкія сродкі — паралелізмы: «Чорная карова ўсіх людзей пакалола, а белая ўстала, усіх пападымала» (*Ноч* і *дзень*). «Кіну не палку, заб'ю не галку, скубу не пер'е, ем не мяса» (*Рыба*); параўнанні: «Зелена, як елка, тоўстая, як дзеўка, з хвастом — ды не мыш» (*Рэпа*). «Сама як шчэпка, дзяцей як молі» (*Піла*); эпітэты: «Залаценькая, маленькая, увесь свет адзяе» (*Іголка*); сінекдахі: «У куточку стаіць смерць у чарапочку» (*Стрэльба*) і г. д. Апрача гэтага, загадкі вызначаюцца багата распрацаванай сістэмай асанансаў і алітэрацый: «Коціцца барыльца — ні дна, ні рыльца» (*Яйцо*). «Пайшла баба да Кіева, дома косці пакінула» (*Пянька*).

Важную ролю ў будове народнай загадкі адыгрывае рыфма. Рыфма і размернасць складу ўласцівы больш апісальным загадкам. Яны дапамагаюць запамінаць загадкі. Неабходнасць захавання размераў і рыфмы спрыяла захаванню дыялектызмаў у радзе загадак.

Як правіла, у загадцы рыфмуюцца яе часткі: «Расце без кораня, цвіце без цвету, належыць усяму свету» *(Соль)*. У некаторых загадках рыфма прысутнічае ў першай частцы, а ў другой захоўваецца размер: «Крылляў не маю, а хутка лятаю, сам мяне выпусціш, ды потым не зловіш» *(Слова)*. Або наадварот: «У лесе вырас, а ў хату прыйшоў — у куце места знайшоў» *(Венік)*. У радзе выпадкаў рыфма прысутнічае ў абедзвюх частках загадкі: «Еду, еду на сівым дзеду, сухалінай паганяю, на смерць паглядаю» *(Човен, рака)*. Нярэдка загадка будуецца на суцэльнай рыфмоўцы: «Прыехалі камісары — вокны і дзверы паспісалі, самі вонкі паўцякалі» (*Мароз, дым*). Зрэдку рыфмуюцца загадка з адгадкай: «Стаіць у бары, маршчынкі на кары, галінкі пустыя, лісты разразныя, хто ён?» *(Клён)*.

Нельга не адзначыць блізкасць беларускіх загадак да загадак рускіх і ўкраінскіх. Тлумачыцца гэта цеснымі гістарычнымі, эканамічнымі і культурнымі ўзаемасувязямі трох братніх народаў. Для прыкладу возьмем такія беларускія загадкі: «Без сякеры, без кліна на рацэ мост зрабіў» (*Мароз*). «Поле не змерана, быдла не злічана, пастух рагаты» *(Неба, зоркі, месяц)*. «Ішла шчука з Крэмяньчука: куды гляне — трава вяне» *(Каса)*. «Сядзіць пані на мурку ў чырвоным каптурку, хто ідзе — дык паклоніцца (*Суніца*).

Аналагічныя загадкі ёсць і ў рускім, і ва ўкраінскім фальклоры. Р у с к і я: «Без клина, без топора мост мостит» *(Мороз)*. «Поле не мерено,

овцы не считаны, пастух рогатый» (*Небо, звёзды, месяц*). «Плывёт щука с Кременчука, а глянет — трава вянет» (*Коса*). «Стоит на холмике в красной шапочке, кто пройдет — тот поклонится» (*Земляника*). Украінскія: «Без сокири, без долота, а мости будує» (*Мороз*). «Поле не міряне, вівці не щитані, пастух рогатий» (*Небо, зорі, місяць*). «Ходить пані по майдані, куди гляне — трава в'яне» (*Коса*). «Стоїть панна на погуркý в червонім каптуркý, хто йде — то поклонится» (*Суниця, полуниця*).

Такім чынам, у вуснапаэтычнай творчасці беларускага народа ёсць нямала загадак, якія, набыўшы самабытныя рысы, маюць агульнаўсходнеславянскае паходжанне.

Загадкі, таксама як прыказкі і прымаўкі, казкі, песні, вякамі складаліся народам. Іншасказальная, вобразная форма выражэння, асаблівая ўласцівасць загадкі ўспрымаць усё новае выклікае да яе нязменную цікавасць і робіць загадку адным з любімых жанраў вуснай народнай творчасці.

*

* *

Рыхтуючы гэты том да друку, складальнікі імкнуліся як мага паўней прадставіць загадкі, створаныя беларускім народам. Апрача твораў, якія раней былі апублікаваны ў розных выданнях, у томе змешчаны загадкі, запісаныя ў час шматлікіх навуковых экспедыцый сектара фальклору Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР і дасланыя яго дапісчыкамі з розных раёнаў БССР.

Загадкі і шматлікія варыянты падаюцца разам з адгадкамі ў такім выглядзе, у якім яны жывуць у народзе і запісаны ад яго. Тут жа адзначана крыніца, адкуль узята загадка або яе пашпарт (гл. спіс скарачэнняў).

Матэрыял для тома падабраў А. І. Гурскі. Сістэматызацыя загадак і каментарый да іх выкананы М. Я. Грынблатам.

А. ГУРСКІ

## НЕБА І НЯБЕСНЫЯ СВЯЦІЛЫ

1. Круглае, доўгае, ніхто не дастане.
Неба. *Б., 171.*

2. Сіняя дзяружка ўвесь свет пакрыла.
Неба. *1959, Гом.*

3. Глянь праз акно, відаць сіняе палатно.
Неба. *1946, Староб.*

4. Па чорнай паляне нябачны пастух белых баранчыкаў ганяе.
Неба, вецер, хмары. *1959, Гом.*

5. Кругленька, бяленька ўсяму свету міленька.
Сонца. *Д., 94.*

6. Маленька, залаценька ўсё поле асвеціць.
Сонца. *F., 482,*

7. Маленькае, гарачанькае ўсё навокал асвеціць.
Сонца. *1960, Нясв.*

8. Вышэй аблакоў чырвоная птушка лятае.
Сонца. *Нк., 28*

9. Ні стучыць, ні гручыць — у ваконца глядзіць.
Сонца. *Р., сб., 327*

10. Вышэй лесу, краша пламя.

Сонца. *Нк., 28.*

11. Вісіць сіта круглавіта, залатое, навітое.

Сонца. *Д., 94.*

12. Бяжыць ліска каля лесу блізка: ні следу даць, ні яе дагнаць.

Сонца. *Ш., 497, Барыс. п.*

13. Бегала ліска каля лесу блізка: ані яе здагнаць, ані следу спазнаць.

Сонца. *Р., сб., 318; 1959, Гом.; М. в.,160.*

14. Бегла ліска каля лесу блізка: ні следу спазнаць, ні ліску дагнаць.

Сонца. *Нк., 28.*

15. Стаіць дуб-старадуб, на тым дубе-старадубе сядзіць птушка-вяртушка, ніхто яе не дастане: ані цар, ані царыца.

Неба і сонца. *Нк., 28.*

16. У горадзе на Сіяне стаіць дуб-вертадуб, на тым дубе пціца-верацяніца, ніхто яе не дастане: ні цар, ні царыца, ні красная дзявіца, ні добры маладзец.

Сонца. *Д., 94.*

17. Стаіць дуб-старадуб, на тым дубе-старадубе сядзіць пцічка-варанічка, ніхто яе не спаймае: ні цар, ні царыца, ні красная дзявіца.

Сонца. *Л., 42.*

18. Стаіць дуб-шкарадуб, на тым дубе-шкарадубе сядзіць красная дзявіца, ніхто яе не дастане: ні цар, ні царыца, ні голуб, ні пціца.

Сонца. *1949, Кір.*

19. Стаіць верадуб, на тым дубе-верадубе сядзіць пціца-вертаціца, ніхто не дастане: ні цар, ні царыца, ні пракрасная дзявіца.

Сонца. *1950, Хойн.*

20. На полі-полясі сядзіць пціца-вератніца, яе ніхто не сымае: ні цар, ні царыца, ні красна дзявіца.

Сонца. *Ш., 497, Мсцісл. п.*

21. Кацілася качулачка — ні звер, ні птушачка, ні агонь, ні вада, не адгадаеш нікагда.

Сонца. *Ниг., 199.*

22. Коціцца катушка — ні звер, ні птушка, ні камень, ні бада, а што — адгадай!

Сонца. *Рп., 359.*

23. Кацілася катушачка — ані звер, ні птушачка, ані камень, ні вада, не адгадаеш нікагда.

Сонца. *Р., сб., 323; 1946, Староб.*

24. Глянеш — заплачаш, а ўсе яму рады.

Сонца. *І. І., 1937, № 2, 18.*

25. Усе яго любяць, як паглядзяць — моршчацца.

Сонца. *1963, Маладз.*

26. Усе яго любяць, чакаюць, а глянуць, убачуць — адразу заплачуць.

Сонца. *1961, Добр.*

27. Свеціць і грэе, весяліць і ззяе, усю зямлю ажыўляе.
Сонца. *1967, Бабр.*

28. Па вадзе ідзе — не плёсне, па лесу ідзе — не хропне, па саломе ідзе — не шасне.
Сонца. *Д., 94.*

29. Ходзіць курка-жаўтушка па сене і не шастае.
Сонца. *W., 5, Віл. п.*

30. Па саломе ходзіць, ды не шастае.
Сонца. *Dub., 158; 1946, Слуцк.; Б., 170; 1949, Акцябр.*

31. Ходзіць па саломе, а не шастае.
Сонца. *1949, Кір.; 1960, Нясв.*

32. Па саломе ходзіць, а не шалясціць.
Сонца. *Р., Мат., 91, Кобр. п.; Гт., 297, Кобр. п.*

33. Па саломе ходзіць, да не шастае, а на пяску слядоў не знаць.
Цень, сонца. *F., 466.*

34. У горадзе-гарадзе плыве талерачка па вадзе.
Сонца. *Нк., 28.*

35. У новым гарадзе плыла міска па вадзе.
Сонца. *Нк., 28.*

36. За лясамі, за гарамі, за вялікімі марамі залатая дзяжа кісне.
Сонца. *F., 482.*

37. Мяту, мяту — не вымету, нашу, нашу — не вынашу, як пара прыйдзе — само яно выйдзе.

Сонца. *F., 482.*

38. Па гары гаранскай каціўся шар вярханскі, ніхто яго не аб'едзе і не абыдзе.

Сонца або месяц. *1946, Староб.*

39. Узойдзе Ягор на бугор — вышэй лесу, вышэй гор, з бугра спускаецца — з вачэй хаваецца.

Сонца. *1959, Гом.*

40. Красненькі пеўнік па жэрдачцы ходзя.

Сонца, агонь. *Р., сб., 323.*

41. Без агню гарыць, без ног ідзе, а без крылаў ляціць.

Сонца, дождж, туча. *Р., Мат., 94, Слон. п.*

42. Мяцеш, мяцеш — не вымецеш, нясеш, нясеш — не вынесеш.

Сонечныя праменні. *Нк., 28.*

43. Усё вынес, усё вынес, а татавага пояса не вынес.

Прамень сонца. *F., 482.*

44. Усё паднімеш, хоць найцяжэйша, а бацькавай тычкі не паднімеш.

Прамень сонца. *F., 482.*

45. Як зайдзе ў дом, не выганеш калом, а пара прыходзіць — ён і сам уходзіць.

Прамень сонца. *1961, Добр.*

46. З акна ў акно — залатое верацяно.

Прамень сонца. *Р., Мат., 91, Кобр. п.*

47. Што гэта за вочы: адно свеціць удзень, а другое — уночы.

Сонца, месяц. *1963, Маладз.; 1965, Воран.*

48. Сястра да брата ў госці ідзе, а брат ад яе хаваецца.

Сонца і месяц. *1969, Стол.*

49. Сярод хаты (клеці) сала вісіць.

Сонца, месяц. *Р., сб., 330.*

50. Па саломе ўночы ходзіць, да не шастае.

Месяц. *F., 475.*

51. Бегла ліска каля лесу блізка; ні сцежкі, ні дарожкі, адны залатыя рожкі.

Месяц. *Рп., 356; 1959, Леп.*

52. На паляне сіняй пасецца конь сівы.

Месяц. *1959, Гом.*

53. З высокай дарогі глядзіць бычок крутарогі.

Месяц. *1959, Гом.*

54. Хоць і бальшога роду, ды ходзіць па агароду.

Месяц. *Нк., 28.*

55. Ішоў маладзён ні дарогай, ні пуцём, а памыўся ні вадою, ні расою, а уцёрся ні тканым, ні праным.

Месяц. *Ш., 495, Свянц. п.*

56. Коціцца бачурачка, ні звер, ні птушачка.
Месяц. *Гт., 299, Дзісн. п.*

57. Сядзіць, сядзіць на небе — і знікае.
Месяц. *1970, Ашм.*

58. Сярод поля ляжыць капыток.
Маладзік. *Р., сб., 330; 1960, Асіп.; 1967, Дзятл.*

59. У сінім мяшочку шмат белых парасят.
Неба і зоры. *1960, Лоеў.*

60. Поле незмярона, быдла незлічона, адзін пастух пасе.
Неба, зоркі, месяц. *F., 477; 1946, Староб.*

61. Поле не змерана, быдла не злічана, пастух рагаты.
Неба, зоркі, месяц. *Ш., 494, Віл. п.*

62. Поле не мерана, авечкі не лічаны, пастух рагаты.
Неба, зоркі, месяц. *Dyb., 168.*

63. Рассцялю радзюжку, пасыплю гарошку і акраец хлеба палажу.
Неба, зоркі, месяц. *F., 477.*

64. Выслана дзяружка, пасыплена гарошку, паложана хлеба булка.
Неба, зоркі, месяц. *Р., сб., 319.*

65. Рассцялю дзяружку, пасыплю гарошку крошку, палажу акрайчык хлеба.
Неба, зоркі, месяц. *Л., 37; Гт., 295, Навагр. п.; Р., Мат., 93, Слон. п.*

66. Пасцялю дзяружку, пасыплю гарошку, пакладу кулідку (акраец) хлеба.

Неба, зоры, месяц. *Pietk., 450.*

67. Пасцялю дзяружку, пасыплю гарошку, да палажу лусту хлеба.

Неба, зоркі, месяц. *Dyb., 164.*

68. Разаслана дзяружка, пасыпана гарошку, паложаны акрайчык хлеба.

Неба, зоркі, месяц. *М. в., 160; 1962, Кап.*

69. Пасцялю рагожку, насыплю гарошку, крайчык хлебца пакладу.

Неба, зоркі, месяц. *Р., сб., 329.*

70. Палажу кажух, пасыплю гарох, палажу бохан хлеба.

Неба, зоркі, месяц. *F., 477.*

71. Разасланы кажух, рассеяны гарох і бохан хлеба ляжыць.

Неба, зоркі, месяц. *F., 476.*

72. Разаслана радно, пасярэдзіне радна акраец хлеба, кругом акрайца пасыпана бульба.

Месяц і зоркі. *Б., 171.*

73. Разаслана пасцілка, на пасцілцы рассыпаны сярэбраны пясочак, а пасярэдзіне залаты кружочак.

Месяц і зоркі на небе. *Рп., 362.*

74. Пакаціўся клубок, рассыпаўся гарох, пачало світаці — не было чаго збіраці.

Месяц і зоры. *«Зорка», 1957, № 3.*

75. Авец поўны хлявец, а казёл толькі адзін.

Зоркі і месяц. *Нк., 28.*

76. Адзін пастух пасе тысячу авец.

Месяц і зоркі. *1946, Староб.; 1963, Кап.*

77. Усё поле ў дзірачках.

Зоркі на небе. *Р., сб., 318.*

78. На полі Ярох рассыпаў гарох, стала світаць — няма чаго сабіраць.

Неба і зоркі. *1961, Добр.*

79. Рассыпаўся гарох на тысячу дарог, ніхто не пабярэ: ні цар, ні царыца, ні пятух, ні курыца.

Зоры на небе. *1965, Гродз.*

80. Рассыпалася к ночы зярно, глянулі наранні — аж няма нічога.

Зоркі. *1960, Пух.*

81. Каціліся каточкі па ліпаваму масточку, як увідзелі зорку, дык шмык у норку.

Зоркі на небе перад світаннем. *Нк., 28.*

82. Свечак многа гарыць, а ніводнай не патушыць.

Зоркі на небе. *1959, Гом.*

83. Уся дарожка ўсыпана гарошкам.

Зоркі. *1946, Староб.*

84. Сто коней, сто валоў яйцо не пацягнуць.
Зямны шар. *Б., 173.*

85. Усіх нас корміць, а сама есці не просіць.
Зямля. *Pietk., 451.*

86. Што нас корміць, а есці не просіць?
Зямля. *F., 486; 1967, Гор.*

87. Мяне б'юць, калоцяць, варочаюць, рэжуць, я ўсё цярплю і ўсім дабром плачу.
Зямля. *1967, Клецк.*

88. Мяне рэжуць, мяне б'юць, а я за гэта не злюсь, яшчэ лепей станаўлюсь.
Глеба. *1959, Гом.*

89. Матчыну скрыню не паднімеш, дочкіную трубку не скатаеш, братнінага коніка не паймаеш.
Зямля, дарога, вецер. *Нк., 27.*

90. Як у нашай сястрыцы поўна скрыня паясніцы; ніхто скрыні не падымець, ніхто паясоў не злічыць.
Зямля і дарогі. *Нк., 27.*

91. Дзяжа (дзежка) чорная, а века белае.
Зямля і снег. *Б., 169; Нк., 27.*

92. Дзяжа (дзежка) старая, а века новае.

Зямля і снег. *Ш., 491, Віл. п.; Нк., 27; Ш., 491, Віл. п.*

93. Відзен край, а дабрацца да яго нельга.

Гарызонт. *1959, Гом.*

94. Ні мора, ні зямля, караблі не плаваюць, бо нельга.

Балота. *Ш., 487, Віл. п.; I. I., 1937, № 1, 22; 1946, Староб.*

95. Па мне паўгода ходзяць, паўгода ездзяць.

Балота. *Рп., 361.*

96. Баран бяжыць, а на ём воўна дрыжыць.

Балота. *Б., 167.*

97. У шапках, а не людзі, высокія, а не дрэвы.

Горы, на іх снег. *Рп., 363.*

98. Без рук, без ног вышэй дзерава ідзе.

Пыл. *F., 479.*

99. Поўна поле ментузоў.

Каменне. *F., 472.*

100. Без кораня, а расце.

Камень. *1946, Слуцк.; Рп., 356.*

101. У полі без кораня расце.

Камень. *Нк., 26.*

102. Ляцелі тры галкі, селі на праталкі. Адна кажа — паляжым, другая — пабяжым, трэцяя — паківаемся.

Камень, вада, трава. *Нк., 26.*

103. Адна кажа — пабяжым, другая кажа — паляжым, трэцяя кажа — паківаймася (калываймася).

Вада, камень, трава. *F., 484; Р., сб., 327; 1960, Нясв.; 1963, Брасл.*

104. Адно кажа — бяжым, другое кажа — ляжым, а трэцяе кажа — калываймася.

Вада, камень, трава. *1948, Пруж.*

105. Адно кажа — бяжым, другое — ляжым, трэцяе — стойма і варушэмся.

Рака, камень, трасціна. *Шр., 208.*

106. Тры таварышы: адзін кажа — пабяжым, другі кажа — паляжым, трэці кажа — паківаемся.

Вада, камень, трава. *1961, Крыв.*

107. Без ног бяжыць.

Вада. *Нк., 27.*

108. Без ног бяжыць, без век (без вачэй) глядзіць.

Вада. *Нк., 26; Рп., 356.*

109. Бяжыць без пугі, без повада.

Вада. *Нк., 27.*

110. Наліць — нальеш, панесці — не панясеш.

Вада. *F., 484.*

111. Важу, важу — не выважу, нашу, нашу — не вынашу.

Вада. *Б., 167.*

112. Як снег растане — зашуміць, а лёд застыне — замаўчыць.

Вада. *1951, Гродз. і Мір.*

113. Там бурліць, там шуміць, а часта работу робіць.

Вада. *1949, Кір.*

114. Еду, еду на сівым дзеду, сухалінай паганяю, на смерць паглядаю.

Водная паверхня. *Нк., 27.*

115. Сутула, гарбата, а сілы багата — і конь таго не звязе, што яна знясе.

Рака. *Рп., 362.*

116. Тут бурліць, там шуміць, а часта работу робіць.

Рака. *1946, Староб.*

117. Кіну кідком, стане кубком пад зялёным дубком.

Рэчка. *Б., 172.*

118. Вясной конік іграе, а летам аддыхае.

Вада ў ручаі. *Нк., 27.*

119. Вясной конь іграе, а зімой аддыхае.

Вада ў рацэ. *Рп., 357.*

120. Цякло, цякло і схавалася пад сцякло.

Рэчка пад лёдам. *1959, Гом.*

121. Цякло, цякло і лягло пад шкло.

Рака пад лёдам. *Рп., 363.*

122. Карова бяжыць, скура ляжыць.

Вада і лёд. *І. І., 1937, № 1, 22.*

123. Конь бяжыць, шкура ляжыць.

Рака і лёд. *Р., сб., 323.*

124. Ляжыць — маўчыць, як памрэ, дык зараве.

Лёд вясною. *І. І., 1937, № 1, 22.*

125. — Куды ідзеш, крывая крывуліца? А чаго стаіш, стрыжана патыліца?

Рэчка і сенажаць. *Р., Мат., 92, Слон. п.*

126. — Куды ідзеш, крывуліна? — Што табе за справа, стрыжана патыліца?

Рака і сенажаць. *1963, Маладз.*

127. Ідзе крывая крывуліца. Стаіць стрыжаны бес. — Куды ты ідзеш, крывая крывуліца? — Якое табе дзела, стрыжаны бес. Куды ні пайду, дарогу знайду.

Рэчка і луг. *Д., 88.*

128. — Куды бяжыш ад хваста, крывая, не праста? — А чорт табе, падстрыжана аўца.

Рака і сенажаць. *Шр., 208.*

129. — Крывое, малое, куды бяжыш? — А што табе за дзела, стрыжаны чорт.

Ручай і луг. *Р., сб., 324.*

130. Усюды дарога адкрыта, а праедзеш — следу няма.

Рэчка і лодка. *1959, Гом.*

131. Два браты глядзяць у ваду, а ніколі не сойдуцца.

Берагі. *1949, Бабр.*

132. Два браты ў ваду глядзяцца, а разам не сходзяцца.

Берагі. *Рп., 358.*

133. Кабыла бяжыць, аглоблі ляжаць.

Рака і берагі. *Р., Мат., 94, Слон. п.*

134. Адзін кажа — пабяжым, другі кажа — паляжым, трэці — пастойма і паківаймася.

Рака, бераг, чарот. *Рп., 343.*

135. Адно бяжыць, другое ляжыць, а каб усталі, то да неба б дасталі.

Рака і дарога. *F., 480.*

136. Века новае, а дзяжа старая.

Возера. *Нк., 27.*

137. Баран бяжыць, на ім воўна дрыжыць.

Крыніца. Хваляванне вады і збожжа. *F., 474.*

138. Чыстае, харошае, цэлае лета цвіце, а насення няма.

Вада крынічная ці крыніца. *Б., 167.*

139. Невяліка яма, вашага паўбарана, і кушак, і шапка, і сена ахапка і ўсё-такі слабка.

Прорва ў прудзе. *Д., 90.*

140. Нічым хаты не абнясеш.

Мора. *Р., сб., 327.*

141. Кругом вада, а з ціццём бяда. Хто адгадае, дзе гэта бывае?

На моры. *Рп., 359.*

142. Па моры імчыцца, пад ветрам гуляе, да берага дойдзе — адразу знікае.

Хваля. *1959, Глыб.*

143. Па моры ідзе, ідзе, а да берага дойдзе — тут і прападзе.

Хваля. *Рп., 361.*

144. Рыкнуў вол за многа гор, за многа вод, за многа сёл.
Гром. *Pietk., 449.*

145. Рыкнуў вол на сто гор, на семдзесят азёр.
Гром. *Hur., 200.*

146. Рыкнуў вол на сто гор, на сто печак, на сто рэчак, на сто розных гарадоў.
Гром. *1949, Акцябр.*

147. Рыкнуў вол на сто сёл, на сто рэчак, на сто печак, на сто камянёў.
Гром. *1946, Жытк.; 1946, Староб.; 1948, Пруж.*

148. Крыкнуў вол на сто гор, на сто рэчак, на сто печак, на сто цагляных камінoў.
Гром, звон. *Р., сб., 324.*

149. Зароў вол на сто гор, на сто печак, на сто рэчак.
Гром. *F., 470.*

150. Раўнуў вол на сто гор, за дзесяць балот.
Гром. *Б., 168.*

151. Раўнуў вол на сто гор, на тысячу азёр.
Гром. *Д., 82.*

152. Раўнуў вол на сто гор, на тысячу гарадоў.
Гром. *Р., сб., 329.*

153. Зароў вол на сто гор, на тысячу азёр.
Гром. *Нк., 27.*

154. Крыкнуў вол на сто азёр, на сто міль, на ўвесь свет.
Гром. *Ш., 489, Сен. п.*

155. Як вол рыкае, за сто міль чутна.
Гром. *Б., 168.*

156. Зароў вол на сем сёл.
Гром. *F., 470.*

157. Чорны вол раве на сто гор.
Гром. *F., 470.*

158. За трыста вёрст вол раве.
Гром. *Р., сб., 322.*

159. Сівенькі жарабец па ўсяму свету ржэць.
Гром. *Р., сб., 330.*

160. Сівы жарабец на ўсё царства заржаў.
Гром. *F., 470.*

161. Заржаў жарабёнак на Сіянскай гарэ, а ўчулі голас на гасударскам дварэ.

Гром. *Р., сб., 321.*

162. Як заржаў жарабок на крутой гарэ, а як адыржаліся кабыліцы ў турэцкай зямліцы.

Гром і маланка. *Нк., 27.*

163. Шыла-віла, матавіла па-над небясамі хадзіла, з панамі гаварыла.

Гром. *Ч., 307, Бельск. п., Гродз. п.*

164. З гары падае, а ўнізе б'е.

Гром. *Б., 168.*

165. На гары стукаюць, а ўнізе слухаюць.

Гром. *Б., 168.*

166. Стукае, грукае, а нідзе яго не відаць.

Гром. *1960, Брасл.*

167. Стукае, грукае — нідзе яго не знойдзеш.

Гром. *Ш., 489, Сен. п.; І. І., 1937, № 4, 18.*

168. Каціласяа кадушачка: ні звер, ні птушачка, і ні агонь, і ні вада, не адгадаеш нікагда.

Гром. *1960, Нясв.*

169. Нахмурыцца, насупіцца, у слёзы ўдарыцца — нічога не застанецца.

Навальніца. *1959, Гом.*

170. Ляціць ліса з-пад цёмнага леса, ні яе не відаць, ні следу не знаць.

Бліскавіца. *Hur., 200.*

171. Бегла ліска каля лесу блізка, ні яе дагнаць, ані след пазнаць.

Маланка. *Рп., 356.*

172. Бегла ліска каля лесу блізка, ні сцежкі, ні дарожкі, толькі залатыя рожкі.

Маланка. *Р., сб., 318.*

173. Бяжыць ліска каля лесу блізка.

Маланка. *Д., 89.*

174. Ляціць без крыл.

Вецер. *Нк., 27.*

175. Без крыл лятае, без ног бяжыць.

Вецер. *Б., 167.*

176. Ляціць без крыл, у адзін час — сто міль.

Вецер. *Н., 15.*

177. Ляціць, не аддыхае, а крылляў не мае.

Вецер. *Рп., 360.*

178. Ляціць, а не птушка, вые, а не звер.

Вецер. *1963, Маладз.*

179. Без рук, без ног дзверы адчыняе.

Вецер. *Гт., 300, Брэсц. п.; Dyb., 165; F., 484.*

180. Рук і ног не мае, а дзверы адчыняе.

Вецер. *Pietk., 451.*

181. Без рук, без ног, а вароты адчыняе.
Вецер. *І. І., 1937, № 2, 18.*

182. Ні рук, ні ног не мае, а яблыкі страсае.
Вецер. *1961, Добр.*

183. Без ног бяжыць, без рук грукоча.
Вецер. *Рп., 356.*

184. Не мае рук, але зрывае з дрэў лісце. Не мае вуснаў, а вые і свішча. Хто гэта такі?
Вецер. *«Зорка», 1959, № 37.*

185. Без голасу, а вые, без рук, а абрусы сцеле.
Завіруха. *Рп., 356.*

186. Не мае душы і цела, а раве, як воўк.
Вецер. *F., 484.*

187. Бязрукая барыня пяром кіруе.
Пяро на ветры. *Д., 81.*

188. Дрэва валіць — ні звер, ні вада, не адгадаеш нікагда.
Вецер. *Нк., 27.*

189. Фыркае, рыкае, галіны ламае, пыл падымае, цябе з ног збівае, чуеш яго, ды не бачыш.
Вецер. *Рп., 363.*

190. Ляціць птах ні з лупамі, ні ў штанах: найбольшу бярозу з коранем вырывае.
Вецер. *F., 484.*

191. У полі салавей свішча.
Вецер. *Р., Мат., 93, Слон. п.*

192. Шуміць, гудзіць цэлы век, а не чалавек.
Вецер. *1949, Бабр.*

193. І шуміць, і гудзе, на ўвесь свет голас ідзе.
Вецер. *Р., сб., 323.*

194. Ляціць, а не птушка, вые, а не звярушка.
Вецер. *Нк., 27.*

195. Каля носа ўецца — у рукі не даецца.
Вецер. *Нк., 27; Д., 81.*

196. Лупар гоўца разганяе, ціхар на месцы стаўляе.
Вецер, збожжа, цішыня. *F., 484.*

197. Ляціць арліца па сіняму небу, крылы распластала, сонца заслала.
Хмара. *1968, Касц.*

198. Ляціць без крыл, бяжыць без ног.
Хмара. *Нк., 28.*

199. Без крыл, а ляціць, без ног, а ходзіць, без паруса, а плыве.
Хмара. *1969, Лун.*

200. Распластала птушка крылы, ажно сонца засланіла.
Хмара. *1961, Добр.*

201. Насупіцца, нахмурыцца, у слёзы ўдарыцца — нічога не застанецца.

Хмара. *1965, Воран.*

202. Пушыстая вата плыве куда-та.

Воблака. *1967, Саліг.*

203. Сівая кабыла па свеце хадзіла, да нас прыйшла, па руках пайшла.

Хмара і дождж. *1946, Староб.*

204. Ішоў даўгавяз, у сырую зямлю ўвяз.

*Дождж.* *F., 468; 1962, Кап.*

205. І тонкі, і доўгі, а з травы не відаць.

*Дождж.* *Нк., 28.*

206. Высокі і тонкі, а з травы не відаць.

*Дождж.* *Р., сб., 318.*

207. Тонкі, доўгі, а ўпадзе — з травы не відаць.

*Дождж.* *Рп., 363.*

208. Як я ляцеў, то зіхацеў, а як упаў, то чорны стаў.

*Дождж.* *F., 468.*

209. Ляцеў цыбач праз сенажаць, як паў, то і не відаць.

*Дождж.* *1965, Воран.*

210. Доўгі даўгач упадзе ў балота, яго не знаць.

*Дождж.* *F., 468.*

211. Чакаем і просім усе, а прыйдзе — усе схаваемся.

Дождж. *Д., 84, Смален. п.*

212. Мяне ўсе просяць, мяне ўсе чакаюць, а як толькі з'яўлюся, хавацца пачынаюць.

Дождж. *1946, Староб.*

213. Адзін лье, другі п'е, а трэці паглынае.

Дождж, зямля, расліны. *1959, Леп.*

214. Адзін лье, другі п'е, а трэція паядаюць.

Дождж, зямля, расліны. *1959, Леп.*

215. Адзін лье, другі п'е, трэці расце.

Дождж, зямля, трава. *Рп., 343,*

216. Адзін лье, другі п'е, трэці зелянее ды расце.

Дождж, зямля, трава. *1946, Староб.*

217. Адзін лье, другі п'е, трэці злякае.

Дождж, зямля, трава. *1946, Староб.*

218. Чырвонае карамысла праз рэчку павісла.

Вясёлка. *Рп., 364; 1968, Касц.*

219. Вутка ў моры — хвост угоры.

Радуга. *Нк., 28.*

220. Упіраючыся на берагах, ляжыць дуга на быках.

Вясёлка. *Рп., 363.*

221. Цераз палі, цераз лугі спусціліся канцы дугі.
Радуга. *1959, Гом.*

222. Чырвоная ара з неба спускаецца.
Радуга. *1959, Гом.*

223. З неба крупы падаюць.
Град. *Б., 168.*

224. Рассыпаўся гарох на сто дарог, ніхто не падбярэ: ні цар, ні царыца, ні красная дзявіца.
Град. *Нк., 28.*

225. Вечарам нараджаецца, ноч жыве, а раніцай памірае.
Раса. *1965, Навагр.*

226. Вечарам прыляціць, ноч на зямлі праляжыць, а раніцай зноў на неба паляціць.
Раса. *1946, Стараб.*

227. Ішла паненка ўначы, пагубіла ключы.
Раса. *F., 480.*

228. Ішла панна ўначы, згубіла ключы, месяц бачыў, а сонца падняло.
Раса. *Рп., 358.*

229. Ехала пані ўначы, пагубляла ключы, месяц бачыў, сонца ўкрала.
Раса. *1948, Кобр.*

230. Месяц ключы пагубіў, сонца ўстала, ключы ўкрала.
Раса. *F., 480.*

231. Сонца іграла, ключыкі ўкрала, месячык узыйшоў, ключыкі знайшоў.
Раса. *F., 480.*

232. Ехала пані ўначы, пагубіла ключы, сонца ўкрала, месяц бачыў.
Раса. *Р., Мат., 89, Кобр. п.*

233. Кацілася заранка, пацярала баранка, месяц ўбачыў, сонца ўкрала.
Раса. *Д., 91.*

234. Зара зырала, ключы пацярала, месяц ўбачыў, сонца ўкрала.
Раса. *Д., 91.*

235. Зара-зараніца, красная дзявіца, па небу хадзіла, ключы ўраніла, як сонца ўзыйшло і ключы найшло.
Раса. *1963, Маладз.*

236. Вечарам прыляціць, усю ноч на зямлі праляжыць, а раніцай на неба апяць паляціць.
Раса. *Ш., 496, Віл. п.*

237. Прыйшоў вол, выпіў вады дол.
Мароз. *«Ніва», 1957, № 19.*

238. Адзін (сівы) вол выпіў вады дол.
Мароз. *F., 475; Р., Мат., 86, Вайк. п.*

239. Без рук (пілы), без сякеры, а масты будуе.

Мароз. *1949, Бабр.; 1965, Іў.; 1965, Кап.*

240. Без тапара (сякеры), без кліна на рацэ мост зрабіў.

Мароз, лёд. *Р., сб., 317; Ш., 5, Віл. п.; 1959, Гом.*

241. Семсот тапароў зрубілі хатку без вуглоў.

Мароз. *F., 475.*

242. Без рук, без ног, а цвяты рысуе.

Мароз. *1949, Кір.*

243. Без рук, без ног, а рысаваць умее.

Мароз. *1949, Бабр.*

244. Без рук, без галавы, а маляваць умее.

Мароз. *1950, Хойн.*

245. Без рук, без алоўка, а рысаваць умее.

Мароз. *1949, Бабр.*

246. Ехаў камісар, на акне напісаў.

Мароз. *Шр., 208.*

247. Прыехалі камісары, вокны, дзверы напісалі.

Мароз. *1960, Брасл.*

248. Прыехалі пісары і ўсе дзверы спісалі без пяра і без карандаша.

Мароз. *1963, Брасл.*

249. Гарох стручыст, ноччу стучыць, днём стаяць не вяліць.
Мароз. *Нк., 27.*

250. Пятрок ля варот цяпло ўвалок, сам не бяжыць, а стаячых не любіць.
Мароз. *Рп., 362.*

251. Без рук рысуе, без зубоў кусае.
Мароз. *Рп., 357.*

252. Без рук расце, а без зубоў кусае.
Мароз. *1959, Гом.*

253. Хоць зубоў не мае, а за твар балюча кусае.
Мароз. *1961, Добр.*

254. Сівае сукно лезе праз вакно.
Мароз. *Р., Мат., 87, Кобр. п.*

255. Ішоў генерал, з усіх шапкі паздымаў, а трое не даваліся.
Мароз, хвоя, елка, ядловец. *1965, Навагр.*

256. Уначы трашчыць, а ўдзень плюшчыць.
Мароз на прадвесні. *F., 475.*

257. Ляцеў птах, на ваду — бах. Вады не скалаціў і сам не паляцеў.
Снег. *Шр., 208; 1960, Капатк.*

258. Ляцеў птах, на ваду — бах. Вады не скалыхнуў, на дно патануў.
Снег. *F., 483.*

259. Ляцеў птах, сеў на вадах, ваду ўскалыхнуў і сам патануў.
Сняжынка. *1951, Малад.*

260. Ляцелі сівыя галубкі, упалі на воду, вады не скаламуцілі і самі не паляцелі.
Снег. *F., 483,*

261. Ляціць, як сокал, садзіцца, як пан, а за сабаку прападае.
Снег. *Р., сб., 324.*

262. Ляцелі белыя гусі, крылля русы, да нельга з іх па пёрушку вырваць.
Снег. *Р., сб., 325.*

263. Ляцяць птушкі без крыл, а садзяцца без ног.
Снег. *1949, Бабр.*

264. Ляжыць — маўчыць, а як памрэ, дык зараве.
Снег. *1946, Слуцк.*

265. Ляціць — маўчыць, сядзе — маўчыць, а як памрэ да згніе, то і зараве.
Снег. *F., 483.*

266. Ляціць — маўчыць, ляжыць — маўчыць, а як памрэ, дык зараве.
Снег. *1963, Брасл.*

267. Ляжыць — маўчыць, ляціць — маўчыць, як згніе, так і зараве.
Снег. *Д., 94.*

268. Радзіўся моўчкі, жыве цішком, а як памрэ, дык зараве.
Снег. *1959, Гом.*

269. Жыве — ляжыць, маўчыць, а як памірае — бяжыць, масты ўзрывае.
Снег. *1961, Добр.*

270. Я з вады народжан і сам яе раджаю.
Снег. *1963, Маладз.*

271. На двара гарою, а ў хаце вадою.
Снег. *1959, Леп.; 1946, Староб.; 1948, Бабр.; 1949, Акцябр.*

272. Па калені вада, а напіцца недзе.
Снег. *Нк., 28.*

273. Па калені вады, а не нап'ешся.
Снег. *Рп., 361.*

274. Скацерць бела ўвесь свет адзела.
Снег. *1965, Кап.*

275. Шуба (шубка) бела ўвесь свет адзела.
Снег. *1960, Пух.; 1959, Гом.*

276. Не белены, а ўсё бел.
Снег. *Нк., 28.*

277. Ляжыць белае, як сонца прыгрэе, то яго няма.
Снег. *Б., 172.*

278. Белы, а не сахар, без ног, а ідзе.

Снег. *1963, Маладз.*

279. Белае палатно, а пад ім халадно.

Снег. *1946, Староб.*

280. Без кораня расце, белым цветам цвіце.

Снег. *F., 483.*

281. Сее, вее, рассявае, зімой сляды замятае.

Снег. *1949, Кір.; Рп., 357.*

282. З неба, ўпаў, усю зямлю, як абрусам, заслаў.

Снег. *1961, Добр.*

283. На адзін бок мора дровы рубаюць, а на другі бок трэскі лятаюць.

Снег. *1962, Дзятл.*

284. Цяплынь пачне грызці, сплыве кудысці.

Снег. *1960, Лоеў.*

285. Зімой грэе, вясной тлее, улетку памірае, увосень аджывае.

Снег. *1963, Маладз.*

286. Белае адзенне на зямлі ляжала, цяпло прыйшло, усё прайшло.

Снег. *1969, Лун.*

287. Прыляцела пава, сярод двара ўпала, прыляцеў каптур, яе стул запхнуў.

Снег і дождж. *F., 483.*

288. Прыляцела пава да ў суткі ўпала, прыляцеў каптур і вон адтуль.
Снег і дождж. *Б., 172.*

289. Ляцеў птах, на вароты — бах, прыляцеў каптур, сагнаў адтуль.
Снег і дождж. *F., 483.*

290. Без плеч, а ляжыць, без ног, а бяжыць.
Снег, вада. *I. I., 1937, № 4, 18.*

291. Белая карова траснік паламала.
Снег. *H., 18.*

292. У шапках, а не людзі, высокія, а не дрэвы.
Снегавыя горы. *I. I., 1937, № 2, 18.*

293. Што то за мода, што трашчыць вода.
Лёд. *F., 474.*

294. На вадзе родзіцца, а вады баіцца.
Лёд. *Рп., 360.*

295. Палажыў бог пячаць, без жалеза не пачаць.
Лёд. *Ш., 493. Леп. п.*

296. Паложана пячаць, што без жалеза не пачаць.
Лёд. *Рп., 361.*

297. Зімой расце коранем уверх, а вясной памірае. Хто адгадае?
Лядзяш. *Рп., 358.*

298. Са страхі морква вісіць, да зямлі не дастане, паху не мае, зімой вырастае.

Ледзяшы. *1959, Гом.*

299. Днём акно (шкло) разбіта, а нанач (за ноч) устаўлена.

Лёд у палонцы. *Рп., 358; 1959, Гом.*

300. І спім, і ядзім, і ходзім, самі бяром, а людзям не даём.

Паветра. *Нк., 27.*

301. Ляжыць лася, расцяглася, а як устане, дык і неба дастане.

Туман. *1959, Леп.*

302. Два кабаны ўсё поле занялі.

Туман. *Р., сб., 320.*

303. Я іду, іду, ніколі да стога не дайду.

Туман. *1946, Староб.*

304. Кругом носа ўецца, а ў рукі не даецца.

Дух, пах. *Ш., 490, Свянц. п.; 1965, Кап.*

305. Каля носа баўтаецца, а ў рукі не пападаецца.

Пах. *Ш., 491, Мсціsл. п.*

306. Мяту, мяту — не вымету, нясу, нясу — не вынесу.

Цень. *1949, Акцябр.*

307. Мяцём, мяцём — не вымецем, носім, носім — не вынесем.

Цень. *1946, Староб.*

308. Мяцеш, мяцеш — не вымецеш, грабеш, грабеш — не выграбеш, пара прыйдзе — само выйдзе.
Цень. *1950, Хойн.*

309. На агні не гарыць, на вадзе не тоне і на саломе не шасціць.
Цень. *Ш., 498, Віл. п.*

310. У вадзе не тоне, у агні не гарыць, зімой не замярзае.
Цень. *1968, Касц.*

311. Ходзіць-ходзіць, да й не шамае.
Цень. *Р., сб., 334.*

312. Па сену ходзіць, да не шамае.
Цень. *Р., сб., 329.*

313. Хаджу па сену, да й не шамаю.
Цень. *Р., сб., 334.*

314. Па саломе йдзе — не трашчыць, па вадзе йдзе — не тоне.
Цень. *Р., сб., 329.*

315. На вадзе ляжыць, ды не тоне, па агню бяжыць, ды не гарыць.
Цень. *Нк., 28.*

316. Хоць ён побач ідзе, а рукамі не возьмеш.
Цень. *1961, Добр.*

317. Ідзе чалавек і сам сябе бачыць.
Цень. *1970, Ашм.*

318. Даўжэй лута паласа.
Цень. *Р., сб., 320.*

319. За намі ўслед шагае, ды нам ні ў чым не памагае.
Цень. *Зар., 6.*

320. Убяжаць — не ўбяжыш, падняць — не падымеш.
Цень. *1965, Кап.*

321. Як гукнецца, так і адзавецца.
Рэха. *1965, Кап.*

322. Нетуці радасці, а гагочыць.
Рэха. *Нк., 28.*

323. Гукнеш — дык адгукаецца, ад людзей хаваецца.
Рэха. *1961, Добр.*

324. Без языка, а крычыць, ніхто яго не бачыць, а ўсякі чуе.
Рэха. *1959, Гом.*

325. Жыве без цела, гаворыць без языка, ніхто не бачыць, а ўсякі чуе.
Рэха. *F., 474; Нк., 27.*

326. Без языка, а крычыць, ніхто яго не бачыць, а ўсякі чуе.
Рэха. *Рп., 357.*

327. Цела не мае, без языка гаворыць і ўсе яго чуюць.
Рэха. *1959, Гом.*

328. Без дарожак і без ножак, а бяжыць, як толькі можа.
Рэха. *Рп., 357*

## ЧАС, ПОРЫ ГОДА

329. Хутка бяжыць — не дагоніш.

*Рп., 363.*

Час.

330. Яно без ног, яно без рук, не відна яго і не чутна яго. А ляціць шпарка яно, не дагоніш яго.

*1959, Гом.*

Час.

331. Дванаццаць арлоў, пяцьдесят дзве галкі зняслі адно яйцо.

*1961, Віл.*

Год.

332. Дванаццаць арлоў, пяцьдесят галак, хто адгадае, у таго вялікая памяць.

*Р., сб., 320.*

Год.

333. Дванаццаць варон, трохі болей гáліц, хто адгадае, той харошы малец.

*Нк., 29.*

Месяцы і тыдні.

334. Выходзілі дванаццаць малайцоў, выносілі пяцьдзесят два сокалы, выпускалі трыста шэсцьдзесят пяць лебядзей.

*Ш., 488, Свянц. п.; 1946, Староб.; 1963, Леп.*

Год, месяц, тыдні, дні.

335. У канцы сяла стаіць дуб, на тым дубу дванаццаць гáліц, хто адгадае, той будзе добры малец.

*Р., сб., 333.*

Год.

336. Стаіць дуб, а на тым дубе дванаццаць сучкоў і кожнаму сучку — па фаміліі.

Год і месяцы. *Д., 90, Смален. п.*

337. Стаіць дуб, на дубу дванаццаць гнёзд, у кожным гняздзе па чатыры сініцы, у кожнай сініцы па чатырнаццаць яек, сем чорных і сем белых.

Год. *Ш., 488, Свянц. п.*

338. Стаіць дуб у чыстым полі, а на ім дванаццаць голляў, а на голлях, як заўсёды, пяцьдзесят і два гнязды. Па сем яек там ляжыць. Што гэта за дуб стаіць?

Год. *Рп., 368.*

339. Стаіць дом на дванаццаць вакон, на тых вокнах па чатыры панны, на тых паннах па чатыры вянкі.

Год. *Р., сб., 332.*

340. Стаіць дом на дванаццаць вакон, пад тымі вокнамі па чатыры паны, а ў тых паноў па сем вянкоў.

Год, месяцы, тыдні, дні. *Нк., 28.*

341. Стаіць пакой, а ў тым пакоі дванаццаць вакон, а на тых вокнах па чатыры паны, а ў тых паноў па сем вянкоў.

Год. *Ш., 488, Леп. п.*

342. Збудаваў бог дом круглы — без вуглоў, а ў тым доме дванаццаць вакон, у тых вокнах па чатыры паны, у тых паноў па сем сыноў, а кожнаму сыну па імені дано.

Год. *Ш., 483, Леп. п.*

343. Пяцьдзесят дзве галіцы, дванаццаць галубоў, хто розум мае, той адгадае.

Тыдні і месяцы ў годзе. *Нк., 29.*

344. Ляжыць калода, у той калодзе дванаццаць гнёзд, а ў тых гнёздах па чатыры яечкі, а ў тых яечках па сем заклювак.

Год, 12 месяцаў, 4 тыдні, 7 дзён. *Б., 168.*

345. Ляцеў сямідон, звіў гняздо, як знёс сем яй, кожнаму імя даў.

Тыдзень. *Ш., 495, Слон. п.*

346. Едзе кошка на шасцёх ножках, сама сёмая.

Тыдзень. *Нк., 29.*

347. Гаспадар багаты, ды смуцён; гаспадыня бела, ды бедна.

Восень і зіма. *Нк., 29.*

348. Цар багаты, ды птушкі не пяюць; царэўна бедна, але птушкі пяюць.

Восень і вясна. *Нк., 29.*

349. Шэрае сукно лезе ў акно.

Світанне. *Р., Мат., 91, Кобр. п.*

350. Сівы бык у ваконца шмык.

Світанне. *Нк., 28.*

351. Ні стуку, ні груку на двары, сівы конь на зары.

Світанне. *Рп., 361.*

352. Прыйшла бела кабыла, увесь свет пабудзіла.

Раніца. *Б., 173.*

353. Белая птушка ўвесь свет абляцела.
Дзень. *Б., 168.*

354. Белы бык у вакно нік.
Дзень. *Р., сб., 318; 1959, Гом.*

355. Белы бык у акно тык.
Дзень. *Ш., 489, Гом. п.*

356. Устаў белы бык, у вакно пальцам тык.
Дзень. *F., 468; «Ніва», 1957, № 26.*

357. Ні стуку, ні груку, сівы конь на дварэ.
Дзень. *М. в., 159.*

358. Ні стуку, ні груку, госць на дварэ.
Дзень. *Нк., 29; Рп., 361.*

359. Не стукне, не бразне, пад вакно падойдзе.
Дзень. *Ш., 12, Дзвін. п.*

360. Прыйшоў пад вакно, ані стуку, ані груку.
Дзень. *Нк., 29.*

361. Пад акенца падойдзе, не стукаючы, не грукаючы; ад акенца адойдзе, не стукне, не грукне.
Дзень. *Ш., 490, Навагр. п.*

362. Не стучэла, не гручэла, пад аконца падляцела.
Дзень. *Ш., 490, Свянц. п.*

363. Не стукне, не грукне, а ў акно ўвойдзе.
Дзень. *Рп., 361.*

364. Пад вакно падойдзе, а не шасне.
Дзень. *Нк., 29.*

365. Чарняцы па вуглах селі.
Змярканне. *Д., 83.*

366. Прыйшла чорна маці, усіх паклала спаці.
Ноч. *Б., 171.*

367. Прыйшла чорная карова, усіх людзей пабарола.
Ноч. *Р., Мат., 89, Кобр. п.; Б., 171.*

368. Прыйшла чорная карова ды ўсіх пабарола.
Ноч. *Dyb., 167.*

369. Прыйшла чорна карова, увесь свет збарола.
Ноч. *F., 477.*

370. Чорная карова ўсіх людзей папарола, дык ляжаць.
Ноч. *J., 11.*

371. Чорная карова людзей пакалола.
Ноч. *F., 477; Ш., 495, Гом. п.*

372. Чорная карова ўсіх людзей закапае.
Ноч. *Нк., 29.*

373. Чорная карова ўвесь свет скалола.

Ноч. *1960, Капатк.*

374. Чорна карова зарыкала, так увесь свет абярнула.

Ноч. *F., 477.*

375. Чорна кабыла усіх людзей пабіла.

Ноч. *F., 477.*

376. Прыйшла чорна кабыла, увесь свет пабіла.

Ноч. *Б., 171.*

377. Махнула птушка пяром, пакрыла ўвесь свет крылом.

Ноч. *Dyb., 167.*

378. Чорны бык у вакно лезе.

Ноч. *1949, Кір.*

379. Чорна сукно ўлезла ў вакно.

Ноч. *F., 477.*

380. Чэраз вакно лезе чорна сукно.

Ноч. *Б., 171; 1948, Пруж.*

381. Завалілася яліна — ні аб'ехаць, ні абысці.

Ноч. *Нк., 29.*

382. Чорна карова ўвесь свет збарола, бела ўстала — увесь свет пападымала.

Ноч, дзень. *F., 477.*

383. Чорная карова ўвесь свет пабарола, белая ўстала — усіх пападымала.

Ноч і дзень. *1946, Слуцк.*

384. Чорная карова ўсіх людзей пакалола, а белая ўстала — усіх пападымала.

Ноч і дзень. *Р., сб., 335.*

385. Прыйшла чорная карова, усіх людзей папарола; прыйшоў белы бык, пад вакно нік, усе людзі паўставалі.

Ноч і дзень. *1949, Бабр.*

386. Чорная карова, траснік ламала, белая карова траснік падымала.

Дзень і ноч. *Д., 83.*

387. Чорная карова трось паламала, белая бялява зноў трось падымала.

Ноч і дзень. *Нк., 29.*

388. Прыйшоў чорны лось, паклаў трось; прыйшоў белы лось, падняў трось.

Ноч, дзень. *Р., сб., 329.*

389. Белы бык падняў траснік, а чорны бык паваліў траснік.

Дзень і ноч. *Нк., 29.*

390. Чорная чарнява ўвесь лес паламала, белая бялява ўвесь лес падымала.

Ноч і дзень. *Д., 83.*

391. Сястра да брата ідзе, а брат ад сястры хаваецца.

Ноч і дзень. *1963, Маладз.*

392. Сястра да брата ў госці едзе, а брат ад яе хаваецца.
Ноч і дзень. *Рп., 363.*

393. Брат да сястры ідзе ў госці, а сястра хаваецца.
Дзень і ноч. *1949, Кір.*

394. Брат сястру даганяе, а сястра ад брата ўцякае.
Дзень і ноч. *Нк., 29.*

395. Не стучыць, не гручыць, пад ваконца падбяжыць.
Ноч і дзень. *1963, Брасл.*

## РАСЛІННЫ СВЕТ

396. Дыхае, расце, а хадзіць не можа.
Расліна. *Рп., 345.*

397. Рук многа, а нага адна.
Дрэва. *1959, Гом.*

398. Летам адзяваецца, зімой раздзяваецца.
Дрэва. *1949, Бабр.*

399. Летам апранаюцца, зімой раздзяваюцца.
Лісцёвыя дрэвы. *Рп., 347.*

400. Кожна панна стаіць і кожна сваю пасцель дзяржыць.
Дрэва. *F., 468.*

401. Ці ёсць такоў, як Іван Пятроў: сеў на конь — ды й у агонь.
Дрэва. *F., 468.*

402. Вясна прыгрэе, шубу надзене; зіма наступае, шубу скідае.
Лісцёвае дрэва. 1959, Гом.

403. Усе паны паздзелі штаны, толькі ўтрох не.
Лісцёвыя дрэвы зімою; сасна, елка, ядловец. *Р., сб., 318.*

404. Усе паны скінулі кафтаны, а адзін пан не скінуў кафтан.

Лісцёвыя і хваёвыя дрэвы. *1959, Гом.*

405. Усе паны паскідалі жупаны, толькі трое ў жупанах стаяць.

Сасна, елка, ядловец зімой. *Рп., 354.*

406. Ехалі яны на белым кані, усе пазнімалі шапкі, адно тры асобы не.

Яліна. *F., 471.*

407. Зімой і летам адным цветам.

Елка, хвоя. *1949, Бабр.; 1950, Хойн.; 1959, Маладз.; 1960, Гом.*

408. І зімой, і летам усё адным цветам.

Хваёвае дрэва. *Нк., 26.*

409. Што гэта за дзерава зіму і лета зелена?

Хвоя. *F., 466.*

410. Стаяць стаючкі, а на іх калючкі.

Хваёвыя дрэвы. *Нк., 26.*

411. Зялёная, а не луг, белая, а не снег, кучаравая, а без валасоў.

Бяроза. *Рп., 346.*

412. Стаяць слупы (сталбы) бялёныя, на іх шапкі зялёныя.

Бярозы. *Рп., 353; 1960, Лоеў.; 1960, Пух.*

413. Кроў маю п'юць, косці мае паляць, маімі рукамі адзін другога б'юць.

Бяроза. *1959, Гом.*

414. Ох, божа мой, божа, кроў маю ссуць, мяса маё ядуць, косці на агні паляць.

Бяроза, бярозавік, дровы. *Д., 80.*

415. Стаіць у бары, маршчынкі на кары, галінкі пустыя, лісты разразныя. Хто ён?

Клён. *Рп., 353.*

416. Аўца (баран) стаіць, воўна дрыжыць.

Асіна. *F., 464.*

417. Рыжа ў краснае спрасіла: «Чым ты бораду красіла?» — «Ані краскай, ані змазкай: перад солнышкам стаяла, угору бораду дзяржала».

Рабіна. *Р., сб., 330.*

418. Паверх лесу агонь гарыць.

Рабіна. *Р., Мат., 88, Кобр. п.*

419. У лесе, у лесе чырвоная плахта вісіць.

Рабіна. *Р., сб., 319.*

420. Поўна хата вераб'ёў, ды не можна паганяць.

Сукі. *1950, Хойн.*

421. Вісіць — зялёны, ляціць — жоўты, ляжыць — чорны.

Ліст. *1967, Вайк.*

422. Ляцеў птах, на воду ўпаў, вады не змуціў і сам не вылецеў.
Лісток. *F., 474.*

423. Ляцеў пан, на ваду паў, не плыве, не тоне.
Ліст. *Ш., 8, Лeп. п.; Р., сб. 324.*

424. Ніхто іх не палохае, а яны ўсё дрыжаць.
Лісце асіны. *Рп., 350.*

425. У Вільні рубаюць, а сюды трэскі ляцяць.
Ліст. *F., 474.*

426. Ляцеў пан, на ваду паў, вады не ўзмуціў.
Ліст. *Д., 88.*

427. Ляцеў пан, на ваду паў, паплыў, не патануў.
Ліст. *Рп., 348.*

428. Ляцеў пан-шалупан, на ваду паў, вады не ўскалыхнуў.
Ліст дрэва. *Нк., 26.*

429. У адной галаве ды дванаццаць галоў.
Пупышка расліны. *Нк., 26.*

430. Шмат на ёй іголак, але ўсе без вушак.
Шыпулькі на елцы. *І. І., 1937, № 1, 22.*

431. Уровень з дрэвам, а неба і сонца не відзіць.
Асяродак дрэва. *Нк., 26.*

432. Роўны з лесам, а яго не відна.

Асяродак дрэва. *Б., 172.*

433. Не сучок, не лісток, не краска, а на дрэве расце.

Кара. *І. І., 1937, № 2, 18; 1946, Староб.*

434. На агні пакажуся, у вадзе схаваюся.

Смала. *Рп., 349.*

435. Стаіць Ірмак, на тым Ірмаку каўпак, не шыты, не мыты, не каяркавы.

Пень у снезе. *Д., 90.*

436. Пайду ў лес, высяку цялеш, з таго целяша — і века, і дзяжа, і булачка хлеба.

Жолуд і дуб. *Д., 85.*

437. Пайду ў лес, выламлю цялеш, з гэтага целяша выберу два каўша, дзве пласціны, карэц і шыла канец.

Жолуд. *Н., 15.*

438. Ішоў я лесам і пад лесам найшоў я дзераўца, з таго дзераўца — два сталы і два чаўны, а пятая шапка.

Жолуд. *Д., 85.*

439. Малы малышак упаў з вышак, не так забіўся, як шапкі забыўся.

Жолуд. *1946, Староб.*

440. Малы малышак упаў з вышак, ён не забіўся, адно шапачкі пазбыўся.

Жолуд, арэх. *F., 486.*

441. Пад дубком-каратышком ні клубком, ні камяшком.
Жолуд. *Нк., 26.*

442. Двое начовак і дзве скібкі сала.
Жолуд. *Нк., 26.*

443. Віса вісіць, хода ходзіць, віса ўпадзе, хода з'есць.
Жолуд і свіння. *1946, Староб.; Ч., 307.*

444. Віса вісіць, хода ходзіць, віса ўпала, хода ўкрала.
Жолуд і свіння. *Бел., 1964, № 4, 25.*

445. У маленькім гаршчочку кашка смачненькая (смачная).
Арэх. *F., 469; Ниг., 199; Р., Маг., 88, Кобр. п.; Д., 80; 1946, Староб.; 1946, Жытк.*

446. У маленькім гаршчэчку кашыца смачная.
Арэх. *Ш., 495.*

447. У гаршчочку маленькім каша смачненька.
Арэх. *Шр., 209.*

448. У маленькім гарнушачку смашная кашка.
Арэх. *Dyb., 160.*

449. У маленькім гаршчэчку нешта смачнае ляжыць.
Зерне арэха. *1960, Пух.*

450. У маленькім гаршчочку каша смашненькая на сонцы варылася.
Арэх. *Н., 17.*

451. У маленькім гаршчочку смачная кашка, ды зачэрпнуць цяжка.
Арэх. *1961, Добр.*

452. Малы мой гаршчочак, ды каша ў ём смашна.
Арэх. *Р., сб., 325.*

453. Як гаршчочак разаб'еш, дык і кашку з'еш.
Арэх. *Нк., 26.*

454. Не разбіўшы гаршчочка, не будзеш есці кашкі.
Арэх. *Н., 17.*

455. Не разаб'еш гаршчок, то не з'ясі і кашы.
Арэх. *Рп., 349.*

456. Сярод лесу паніч вісіць.
Арэх. *Р., Мат., 90, Кобр. п.*

457. Вісіць арашок, у яго галоўка кісленькая.
Арэх. *Р., сб., 318.*

458. Вісіць віса, сам касматы, канец лысы.
Арэх. *Гт., 298.*

459. Тонка стаіць, слабка вісіць, сам касматы, канец лысы.
Арэх. *Б., 171.*

460. На кусце замуцілася, дзеўкам палюбілася.
Арэх. *Р., Мат., 93, Слон. п.*

461. Расло-павырасла, з куста павылезла, па руках пакацілася, на зубах апынулася.

Арэх. *Шр., 209.*

462. З куста вылез, па руках пракаціўся, у зубах ачуціўся.

Арэх. *1960, Брасл.*

463. Корань валахаты, сам касматы, да зямлі схіліўся.

Арэх. *Б., 171.*

464. Душа, душа, ці не знаеш Тамаша-галыша.

Арэх. *F., 469.*

465. Малы малышак зваліўся з вышак, не так адбіўся, як шапачкі забыўся.

Арэх. *Ш., 495, Свянц. п.*

466. Маленькі галышак упаў з вышак, не так разбіўся, як шапачкі забыўся.

Арэх. *1948, Кобр.*

467. Прыйшоў дурны дзед, прыгнуў асінку, салодкае выкусіў, а горкае выплюнуў.

Арэх. *Ш., 495.*

468. Пайду ў лес, высеку сук, з лясінкі зраблю і дзяжу, і века, і двое начовак.

Арэх. *Нк., 26.*

469. Малыя дзеці сядзяцяь на павеці, а як падрастаюць, на зямлю злятаюць.

Арэхі, жалуды. *1959, Гом.*

470. Вісіць арэшак, а ў ём каша смашна.

Зерне арэха. *1962, Дзятл.*

471. Воўк касматы, мядзведзь кудлаты прыходзіў мяне глядзець.

Чалавек і арэх. *F., 469.*

472. Хода ходзіць, віса вісіць, прыйшла хода — цап за вісу да ў торбу.

Чалавек і арэх. *Д., 80.*

473. У траве, як аганькі, ружавеюць вугалькі, іх вадою не зальеш, рук і ног не апячэш. Дзень і ноч гараць, палаюць, смак яны мядовы маюць.

Суніцы. *1968, Краснап.*

474. Стаіць паненачка ў краснай сукеначцы, хто йдзе — паклоніцца.

Суніца. *Р., сб., 332.*

475. Паненка ў лесе, хто ідзе, той склоніцца.

Ягада. *Б., 173.*

476. Сядзіць паненка, на ёй чырвоная сукенка, хто ідзе, ёй паклоніцца.

Суніца. *І. І., 1937, № 4, 18; Зар., 16.*

477. Сядзіць паненачка ў чырвонай сукеначцы, хто ідзе, дык паклоніцца.

Суніца. *1959, Леп.*

478. У лесе на прыгурку стаіць панна ў чырвоным каптурку.

Суніца. *F., 483.*

479. Сядзіць паня на прыгурку ў чырвоным каптурку, хто ідзе, кожны паклоніцца.

Суніца. *Д., 84.*

480. Сядзіць панна (баба) на пагурку ў чырвоным каптурку; хто ідзе, той паклоніцца.

Паземка, суніца. *Ш., 7, Віл. п.; Гт., 298, Дзісн. п.*

481. Сядзіць панна на пагурку, хто ідзе — кланяецца.

Суніца. *Р., сб., 332.*

482. Сядзіць бабка на ўзгурку ў чырвоным каптурку, хто йдзе, той паклоніцца.

Суніца. *Dyb., 161.*

483. Сядзіць пані на мурку ў чырвоным каптурку, хто ідзе, дык паклоніцца.

Суніца. *Ш., 491, Ігум. п.*

484. На пагурку сядзіць у каптурку, хто ідзе, той паклоніцца.

Ягада. *Р., сб., 326,*

485. Сядзіць на пагурку ў чырвоным каптурку, хто ідзе, той і склоніцца.

Паземка. *Н. н., 17.*

486. Сядзіць паненка на гары, хто падойдзе, той паклоніцца.

Ягада. *Нк., 26.*

487. Сядзіць паненачка ў красным жупане, хто ідзе, той паклоніцца.

Ягада ў полі. *М. в., 159.*

488. Сярод лесу агонь гарыць.

Каліна. *F., 472; P., Мат., 32, Слон. п.*

489. Стаіць певень над вадою з чырвонаю барадою.

Каліна. *F., 472.*

490. Стаіць певень над вадою з чырвонаю барадою, хто ні ідзе, за бараду ўшчыпне.

Каліна. *Pn., 352.*

491. Як я была маладая, то я была бела, а як жа я пастарэла, то зачырванела.

Каліна. *F., 472.*

492. У лазе — на адной назе.

Грыб. *W., 11, Леп. п.; Pietk., 449; Н., 15; 1962, Капатк.; 1959, Леп.*

493. Стаіць у лазе на адной назе.

Грыб. *F., 470; M. в., 160; Hur., 200; Ш., 489, Віл. п.; Шр., 209; Dyb., 160; 1946, Староб.*

494. У лазе — на курынай назе.

Грыб. *P., Мат., 86, Вайк. п.*

495. У лазе — на адной назе, жыве ў лета, што гэта?

Грыб. *Н. н., 21; 1911—1912, Сакольскі п.*

496. Стаіць (дзед) пры дарозе на адной нозе.

Грыб. *Ч., 307, Бельск. п.; Б., 168.*

497. Сярод лесу стаіць на аднойназе.

Грыб. *Р., Мат., 88, Кобр. п.*

498. У лазе стаіць казак на адной назе.

Грыб. *Б., 168.*

499. А і ў лазе стаіць баран на адной назе.

Грыб. *Р., сб., 317.*

500. У лазе на трапязе сядзіць каза на адной назе.

Грыб. *F., 470.*

501. На лазе, на тармазе стаіць каза на адной назе.

Грыб. *1949, Акцябр.*

502. У балазе, балазе стаіць хатка на адной назе.

Грыб. *Р., сб., 319.*

503. Сядзіць у лазе пры дарозе, хто йдзе, той і кланяецца.

Грыб. *Нк., 26.*

504. Стаіць ляпёшка на адной ножцы. Хто міма ні пройдзе, усякі ёй пакланіцца.

Грыб. *Рп., 352.*

505. Усю зямлю прайшоў, чорну шапачку найшоў.

Грыб. *F., 470.*

506. Маленькі, удаленькі скрозь зямлю прайшоў, красную шапачку знайшоў.

Падасінавік. *1960, Сір.*

507. Кандрат, мой брат, цераз зямлю прайшоў, чырвону шапачку найшоў.

Грыб. *Б., 168.*

508. Паміж гор сядзіць Рыгор, капелюшом накрыты.

Грыб. *1946, Староб.*

509. Стаіць палка, а на той палцы шапка.

Грыб. *Б., 168.*

510. Між гор стаіць Рыгор, палкай падпёрся, шапкай накрыўся.

Грыб. *Рп., 349.*

511. Маладзічак, невялічак, у чорну шапачку прыбраўся.

Грыб. *Ш., 13, Барыс. п.*

512. Хоць у капелюшы, але галавы не мае.

Грыб. *1961, Добр.*

513. Стаіць дзед над вадой, трасе барадой.

Чарот. *Р., сб., 332; Ч., 312, Бельск. п., Гродз. п.; 1959, Гом.; 1948, Пруж.; 1963, Кап.*

514. Стаяць дзяды над вадамі і ківаюць барадамі.

Чарот. *F., 464.*

515. Стаіць гусак над вадой, трасе барадой.

Чарот. *Нк., 26.*

516. Стаіць казёл над вадою з чырвонаю барадою.

Трысцё. *Б., 173.*

517. Сядзіць урода сярод гарода.
Дзядоўнік. *Д., 84.*

518. Сярод агарода стаіць урода, хто за яго прымецца, той сам скрывіцца.
Дзядоўнік. *Д., 83—84.*

519. Сярод гарода стаіць ваявода, хто прымецца — рука скрывіцца.
Дзядоўнік. *Д., 84.*

520. На гары гаранскай стаіць дуб шатанскі, хто за яго прымецца, той скрывіцца.
Дзядоўнік. *Р., сб., 326.*

521. Дзерава дзераваноснае, лісце шухвейскае, вушы ангалскія, капці дзяволскія.
Дзядоўнік. *Р., сб., 320.*

522. Не прут, не дзерава, усю зіму зелена.
Хвошч. *Р., сб., 327.*

523. Сядзіць урода пасярод агарода, хто за яе прымецца, усякі скрывіцца.
Крапіва. *Ш., 493, Мсціcл. п.*

524. Не цяпло, але паліцца.
Крапіва. *Нк., 26.*

525. Не агонь, а пячэцца.
Крапіва. *Рп., 349; 1967, Шарк.*

526. Не агонь, а не схопіш — абпалішся.
Крапіва. *1959, Гом.*

527. Рос белы шар, падуў вецер — і шар паляцеў.
Адуванчык. *1960, Пух.*

528. Што ўецца на дзераве?
Хмель. *1946, Староб.*

529. Без рук, без ног на дзерава лезе.
Хмель. *Р., сб. 317; J., 12.*

530. Без рук, без ног на дрэва ўзлез.
Хмель. *1959, Гом.*

531. Ані рук, ані ног на лес лезе.
Хмель. *Нк., 26.*

532. Без рук, без ног, без чэрава узлезе на дзерава.
Хмель. *Гт., 295, Навагр. п.*

533. Без рук, без ног на дзерава лезе, як мох.
Хмель. *Dyb., 162.*

534. Без ног, без рук, а лезе на друк.
Хмель. *Гт., 300, Брэсц. п.*

535. Уецца, уецца каля дрэўца.
Хмель. *1948, Рудзен.*

536. Нежывы, а ўгару лезе.
Хмель. *1948, Рудзен.*

537. Як радзіўся, так за кій схваціўся.

Хмель. *Д., 95.*

538. Дзень добры, дзень добры, пад зялёным вянечкам круцігалава.

Хмель. *F., 466.*

539. У гародзе летам цвіце жоўтым цветам, вышэй усіх узняцца рад, бо ён сонцу малодшы брат.

Сланечнік. *Рп., 353; 1968, Краснап.*

540. Увосень рассыпаецца, улетку збіраецца, само поўнае бывае, людзей накармляе.
Жыта. *І. І., 1937, № 4, 18.*

541. Загадаю загадку, закіну за градку, няхай мая загадка ляжыць да налецця.
Жыта. *Д., 91; Р., сб., 321; Зн., 30.*

542. Загадаю загадку, закіну за градку, у адзін год пушчу, у другі выпушчу.
Азімае жыта. *Р., сб., 321.*

543. Ляцела без крыла, села без сука, зварыла кухарка без агня, ела паня без зуба.
Жыта. *Нк., 25.*

544. На тонкаму дзераву жываты нашы качаюцца.
Жыта ў полі. *Б., 172.*

545. Карова ў пуню — хвост на пуню.
Жыта і салома. *Д., 84.*

546. Было жоўтым, вырасла зялёным, сонца пацалавала, зноў жоўтым стала.
Пшаніца. *Рп., 344.*

547. Саламяны плот, бела насенне, жоўты сход.
Пшанічныя каласы. *Шр., 209.*

548. На кургане, на вургане стаіць курачка з сяргамі.
Авёс. *Нк., 25; 1967, Зэльв.*

549. Задраўшы чупрынку, пабег у адрынку.
Авёс. *Р., Мат., 86, Ваўк. п.*

550. На коліку сем саколікаў, кожны ў капотачцы.
Авёс. *Р., сб., 326.*

551. Пад адною папонкаю сядзіць брат з сястронкаю.
Авёс. *Р., Мат., 88, Кобр. п.*

552. Стаяў Рыгор між гор, плашчом акрыўшыся, слязьмі абліўшыся.
Авёс. *F., 470.*

553. Стаіць дуб на полі, на тым дубу сем сукоў, а на кожным суку па гнязду.
Авёс і лён. *Нк., 25.*

554. Задралі чупрынкі, пабеглі да адрынкі.
Ячмень. *F., 471.*

555. Задраўшы чупрынку, ляцеў у адрынку.
Ячмень. *F., 471.*

556. Длінней пана вусы.
Ячмень. *Р., сб., 320.*

557. Вусы даўжэй за пана.
*Ячмень.* *Рп., 344.*

558. Стаяць на полі сястрычкі, залатыя вочкі, белыя раснічкі.
Каласы. *1950, Хат.*

559. Маленька, сухенька ўсіх адзявае.
*Лён.* *Б., 170.*

560. Ці малы кірмаш, ці вялікі кірмаш, а ўсё сінія шапкі.
*Лён.* *Р., сб., 333.*

561. Паверх лесу сіненькі агенчык гарыць.
*Лён.* *1946, Староб.*

562. За лесам сіні агонь гарыць.
*Лён цвіце.* *1965, Вайк.*

563. Пад адным брыльком дзевяць казакоў.
*Лён.* *Р., сб., 328.*

564. Укіну клінком — вырасце кійком з шыбалдовічкай.
*Лён.* *Нк., 25.*

565. Прыйдзе восень — заб'ю лося, галаву з'ем, шкуру аблуплю, а мяса за плот выкіну.
*Лён.* *Гт., 300, Брэсц. п.*

566. Галаву зрэжам і з'ядзім, шкуру аблупім і прададзім, а мяса валяецца і сабакі не хочуць есці.
*Лён.* *1969, Пін.*

567. Цела носіш, косці бросіш, галоўку з'ясі.
Лён. *Р., Мат., 88, Кобр. п.*

568. Косці на лагу, скура на таргу, а галава ў клеці.
Каноплі. *Р., сб., 323.*

569.Ногі ў рэчцы, галава ў клеці.
Каноплі. *Ш., 492, Леп. п.*

570. Галаву з'ядзім, шкуру прададзім, косці выкінем—іх нават і сабакі не ядуць.
Каноплі. *М. в., 159.*

571. Галаву з'ядзім, скуру прададзім, а косці вон выкінем.
Каноплі. *Рп., 345.*

572. Галаву з'ядзім, скуру прададзім, а косці на гаць выкінем.
Каноплі. *Зар., 4.*

573. Прыйдзе восень — купім лося, мяса паядзім, кожу прададзім.
Каноплі. *Р., сб., 329.*

574. Ногі на гародзе, сярэдзіна ў водзе, а галава ў клеці.
Каноплі. *Р., сб., 327.*

575. Стаяць кіёчкі, на тых кіёчках вісяць нітачкі.
Каноплі. *Б., 170.*

576. Сядзіць у клоччы, вытрашчыўшы вочы.
Каноплі, канаплянае семя. *Р., Мат., 88, Кобр. п.; F., 472.*

577. Улетку — сасёнка, узімку — на красёнкі.
Каноплі. *Нк., 25.*

578. Стаіць Хадосця, растрапаўшы валосця.
Каноплі. *Д., 87.*

579. Летам сасонкай, а зімой кароўкай.
Каноплі. *Р., сб., 325.*

580. Летам — ялушка, зімой — цялушка.
Каноплі. *Нк., 25.*

581. Летам — ёлка, а зімой — цёлка.
Каноплі. *Рп., 347.*

582. Улетку — ялушка, узімку — галушка.
Каноплі. *Нк., 25.*

583. Не ель, не сасна, карове сястра.
Каноплі. *Д., 87.*

584. Качаюцца каточкі на ліпавым масточку.
Гарох. *F., 469.*

585. Бегалі чырычыкі па ліпавым мосце, шусць у мяшок.
Гарох. *Ю., 293, Лід. п.*

586. Беглі чырычкі па ліпавым мосце, пыталіся, ці далёка да Глінава ў госці.
Гарох. *F., 469.*

587. Вырас куст, у кусце домікі, а ў доміках дзеткі. Павеяў вецер, домікі разваліліся, а дзеткі пакаціліся.

Гарох. *1970, Ашм.*

588. Між гор калеіць Ягор панчошынкай накрыт.

Гарох у стручку. *Нк., 25.*

589. Між гор мерзне Ягор панчошкай накрыты.

Гарох у стручку. *Рп., 348.*

590. Семдзесят парасят адну матку ссуць.

Гарох. *F., 469.*

591. Расла, павырасла, з куста вылезла, па руках пакацілася, на губах ачуцілася.

Гарох. *Dyb., 166.*

592. Кругленька, маленька, як лямпёшачка.

Зерне сачавіцы. *Р., Мат., 92, Слон. п.*

593. Была ў мяне каморка на тры вуглы і поўна мукі.

Грэчка. *Нir., 199.*

594. Цвет белы, а ягадкі чорныя.

Грэчка. *Рп., 355.*

595. Дрэва чырвонае, дзюрка некручоная, цвет белы, а ягадкі чорныя.

Грэчка. *Нк., 25.*

596. Сеюць парашком, узыходзіць шэрашком, а як вырасце, то чорны, як цыган.

Грэчка. *F., 470.*

597. У маёй свінкі тры спінкі.

Грэчка. *Р., сб., 333.*

598. Чорная свінка мае тры спінкі.

Грэчка. *1960, Пух.*

599. Стаіць царква з трыма вугламі.

Грэчка. *F., 470.*

600. Стаіць дуб, пад дубам дзеці.
Бульба. *Б., 169.*

601. Сем баб, а ў гэтых баб — па сем кіёў, а ў гэтых кіях — ды па сем сучкоў, на гэтых сучках — па сем кошыкаў, а ў гэтых кошыках — па сем кацянят, а ў гэтых кацянят — ды па сем хвасцянят.
Бульба. *Dyb., 161.*

602. Хто забачыць, той заплачыць.
Цыбуля. *Д., 88.*

603. Круглае, краснае, з хвосцікам, хто забача, той заплача.
Цыбуля. *Б., 170.*

604. Сядзіць паня ў жоўтым жупане, хто ўбачыць, той і заплачыць.
Цыбуля. *1960, Кап.*

605. Стаіць пані ў сарафане, сталі яе раздзяваць — сталі плакаць і рыдаць.
Цыбуля. *F., 467.*

606. Сядзіць панна ў чырвоным кафтане, як узялі разбіраць, сталі плакаць, наракаць.
Цыбуля. *J., 12.*

607. Сядзіць пані ў чырвоным жупане, хто яе раздзяе, той слёзы лье.
Цыбуля. *1963, Леп.*

608. Сядзіць пані ў чырвоным жупане, хто жупан здзірае, той слёзы праліваe.
Цыбуля. *1960, Капатк.*

609. Сядзіць пані на ганку ў чырвоным жупанку, хто ідзе, то заплача.
Цыбуля. *Б., 170.*

610. Сядзіць паненка ў чырвонай сукенцы, хто яе кране — заплача.
Цыбуля. *1959, Гом.*

611. Сядзіць пані на мурку ў чырвоным каптурку, хто на яе гляне, той заплача.
Цыбуля. *1948, Пруж.*

612. Сядзіць панна ў куточку ў чырвоным кажушочку, хто возьме, той заплача.
Цыбуля. *J., 12.*

613. Выйшла пані ў красным сарафане, хто яе будзе разбіраці, той будзе плакаці.
Цыбуля. *Б., 170.*

614. Ехала пані ў чырвоным каптане, хто ні гляне — заплача.
Цыбуля. *Р., Мат., 89, Кобр. п.*

615. Ехаў пане ў красным жупане, хто ўбача, той заплача.
Цыбуля. *Ш., 493, Гом. п.*

616. Стаіць пані ў чырвоным сарафане, як зачэпіш — плакаць станеш.

Цыбуля. *1948, Пруж.*

617. Сядзіць пані раскраснеўшыся, хто паглядзіць, той скрывіцца.

Цыбуля. *1948, Пруж.*

618. Сядзіць бабка на градцы, хто зачэпіць, той заплача.

Цыбуля. *Нк., 25.*

619. Сядзіць баба на градках, уся ў заплатках, хто ні гляне, усякі заплача.

Цыбуля. *Ш., 10, Леп. п.; F., 467.*

620. Сядзіць бабушка ў сямёх кажушках, хто яе прыбачыць, той пэўна заплачыць.

Цыбуля. *Нк., 25.*

621. Сядзіць бабуся, сядзіць катуся, а хто забачыць, дык заплачыць.

Цыбуля. *Р., сб., 330.*

622. Сядзіць дзед, у сто шуб адзет, хто яго раздзявае, той слёзы пралівае.

Цыбуля. *1946, Староб.; 1946, Слуцк.; 1949, Акцябр.*

623. Сядзіць дзед, у многіх плаццях адзет, хто яго раздзявае, той ад жаласці слёзы пралівае.

Цыбуля. *Д., 88.*

624. Сядзіць Маруся ў чырвоным кажусе, хто ўбача, той заплача.

Цыбуля. *І. І., 1937, № 2, 18.*

625. Сядзіць Алёнка ў сямёх пялёнках, хто яе абідзіць, той сцягі не ўвідзіць.

Цыбуля. *Нк., 25.*

626. Стаіць Хадосся, распусціўшы валосся.

Цыбуля. *Р., сб., 332.*

627. Стаіць Хадосця, распусційшы валосця, хто яе зачэпіць, той заплача.

Цыбуля. *Нк., 25.*

628. Сядзіць Хадосся, растрапаўшы валосся, хто ідзе, той скубе.

Цыбуля. *Ш., 494, Мсцісл. п.*

629. Пад бэлькаю вісіць дзеўка з чырвонаю сукенкаю, хто яе ўкусіць, той заплакаць мусіць.

Цыбуля. *1965, Навагр.*

630. Ляжыць грушка ў чырвоным кажушку, хто яе ўкусіць, той плакаць мусіць.

Цыбуля. *Рп., 347.*

631. Ляжыць грушка ў белым кажушку, хто ўкусіць, той плакаць мусіць.

Цыбуля. *Шр., 208.*

632. Ішла Марушка ў дзевяці кажушках, і хто на яе ўзгляне, той заплача.

Цыбуля. *Гт., 297, Кобр. п.*

633. Ехала Марушка ў сямі кажушках, хто яе зачэпіць, той заплакаць мусіць.

Цыбуля. *Р., Мат., 93, Слон. п.*

634. Ехала Маруська ў чатырох кажушках, яе хароша ўдача, хто ні зірне, то заплача.

Цыбулька. *1946, Староб.*

635. Сядзіць Ганулька у сямі каптурках, хто ёй паклоніцца, той заплача.

Цыбуля. *Гт., 299, Дзісн. п.*

636. Ехала Машуха ў сямі паўшубках, хто на яе гляне, усякі заплача.

Цыбуля. *Р., Мат., 87, Кобр. п.*

637. Сядзіць манах у сініх штанах, хто ўбача, дык заплача.

Цыбуля. *Р., сб., 330.*

638. Прывязалі немца ў чырвонай сукенцы, як яго разбіралі, то над ім плакалі.

Цыбуля. *1946, Староб.*

639. Вось вам новая задача: не арэх я і не куля, а як крышаць, кожны плача. Хто ж, рабяты, я?

Цыбуля. *І. І., 1937, № 1, 22.*

640. Прыйшла Эльжуха ў сямі кажухах.

Цыбуля. *F., 466.*

641. Сядзіць шурша ў сямі шубах.

Цыбуля. *Д., 88.*

642. Сядзіць шуся ў сямі кажусях, хто на яе гляне, той плача.
Цыбуля. *F., 466.*

643. Сядзела шашуха ў сямі кажухах, хто яе ўкусіць, той заплакаць мусіць.
Цыбуля. *F., 467.*

644. Хлопчык — з кокцік, а барада — з локцік.
Цыбуля. *Dyb., 159.*

645. Мыш у нары, а хвост на двары.
Цыбуля. *1960, Чач.*

646. На чалавечку тры манішкі.
Цыбуля. *1946, Жытк.*

647. У сярэдзіне белае, а на версе краснае.
Цыбуля. *Б., 170.*

648. У куточку на пруточку мэндалёва яблычка вісіць.
Цыбуля. *1946, Староб.*

649. Баран у хляве, яго рогі на дварэ.
Часнок. *F., 467.*

650. Баран у хляве, ногі на дварэ.
Часнок. *Рп., 344.*

651. Шараваты, кудраваты, а навярху плеш, на здароўе з'еш.
Качан капусты. *Dyb., 167; Б., 170*

652. Круцестая, вярцестая, хто яе дбае, будзе сто год жыць.
Капуста. *Ш., 491, Навагр. п.*

653. Крутаста, вяртаста, а на ёй рубашак за ста.
Капуста. *1948, Пруж.*

654. Тоўста наша маці, у яе лата на лаце.
Капуста. *F., 472.*

655. Лата на лаце і шва не знаці.
Капуста. *F., 472; Pietk., 450; Шр., 208; Р., Мат., 90, Кобр. п.; 1946, Староб.; 1962, Кап.*

656. Лата на лаце, ніткі не знаці.
Капуста. *F., 472.*

657. Лапік на лапіку, а ігла не была (не бывала).
Качан капусты. *Н., 16; М. в., 161; Д., 85; Зн., 30; 1948, Кобр.*

658. Латка на лаце і зроду іголка не была.
Капуста. *1949, Акцябр.*

659. Латка на латцы, іголка не была.
Капуста. *1946, Староб.; 1948, Пруж.*

660. Лапіна на лапіне, а іголка там не была.
Капуста. *F., 472.*

661. Семдзесят адзёжак, ды ўсе без засцёжак.
Качан капусты. *Dyb., 167.*

662. Не шыта, не кроена, а ўся ў рубцах.

Капуста. *1956, Уздз.*

663. Стаіць паненка, на ёй белая сукенка, на ёй шэсцьдзесят адзёжак і ўсе без засцёжак.

Капуста. *1963, Маладз.*

664. Ішла пані з маста, на ёй кашуль за ста.

Качан капусты. *Б., 170.*

665. Крутаста, вяртаста, на ім крастоў за ста.

Капуста. *Гт., 297, Кобр. п.*

666. Крутаста, вяртаста, на ёй сукон за ста, хто адгадае, той пажыве лет за ста.

Качан капусты. *Б., 170.*

667. Анціп (Анціпка) нізак, на ім сто рызак.

Качан. *Д., 87.*

668. Стаіць дзядок (поп) нізак, а на ём сто рызак.

Качан. *J., 11; 1961, Добр.*

669. Сто пасцелей на адным кіёчку ляжаць.

Качан капусты. *Б., 170.*

670. Стаіць кіёк, а на тым кійку — клубок.

Качан капусты. *Б., 170, Пін. п.*

671. Тындэлічка невялічка, тындэль бальшой.

Капуста. *Р., Мат., 87, Кобр. п.*

672. Гусі паляцелі, а лапы пакідалі.
Качаны капусты. *Шр., 208.*

673. Вароны паляцелі, а ногі пакінулі.
Капуста. *F., 472.*

674. Чырвоны певень у зямлі пяе.
Бурак. *F., 466; Р., Мат., 93, Слон. п.*

675. Чырвоненькі пеўнічак у зямліцы спявае.
Бурак. *F., 466.*

676. Ходзіць певень над вадою з чырвонаю барадою.
Бурак. *1960, Капатк.*

677. Певень у зямлі, а косы наверсе.
Бурак. *Гт., 298, Дзісн. п.*

678. Пятух у зямлі, а косы вонках.
Бурак. *Р., сб., 329.*

679. Пятух у яме, косы вонках.
Бурак. *Ш., 9, Леп. п.*

680. Чырвоныя цвіклі ў зямлі паніклі.
Бурак. *F., 466.*

681. Цвіклі ў зямлю ўліплі.
Буракі. *Н., 18.*

682. Красныя цвіклі ў зямлю ўліплі.
Буракі. *Д., 81.*

683. Чырвоная цвікла да зямлі прыліпла.
Бурак. *Ш., 487, Віл. п.*

684. Чырвоны цвік у зямлю ўбіт.
Бурак. *1965, Навагр.*

685. Кіну з блыху, а вырасце з кулак.
Бурак. *Нк., 25.*

686. Кандрат, мой брат, скрозь зямлю прайшоў, чырвоную шубку найшоў.
Бурак. *Dyb., 164.*

• 687. Хоць і красна, ды не дзеўка, хоць з хвастом, ды не мыш.
Бурак. *Нк., 25.*

688. Зелена — не елка, красна — да не дзеўка, з хвастом — да не мыш.
Бурак. *Р., сб., 322.*

689. Сама пані ў каморы, а косы на моры.
Бурак. *Ш., 487, Гом. п.*

690. Сам пан у зелені, яго дзеці ў чырвані.
Бурак. *F., 466.*

691. Між гор, між ям ляжыць яйцо, як буян (як курган).
Агурок. *Нк., 25; Рп., 348.*

692. Была птушка брыкацён, віла гняздо сем дзён, звіла гняздо за плотам, знясла яйцо за гняздом.

Агурок. *Нк., 26.*

693. Капу, капу пад хварастом — ляжыць угору хвастом.

Агурок. *Нк., 25.*

694. Ляжыць Рыгор паміж гор лапушком накрыты.

Агурок. *Pietk., 449.*

695. Ішоў Рыгор з малых гор і перад дажджом накрыўся плашчом.

Агурок. *1948, Дзівін.*

696. Дагары хвастом расце.

Агурок. *Гт., 300, Брэсц. п.*

697. На двары — зялёна, а ў хаце — салёна.

Агурок. *1949, Акцябр.*

698. Ляжыць сярод градкі зялёны і гладкі.

Агурок. *1968, Краснап.*

699. На градцы — доўгі і зялёны, а ў бочцы — жоўты і салёны.

Агурок. *«Зорка», 1957, № 2; 1946, Староб.*

700. Поўна хата вераб'ёў.

Агурок. *Н., 17.*

701. Поўна карыта цвікоў набіта.

Агурок. *1967, Віл.*

702. Стаіць дом без акон, без дзвярэй, а ў ім поўна людзей.
Агурок. *Гт., 296, Кобр. п.*

703. Ні вакон, ні дзвярэй — поўна горніца дзяцей.
Агурок. *Д., 80.*

704. Без вакон, без дзвярэй — поўна царква людзей.
Агурок. *Гт., 300, Брэсц. п.*

705. Поўна хата людзей, без вокан, без дзвярэй.
Агурок. *W., 6, Віл. п.*

706. Поўна хата людзей, няма ні вокан, ні дзвярэй.
Агурок. *1963, Маладз.*

707. У зямлю — крошкай, а з зямлі — ляпёшкай.
Агурок. *1963, Маладз.*

708. Сам у свірне — мяшкі на парозе.
Агурок, гарбуз. *F., 471.*

709. Пад хварастком ляжыць дагары хвастком.
Агурок, гарбуз. *F., 471.*

710. Ляцела вітуха, звіла сабе віты дом, знесла яйцо за гняздом.
Агурок, гарбуз. *F., 471.*

711. Поўна хата вераб'ёў нагната.
Гарбуз. *Рп., 351.*

712. Хата пуката, поўна вераб'ёў нагната.

Гарбуз. *1960, Чач.*

713. Круглы хлявец повен белых авец.

Гарбуз. *1960, Нясв.*

714. Без вакон, без дзвярэй — поўна хата людзей.

Гарбуз. *Р., сб., 317; М. в., 161; Pietk., 449; Гт., 298, Кобр. п.; 1948, Кобр.; F., 471.*

715. Без акошак, без дзвярэй — поўна горніца людзей.

Гарбуз. *Р., Мат., 90, Кобр. п.*

716. Поўна хата людзей, ні вокан, ні дзвярэй.

Гарбуз. *1946, Староб.*

717. Поўна хата людзей, нідзе дзіркі, ні дзвярэй.

Гарбуз. *1949, Акцябр.*

718. Ні акна, ні дзвярэй — поўна хата курэй.

Гарбуз. *Dyb., 160.*

719. Пад плотам курка кубліцца.

Гарбуз. *Ш., 486, Маз. п.*

720. Жоўтая (белая) курыца пад тынам (плотам) кубліцца.

Гарбуз. *Р., сб., 318, 321; 1969; Стол.*

721. Рабая курыца пад лістам кубліцца.

Гарбуз. *1961, Добр.*

722. Сядзіць певень на плоту, спусціў кішкі да долу.
Гарбуз. *1946, Староб.*

723. Паміж гор ляжыць вол.
Гарбуз. *М. в., 161.*

724. Паміж гор ляжыць Рыгор.
Гарбуз. *Рп., 350.*

725. Ляжаў Рыгор паміж гор.
Гарбуз. *1946, Староб.*

726. Ляжыць Рыгор паміж гор хвартушком накрыўшыся.
Гарбуз. *1946, Староб.*

727. Ляжыць Рыгор паміж гор панчошкай накрыт.
Гурок, кавун. *Р., сб., 324.*

728. Паміж гор сядзіць Рыгор капелюшом накрыты.
Гарбуз. *1946, Староб.*

729. Між гор ляжыць Рыгор плашчом накрыты, кійком падпёрты.
Гарбуз. *Р., Мат., 92, Слон. п.*

730. Паміж гор, паміж далін ляжыць пан-гаспадзін.
Гарбуз у баразне. *1968, Касц.*

731. Пад хварастом — дагары хвастом.
Гарбуз. *F., 469.*

732. Сядзіць Рыгор паміж гор, мячом падпёршыся, плашчом накрыўшыся.

Гарбуз. *F., 469.*

733. Брат Кандрат скрозь зямлю прайшоў, многа грошай знайшоў.

Гарбуз. *1946, Староб.*

734. Сям'я — душ трыста, а хата — усяго два локці.

Гарбуз. *1968, Касц.*

735. Тоўсты качан лезе цераз паркан.

Гарбуз. *1969, Стол.*

736. Бег кот, павесіў хвост на плот.

З гарбуза лісце. *1949, Акцябр.*

737. У майго брацiка на сем сажон кішка.

Бацвінне, цяўнік. *Р., Мат., 92, Слон. п.*

738. Чырвона, ды не дзеўка, зялена, ды не дуброва.

Морква. *Рп., 355.*

739. Сама ў клеці, косы на дварэ.

Морква. *Р., сб., 330.*

740. Сама ў хаце, косці на дварэ.

Морква. *W., 6, Віл. п.*

741. Дзеўка ў каморы, а яе косы на дворы.

Морква. *Гт., 300, Брэсц. п.*

742. Сама панна ў каморы, а яе косы на дворы.

Морква. *F., 476; P., Мат., 87, Кобр. п.; 1962, Кап.*

743. Сядзіць (стаіць) пані ў каморы, а яе косы на дворы.

Морква. *F., 476; Pietk., 450; Шр., 209; Dyb., 160; Гт., 297, Кобр. п.; 1960, Кап.*

744. Сядзіць панна ў каморы, яе ўласы на падворы.

Морква. *Ш., 494, Ігум. п.*

745. Дзеўка ў зямельцы, а каса на вуліцы.

Морква. *1959, Гом.*

746. Сядзіць красавіца ў цямніцы, а каса на вуліцы.

Морква. *1968, Краснап.*

747. У цямніцы сядзіць царыца, косы на дварэ.

Морква. *1949. Акцябр.*

748. Кіну мякіну — выцягну таўкач.

Морква. *1946, Староб.*

749. Сядзіць панна на падмурку, выставіўшы напаказ свае кудры, а хлопцы-вырвасы цягнуць панну за косы.

Морква на градзе. *Нк., 17.*

750. Пад зялёным кустом вырасла клубком.

Бручка і рэпа. *Рп., 350; Нк., 25.*

751. Стаяла рыхала, крыллямі махала.

Боб. *Нк., 25.*

752. Пад зялёным дубком сядзіць клубком.
Рэпа. *Dyb., 165.*

753. Пад зялёным кусточкам расце клубочкам.
Рэпа. *Р., Мат., 93, Слон. п.*

754. Пад дубам, дубком звіўся клубком да з хвосцікам.
Рэпа. *Р., сб., 328.*

755. Пад дубком, пад лубком, пад андарашкам завязаліся клубком, ды не камяшкам.
Рэпа і бручка. *Нк., 25.*

756. Круглае, ды не гарбуз, з хвастом, ды не мыш.
Рэпа. *F., 480.*

757. Зелена, як елка, тоўстая, як дзеўка, з хвастом, да не мыш.
Рэпа. *Р., сб., 322.*

758. Хвост, як у мышы, ды не мыш; салодкая, як мёд, ды не мёд; галава пляшывая, як ў ксяндза, ды не ксёндз; барада, як у папа, ды не поп.
Рэпа. *Рп., 354.*

759. На прыпечку, на беражочку, прывяла блаха таўкача.
Рэдзька пры разоры. *Шр., 208.*

760. Поўна бочачка (бочка) круп, а наверсе струп.
Макаўка, мак. *М. в., 160; J., 12; Л., 35; Б., 170; Ш., 494, Віл. п.; Гт., 295, Навагр. п.; Р., Мат., 88, Кобр. п.; 1949; Кліч.; 1950, Хойн.; 1959, Леп.; 1960, Кап.*

761. Поўна дзежачка круп, а наверсе струп.

Мак. *1949, Кір.; 1960, Нясв.*

762. Поўная каробачка (дзяжа, бочачка) круп, а наверсе струп (пуп).

Мак. *F., 475; Р., Мат., 86, Ваўк. п.*

763. Поўна хата круп, а наверсе струп.

Мак. *Н.н., 11.*

764. Поўна бочачка круп, а наверсе зруб.

Макаўка. *Шр., 209.*

765. Стаіць палка, а на палцы бочка круп, а наверсе сядзіць струп.

Мак. *Р., сб., 332.*

766. Стаіць дуб повен круп, навярху пуп.

Мак. *Нк., 26.*

767. Стаіць палка, а на палцы галка, а ў той галцы тысёнц.

Мак. *1970, Ашм.*

768. Стаіць палка, на той палцы галка, а на галцы струп, поўна бочка круп.

Мак. *Б., 170.*

769. Палачка, на палачцы галачка, поўна круп, а навярху струп.

Макаўка. *Dyb., 162.*

770. Поўна бочка жыта, грошыкамі забіта.

Макаўка. *1946, Староб.*

771. Стаіць палка, на той палцы галка, а я магу прысяч, што там дзяцей тысяч.

Мак. *F., 475.*

772. Стаіць слуп, а на слупе галка, я магу прысягнуць, што там ёсць тысяча.

Макаўка. *W., 7, Віл. п.*

773. Стаіць палка, на палцы галка, магу прысягнуць, што ёсць з тысячу.

Мак. *Р., сб., 332; Р., Мат., 89, Кобр. п.*

774. Пасярод сяла стаіць страла, а ў гэтай страле тысяча і дзве.

Макаўка. *W., 9, Леп. п.; 1949, Кір.*

775. Стаіць страла пасярод двара, а ў той страле семдзесят дзве.

Мак. *1960, Капатк.*

776. Стаіць у лазе на адной назе, сам не спіць, а другім сну дае.

Макаўка. *Гт., 299, Дзісн. п.*

777. На бару, на юру сядзіць у красным каўпаку.

Мак. *Нк., 26.*

778. Стаіць певень на таку ў чырвоным каўпаку.

Мак у час цвіцення. *F., 475.*

779. Слонца-калонца, пасярэдзіне жывіца, хто не адгадае, той не будзе жаніцца.

Мак у час цвіцення. *F., 475.*

780. Сядзіць на палцы пані і варушыць губамі.

Мак у час цвіцення. *F., 475.*

781. Мой братка Кандратка скрозь зямлю прайшоў, красну шапку найшоў.

Мак. *Б., 171.*

782. Мой брат-пракурат скрозь зямлю прайшоў, красну шапачку найшоў.

Мак у час цвіцення. *Д., 88; Р., сб., 326.*

783. Ігнат пракурат па падзямеллю прайшоў, красную шапку найшоў, проціў сонца стаў, красную шапку зняў.

Мак. *М.в., 161.*

784. Быў брат-пракурат, скрозь зямлю прайшоў, многа грошай знайшоў.

Мак. *Р., Мат., 90, Кобр. п.*

785. Чырвоны цвічок без нагавічок.

Мак. *Р., Мат., 92, Слон. п.*

786. Кіну порахам — стане горадам, будзе і дзявоцкая краска, і панская ласка.

Мак. *Нк., 26.*

787. Пад адным брылькам (калпаком) семсот казакоў.

Макаўка. *Р., сб., 328; Н., 17; Dyb., 169; Зн., 30; 1946, Староб.*

788. Пад адным калпачком семсот казачкоў.

Мак. *Д., 88; М. в., 159.*

789. Пад адным каўпаком семсот казакоў, пасярэдзіне струп.
Мак, макаўка. *F., 475.*

790. Стаіць полка, а ў той полцы семсот ваявод.
Мак. *Нк., 26.*

791. Поўна каморка клубочкаў.
Мак, макаўка. *F., 475.*

792. На тычынцы (шынцы) гарадок, а ў ім чорны парашок.
Мак. *1946, Староб.*

793. Пасярод лесу стаіць дзежка квасу.
Яблыня. *Р., Мат., 89, Кобр. п.*

794. Паверх (сярод) лесу дзяжа кісне.
Яблыня. *Нит., 199; Л., 32; Р., сб., 328; Гт., 299; Ш., 7, Віл. п.; F., 471.*

795. Сярод лесу дзяжа кісне, хто прыйдзе да яе — па лбе трэсне.
Яблыня. *Р., Мат., 92, Слон. п.*

796. Сярод лесу дзяжа кісне, хто ідзе — кіем свісне.
Яблыня. *1946, Староб.*

797. Сярод лесу дзяжа кісне, хто ідзе — паленам цісне.
Яблыня. *F., 471; Р., Мат., 86, Вайк. п.; 1948, Пруж.*

798. Сярод лесу дзяжа кісне, хто ўгледзіць — калом цісне.
Лясная яблыня. *1965, Слон.*

799. Летам — зялёны, а восенню — чырвоны.
Яблык. *1968, Касц.*

800. Румяны Піліп да палкі прыліп.
Яблык. *1949, Бабр.; 1949, Кір.; 1950, Хойн.;* 1946, Слуцк.; 1946, Сур.

801. Круглы, ды не гарбуз, з хвастом, ды не мыш.
Яблык. *Б., 173.*

802. Матка-рагатка, дачушка-паўзушка, сынок Васілёк.
Яблыня. *Нк., 26.*

803. Туды рог, сюды рог, злезь з мяне, прамілы бог, табе будзе пажыўленне, а мне будзе палягчэнне.
Яблыня. *1946, Староб.*

804. Віса вісіць, хода ходзе, хто ідзе — цап-царап.
Яблык. *Р., сб., 318.*

805. Віса вісіць, хода ходзіць, віса ўпала, хода прыбрала.
Яблык або ігруша і свіння. *F., 470; Pietk., 449.*

806. Віса вісіць, хода ходзіць, віса ўпадзе, хода схопіць.
Яблык і чалавек. *1949, Кір.; Р., Мат., 90, Кобр. п.; 1950, Хойн.; 1963, Маладз.*

807. Хода ходзіць, віса вісіць, віса ўпала, хода з'ела.
Чалавек і яблык. *1963, Маладз.*

808. Ходзіць хода, вісіць віса, прыйшоў хода, цап за вісу.
Чалавек і яблык. *Н., 19.*

809. Чырвоны колер, вінны смак.
Вішня. *F., 484.*

810. Чырвоны колер, вінны смак, каменнае сэрца.
Вішня. *1962, Светл.*

811. Чырвонае цельца, каменнае сэрца, вінная на смак, а завецца як?

*1968, Краснап.*

Вішня.

812. Чырвоны колер, вінны смак, каменнае сэрца, чаму ж так?

*Нк., 26; Шр., 209; Р., сб., 355.*

Вішня.

813. Каля хаты ў садочку між зялёненькіх лісточкаў паглядзі: навідавоку шмат красуль чырванашчокіх. Хоць прывабна пазіраюць, сэрцы каменныя маюць.

*«Зорка», 1959, № 37.*

Вішні.

814. Чырвоная шапачка, а беленькі пенюшок.

*Р., сб., 323; 1967, Стаўб.*

Маліна.

815. Красная шапка, белая галоўка.

*Р., сб., 323.*

Маліна.

816. Чашачка красненька, а ложачка беленька.

*Д., 88.*

Маліна.

817. Ішоў пастух з пастушкаю, знайшлі лапаць з свістушкаю. Ішоў Ягор з Марынаю, знайшлі чашку з малінаю.

*Д., 89.*

Маліна.

818. На градзе агонь ірдзее, не пячэцца і не грэе. Ён пахучы і прыгожы, нават дождж заліць не можа. Із такіх агнёў-праменняў вараць смачнае варэнне.

*1967, Пруж.*

Клубніка.

## ЧАЛАВЕК

819. Зранку ходзіць на чатырох нагах, удзень — на дзвюх, а ўвечары — на трох.

Чалавек у розным узросце. *Рп., 323.*

820. Хто ходзіць зранку на чатырох, днём — на дзвюх, а вечарам — на трох нагах?

Чалавек у розным узросце. *1959, Гом.*

821. Што той за звер, што зранку ходзіць на чатырох нагах, удзень — на дзвюх, а вечарам — на трох.

Чалавек у розным узросце. *F., 467.*

822. Раніцаю ходзіць на чатырох, днём ходзіць на дзвюх, а вечарам — на трох.

Чалавек у розным узросце. *1965, Кап.*

823. Уранку — на чатырох, упоўдзень — на дзвюх, увечары — на трох.

Чалавек у розным узросце. *1949, Кір.*

824. У раніцы — на чатырох конях, удзень — на пары, а ў вечары — на трох конях.

Чалавек у розным узросце. *Б., 173.*

825. Сорак нядзель у турме сядзіць, тры гады вісіць і так на свет выходзіць.

Чалавек. *Dyb., 157.*

826. Сорак нядзель у турме сядзеў, два гады вісеў, а такі жыў выйшаў.

Чалавек. *F., 467.*

827. Што любіш, таго не купіш, а чаго не любіш — не прадасі.

Маладосць і старасць. *1965, Кап.*

828. Што любіш — не купіш, што не любіш — не прадасі.

Маладосць і старасць. *1960, Капатк.*

829. Стаіць дуб, на дубу клуб, на клубу лозы, на лозах козы.

Чалавек. *Б., 173.*

830. Стаіць стоўб, а на тым стаўбу хата.

Чалавек. *Б., 173.*

831. На хадулях дзве махалкі, над махалкамі зявалка, над зявалкай два калодзезі, над калодзезямі дзве міргалкі, над міргалкамі рошча, за рошчай чыстае поле, за полем лес.

Чалавек. *Р., сб., 327.*

832. Стаяць вілы, на вілах калуб, на калубе яліна, а ў яліне свінні рыюць.

Чалавек. *Ш., 498, Слон. п.*

833. Стаяць вілы, на вілах шатун, на шатуне сапун, на сапуне глядун, на глядуне булава, на булаве драмучы лес.

Чалавек. *Р., Мат., 8, Кобр. п.*

834. Стаяць вілы, на вілах вісіць торба, на торбе кузня, на кузні зіпала, на зіпале мігала, на мігале ельнік, а ў ельніку свінні ходзяць.

Чалавек. *Нк., 8.*

835. Стаяць вілы, на вілах бочка, а на бочцы палка, а на палцы галка, а на галцы лес, а ў лесе свінні.

Чалавек. *1949, Кір.*

836. Стаяць вілы, на вілах кораб, на корабе мігайла, на мігайле маргайла, на маргайле густы ельнік, а ў густым ельніку дзікія свінні.

Чалавек. *Ш., 499, Ігум. п.*

837. Шэсць ног, дзве спіны і адна галава.

Чалавек у крэсле. *Рп., 328.*

838. Дваяног, дваяног, вазьмі мяне без ног, бо прыйдзе чатырыног і з'есць мяне без ног.

Чалавек, яйцо, свіння. *F., 467.*

839. Гаршчочак вумён, сем дырачак у ём.

Галава. *Д., 82; Ш., 488, Мсцісл. п.*

840. Гаршчок разумны, хоць сем дзірак мае.

Галава. *Рп., 321.*

841. У адным клубочку ды сем дзірачак.

Галава. *Нк., 9.*

842. А ў клубочку сем дзірак.

Галава. *Р., сб., 317; Ш., 8, Леп. п.*

843. У адну пуньку ды сем варот.

Галава. *Нк., 8.*

844. Як кругла, так тоўста, хто не адгадае, то на сем год кароста.

Галава. *F., 469.*

845. А на гары гай, пад гаем маргай, пад маргаем шмаргай, пад шмаргаем хапай.

Галава і валасы, вочы, нос і рот. *Б., 168.*

846. Стаіць гай, пад гаем мігай, пад мігаем сапай, пад сапаем хапай.

Галава. *1963, Брасл.*

847. Стаіць ядала, на ядале шмаргала, на шмаргале маргала, на маргале ельнік, у ельніку свінні.

Галава. *Р., сб., 332.*

848. Стаіць качан — не качан, ельнік — не ельнік, ні з'есць, ні ссеч, ні прайсціся.

Галава. *Нк., 9.*

849. Адзін голасна чытае, двое ў кніжку паглядае, двое трэціх слухае, а чацвёрты нюхае.

Рот, вочы, вушы і нос. *І. І., 1937, № 1, 22.*

850. Густы лес, чыста поле, дзве лятаркі, адзін звон, два шнуры бялізны.

Валасы, лоб, вочы, нос, зубы. *1948, Пруж.*

851. На шатуне равун, над равуном сапун, над сапуном глядун, за гледуном рошча, за рошчай поле, за полем дрымучы лес.

Шыя, рот, нос, вочы, бровы, лоб, валасы. *1948, Пруж.*

852. Сто малайцоў на адным безгалоў'і спяць.

Валасы. *F., 485.*

853. Як над намі — дагары нагамі.

Валасы. *Р., сб., 336.*

854. Жыву, жыву, а ліку іх не знаю. Што гэта такое?

Валасы. *1960, Пух.*

855. Як смачна — цмакае, як горка — плюе, як апарыць — якае або хутка дзьме.

Рот або язык. *J., 14—15.*

856. За сцяною касцяною салавейка шчабеча.

Язык. *Б., 174.*

857. За гарою салавейка пішчыць.

Язык. *Б., 173.*

858. За сцяной касцяной цецярук балбоча.

Язык. *1950, Хойн.*

859. За сцяною касцяною талалай (таралай) брэша.

Язык. *F., 471; Р., Мат., 94, Слон. п.; Шр., 208.*

860. За сцяною касцяною тарандай скача.

Язык. *1948, Пруж.*

861. За сцяною касцяною балалайка йграе.

Язык за зубамі. *1960, Пух.*

862. За ельнічкам, за бярэзнічкам талалай скача.

Язык у роце. *Д., 96.*

863. За алешнічкам, за бярэзнічкам талалайчык скача.
Язык. *Р., сб., 321.*

864. За сасоннічкам, за бярэзнічкам талалайка сядзіць.
Язык за губамі і зубамі. *М. в., 161.*

865. За белымі за бярозамі талалай брэша.
Язык. *Р., сб., 321.*

866. За белым бярэзнічкам талалайка брэша.
Язык. *I. I., 1937, № 2, 18; Гт., 295; 1950, Хойн.; 1960, Нясв.*

867. Каля белага бярэзнічку талалайка скача.
Язык. *F., 471.*

868. За белым бярэзнічкам таратайка скача.
Язык за зубамі. *Dyb., 161.*

869. У ельнічку, у бярэзнічку скача таратайка.
Язык. *1962, Дзятл.*

870. Між беленькіх бярозак талалай брэша.
Язык за зубамі. *Л., 21.*

871. За белым бярэзнічкам тарарай жыве.
Язык. *Р., сб., 321.*

872. За белымі бярозкамі тарадай скача.
Язык. *Р., Мат., 89, Кобр. п.*

873. За белымі бярозамі балматун (балмот) балмоча.
Язык. *Нк., 9.*

874. За белымі варотамі талалай жыве.
Язык. *Д., 96.*

875. За белымі берагамі талатай скача.
Язык. *Б., 174.*

876. За белым тынам талалуй брэша.
Язык. *Нк., 9.*

877. Паміж белымі бярозамі скакунец скача.
Язык. *Р., Мат., 89, Кобр. п.*

878. За гарою воўк балбоча.
Язык. *Б., 173.*

879. За саначкамі, за белым бярэзнічкам у сваёй бярлозе мядзведзь ляжыць.
Язык у роце. *Рп., 323.*

880. Ляжыць калода пасярод балота: не гніе, не сохне.
Язык. *Р., сб., 324; Ш., 499, Гом. п.; 1950, Хойн.*

881. Сярод балота ляжыць калода: не гніе, не сохне.
Язык. *1950, Браг.; 1963, Маладз.*

882. Пасярод балота ляжыць калода: не прасыхае і не гніе.
Язык. *1949, Кір.*

883. Ляжыць у балоце калода: не гніе, не плеснее.
Язык. *Р., сб., 324.*

884. Пад печчу плашка ляжыць.

Язык. *Нк., 9.*

885. Пасярод лесу ануча вісіць, яна заўсёды мокра.

Язык. *Г., 471.*

886. Балбоча, балбоча, ніколі не перастане.

Язык. *Б., 173.*

887. Маленькі, красненькі, кароценькі, а пусці, то забрэша.

Язык. *Б., 174*

888. Стаіць яма, у яме стаўпец, кругом яго стада авец.

Рот, язык, зубы. *1948, Пруж.*

889. Міхалка меле, а Наталкі таўкуць.

Язык і зубы. *Нк., 9.*

890. Цюхцікі таўкуць, а Міхалачка меле.

Зубы і язык. *Гт., 299.*

891. Злодзей у клеці, а мяшкі на парозе.

Язык і зубы. *Рп., 323.*

892. Дзеравяшка нясе, касцяшка сячэ, а макрын падкладае.

Лыжка, зубы, язык. *Нк., 9.*

893. Поўны хлявец белых авец, а пасярэдзіне мархалец.

Язык і зубы. *1960, Капатк.*

894. Поўны хлеў авец, і адзін баран бляець.

Язык за зубамі. *Ш., 6, Віл. п.*

895. Поўны хлявец белых авец, а між тых авец баранец.
Зубы і язык. *1946, Староб.*

896. Поўны хлявец белых авец, а пасярэдзіне талалай брэша.
Зубы, язык. *F., 471.*

897. Поўны хлявец авец, а пасярэдзіне чырвоны баран.
Зубы і язык. *Р., Мат., 86, Вайк. п.*

898. Повен хлявец белых авец, адзін баран — і той бляець.
Зубы і язык. *Нк., 9.*

899. Повен хлявец белых авец.
Зубы. *Б., 169; Гт., 295; 1959, Леп.; F., 471; Dyb., 159; Шр., 209; 1960, Слуцк.*

900. Стаіць хлявец поўны авец.
Зубы. *1960, Хойн.*

901. Мой маленькі хлявочак, а повен авечак.
Рот і зубы. *Нк., 9.*

902. Поўны падпечак белых авечак.
Зубы ў роце. *Рп., 326.*

903. У чырвоным падпечку сядзяць белыя авечкі.
Зубы. *1961, Добр.*

904. Поўны рот белых галубоў.
Зубы. *1959, Сур.*

905. З-пад печы дзве белыя куркі відаць.
Зубы. *W., 7, Віл. п.; Р., сб., 333.*

906. Поўна хата вераб'ёў.
Зубы. *Гт., 295.*

907. За лесам, за пралесам вісіць два шнуры плацця.
Зубы. *1949, Кір.*

908. Поўна падпечайка жалезайка.
Зубы. *Р., сб., 328.*

909. Пад печайкам жалезайка, хто знае — не кажы.
Зубы. *Р., сб., 328.*

910. Вор у клеці, а мяшкі на парозе.
Зубы. *Нк., 9.*

911. Дзве жэрдачкі поўны белых курэй.
Рот, зубы. *Dyb., 159.*

912. Беленькія курачкі з-пад печы (з палічкі) глядзяць.
Зубы ў роце. *Н., 16; Д., 85.*

913. Поўна падпечайка белых курэй.
Зубы. *Р., сб., 328.*

914. Беленькія куры з паднябесся глядзяць.
Зубы. *Д., 84.*

915. З-пад печкі куры белыя глядзяць.
Зубы. *Ш., 491, Мсцісл. п.*

916. Белыя парасяты з-пад печкі зіруць.

Зубы. *Нк., 9.*

917. Каля пpoламу белыя галубы сядзяць.

Зубы ў роце. *Рп., 324.*

918. Каля прарубы стаяць белы галубы.

Зубы. *Б., 169.*

919. Каля парубкі стаяць дзве галубкі.

Зубы. *Dyb., 165.*

920. За цёмным лесам белы бярэзнічак.

Зубы. *Р., сб., 322.*

921. Пад нізенькім небам белы бярэзнічак расце.

Зубы ў роце. *Рп., 325.*

922. Сечкі сякуць, дзеравяшкі вязуць. Андруша, брат, паварачвайся.

Зубы, лыжкі, язык. *Д., 85.*

923. Касцяшка сячэ, дзеравяшка вязе, а мокры Мартын падкладвае.

Зубы, лыжка, язык. *1948, Пруж.*

924. Адзін гаворыць, двое глядзяць, двое слухаюць.

Язык, вочы, вушы. *Рп., 321.*

925. Цераз мяжу брат брата не бачыць.

Вочы. *F., 485; Ч., 312*

926. Два браты цераз мяжу ніколі не бачыліся.
Вочы. *Pietk., 450.*

927. Два браты цераз мяжу жывуць, адзін другога не бачаць.
Вочы. *W., 8, Леп. п.*

928. Два браткі цераз дарогу жывуць, а ніколі не сыйдуцца.
Вочы. *F., 485.*

929. Два браты цераз дарогу, а не бачацца.
Вочы. *1949, Кір.*

930. Два браты жывуць цераз дарогу, друг друга не бачаць.
Вочы. *1950, Браг.*

931. Брат з братам цераз дарогу жывуць, адзін другога не бачаць.
Вочы. *Ч., 312, Бельск. п.; Dyb., 166.*

932. Цераз дарогу два браты жывуць і адзін аднаго не бачаць.
Вочы. *1963, Маладз.*

933. Ішлі два браты цераз дарогу, адзін аднаго не бачаць.
Вочы. *1946, Староб.*

934. Два браты цераз мяжу жывуць, адзін аднаго век у вочы не бачаць.
Вочы. *Р., сб., 319.*

935. Два родных браты цераз дарогу жывуць, а адзін другога ніколі не бачаць.
Вочы. *1963, Маладз.*

936. Два браты родныя цераз мяжу жывуць, друг друга слухаюць, да ніколі друг друга не бачаць.

Вочы. *Н., 15.*

937. Два браты родныя цераз мяжу жывуць, адзін аднаго думкі знаюць, ды ніколі адзін аднаго не відаюць.

Вочы. *Зар., 24.*

938. Два браты адзін ад другога цераз мяжу жывуць, а адзін да другога ў госці не ходзяць.

Вочы. *Гт., 297, Кобр. п.*

939. Дзве сястры цераз мяжу жывуць, адна к адной [illegible] госці не хо[illegible]зяць.

Вочы. *Р., сб., 320; W., 6, Віл. п.; 1963, Брасл.*

940. Цераз мяжу дзве сястры жывуць, а адна к другой у госці не ходзяць.

Вочы. *М. в., 159.*

941. Цераз мяжу дзве сястронкі жнуць, адна да другой на абед не йдуць.

Вочы. *F., 484.*

942. Цераз мяжу — дзве сястрыцы і адна аднае не бачаць.

Вочы. *1960, Нясв.*

943. Праз мяжу — сястронкі, ніколі адна ў другой ў гасціні не бывае.

Вочы. *F., 485.*

944. Маленькае, кругленькае да неба дакінеш (дакіне).

Вока. *I. I., 1937, № 2, 18; 1960, Пух.*

945. Маленькі, удаленькі да неба ўскінеш.

Вока. *1960, Сір.*

946. Круглае, маленькае да неба дакінеш, а цераз хату не перакінеш.

Вока. *Гт., 300, Брэсц. п.*

947. Кругленька, маленька за мілю закіне.

Вока. *F., 485.*

948. Кругленькае, касмаценькае да неба дакіне.

Вока. *Р., Мат., 90, Кобр. п.*

949. Маленькі, кругленькі, як махне, дык да неба дамахне.

Вока. *Нк., 9.*

950. Два браткі неба дастаюць.

Вочы. *Р., Мат., 90, Кобр. п.*

951. Два шнуры да неба.

Вочы. *Ч., 312, Бельск. п.*

952. Маленькія бачоначкі, ды поўныя золатам.

Вочы. *Р., сб., 325.*

953. Сіненькі клубочак — жыг пад лубочак.

Вока і века. *Нк., 9.*

954. Чатыры бягуць, два стаяць, два свецяць.

Вочы. *Зн., 30.*

955. Чорны з чорным стыкаюцца, а голы ў сярэдзіну хаваецца.
Вока. *1946, Староб.*

956. Кніга-раздзвіга, па краях валасы, пасярэдзіне чудзясы.
Вочы. *1949, Кір.*

957. Сонца-калонца, пасярэдзіне жывіца, хто не адгадае, не будзе жаніцца.
Вочы. *1960, Нясв.*

958. Маленька, кругленька, як бяда прыпрэ, то вада пацячэ.
Вока. *F., 485.*

959. Два братцы пайшлі ў воду купацца.
Вочы заплаканыя. *F., 485.*

960. Людска прырода кругом абрасла, прыйдзе бяда — пацячэ вада.
Вочы. *Ч., 312, Бельск. п.*

961. Чорненькае, махнаценькае, як прыйдзе бяда — пацячэ вада.
Вока. *Р., Мат., 91, Кобр. п.*

962. Круглае, пукатае, навокал махнатае, як бяда запячэ, то вада пацячэ.
Вока. *«Ніва», 1957, № 19.*

963. Кругла, гарбата, навокал махната, прыйдзе бяда — пацячэ вада.
Вока. *Dyb., 166.*

964. Кругла, калмата і кругом гарбата, як прыпрэцца бяда, пальецца вада.

1960, Нясв.

Вока.

965. Кругла, гарбата, кругом махната, па баках бела, у сярэдзіне чорна, як прыйдзе бяда, пацячэ вада.

Б., 167; 1965, Іў.

Вока.

966. Плоскенька дошчачка, па краях абшывачка, ды пасярэдзіне дзірачка.

Dyb., 166.

Вуха.

967. Між двух свяціл я пасярэдзіне адзін.

Dyb., 166.

Нос.

968. Маленькі работнік шмат гадоў працаваў, ніколі не спаў, толькі адзін раз працаваць перастаў — і навек прапаў.

I. I., 1937, № 2, 18; 1967, Кам.

Сэрца.

969. Косткамі б'е, лапатай пхае і ў калодзезь кідае.

Б., 169.

Зубы, язык і страўнік.

970. Без агню, а варыць.

1969, Стол.

Страўнік.

971. Як у вас, так у нас — поўна дзежачка каўбас.

Р., сб., 337; W., 11, Дзвін. п.

Кішкі, жывот.

972. Сярод балота чарка.

F., 479.

Пуп.

973. У чатырох мацярэй па пяць сыноў, адно імя ўсім.

Б., 171.

Пальцы на руках і нагах.

974. Чатыры чатырнічкі: на кожным чатырнічку па пяць пяцернічкаў.

Рукі, ногі, пальцы. *Рп., 328.*

975. Пяць братоў у адну ноч радзіліся, а ростам не роўны.

Пальцы. *1959, Гом.*

976. Кожны мае з вас, рабяткі, верных сябраў па дзесятку, яны кормяць, апранаюць, працаваць дапамагаюць.

Пальцы. *1968, Краснап.*

977. Дзве маткі маюць пяць сыноў, а кожны з іх аднаго імя.

Рукі і пальцы. *Шр., 208.*

978. У двох мацяркоў па пяць сынкоў.

Пальцы на руках. *F., 477.*

979. У дзвюх мацярэй па пяць сынавей, адно імя ўсім.

Пальцы на руках. *Dyb., 165; 1949, Кліч.*

980. У дзвюх мацярэй па пяць сынавей, на кожнага сына адно імя.

Пальцы на руках. *Р., сб., 333.*

981. У дзвюх матак па пяць хлапчанятак, кожнаму сыну адно імя.

Пальцы. *Рп., 327.*

982. Дзве мацi маюць пяць сыноў і ў кожнага з іх адно імя.

Рукі і пальцы. *1960, Капатк.*

983. Пяць братоў у адну ноч нарадзіліся, і ўсе з адным імем.

Пальцы. *Рп., 326.*

984. Тры браты па белым полі едуць.
Пальцы, ручка, папера. *1967, Шкл.*

985. У кішэню жывое мяса кладуць.
Рука. *1963, Кап.; 1946, Староб.*

986. Што за жывіна: ззаду жывот, а спераду спіна.
Нага. *1965, Навагр.*

987. Ззаду жывот, спераду храбёт.
Нага. *Ш., 495, Віл. п.*

988. Прыйшоў госць ды пад лаву шусь.
Ногі. *Рп., 326.*

989. Прыйшоў госць ды пад лаву.
Ногі. *Ш., 495, Віл. п.; 1960, Брасл.*

990. Што госць, то пад лаўку.
Ногі. *Р., сб., 336.*

991. Ідзе гойда ды пад лаву.
Ногі пры сядзенні. *Нк., 9.*

992. Адзін на лаўцы, а дзесяць пад лаўкай.
Пальцы на нагах у час сядзення на лаўцы. *Нк., 9.*

993. Ішоў, ішоў, дзве дарогі знайшоў і ў абедзве пайшоў.
Ногі і штаны. *1967, Кам.*

994. Жывы жывога есць і ў вочы глядзіць.

Дзіця, грудзі маці. *Р., сб., 321; 1959, Гом.; 1965, Іў.*

995. Увесь свет пітае, а ні разу на стале не бывае.

Грудзі маці. *Нк., 9.*

996. Увесь свет ужывае, на стале не бывае.

Мацярынскае малако. *1961, Крыв.*

997. Кожны ўжывае, але тое на стале не бывае.

Грудзі маці. *Нк., 9.*

998. Белая бутэлька, корак чырвоны.

Грудзі маці. *F., 467.*

999. На стале не бывае, а ўвесь свет пітае.

Грудзі маці. *1960, Капатк.*

1000. На стале не бывае, а кожны яго ўжывае.

Грудзі маці. *1948, Пруж.*

1001. Што для чалавека мілей усяго на свеце?

Сон. *1965, Кап.*

1002. Прыйшоў хтось, узяў штось, пайшоў бы я за тым, ды не знаю за кім.

Сон. *Б., 172.*

1003. Ляжаў — праляжаў, устаў — пайшоў, нічога не знайшоў.

Сон. *1946, Староб.; 1963, Кап.*

9. Зак. 262

1004. І сваё дзіця не забыла, і чужых малачком напаіла.
Карова. *1965, Шчуч.; 1963, Маладз.*

1005. Сярод (пасярод) двара стаіць капа (капна), спераду вілы, ззаду мятла.
Карова. *1946, Слуцк.; 1949, Кліч.*

1006. Пасярод двара стаіць гара, спераду вілы, ззаду мятла.
Карова. *І. І., 1937, № 2, 18; 1959, Леп.; 1949, Бабр.*

1007. На дварэ стаіць гара: чатыры тыкі, две матыкі, сёмы замахайла.
Карова. *1948, Пруж.*

1008. Два бодні, чатыры паходні, сёмая махта.
Карова. *Нк., 21.*

1009. Чатыры тыкі, дзве патыкі (матыкі), сёмы памахайла.
Карова, вол. *Р., Мат., 90, Кобр. п.; F., 473, 485.*

1010. Чатыры татыркі, дзве тапатыркі, сёмы вярцель.
Карова. *Д., 87.*

1011. Дваста бадаста, чатырыста хадаста, два ўхтары, адзін махтар.
Карова. *Д., 87.*

1012. Сшыта, злаплена, нідзе ігла не была.
Рабая карова. *1949, Kір.*

1013. Сшыта, злеплена і рубца не знаць.
Рабая карова. *Hur., 199.*

1014. У рагулі чатыры дулі, а ў гарцапкі дзве.
Карова і кабыла. *Dyb., 158.*

1015. У рагулі чатыры гулі, а ў ржулі дзве.
Карова і кабыла. *Dyb., 158.*

1016. У рагулі чатыру гулі, а ў рагозы дзве.
Карова і каза. *Dyb., 158.*

1017. У мыкулі чатыры кулі, а ў рзы дзве.
Карова і кабыла. *Pietk., 450; J., 12.*

1018. У рагулі чатыры кулі, а ў брыкулі дзве кулі.
Саскі ў каровы і кабылы. *Р., сб., 334.*

1019. У рыкулі чатыры кулі, а ў рыжулі дзве.
Карова і кабыла. *F., 473.*

1020. У нашай рычкі чатыры будычкі, а ў іржы дзве.
Карова і кабыла. *Нк., 21.*

1021. У мыкалы чатыры дыкалы, а ў іржы дзве.
Карова і кабыла. *Нк., 21.*

1022. Як быў малы, то ў чатыры дудкі граў, а як падрос, то зямлю паараў.
Бык. *Р., Мат., 93, Слон. п.*

1023. Быў мал, у чатыры дудкі іграў, а вырас вялік, усю зямлю падняў.

*F., 485.*

Вол.

1024. Як быў малым, у чатыры дудачкі граў, як падрос, горы варочаць стаў.

*Б., 167.*

Вол.

1025. Як быў мал, у чатыры дудкі граў, як узрос, гору і даліну знёс, а па смерці танцы выдаў.

*Р., Мат., 90, Кобр. п.*

Вол.

1026. Малы быў — у чатыры дудачкі іграў; вырас — стаў горы варочаць: памёр — стаў танцаваць.

*1946, Староб.*

Вол.

1027. Як радзіцца, у дудачку іграе, як вырасце, зямлю капае, а памрэ, так у танцы ідзе, а ўсё не гуляе.

*Ш., 488, Віл. п.*

Вол.

1028. Пару лебедзяў на нітцы вяду.

*Б., 167.*

Валы.

1029. На хляве два дубкі.

*Б., 172.*

Рогі ў жывёлы.

1030. Чатыры ладкі плешчуць, дзве зорачкі гараць, дзве свечачкі стаяць і тысяча свішчуць.

*1969, Лун.*

Конь.

1031. Два нюхаюць, два слухаюць, чатыры плешчуць, а семсот свішчуць.

*1959, Леп.; 1963, Брасл.*

Конь.

1032. Двое глядзяць, двое слухаюць, чатыры скачуць, семсот свішчуць.

Конь. *Нк., 21.*

1033. Два стаяць, два свецяць, чатыры плешчуць, адзін раве, аднаго нясуць, семсот свішчуць.

Конь. *М. в., 161.*

1034. Двое слухае, чэцвера плешча, сто свішча.

Кабыла. *Ч., 310, Бельск. п.*

1035. Чатыры плешча, семсот свішча.

Конь. *1946, Староб.*

1036. Семсот свішча, чатыры плешча, два слухае, два нюхае, два дзівіцца (паглядае).

Конь. *Гт., 296, Кобр. п.; Шр., 209; 1948, Кобр.*

1037. Семсот свішча, а чатыры плешча, два тура стаяць, дзве свечкі гараць.

Конь. *1969, Стол.*

1038. Пяцьсот свішча, трыста плешча, два слухаюць, два нюхаюць.

Конь. *Б., 170.*

1039. Семсот свішчуць, а чатыры ішчуць, два нюхаюць, два слухаюць і два глядзяць.

Конь. *1960, Нясв.*

1040. Семсот свішча, чатыры плешча, два слухае, два нюхае, два паглядае. Хто адгадае?

Конь. *Рп., 351.*

1041. Семсот свішча, чатыры плешча, два свецяць.

Конь. *Р., сб., 330.*

1042. Семсот свішчуць, чатыры плешчуць, два слухаюць і два нюхаюць, два глядзяць.

Конь. *Ніг., 199.*

1043. Семсот свішча, чатыры плешча, дужа чуе, дужа бачыць.

Конь. *F., 473.*

1044. Чатыры чарычанькі, пяты кантопаль.

Конь. *F., 473.*

1045. Пад адным лапцем шэсць аборын.

Конь. *Нк., 21.*

1046. Хахол ды махол ды два сычыкі.

Конь. *Д., 88.*

1047. Не араты, не каваль, не плотнік, а першы на вёсцы работнік.

Конь. *1959, Гом.*

1048. Лезу, лезу, на мясную гору ўзлезу.

Садзіцца на каня. *Р., Мат., 89, Кобр. п.*

1049. Лезу, лезу па жалезу (і ўзлез) на мясную гару.

Садзіцца на каня. *F., 480; М. в., 160; Д., 88; Гт., 298, Дзісн. п.; 1948, Пруж.; 1969, Стол.*

1050. Лезу, лезу па жалезу, як узлезу, на мясную гару.

Конь і сядло. *Ш., 9, Леп. п.*

1051. Лезу, лезу па жалезу, кулік на мясную гару.

Чалавек садзіцца на каня. *Нк., 10.*

1052. Лезу, лезу па жалезу, куды захачу, туды й палячу.

Чалавек садзіцца на каня. *Нк., 10.*

1053. Кацёл мясны, а пракіды жалезныя.

Асядланы конь. *Нк., 21.*

1054. Дзве галавы, дзве спіны, шэсць ног, адзін хвост.

Чалавек на кані. *1946, Староб.*

1055. Дзве галавы, шэсць ног, адзін хвост.

Чалавек на кані. *1963, Маладз.*

1056. Што гэта за звер, што мае шэсць ног, дзве галавы, адзін хвост?

Чалавек на кані. *F., 467.*

1057. Што гэта за звер, што шэсць ног, два жываты, дзве рукі, дзве пары вачэй, грыва і хвост?

Чалавек на кані. *Ш., 499, Ігум. п.*

1058. Ішоў з двара, бачыў звяра: шэсць ног, адзін хвост, дзве галавы.

Чалавек на кані. *1960, Івац.; Нк., 21.*

1059. Адзін раве, аднаго нясуць, семсот свішчуць.

Конь і сядок. *Зн., 30.*

1060. Не шыта, не кроена, а ўся латлена.

Пярэсты конь. *Нк., 21.*

1061. Чатыры чатыркі, пятая любушачка, шостая жывушачка.

Кабыла з жарабём. *Нк., 21.*

1062. Чатыры браты, а бароды назад.

Капыты. *Рп., 355.*

1063. Чатыры браты назад барадамі.

Капыты ў каня. *Р., сб., 335; Нк., 21; 1963, Брасл.*

1064. Чатыры дзяды назад барадамі.

Конскія капыты. *Ю., 293, Лід. п.*

1065. Чатыры дзяды назад перадамі.

Конскія ногі. *F., 473.*

1066. Ішлі чатыры паны назад барадамі.

Конскія ногі. *1960, Кап.*

1067. Чатыры братцы-барадатцы. Як у лес ідуць — дамоў глядзяць, як з лесу ідуць — у лес глядзяць.

Капыты ў каня. *1959, Бяг., Леп.*

1068. Ходзіць дабро ў дабры, я тое дабро выдзерну, тым дабром да тое дабро выганю.

Конь у пшаніцы. *Р., сб., 334.*

1069. Што то такое: не слабое, а ўсё стогне?

Свіння. *Ч., 315, Бельск. п.*

1070. Хто не хворы, а ўсё стогне?

Свіння. *1946, Староб.*

1071. Хто гэта шукае, нічога не згубіўшы; хто гэта стогне, хоць ёй нічога не баліць?

Свіння. *F., 483.*

1072. Нічога не баліць, а ўсё стогне.

Свіння. *Б., 172; 1959, Гом.*

1073. Не згубіла, а ўсё шукае, не хворая, а ўсё крэхча.

Свіння. *1949, Акцябр.*

1074. Не хвора, а ўсё стогне, нічога не згубіла, а ўсё шукае.

Свіння. *Н., 18.*

1075. Па зямлі ходзіць, неба не бачыць, нічога не баліць, а ўсё стогне.

Свіння. *Рп., 350.*

1076. Конь вушасты воз дроў нашастаў, адны канцы цэлыя, другія шчыпаныя.

Свіння. *Нк., 21.*

1077. Прыйшлі немцы пад бабіны сенцы, стукаюць, а не ўмеюць адчыніць.

Свіні. *Ч., 315, Бельск. п.*

1078. Як відзеў, дык у дуду іграў, а як аслеп, пайшоў боты шыць.

Свіння, яе скура і шчаціна. *Нк., 22.*

1079. Блохі лазню (пуню) звалілі (павалілі, абярнулі).

Парасяты свінню. *Нк., 22; Р., сб., 317; Н., 17; Ш., 8, Леп. п.; 1959, Леп.*

1080. Мяшчане запішчалі — горад зваліўся.

Парасяты і свіння. *Нк., 22.*

1081. За гарой, за крутой ваўкі шкуру мнуць.

Свіння з парасятамі. *1950, Хойн.*

1082. Коцıцца ступка, а за ёй коцяцца таўкачыкі.

Свіння і парасяты. *1949, Акцябр.*

1083. Піргічыкі, піргічыкі сталі бабу слекатаць, стала баба рагатаць.

Парасяты свінню ссуць. *1946, Слуцк.*

1084. Каля бочкі качаюцца клубочкі.

Парасяты каля свінні. *F., 483.*

1085. Бочачка стогне, а чырычыкі воду п'юць.

Свіння і парасяты. *1946, Староб.*

1086. Бочка стогне (крэхча), а баяры мёд п'юць.

Свіння, парасяты. *Р., сб., 318; Нк., 21; F., 483.*

1087. Рында рые, каляда скача: уцякай, рында, каляда схопіць.

Свіння і воўк. *Нк., 22.*

1088. Рыечка рые, скочка скача: беражысь, рыечка,— хурман даганяе.

Свіння, сарока, воўк. *Р., сб., 330.*

1089. Рында рые, скочка скача, павядае рындзе, што фурман едзе.

Свіння, сарока, воўк. *F., 483.*

1090. Рында рыіць, скока скачыць, скока рындзе сказала: «Уньдзе хорман ідзе».

Свіння, варона і воўк. *Нur., 199.*

1091. Рэнда рэндзіць, скачка скачыць: уцякай, рэнда,— хурман едзе.

Свіння, сарока, воўк. *Р., Мат., 91, Слон. п.*

1092. Рында рые, скока скача: берагіся, рыя,— курман ідзе.

Свіння, сарока, воўк. *Д., 92.*

1093. Рыўка рые, белка скача: уцякай, рыўка,— жандар едзе.

Свіння рые, сарока сядзіць
на ёй, а воўк бяжыць. *1968, Клім.*

1094. Рычка рые, скачка скача: беражыся, рычка,— фурман едзе.

Свіння, сарока, воўк. *М. в., 159.*

1095. Рыцька рые, ляпа ляпае: сцеражыся, рыцька,— пан едзе.

Свіння, сарока, воўк. *Р., сб., 330.*

1096. Прыйшоў таланда, відзіць дзела няладна; ён узяў расталандзіў і вываталандзіў, і дамоў пайшоў.

Свіння, мужык і гумно. *Д., 93.*

1097. Віса вісіць, хода ходзіць, віса ўпала (упадзе), хода з'ела.

Свіння і жалуды. *Б., 172; 1946, Слуцк.*

1098. Па полі ходзіць шуба да каптан.

Авечка. *Dyb., 167.*

1099. Па гарам, па гарам — шуба і каптан.

Авечка. *Р., Мат., 87, Кобр. п.*

1100. Па гарам, па далам ходзіць шуба да кафтан.

Авечка. *1963, Леп.*

1101. Па полі і лузе ходзіць у кажусе.

Авечка. *«Зорка», 1959, № 22.*

1102. Не прадзе, не тчэ, а людзей апранае.

Авечка. *1959, Гом.*

1103. Балабонь (балабан, балобан, балаба) бяжыць, балота дрыжыць.

Баран. *Р., Мат., 87, Кобр. п.; Д., 80; Р., сб., 317; М. в., 159; 1946, Староб.*

1104. Балабан бяжыць, на ім лес дрыжыць.

Авечка. *Р., сб., 317.*

1105. Байбак бяжыць, аж балахон дрыжыць.

Авечка. *Рп., 343.*

1106. Балабан бяжыць, на ём усё дрыжыць.

Баран. *J., 11.*

1107. Баран бяжыць, балота дрыжыць.

Воўна. *F., 485.*

1108. Лыкі дзярэ, а лапці не пляце.

Каза. *1946, Староб.*

1109. З барадою, а не стары, з рагамі, а не бык, дояць, а не карова, лыкі дзярэ, а лапці не пляце.

Каза. *1946, Староб.*

1110. Жыў і ў царкві не быў, памёр не пахаваны, а быў баганосец.

Асёл. *Р., сб., 321.*

1111. Пад ганкам хвост абаранкам.

Сабака. *1946, Староб.*

1112. Ляжыць пад ганкам, хвост абаранкам.

Сабака. *1951, Мір.*

1113. Жыве пад ганкам, а хвост абаранкам.

Сабака. *1946, Староб.*

1114. З людзьмі сяброе, хату вартуе, жыве пад ганкам, хвост абаранкам.

Сабака. *Рп., 346; 1967, Валож.*

1115. Ляжыць на сене, сам не есць і нікому не дае.

Сабака. *1946, Староб.*

1116. У ізбе — пірагом, а на дварэ — баранкам.

Сабака. *Д., 94.*

1117. Дзве свецяць, чатыры сцелюць, адна спаць лажыцца.

Сабака. *Д., 94.*

1118. Двое свецяць, чэцьвера сцелюць, а адзін лажыцца спаць.
Сабака. *Нк., 22.*

1119. Два свецяць, чатыры сцелюцца, адзін лажыцца.
Сабака. *Б., 172.*

1120. Сядзіць на печы, заплюшчыўшы вочы.
Кот. *1964, Кап.*

1121. Сядзіць на пячы, вываліўшы бельмачы.
Кот. *F., 473.*

1122. Па хаце ходзіць, шастом водзіць.
Кот. *Нк., 22.*

1123. Калматы, вусаты, есці пачынае, песенькі спявае.
Кот. *Рп., 346.*

1124. Каціўся клубочак, за клубочкам торбачка, за торбачкай нітачка.
Кот. *1963, Брасл.*

1125. Маленькія лапкі, на лапках драпкі, ціхенька ступае, мышак пужае.
Кот. *«Зорка», 1959, № 22; 1946, Староб.*

1126. Лёг вусаты, а ўстаў гарбаты.
Кот. *1949, Кліч.*

1127. Гаспадар на гумно нясецца, а за ім жардзіна трасецца.
Кот. *1959, Леп.*

1128. І пад лаўкай, і пад палом ходзіць пан з доўгім калом: паненкі бягуць, ды не смяюцца.

Кот і мышы. *Нк., 22.*

1129. Выйшла пані семірута, убачыла мігірута, носам, мігіросам, а мігіра — хап.

Кот, мыш. *1946, Староб.*

1130. Пад палом ходзіць барышня з калом, ішча барышню з хвастом.

Кошка і мыш. *1948, Кобр.*

1131. Вылезла Чура з пячуры і пытае ў Таратона: «Таратон, Таратон, а дзе Мар'я Хапоўна?»—«На крутой гары, да на каменнай».

Мыш, таракан, кошка. *Д., 89.*

1132. Выскачыла шчура з-пад пячуры, пытаецца ў шляхта: «Ці дома Мар'я вусата?».

Мыш, прусак і кошка. *Нк., 22.*

1133. Маршурачкі выйшлі з Падольскай зямлі, пыталіся ў Суздзінскага князя: «Чы не відзеў мармота?» — «Відзеў, бачыў, на агародзе грымеў, пайшоў на гліняну горушку спачываць».

Мышы, певень, кот, печ. *Л., 20.*

1134. Маленькі шарык пад лаўкай шарыць.

Мыш. *Р., сб., 325.*

1135. Бегла хахлушка каля цяплушка, пыталася ў кукарэйчыка: «Ці не бачыў кацапага». — «Цяпер быў на грымітары, а ўжо на крутой гары».

Мыш, печ, певень, кот, зямля. *Г., 476.*

1136. Беглаператуптучка, пытала ў какалеюшкі: «Ці не бачыў кацабуркі?» — «Ой, я бачыў, кузмідары на высокай гары».

Мыш, певень, кот, печ. *F., 476.*

1137. Выйшла пані з-пад горы-горада, пытаецца спевака: «Ці не бачыў караля?» — «Бачыў, сядзеў на млінавай гары, после пайшоў на медзяную гару».

Мыш, певень, кот, жорна, печ. *F., 476.*

1138. А пад полам, пад палом ходзіць барыня з калом.

Мыш. *W., 8, Леп. п.*

1139. Сто сястрыц адну хустку вяжуць.

Пчолы і соты. *1967, Шчуч.*

1140. Семсот муляроў збудавалі дом без вуглоў.

Пчолы. *1949, Бабр.*

1141. Сыйшлося семсот муляроў, зрабілі хату без вуглоў.

Пчолы. *F., 478.*

1142. У адным доме сотні жыхароў, а сем'я адна.

Вулей. *1961, Добр.*

1143. Малы-малы малышачкі носяць воду на вышачкі.

Пчолы. *Р., сб., 325; Р. Мат., 88, Кобр. п.*

1144. Малы мае малышайкі носяць воду на вышайкі.

Пчолы. *Р., сб., 325.*

1145. У цёмнай цямніцы панны кросны ткуць.

Пчолы. *Нк., 24.*

1146. Сядзяць дзявіцы ў цёмнай цямніцы, шыюць шырынку ані ў нітку, ані ў іголку.

Пчолы. *Нк., 24.*

1147. У цёмнай цямніцы шыюць каўрыцы, ніхто так не выш'е, як яны.

Пчолы. *Р., сб., 319.*

1148. У цёмнай каморачцы сядзяць каровачкі і вяжуць вязаначкі — ні вузла, ні пятлі.

Пчолы. *Рп., 354.*

1149. У цёмнай цямнушачцы сядзяць гарнушачкі і вяжуць вязаначкі — ні вузла, ні пяцелечкі.

Пчолы. *Ш., 496, Мсцісл. п.*

1150. Сядзяць панны ў цямніцах, шыюць шапкі без іголкі, без ніці.

Пчолы. *F., 478.*

1151. У цёмнай цямніцы тчэ пані спадніцы; ніхто не вытчэ ўдзень, як яна ўначы.

Пчала. *F., 478.*

1152. У цёмнай цямніцы ткуць панны красніцы, не стыд, не сорам палажыць перад каролем.

Пчолы. *F., 478.*

1153. Ішоў я каля Шумілінага двара, чуць мяне шуміліны сабакі не ўкусілі.

Пчолы. *Нк., 24.*

1154. Ішоў я каля двору Пільнаўскага, апанавалі мяне сабакі — ні адбіцца, ні адбараніцца, ні хлеба кусок даць.

Пчолы. *Нк., 24.*

1155. Ішоў я каля Ульянінага двара, апанавалі мяне сабакі — ні адбараніцца, ні куском хлеба адманіцца.

*Нк., 24.*

Пчолы.

1156. У нашай каваліхі сабакі дужа ліхі — ні адбіцца, ні адбараніцца, ані хлеба даць.

*Нк., 24.*

Пчолы.

1157. Узыйшоў я на горку, адчыніў каморку, каб не дым, дык ба сабакі з'елі.

*Нк., 24.*

Пчолы.

1158. Ходзіць па гароду, вялікага роду, а слядоў не знаці.

*Ч., 313, Бельск. п.*

Пчала.

1159. Прыйшоў хтось, узяў штось, рад бы дагнаці, ды следу не знаці.

*Б., 171.*

Пчала.

1160. Ляцеў птах цераз дах, тут мае цела навекі пасела.

*Гт., 298, Кобр. п.*

Пчала.

1161. Не сякера, а шуміць, не пілот, а ляціць, не змяя, а жаліць.

*1963, Маладз.*

Пчала.

1162. Сталі шыпулі шыпуліцца, няма месца, дзе ім прытуліцца.

*1946, Староб.*

Пчолы.

1163. Каб не кульбачка, так з'ела б сабачка.

*1946, Староб.*

Пчала.

1164. Ляцеў птах цераз божы дах, крыллямі махнуў, цяжка ўздыхнуў: «Ой, божа ж мой, божа, тут мая праца гарыць».

*1960, Капатк.*

Пчала, царква, свечы.

## ХАТНЯЯ ПТУШКА

1165. Семсот сарочак, семсот спаднічак, выйшла на двор, а тылак гол.

Курыца. *F., 474.*

1166. Семсот сарочак, семсот намётак, як выйдзе вон, і бок гол.

Курыца. *P., сб., 330.*

1167. Семсот намётак, семсот сарочак, а выйдзе на вуліцу — і адзадак голы.

Курыца. *Нк., 22.*

1168. Семсот сарочак, семсот намётак, а як вецер дуне, цела відна.

Курыца. *Ш., 10, Леп. п.*

1169. Семсот сарочак, семсот намётак, дуне вецер — адкрывае да голага цела, хоць і адзенне цэла.

Курыца. *Н., 16.*

1170. Семсот сарочак, семсот намётак, а дуне вецер, адкрывае іх да голага цела, хоць адзежа на мне і ўся цэла.

Курыца. *Зар., 16.*

1171. Сто сот сарочак, сто сот намётак, а выйдзе на вуліцу, спіна гола.

Курыца. *P., сб., 330.*

1172. У нашай нявесты рубашак больш як дзвесты, а вецер павее — і цела відно.

Курыца. *Гт., 296, Кобр. п.*

1173. У нашай нявесты сарочак дзвесце, выйдзе на двор, вецер павее — цела відно.

Курыца. *Р., Мат., 89, Кобр. п.*

1174. Ідзе старушка ў сямёх кажушках, вецер падуне — цела гола.

Курыца. *1960, Капатк.*

1175. Выйшла панна з трасок, а на ёй сорак сарачок, а як вецер павее, гола цела віднее.

Курыца. *Dyb., 161.*

1176. У прынцэсы восемдзесят восем адзежак, вецер падуе і ўсё раздуе.

Курыца. *1963, Маладз.*

1177. Ішла пані з маста, на ёй кашуль за ста, калі вецер падуе— ўсё відна.

Курыца. *Б., 170.*

1178. Пад печчу кракажы, а хто знае — не кажы.

Куры. *1950, Хойн.*

1179. Саломенна поле, лубяны плот, бела насенне, чорны ўсход.

Курыца. *F., 474.*

1180. Ляціць пава, на камень упала, камень разбіла, мерцвякоў пабудзіла, мерцвяцы ўсталі, у трубачкі зайгралі.

Курыца. *W., 6, Віл. п.*

1181. Ад куточка да куточка ходзіць пані з барылочкам.

Курыца з яйкам. *Р., Мат., 92, Слон. п.*

1182. Прыйшла пані да ямы ды села на камні.

Курыца на яйках. *Б., 170.*

1183. Ляцела пава, сярод камней пала, камні разбіла — усіх мёртвых узбудзіла.

Квахтуха. *Нк., 22.*

1184. Ляцела пава, на белым камені пала, камень разбіла — усіх мёртвых узбудзіла.

Квахтуха. *Д., 86.*

1185. Ляцела пава, на камень пала, камень разбіла, мёртвых пабудзіла; мёртвые ўсталі у дудачку зайгралі.

Курыца, яйкі, кураняты. *Р., сб., 324.*

1186. Поле аржаное, семя белае, а ўсход жывы.

Салома, яйцо, кураняты. *Р., сб., 324.*

1187. Саламянае поле, лубяны плот, белае насенне, а жывы ўсход.

Курыца на яйках у рэшаце. *J., 11; 1949, Кліч.*

1188. Белае, круглае доўга і спакойна ляжала, раптам затрашчала, зашавялілася, закрычала — і нежывое жывым стала.

Яйка і куранё. *Рп., 344.*

1189. Ходзіць царыца па паліцы, хоча белага царонка радзіці.

Курыца сакоча. *Нк., 22.*

1190. Прыехала квактухара, пытае «Дзе пішчутары, у якім горадзе?»

Квахтуха. *Нк., 22.*

1191. Ляцеў лютар, сеў на калютар, пытаўся ў кудахтаркі: «А дзе твае пыхтаркі?» — «Мае пыхтаркі ў стракаў гарод пайшлі!»

Каршун, курыца, кураняты, крапіва. *Нк., 23.*

1192. Ляцеў лютар сеў на калютар, пытаецца ў кахтаркі: «Дзе твае пыхтаркі?»—«Мае пыхтаркі ў стрыкаторым гародзе».

Каршун, курыца, кураняты, крапіва. *Р., сб., 324.*

1193. Ляцеў лютар, сеў на калютар, пытаецца ў кохтаркі: «Дзе твае пыхтаркі?»—«Істрыкалі ў горадзе».

Квахтуха з куранятамі ў крапіве і каршун. *Д., 86.*

1194. У маці дваццаць дзетак. Усе дзеткі-адналеткі.

Курыца з куранятамі. *1959, Гом.*

1195. Саламяная ралля, белае семя, а жывы ўсход.

Кураняты. *Р., сб., 331.*

1196. У адной дзежцы два хлебцы.

Яйцо. *Нк., 23.*

1197. У адной дзежачцы два цесцічкі.

Яйцо. *Н., 19.*

1198. У адной лыжцы двайное цеста.

Яйцо. *Рп., 353.*

1199. У беленькай бочцы два розныя півы.

Яйцо. *F., 471.*

1200. Ёсць бочка — два трункі, без гвазда, без дзюркі.

Яйцо. *Р., сб., 320.*

1201. Поўна бочачка (дзежачка) віна, нідзе дзірачкі няма.

Яйцо. *Нк., 23; Л., 35; Р., сб., 328; Dub., 260; Ш., 9, Леп. п.; 1949, Кір.; 1959, Леп.; 1960, Нясв.*

1202. Поўна дзежачка віна, а ні верху, а ні дна.

Яйцо. *1960, Нясв.*

1203. Ні дзірачкі, ні канца — поўна бочачка вінца.

Яйцо. *Н., 19.*

1204. Стаіць бочка без дна, а поўна віна.

Яйцо. *Р., Мат., 90, Кобр. п.*

1205. Кругла бочачка, без дна і яна поўна віна.

Яйцо. *1948, Кобр.*

1206. Поўна бочачка віна да й замочка няма.

Яйцо. *Р., сб., 328; 1950, Хойн.*

1207. Без абручоў, без дна поўна бочка віна.

Яйцо. *F., 471.*

1208. Без абручка, без дна нідзе дзірачак няма.

Яйцо. *«Зорка», 1959, № 19.*

1209. Коціцца барыльца ні дна, ні рыльца.
Яйцо. *Ш., 499, Гом. п.*

1210. Без варонкі, без дна, поўна бочка віна.
Яйцо. *Pietk., 449; F., 471; Гт., 300, Брэсц. п*

1211. Ані шпунта, ані дна, поўна бочачка віна.
Яйцо. *Нк., 23; Б., 174.*

1212. Ні дзірачкі, ні дзянца, поўна бочачка вінца.
Яйцо. *М. в., 161; Зн., 30, Маг. п.*

1213. Ні дзірачкі, ні канца, поўна бочачка вінца.
Яйцо. *Д., 96.*

1214. Стаіць бочачка, ні дна, ні вочачка.
Яйцо. *Р., сб., 332.*

1215. Ёсць бочка без цвіка, без дзіркі.
Яйцо. *Ш., 6, Віл. п.*

1216. Ні дзвярэй, ні вакна, поўна бочачка віна.
Яйцо. *Ш., 499.*

1217. Коціцца бочка, няма ёй сачочка.
Яйцо. *1949, Кір.*

1218. Праз (цераз, скрозь) сцену вала пякуць.
Яйцо. *F., 471; Нк., 23; М. в., 160; Д., 96; 1963, Маладз.*

1219. Беленькае, кругленькае, у сярэдзіне жоўценькае.
Яйцо. *Б., 174.*

1220. Косці лубяныя, лубы касцяныя, усходы жывыя.
Яйцо. *Нк., 23.*

1221. Паглядзець — кругла, укусіць — крэпка, кінуць-рынуць не можна.
Яйцо. *Нк., 23.*

1222. Маленькае, кругленькае, а калом не падважыш.
Яйцо. *Рп., 348.*

1223. З белага каменя, з жоўтага воску, адазваўся кавалер на ўсю нашу вёску.
Яйцо. *F., 471.*

1224. Пад печкай лукашы, хто ведае, нікому не кажы.
Яйца. *Нк., 23.*

1225. Упадзе бочка з гары, ніякі плотнік не падладзіць.
Яйцо. *1965, Слон.*

1226. Пад лядком, пад лядком стаіць чашачка з мядком.
Яйцо. *1946, Староб.*

1227. Ходзіць князь па горадзе, носіць два бліны на барадзе.
Певень. *Н., 18.*

1228. Ходзіць цар па градзе, носіць блін у барадзе.
Певень. *1960, Брасл.*

1229. Ідзе пан па горадзе, нясе дзве аладкі на борадзе.

Певень. *1965, Навагр.*

1230. Жыў дзед на горадзе, два бліны ў борадзе, а чвэрць мяса на галаве.

Певень. *Р., сб., 321.*

1231. Ходзіць пан па горадзе, носіць бліны на борадзе, кусок мяса на галаве.

Певень. *Нк., 22.*

1232. Ходзіць цар па гародзе, носіць два бліны ў бародзе, а трэці на галаве.

Певень. *Р., сб., 334.*

1233. Выходзіць прарок днём і ўночы, на ём шаты залацісты, вельмі размаіты — не тканы, не шыты.

Певень пяе. *Ј., 10.*

1234. Устаў прарок з белага камня, як стаў прараканці, сталі людзі мёртвыя ўставаці.

Певень. *Б., 172.*

1235. Нарадзіўся прарок з-пад белага камня, стаў прарок прараканці, сталі людзі з мёртвых уставаці.

Певень. *Ш., 496, Ігум. і Свянц. п.*

1236. Нарадзіўся прарок з белага каменя, з жоўтага воску, стаў прарок прараканці, сталі людзі дзверы адчыняці.

Певень. *1911—1912, Сакольскі п.*

1237. Ходзіць салдат па гораду, нясе бліноў пад бораду, ідзе і пяе, на галаве кусок мяса нясе.

Певень. *Б., 172.*

1238. Ход паненскі, голас анельскі, рана ўстае, усіх абуджае.
Певень. *F., 479.*

1239. Усіх я ў пору буджу, хоць часоў не ваджу.
Певень. *1946, Староб.*

1240. Узбег на двор, закрычаў, як конь, надуўся, як мех, стаў белы, як снег.
Певень. *Р., сб., 318.*

1241. Не яздок, а са шпорамі, не стораж, а ўсіх будзіць.
Певень. *1959, Гом.*

1242. У нашай вёсцы кавалер, над усю вёску афіцэр.
Певень. *F., 479.*

1243. Начальнік не вялікі, а доўга спаць не вяліць.
Певень. *1959, Гом.*

1244. Не кароль, а ў кароне, не гусар, а пры шпорах, гадзінніка не мае, а час знае.
Певень. *1959, Гом.*

1245. Турак маніць курак.
Певень. *Н., 18; Зар., 14.*

1246. Повен хлеў авец, адзін баран бляець.
Певень і куры. *Д., 91.*

1247. Стаіць хлявец нагнат авец, між тых авец баран бляець.
Певень і куры. *Д., 91.*

1248. Два разы радзіўся, ні разу не ксціўся, а людзі верадь.
Певень. *Р., сб., 320.*

1249. Не мыўся, не хрысціўся, а як запяе, так і чорт уцячэ.
Певень. *Гт., 298, Дзісн. п.*

1250. Два разы радзіўся, разу не хрысціўся, а чорт яго баіцца.
Певень. *F., 479.*

1251. Два разы радзіўся, ні разу не хрысціўся, і чорт баіцца.
Певень. *Д., 91.*

1252. Два разы раджаецца, сам не хрысціцца, а чорт баіцца.
Певень. *Р., сб., 320.*

1253. Заваліўся дуб на ўвесь свет, а на канцы — два кляўцы.
Певень. *Нк., 22.*

1254. На лапатках ходзіць, рогам траву есць.
Гусь. *F., 471.*

1255. Лапатаю ходзіць, а рогам траву есць.
Гусь. *Ш., 489, Віл. п.*

1256. Рогам есць, на лапатах ходзіць.
Гусь. *Нк., 22.*

1257. На лапатах ходзіць, носам есць.
Гусь. *Д., 83.*

1258. Бела, як снег, лапатамі ходзіць.

Гусь. *Р., Мат., 32, Слон. п.*

1259. Белая, як снег, пузатая, як мех, на лапатах ходзіць, рогам есць.

Гусь. *Р., сб., 318; F., 471; 1959, Гом.*

1260. Белае, як снег, напіханае, як мех, лапатамі ходзіць, а рогам есць.

Гусь. *1960, Капатк.*

1261. Надута, як мех, белая, як снег, лапатай ходзіць, рогам есць.

Гусь. *1948, Кобр.; 1948, Брэсц.*

1262. Белая, як снег, надулася (дзмецца), як мех, а пад вароты лезе.

Гусь. *F., 471; Dyb., 159.*

1263. Белы, як снег, надуўся, як мех, гагоча, рагоча, як жарабок.

Гусь. *Нк. 22.*

1264. Белы, як снег, набіты, як мех, у дом ідзе, як жарабец іржэ.

Гусь. *Д., 83.*

1265. Выйдзе на поле, надзьмецца, як мех, заржэ па-конску, залапоча не па-польску.

Гусь. *Нк., 23.*

1266. Заржаў, як конь, надуўся, як мех, белы, як снег.

Гусак. *1960, Брасл.*

1267. Сама пані пышна, на лапатах выйшла, рогам воду піла.
Гусь. *Б.. 168.*

1268. Па-грэчаску гаворыць, на лапатах ходзіць, ражком есць.
Гусь. *F., 471.*

1269. Шыла-бадзіла па хаце хадзіла, па-нямецку гаварыла.
Гусь. *Ш., 10, Леп. п.*

1270. Шыдла-матавідла па-французску гаварыла, па-нямецку закідала, рогам траву ела.
Гусь. *F., 471.*

1271. Шардзюрыла-бардзюрыла па-нямецку гаварыла, рогам траву ела.
Гусь. *Р., сб., 335.*

1272. Ішло бадзіла, па хаце хадзіла, па-нямецку гаварыла.
Гусь. *Р., сб., 322.*

1273. Ішла, бадала, па верху лееу лятала, па-нямецку гаварыла, носам траву касіла.
Гусь. *1949, Акцябр.*

1274. Што такое ў чырвоных ботах рогам воду п'е?
Гусь. *F., 471.*

1275. Стаіць бык на ляду і п'е рогам ваду.
Гусь. *Ш., 489, Сваяц. п.*

1276. Выйшаў на двор, крыкнуў, як вол, а сам на лапатках ходзіць.
Гусь. *Ш., 489, Сваяц. п.*

1277. Белы, як снег, глабоўць у воду.

Гусь. *Д., 83.*

1278. Прыехала войска, зайграла па-польску; ні конь, ні кабыла, ні лысы жарабок, прыбег на двор, загагатаў, як конь.

Гусь. *Нк., 22.*

1279. Каціліся біруліцы па вуліцы, ускаціліся на двор, надуліся, як мех, белы сталі, як снег.

Гусі. *Р., сб., 323.*

1280. Шэрыя харомы, краснае падвор'е.

Гусь. *Д., 83.*

1281. Семдзесят адзежак і ўсе без засцежак.

Гусь. *F., 471.*

1282. Лата на лаце, а шва не знаці.

Гусь. *Б., 168.*

1283. Выйшаў вол, заірзаў, як конь, надзьмуўся, як мех.

Гусак. *Рп., 345.*

1284. У вадзе купаўся, ды сухім застаўся.

Гусь. *1959, Гом.*

1285. Цэлы дзень у рэчцы купаецца, а на бераг выйдзе суheнькі.

Гусь. *1959, Гом.*

1286. На лапатках ходзіць.

Качка. *1949, Акцябр.*

1287. Жоўтае родзя, на лапатках ходзя.

Гусянё. *1963, Маладз.*

1288. Шуплем есць, лапаткаю ходзіць.

Качка. *F., 472.*

1289. Узыйшоў на двор, заржаў, нібы конь.

Індзюк. *Нк., 22.*

1290. Лёгка з зямлі паднімеш, а далей сваёй рукі не кінеш.

Птушынае пяро. *1961, Добр.*

1291. Найшла мяне маці, згубіла мяне маці, паднялі мяне людзі, панеслі на торг таргаваці, адрэзалі мне галаву: а сам белы, як снег, адным рогам траву есць. Стаў я піць і ясна гаварыць.

Гусінае пяро. *Ш., 489, Леп. п.*

1292. Зрэжам галаву, вымем сэрца, дадзім папіць, стане гаварыць.

Гусінае пяро. *1969, Пін.*

1293. Цяжало не цяжало, а цераз хату не перашыбнеш.

Пяро. *Рп., сб., 335.*

1294. Не лёгкае і не цяжкае, а праз хату не перакінеш.

Пяро. *Рп., 361.*

1295. Ценька, маленька праз хату не перакінеш.

Пярына. *F., 479.*

1296. Цяжола, не цяжола, а цераз ізбу не перакінеш.

Пяро. *J., 10.*

1297. Кінуць, то кінеш, ды праз хату не перакінеш.

Пяро. *Нк., 23.*

1298. Бяжыць пад рукою, нібыта жывое, толькі не лятае, хоць назва такая.

Пяро. *Рп., 365.*

1299. Ляціць жук — у воду шпук! Вада не ўзмуцілася, казяўка не ўтапілася.

Пяро. *Нк., 23.*

1300. Стары і малы падымае, а цераз забор не перакіне.

Пух. *1950, Брагг.*

11. Зак. 262

1301. За лесам, лесам коні (жарабяты) ржуць, а дадому не йдуць.
Ваўкі. *Р., Мат., 93, Слон. п.*

1302. За лесам жарабяты ржуць, а дадому не бягуць.
Ваўкі. *F., 485.*

1303. У лесе, у лесе два жарабёнкі ржуць, дамоў не ідуць.
Ваўкі. *Р., сб., 319.*

1304. Стаіць баран у полі, просіць долі: «Дайце долю, над усімі волю».
Воўк. *Гт., 296, Навагр. п.*

1305. Пятро бяжыць, а варона крычыць.
Воўк. *Б., 167.*

1306. Жыве Юхім, чорт ведае за кім, жыве ў Слабадзе, чорт ведае дзе.
Воўк. *Нк., 23.*

1307. Ідзе тота каля плота, пытаецца ў жмуры: «Ці дома ляпа?»
Воўк, кот, сабака. *Ш., 488, Сен. п.; W., 6, Віл. п.; 1960, Асіп.*

1308. Ходзіць тота каля плота, пытае ў жмуркі: «Ці дома ляпка?»
Воўк, кот, сабака. *1963, Маладз.*

1309. Ішоў тота каля плота, пытаецца ў Зосі: «Ці ў двары вашы?»
Воўк і сабака. *Н., 15.*

1310. Лезе тота пад варота, пытае ў ляпеты: «Ці дома панура?»
Воўк, сабака, свіння. *Р., сб., 325; Pietk., 451.*

1311. Прыйшла цямнота, пытаецца ў клапота: «Ці дома кугіка?»
Воўк, сабака, свіння. *F., 485.*

1312. Прыйшла кракота пад новы варота, пытае лапэты: «Ці дома панура?»
Воўк, сабака і свіння. *Р., Мат., 87, Кобр. п.*

1313. Прыйшоў чачота пад каралеўскія варота, пытаецца ляпёты: «Ці панура дома?»
Воўк, сабака, свіння. *F., 484.*

1314. Ішоў тота каля плота, пытаецца ў зажмурыхі: «Ці дома кляпа?»
Воўк, кот, сабака. *F., 485.*

1315. Ходзіць лота каля плота, пытаецца ў жмуркі: «Ці дома ляпа?»
Воўк, кот, сабака. *Р., сб., 334.*

1316. Ішоў хто-та каля плота, пытаўся ў жмуры: «Ці ёсць дома ляпа?»
Воўк, кошка, сабака. *Нк., 23.*

1317. Ішоў тота каля балота, пытаў у цяпы: «Ці дома ляпа?»
Воўк, кот, сабака. *Д., 81.*

1318. Сам белы, хвост шэры, паджарыя лыткі.
Заяц. *Нк., 23.*

1319. Летам жоўценькі, а зімой беленькі.
Заяц. *1951. Мір.*

1320. Улетку шэранькі, узімку беленькі, доўгія вушы мае, хутка ў лес уцякае.
Заяц. *1946, Староб.*

1321. На гару бягом, а з гары кувырком.
Заяц. *1950, Хойн.*

1322. Невялікі, рыжаваты, а хвост доўгі і калматы, на дрэве жыве і шышкі грызе.
Вавёрка. *Рп., 349.*

1323. Хоць малы ён, часам з кулак, але ў рукі не возьмеш ніяк.
Вожык. *1946, Староб.*

1324. Пад соснамі, пад ёлкамі ляжыць клубок з іголкамі.
Вожык. *Рп., 350.*

1325. У краўца іголак сотня, але з ніткай аніводнай.
Вожык. *1961, Добр.*

1326. Не кравец, а ўсё жыццё з іголкамі ходзіць.
Вожык. *1960, Лоеў.*

1327. Паўзун паўзе і іголкі вязе.

Вожык. *1968, Краснап.*

1328. Не рыба, а плавае; не конь, а ходзіць; не пілка, а рэжа.

Бабёр. *1946, Староб.*

1329. Які звер астаўляе птушыныя сляды?

Выдра. *1950, Хал.*

1330. Хто два разы раджаецца?
Птушка. *1959, Гом.*

1331. Хто два разы на свет родзіцца?
Птушка. *Dyb., 168.*

1332. Што гэта два разы радзіцца, а раз памірае?
Птушка. *F., 479.*

1333. Два разы нараджаецца, адзін раз памірае.
Птушка. *Рп., 358.*

1334. Два разы радзіўся, ані разу не хрысціўся.
Птушка. *Нк., 22.*

1335. Без страху, без гора пралятае рэкі і мора.
Птушка. *1965, Навагр.*

1336. Без рук, без сякеры, а хату зробіць.
Птушка. *1969, Стол.*

1337. Без рук, без сякеры зроблена хата і дзверы.
Гнявдо. *1911—1912, Сакольскі п.*

1338. Без сякеры і цвікоў пабудавалі круглы дом.

Гняздо. *1961, Добр.*

1339. Без рук, без тапарэнька збудавана ізбэнька.

Гняздо. *Dyb., 168; 1964, Смарг.*

1340. Ляцеў птах цераз папоў дах, сеў на варотах у чырвоных ботах.

Бусел. *Б., 167.*

1341. Даўганосы, даўганогі прыляцеў з далёкай дарогі.

Бусел. *1965, Іў.*

1342. Даўганогі, даўганосы ловіць жаб на беразе.

Бусел. *1969, Стол.*

1343. У чырвоных ботах, захаваўшы лапкі, ходзіць па балоце, спрытна ловіць жабкі.

Бусел. *«Зорка», 1959, № 21.*

1344. Чорнае, не чарнёна.

Воран. *1946, Слуцк.*

1345. Не чарнёны, а ўвесь чорны.

Воран. *Нк., 23.*

1346. Адзін ляціць, другі крычыць, адзін да аднаго прыбліжаюцца, адзін у аднаго пытаюцца.

Вароны. *Нк., 23.*

1347. Белы бок і чорны бок па-нямецку кверху скок!

Сарока. *Нк., 23.*

1348. Чорны бок, белы бок па-нямецку скача.

Сарока. *Р., сб., 335.*

1349. Ляціць — вышэй лесу, упадзе — ніжэй травы.

Сарока. *Н., 23.*

1350. Пунька маленькая, а мост доўгі.

Сарока. *Р., сб., 329.*

1351. Доўша затыка за хлеў.

Сарока. *Р., Мат., 89, Кобр. п.*

1352. Даўжэй клеці зашчэпка (завал).

Сарока. *Нк., 23; Р., сб., 320.*

1353. Шапачка маленькая, камізэлечка нятканая, кафтанік ра́бенькі, ды ходзіць босенькі.

Верабей. *Dyb., 165.*

1354. Спераду шыльца, ззаду вільца, а пасярэдзіне беленька палаценца.

Ластаўка. *F., 474.*

1355. Спераду шыльцы, ззаду вільцы, наверсе чорнае сукно, падыспадам белае палатно.

Ластаўка. *1946, Староб.*

1356. Шыла-матавіла па небе хадзіла, ключы пагубіла, а зорачка з месячыкам укралі.

Ластаўка. *Р., Мат., 93, Слон. п.*

1357. Шатавіла-матавіла пад нябессем хадзіла, па-нямецку гаварыла, па-французску адказвала.

Ластаўка. *Б., 170.*

1358. Шатавіла-матавіла па мору хадзіла, па-нямецку гаварыла, спераду шылы, ззаду вілы, пад сподам палатно, зверху сукно.

Ластаўка. *Ш., 12, Дзвін. п.*

1359. Шатавіла-батавіла па-нямецку гаварыла, па-татарску заварачывала, спераду шыльца, ззаду вільца, падыспадам палатно, а наверсе аксаміт.

Ластаўка. *М. в., 161.*

1360. Маленькі канёк за морам бываў, спераду шыльца, ззаду вільца, на грудзях бела палаценца.

Ластаўка. *1963, Маладз.*

1361. Я птушынага роду, так мяне называлі, маю шыла-матавіла, на плячах кроў нашу, а хто не знае маю загадку — адгадаць прашу.

Ластаўка. *Р., сб., 337.*

1362. Лысая кабыла горад малявала, сеўшы панявала.

Ластаўка. *Нк., 23.*

1363. Лысенькая кабылка гліны навазіла, хатку збудавала, сама жыць не стала.

Ластаўка. *Нк., 23.*

1364. На алешнічку, на бярэзнічку таратайка брэша.

Дзяцел. *Б., 168.*

1365. Сам саўрас, конь падлас, саха касцяная, поле дзеравянае, дзень арэ, ноч плача.

Дзяцел. *Р., сб., 330.*

1366. Ехаў тота, прывязаў каня да плота, не так да дзяўчат, як да старых баб.

Дзяцел. *F., 468.*

1367. Стаіць старычок у яго красны каўпачок.

Дзяцел. *Д., 84.*

1368. Адгадайце, што за лекар у лясах жыве спрадвеку, лечыць летам і зімой дрэвы дзюбаю сваёй.

Дзяцел. *1967, Валож.*

1369. Не доктар, а дрэвы лечыць.

Дзяцел. *Рп., 349.*

1370. За борам баранскім, за лесам лясанскім плакала каралеўна голасам панскім.

Зязюля. *F., 486.*

1371. Удзень аддыхае, а ўночы лятае.

Сава. *Рп., 353.*

1372. Удзень спіць, а ўночы крычыць.

Сава. *1968, Краснап.*

1373. Плача, як дзіця, а жыве ў лесе.

Сава. *1961, Светл.*

1374. Плача баба на ўвесь лес, а па ёй ніякі бес.

Сава. *1962, Светл.*

## РЫБЫ

1375. Ва ўсіх дзетак адзенне з манетак.

Рыба. *1969, Пін.*

1376. Скубу не пер'е, ем не мяса.

Рыба. *F., 480; Д., 92.*

1377. Кіну не палку, заб'ю не галку, скубу не пер'е, ем не мяса.

Рыба. *Р., сб., 323; М. в., 159; Ш., 8, Леп. п.; Гт., 239, Дзісн. п.*

1378. Шыбну, ды не палку, заб'ю, ды не галку, скубну, ды не пер'я, ем, ды не мяса.

Рыба. *Р., сб., 335.*

1379. Круць-верць — у чарапочку (у гаршку) смерць.

Рыба. *Д., 92; Р., сб., 324; Бел., 1964, № 4, 25, Лун.; 1960, Чач.*

1380. Круць-верць — пад чарапочкам смерць.

Уюн. *Ш., 488, Гом. п.; 1950, Хойн.*

1381. Круць-верць — на патэльні смерць.

Рыба. *Рп., 347.*

1382. На тым свеце жывы, а на гэтым мёртвы.

Рыба. *Р., сб., 327.*

1383. Уехала пані ў сад, не выехала назад.

Рыба ў нераце. *Р., Мат., 89, Кобр. п.*

1384. Зваў мяне цар на абед, на вячэру: «Мая жонка не такоўская, сама не ідзе, дзяцей не вядзе, па зямлі не ходзіць, слядоў не робіць».

Рыба. *Нк., 24.*

1385. Крыллі ёсць, ды не лятае; ног няма, ды не дагоніш.

Рыба. *1959, Гом.*

1386. Па падлавіцу рабыя цяляткі ходзяць.

Рыба пад ільдом. *Ш., 497, Свянц. п.*

1387. Прасіў цар царыцу: «Прыйдзі на вечарніцу, зямлёю не ідзі, на неба не глядзі».

Рак і рыба. *F., 479.*

1388. Прасіў цар царыцу да сябе на вячоркі, а яна кажа: «На неба не гляджу, па зямлі не хаджу, да цябе не пайду».

Рак і рыба. *F., 480.*

1389. Жывы — чорны, памрэ — чырвоны.

Рак. *Р., сб., 321; 1946, Слуцк.*

1390. Як жывы, дык чорны, як памрэ, дык чырвоны.

Рак. *W., 6; Ш., 496, Віл. п.; Р., сб., 336.*

1391. Пакуль жыў — чорны, памрэ — стане красны.

Рак. *Нк., 24.*

1392. Што па смерці найпрыгажэйша?

Рак. *F., 480.*

1393. Хто жывы чорны, а па смерці чырвоны?
Рак. *F., 479.*

1394. Што гэта ідзе ў лазню чорна, а з лазні чырвона?
Рак. *F., 480.*

1395. Ідзе ў лазню чорны, а з лазні красны.
Рак. *Д., 91; Нк., 24.*

1396. Як у баню ідзе, дык чорны, як з бані, то красны.
Рак. *1959, Леп.*

1397. Чоран, як воран, у баню папаў — чырвоны стаў.
Рак. *1962, Кап.*

1398. Ногі многі, вусы доўгі.
Рак. *F., 479.*

1399. Ногі многія, вусы доўгія, а хвосцікам брык-брык-брык.
Рак. *Dyb., 167.*

1400. Ног многа, вусы длінны, а хвосцікам ляп ды ляп.
Рак. *Ш., 496, Віл. п.*

1401. Ногі ў ногі, вусы доўгі, па хвасту шлёп, шлёп.
Рак. *Д., 91.*

1402. Ног многа, вусы доўгія, а хвосцікам пахліпвае.
Рак. *Д., 91.*

1403. Ножанкі ў руках, шарсцінка ў зубах.
Рак. *1960, Нясв.*

1404. Хто задам ходзіць?

Рак. *1965, Кап.*

1405. Не каваль, а з абцугамі (кляшчамі).

Рак. *1946, Слуцк.; Рп., 349; 1946, Староб.*

1406. Без рук, без ног, без зубоў за цела кусае.

П'яўка. *Р., Мат., 89, Кобр. п.*

1407. Без моста, без коста, без носта ўсю канаву пераплыве.

П'яўка. *1946, Староб.*

1408. Без костачкі, без хрэстачкі ўсё мора пераплыве.

П'яўка. *Р., Мат., 91, Кобр. п.*

1409. Без касцей, без мазгоў пераплыве мора.

П'яўка. *Б., 171.*

1410. Чорны, малы хоць якое мора пераплывае.

П'яўка. *Б., 171.*

1411. Хто на сабе хату носіць?

Слімак. *1959, Гом.*

## ГАДЫ, ПАУЗУНЫ

1412. Без рук, без ног паўзе па баткох.

Чарвяк. *F., 467.*

1413. Без рук, без ног, а па зямлі паўзе.

Чарвяк. *Рп., 344.*

1414. Працуе цэлы век, а не чалавек.

Чарвяк. *Л., 35.*

1415. Без рук, без ног, а поўзае.

Гадзюка. *Ш., 5, Віл. п.; Р., сб., 317; 1946, Староб.*

1416. З-за куста цыпуля, за нагу шчыпуля.

Змяя. *Ш., 491, Свян. п.*

1417. А з-пад куста шыпуляе і за ногу шчыпуляе.

Вуж. *F., 475.*

1418. З куста шыпуля, ды за ногу шчыпуля.

Вуж. *Dyb., 168.*

1419. Бяжыць — сіпіць.

Змяя. *Д., 84.*

1420. Малое, доўгае ўвесь свет пройдзе.

Вуж. *Б., 173.*

1421. Сівенькі конік, не паедзеш, не пагладзіш.

Вуж. *1946, Староб.*

1422. Ішоў па дарозе, ляжыць зло ў зле, узяў зло і выкінуў зло са зла.

Змяя і мурашнік. *Д., 84.*

1423. Хоць малая, ды дужая: з сабой хату носіць.

Чарапаха. *Рп., 355.*

## НАСЯКОМЫЯ

1424. Што (хто) над намі (дагары) уверх нагамі?

Муха. *F., 476; W., 10, Леп. п.; 1963, Маладз.; 1948, Кобр.; 1946, Староб.*

1425. Над намі ўверх нагамі ходзяць, не страшацца, нікога не баяцца.

Мухі. *1959, Гом.*

1426. Няма грэху, ды павешаны.

Мухі на столі. *Нк., 24.*

1427. Ходзіць па саломе, не шастае.

Муха. *1949, Бабр.*

1428. Цэлы дзень лятае, усім назаляе, а ноч настане, тады перастане.

Муха. *Рп., 355.*

1429. Цэлы дзень лятаю, усім дакучаю, а ноч прычакаю, тады адпачываю.

Муха. *1946, Староб.*

1430. Чырвона карыта да сцяны прыбіта.

Прусакі. *Р., Мат., 88, Кобр. п.; F., 479; 1965, Навагр.*

1431. Поўна хата жаваронкаў.

Прусакі. *F., 479.*

1432. Ёсць у мяне рыжанькі канёк, пабег у равок, ні яго здагнаць, ні следу спазнаць.

Прусак. *Р., сб., 321; 1959, Гом.*

1433. Ходзіць над намі дагары нагамі.

Прусак. *Dyb., 163.*

1434. Паміж гор ляжыць Рыгор і вусамі водзіць.

Прусак у шчыліне. *Нк., 24.*

1435. Рыжанькі канёк пабег у равок.

Прусак у шчыліне. *Нк., 24.*

1436. Над намі —кверху нагамі.

Таракан. *Д., 94.*

1437. Чорненька(я), маленькая калоду паверне (пераверне, варочае, качае).

Блыха, мурашка. *Б., 167; Pietk., 449; Р., сб., 335; 1960, Капатк.; 1960, Нясв.; 1962, Светл.*

1438. Чорненькая, маленькая калоду паварушыць.

Блыха. *F., 465.*

1439. Чорненькая, маленькая скакуха, а колоду варочае.

Блыха спаць не дае чалавеку. *J., 12.*

1440. Маленька, гарбаценька краж паверне.

Блыха. *Б., 167.*

1441. Маленькае зерне калоду верне.

Блыха. *Р., сб., 325.*

1442. Чорненькі мужычок паварачвае на бачок.

Блыха. *Нк., 24.*

1443. Чорненькі, маленькі, а бальшога пана падымае.

Блыха. *Нк., 24.*

1444. Чарнюсенькае, малюсенькае караля падымае.

Блыха. *F., 465.*

1445. Сама з ноль, а падымае пяць пудоў.

Блыха. *Д., 81.*

1446. Меншая за пчалу, а найбольшую калоду пераверне.

Блыха. *1959, Гом.*

1447. Мой конь-варанец, не трэба ні пуга, ні дубец (бізунец).

Блыха. *Р., сб., 326; Д., 81.*

1448. Ёсць у мяне варанец — не трэба ні пуга, ні дубец.

Блыха. *Р., сб., 321; 1959, Гом.*

1449. Што за варанец, калі не патрэбны ні пуга, ні дубец?

Блыха. *Рп., 355.*

1450. Е варанец — не трэба ні пуга, ні дубец: куды хоча, туды і скоча.

Блыха. *Ш., 487, Ігум. п.*

1451. Чорны конь — ні сесці, ні пагладзіць.

Блыха. *Д., 81.*

1452. Конік вараненькі — ні сесці, ні пагладзіць.

Блыха. *W., 6, Віл. п.*

1453. Мой конік маленькі, не паймаеш, не пагладзіш.

Блыха. *Нк., 24.*

1454. Мой конь-варанец ускочыў у равец: няма ні каня, няма ні сляда.

Блыха. *Нк., 24.*

1455. Чорная шуба па хаце скача.

Блыха. *Р., Мат., 91, Слон. п.*

1456. Па полу іскра скача.

Блыха. *Гт., 299, Дзісн. п.*

1457. Скочыў чарнец цераз равец — ні следу яго.

Блыха. *Б., 167.*

1458. Як узялі шыпулі шыпуліць, не было дзе плячэй прытуліць.

Блыха. *F., 465.*

1459. Без станка і без рук, а кросны тчэ.

Павук. *Рп., 344.*

1460. Пад бэлькаю асмаляны верабей сядзіць.

Павук. *F., 478.*

1461. Сіта без рук звіта.
Павуцінне. *Р., Мат., 91, Кобр. п.*

1462. Сіта не рукамі звіта.
Павуцінне. *1959, Леп.*

1463. Вісіць сіта, не рукамі (без рук) віта.
Павуцінне. *Нк., 24; Р., Мат., 94, Слон. п.*

1464. Вісіць світа, не сваімі рукамі шыта.
Павуцінне. *1949, Кір.*

1465. На сцяне вісіць сіта, не рукамі звіта.
Павуцінне. *1946, Староб.*

1466. На столі ў куточку вісіць сіта, не рукамі звіта.
Павуцінне. *1959, Гом.*

1467. На полцы, у вуголцы ляжыць сіта, ды не рукамі шыта.
Павуцінне. *Dyb., 168.*

1468. Сіта, віта, круглавіта, хто адгадае, вялікі розум мае.
Павуцінне. *Б., 171.*

1469. У нас перад шкафам сіта, не рукамі віта.
Павуцінне. *Д., 90.*

1470. Нітак многа, а ў клубок не зматаеш.
Павуцінне. *Рп., 335.*

1471. Хто мяне заб'е, той сваю кроў разалье.

Камар. *F., 472.*

1472. Хто мяне ўб'е, той людскую кроў пралье.

Камар. *Pietk., 450.*

1473. Доўгі насок, тонкі галасок, хто яго заб'е, той сваю кроў пралье.

Камар. *Pп., 345.*

1474. Ляцеў птах, хто яго заб'е, той сваю кроў пралье.

Камар. *Б., 169.*

1475. Ляціць птах на доўгіх нагах, хто яго заб'е, той сваю кроў разалье.

Камар. *F., 472.*

1476. Ляцеў птах на сямі нагах, сеў на магіле: «Ах, божа мой мілы, хто мяне заб'е — сваю кроў разалье».

Камар. *F., 472.*

1477. Ляціць пціца, нос, як спіца, хто яе заб'е — кроў сваю разалье (пралье).

Камар. *Д., 87; W., 6, Віл. п.; Р., сб., 324.*

1478. Сёмага мая выляцела птушка злая, хто яе ўб'е — сваю кроў пралье.

Камар. *Ш., 492, Свянц. п.*

1479. Вылецела птушка ў месяцы маі, хто яе заб'е, той сваю кроў пралье.

Камар. *1946, Староб.*

1480. Ляціць конь заморскі, іржэ па-польскі, а хто яго заб'е — сваю кроў пралье.

Камар. *Н., 16.*

1481. Маленькі, удаленькі, хто яго заб'е, той сваю кроў пралье.

Камар. *1949, Кір.*

1482. Стаіць Ціт у траве па калена ў крыве.

Камар. *1950, Хойн.*

1483. Ляцеў цень цераз Пятроў дзень, сеў на пень да і гаворыць: «Быў я ў Ельні, быў я ў кельні і манашак еў».

Камар. *Д., 87.*

1484. Ляцеў птах на шасці нагах, сеў на магіле і сказаў: «Ой, божа мой мілы, ма́ю ўладу над царом, толькі не маю ўлады, што ў вадзе радзіцца».

Камар. *Б., 169.*

1485. Ляцеў птах цераз божы дах, сеў на тыну, запеў таніну: «Божа мой, божа, над усімі я волен: і над царамі, і над панамі, толькі няволен, што белая рыба ў моры».

Камар. *Д., 86.*

1486. Сядзела пціца на дубу, абчышчалася, выхвалялася: «Ела цара ў Маскве, караля ў Літве, дзіця ў колбе, адной белай рыбіцы не ела ў вадзе».

Камар. *Р., сб., 331.*

1487. Тонкі галасок, доўгі насок.

Камар. *«Зорка», 1959, № 22.*

1488. Ляціць — вуржыць.

Жук. *Ш., 6, Віл. п.*

1489. Ляцiць — вые, сядзе — рые.

Жук. *F., 486; Р., сб., 324; Гт., 298, Дзісн. п.; Ш., 11, Дзвін. п.; 1946, Слуцк.; 1949, Кір.; 1960, Пух.*

1490. Як ляцiць, дык вые, а сядзе, дык рые.

Жук. *Л., 62.*

1491. Ляцiць — вые, падзе — рые.

Жук. *1949, Акцябр.*

1492. Ляцiць — буiць, а сядзе, то рые.

Жук. *F., 486.*

1493. Ляцiць, бурчыць, у зямлi тырчыць.

Жук. *Б., 168.*

1494. Ляцiць — крычыць, упадзе на зямлю — зямлю рые.

Жук. *Ч., 308, Бельск. п.*

1495. Чорны, ды не воран, шэсць ног без капыт, як iдзе, то зямлю рые.

Жук. *F., 486.*

1496. Чоран воран, ды не птах, шэсць ног, ды не звер.

Жук. *Рп., 355.*

1497. Чоран, ды не воран, рагат, ды не бык, шэсць ног без капыт, iдзе — зямлi не дзярэ.

Жук. *Ш., 490, Свянц. п.; Dyb., 167.*

1498. Чоран, ды не воран, рагат, ды не бык, шэсць ног без капыт, ляцiць — вые, сядзе — зямлю рые.

Жук. *1959, Гом.*

1499. Чоран воран, ды не птах, з крыллямі, ды не сокал, шэсць ног без капыт, а раве, як бык.

Жук. *Ш., 491, Віл. п.*

1500. Чоран, ды не воран, рагат, ды не бык, сем ног без капыт; ляціць, як мядзведзь, а сядзіць, як капна, рые, як свіння.

Жук. *Д., 85.*

1501. Ляцела пакуса, мяса ні куса, чоран, як воран, раве, як мядзведзь.

Жук. *М. в., 160; Зар., 8.*

1502. Шэсць ног без капыта, два рогі, як у быка, да не бык.

Жук. *Р., сб., 335; Ш., 7, Віл. п.*

1503. Шэсць ног, ды без капытоў, ёсць рогі, ды нікога не бароў, чоран, ды не воран, ёсць і крылле, ды не птушка.

Жук. *Нк., 24.*

1504. Малое, гарбатае усё мора пераплывае.

Жук. *Б., 169.*

1505. Ішоў рык, ды не бык, шэсць ног без капыт.

Жук. *F., 486.*

1506. Дзяжа мясная, абруч жалезны.

Жукавіна. *Ш., 490, Віл. п.*

1507. На мяжы кулеш бяжыць.

Мурашка. *F., 476.*

1508. За мяжою келіх бяжыць, пайдзеце і вам дадуць.
Мурашка. *F., 476.*

1509. Семсот муляроў змуравалі дом без вуглоў.
Мурашкі. *Рп., 351; 1946, Староб.; 1949, Акцябр.*

1510. Семсот муляроў змуравалі царкву без вуглоў.
Мурашкі. *Ш., 494, Ігум. п.*

1511. Семсот казакоў рубяць хату без вуглоў.
Мурашкі. *1962, Светл.*

1512. Хадзілі мужычкі ў лес без тапароў ды зрабілі хату без вуглоў.
Муравейнік. *Dyb., 163.*

1513. Ішлі цеслі без тапароў, зрубілі каморку без вуглоў.
Мурашкі, мурашнік. *Ш., 494.*

1514. Сем тысяч майстроў зрабілі хату без вакон і без вуглоў.
Мурашкі, мурашнік. *F., 476.*

1515. Сто мільёнаў грабароў зробяць хату без вуглоў.
Мурашкі. *1960, Нясв.*

1516. Сям'я — душ трыста, і багата, ды ўсяго два локці хата.
Муравейнік, вулей. *1965, Воран.; Рп., 353.*

## СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

1517. Дзесяць ног, шэсць вачэй (вок), тры галавы ў адзін бок.

Араты з парай валоў або коней. *Рп., 322; «Ніва», 1957, № 19.*

1518. Усё поле ў піражках.

Поле ўзаранае. *Нuг., 199.*

1519. Мінулы год кароль ехаў, сёлета след відзен.

Забаранаванае поле. *Д., 81.*

1520. Загадаю загадку, закіну за градку, няхай мая загадка ляжыць даналецця.

Азімыя пасевы. *Д., 84; Рп., 322, Н., 16; Зар., 4.*

1521. У зямлю кідаем, не жалеем, на другі год — разбагацеем.

Пасеў. *1959, Гом.*

1522. Усё поле ў матузах.

Межы. *Нuг., 199.*

1523. Усё поле ў вяроўках.

Межы і барозны. *Нк., 25.*

1524. Не мора, а хвалюецца.

Ніва. *Рп., 349.*

1525. Дзве сястрычкі пайшлі ў чарнічкі і самі пачарнелі.
Градкі. *Д., 83.*

1526. Лес сяку, лес вяне, на тым месцы горад стане.
Сенакос. *Ш., 498.*

1527. Я сяку лес, лес вяне, а на тым месцы гара ўстане.
Сенакос. *1959, Гом.*

1528. Граблі гору звярнулі.
Стог. *Ш., 497, Віл. п.*

1529. Лезу, лезу па жалезу, падам куме шапку.
Стог сена. *1946, Жытк.*

1530. З зямлі ўстала — хатай стала, ды гаспадар у ёй не жывы: калі пачнеш адчыняць хату — разбярэш яе па шмату.
Капа сена. *Рп., 346.*

1531. Ваўкі вала з'елі, толькі хвост аставілі.
Разабраны стог сена. *Р., Мат., 87, Кобр. п.*

1532. Поле зялёнае, семя касцяное, як узышло, дык і пайшло.
Сена, яйцо, кураняты. *Р., сб., 328.*

1533. Чатыры чатыранечкі пабеглі ў палянечкі, ды злавілі вутку і пасадзілі ў кутку.
Воз са снапамі. *Dyb., 161.*

1534. Тысячы брацікаў звязаны, адным поясам падпяразаны.
Сноп. *I. I., 1937, № 1, 22; Рп., 338.*

1535. Тысяча братоў адным поясам падпаясаны.

Сноп. *1960, Пух.*

1536. Увесь мір распаясан, адзін староста падпаясан.

Сноп. *Нк., 25.*

1537. На Патужавай гары ляжаць людзі парэзаныя, а галовы павязаныя.

Снапы. *Ш., 497, Віл. п.*

1538. У горадзе пад Быхавам ляжаць людзі падбітыя, у іх морды нябрытыя.

Снапы. *Д., 93.*

1539. Лезу, лезу — не залезу, падам куме шапку.

Сноп, азярод. *1946, Староб.; 1960, Капатк.*

1540. Усё поле ў ладочках (у латках).

Копы. *Р., сб., 318; Д., 87.*

1541. Залатыя горы растуць у летнюю пору.

Копы. *Рп., 345.*

1542. З зямлі ўстала — хатаю стала, і гаспадар ёсць, ды калі стане адкутаваць хату, разбярэ яе па шмату.

Капа збожжа. *Н., 16.*

1543. Усё поле ў дзірачках.

Іржышча. *Ніг., 200; Нк., 25.*

1544. Колькі на небе зорачак, столькі на зямлі дзірачак.

Іржышча. *F., 479; Ч., 316, Бельск. п.; 1963, Смарг.; Б., 171; Р., Мат., 89, Кобр. п.; 1963, Маладз.; 1948, Пруж.*

1545. Колькі на небе зорак, столькі на зямлі дзірак.
Іржышча. *Р., 208; Р., сб., 323.*

1546. На гары, на даліне ўвесь люд пабіты, прыбег пацімкін, узяў кугакала. Садзіся на аўсянічка, бяры пасейнічка, бяры ў рукі страхоту, даганяй пацімкіна, адбірай кугакала.
Ніва, воўк, дзіця, конь, сабака, ружжо. *Р., сб., 326.*

1547. На гары Зажыты ляжаць людзі пабіты, прыйшоў ваўкалака ўзяў кугаку: «А мужа, мой мужа! Садзіся на аўсяніка, бяры асейніка, дагані ваўкалаку, адбяры кугаку!»
Жняя, воўк, дзіця, конь, сабака. *Нк., 10.*

1548. Ляцяць гускі, дубовыя наскі, ляцяць і гавораць: «То-то я! То-то я!»
Малацьба. *F., 475.*

1549. Домна! Домна! Зрабі мне добра: мне дробна і сабе добра.
Малацьба. *Нк., 10.*

1550. Як пайду я па вытапу ды вазьму я па гутату, ды ўдару па татару.
Ток. *Р., сб., 337.*

1551. Маці гладка, а дзеці кручоныя.
Ток і цэп. *Dyb., 162.*

1552. Матка гладка, сыны-цакуны, дочкі-палізухі.
Гумно. *Д., 83.*

1553. Бацька гарбаты, матка пляскатая, а сын кручоны.
Гумно, ток і цэп. *Ш., 489.*

1554. Бацька гарбаты, маці пляската, дзеці кручоныя, на суку павешаныя.

Гумно, ток, цапы. *Шр., 208.*

1555. Бацька-сцюдзёнка, матка-таплёнка, сынкі-скакункі, а дачушкі-лізушкі.

Ток, ёўня, цапы і мётлы. *Нк., 15.*

1556. Бацька-шацёр, матка-хатка, сыны-падхватні, дочкі-падлізухі.

Гумно, ёўня, цапы, мётлы. *Р., сб., 317.*

1557. Ішоў шалду-балду, узяў стрыкі-брыкі, як зачулі ляпётнікі, сталі будзіць гарэтнікі: «Уставайце, гарэтнікі, даганяйце шалду-балду, адбірайце стрыкі-брыкі».

Пастух пасвіў авечку, воўк яе ўкраў, пастух будзіў сабак. *1960, Нясв.*

1558. Пусціла мяне маці на волю ваяваці, дала мне стукан, грукан, маленькі арган, да ног пузырок і ў рукі сасок.

Даенне каровы. *1963, Брасл.*

1559. Засваталі Машу ў вёску не нашу.

Перасадка яблыні. *1959, Гом.*

1560. Сітуліцы, мітуліцы, ні сяла, ні вуліцы.

Вулей. *F., 483.*

1561. Лезу, лезу па сінім жалезу, адчыню камору — там злыя сабакі.

Вулей. *Р., сб., 325.*

1562. Сям'я невяліка, багата, а ўсяго два локці хата.

Вулей. *1946, Староб.*

1563. Мядзведзь (воўк) ляжыць, кішкі равуць.

Вулей. *Р., сб., 326.*

1564. Каля бруха завіруха, а ўнутры вяселле.

Вулей. *1948, Пруж.*

1565. Каля бруха завіруха, каля дзірачкі кірмаш.

Вулей і пчолы. *1949, Кір.*

1566. Цёмная цямніца, ткуць панны красніцы.

Пчолы і вулей. *Б., 172.*

1567. У цёмнай цямніцы тчэ пані красніцы: ніхто так не вытчэ, як яна.

Вулей, вашчына, пчала *Р., Мат., 93, Слон. п.*

1568. Сядзіць дзявіца ў цёмнай цюрамніцы, не знае ні рубца, ні ніткі.

Пчала ў вуллі. *Д., 90.*

1569. Зайшоў на горку, адчыніў каморку, калі б не пан Дымінскі, то сабакі з'елі б.

Вулей. *Б., 173; Гт., 300, Брэсц. п.*

1570. Каля вуха завіруха, а на вуліцы кірмаш.

Вулей. *Нк., 24.*

1571. Што ў вадзе сохне, а ў печы мокне?

Воск. *1950, Браг.*

## ЗЕМЛЯРОБЧЫЯ ПРЫЛАДЫ

1572. Драўляны нос у зямлю ўрос.
Саха. *1960, Пух.*

1573. Рагатая, багатая увесь свет рые.
Саха. *Нк., 20.*

1574. Баба Яга, віламі нага, увесь свет корміць, а сама галодная.
Саха. *1960, Нясв.*

1575. Івала-івала па падзямеллю хадзіла, па-нямецку гаварыла, па-французску адварачывала.
Саха. *Р., сб., 322.*

1576. Капыцёш-капыцёш і скрозь землю ідзёш, процiў сонца стаў, капыцёшку зняў.
Саха. *Р., сб., 323.*

1577. Стаіць пані ля дарогі — чаравічкі хандогі: прыйдзе хлопец, за падпашкі хопіць.
Саха. *Нк., 20.*

1578. Стаіць поп ля дарогі, пайшоў перахрысціўся, да і ну!
Саха. *Д., 92.*

1579. Стальны пёс у зямлю ўрос.
Плуг. *1965, Воран.*

1580. Жалезны нос ў зямлю ўрос.
Плуг. *Рп., 331.*

1581. Рые, капае, люстрамі ззяе.
Плуг. *Рп, 368.*

1582. Рыецца, капаецца, да Кіева пытаецца.
Плуг. *1968, Касц.*

1583. Едзе пціца, нос, як спіца, рые, капае, хто адгадае.
Плуг. *1946, Староб.; 1963, Кап.*

1584. Увесь свет корміць, а сам не есць.
Плуг. *Рп., 340.*

1585. Сам худы, а ўсіх корміць.
Плуг. *1965, Слон.*

1586. Пад зямлёю два галубкі брукуюць.
Нарогі сахі. *F., 476.*

1587. Пад мяжой сівы голуб сакоча.
Плуг. *1948, Пруж.*

1588. Па падзямеллю петушкі скачуць.
Лемяшы. *W., 9, Леп. п.*

1589. Пад зямлёю пеўнік пяе.
Плуг. *1946, Староб.*

1590. Наш брат-прашкурат пайшоў на той свет, прынёс машну грошай.
Плуг. *1946, Староб.*

1591. Два галубкі сівенькія ўсё поле збрукавалі.
Нарогі сахі. *F., 476.*

1592. Цераз мяжу два галубкі брукуюць.
Нарогі сахі. *F., 476.*

1593. Два галубкі па падзямеллю лятаюць.
Сашнікі. *Р., сб., 320.*

1594. Сізыя галубы пад зямлёю лятаюць.
Лемяшы. *Д., 92.*

1595. Пад зямлёю два галубочкі лётаюць.
Лемяшы. *1960, Брасл.*

1596. Сізыя галубы пад зямлёю ходзяць.
Сашнікі. *Р., сб., 331; Ш., 494, Свянц. п.*

1597. Сіненькія грыбкі пад зямлёю скачуць.
Лемяшы. *Ш., 493, Сен. п.*

1598. Два баты-пракураты па падзямеллю ходзяць.
Лемяшы. *Д., 92.*

1599. Даражэй пана боты.
Лемяшы. *Нк., 20; Р., сб., 320.*

1600. У нашага папішкі сінія штанішкі.

Нарогі. *Нк., 20.*

1601. Шэсць вок, дзесяць ног, тры галавы ў адзін бок.

Араты з плугам і пара каней. *1965, Іў.*

1602. Ішло хлопцаў дваццаць пяць, пасля зімы сляды знаць.

Барана. *І. І., 1937, № 4, 18; Ш., 487, Свянц. п.*

1603. Ішло братоў дваццаць пяць, цераз зіму сляды знаць.

Барана. *1960, Кап.*

1604. Бегла хлапцоў дваццаць пяць, а на лета сляды знаць.

Барана. *F., 465.*

1605. Бегла хлапцоў дваццаць пяць, прыйшла вясна — сляды знаць.

Барана. *Рп., 329.*

1606. Бегла ваўчкоў дваццаць пяць, перазімаваўшы, слядкі знаць.

Барана. *Гт., 295, Навагр. п.*

1607. Дваццаць пяць пад страхой стаяць.

Барана. *1969, Стол.*

1608. Дваццаць пяць у дрэве сядзяць, хлеб горнуць, а хлеба не ядуць.

Барана. *Бел., 1964, № 4, 25, Лун.*

1609. Дваццаць пяць у дзераве сядзяць, хлеб горнуць, хлеба не ядуць.

Барана. *1946, Жытк.*

1610. Ехалі камісары (пісары), усё поле папісалі.
Барана. *Р., сб., 336.*

1611. Прыехалі камісары, усё поле паспісалі.
Барана. *Нк., 20.*

1612. Ехалі татары, усё поле спісалі.
Барана. *Р., сб., 336.*

1613. Сто бяроз, каню воз, чалавеку ношка.
Барана. *Р., сб., 332.*

1614. Ног многа, а еду з поля дамоў на спіне.
Барана. *Рп., 335.*

1615. Ног многа, а на спіне дамоў едзе.
Барана. *1959, Гом.*

1616. Ног шмат, а на спіне да хаты йдзе.
Барана. *1963, Маладз.*

1617. Клюкі за клюкі, шэсць вок, а тры брухі.
Барана. *Р., сб., 323.*

1618. Трашчыць, верашчыць, а ў лес не лезе.
Барана. *Нк., 20.*

1619. Трапочыць, лапочыць, а ў лес не хочыць.
Барана. *Нк., 20.*

1620. Дзірава плахта ўсё поле пакрыла (спісала).
Барана. *Ч., 305, Бельск. п.*

1621. Дзіравая плахта ўсё поле пакрые.
Барана. *F., 465.*

1622. Дзірава радзюжка ўсё поле збегае.
Барана. *Ч., 305, Бельск. п.*

1623. Падрана радзюжачка ўсё поле абегае.
Барана. *Б., 167.*

1624. Дзіравае радно ўсё поле збегала.
Барана. *Гт., 298, Кобр. п.*

1625. Рыбка бялява хвосцікам віляла, лясы ламала, горы стаўляла.
Каса. *Шр., 209.*

1626. Бела бялява хвастом віляла, лясы ламала, горы стаўляла.
Каса. *F., 473.*

1627. Рыбка бялява хвастом віляла, пакуль сваё гора збудавала.
Каса. *F., 473.*

1628. Рыба белая хвастом віляла, рады клала.
Каса і трава. *Dyb., 164.*

1629. Шчука гуляла, увесь свет паваляла.
Каса і трава. *Нк., 20.*

1630. Плыла шчука з Крэменчука, куды гляне — трава вяне.
Каса. *Р., сб., 328; Ш., 493, Гом. п.*

1631. Ішла шчука з Крэменчука, лес валіла горы станавіла.
Каса. *Р., сб., 322.*

1632. Шчука ўвязне, трава павяне, на тым месцы горад стане.
Каса. *Нк., 20.*

1633. Шчука лінява лес уваляла, лес упаў, горад стаў.
Каса, трава, стог сена. *Ш., 493, Маз. п.*

1634. Шчука лінява ўвесь лес паклала, лес павяў, горад стаў.
Каса. *1946, Староб.*

1635. Сіня сінява лес паламала, лес павяў, горад стаў.
Каса. *Р., сб., 331.*

1636. Як змяя гляне, дык лес вяне.
Каса. *Нк., 20.*

1637. Сіла дзвіне, а лес тане, на тым месцы гара стане.
Каса, трава. *F., 473.*

1638. Ляцела пава, на балота ўпала, распусціла крылле пад усяляка зелле.
Каса. *F., 473.*

1639. Ляціць пава цераз сплавы, пусціла пярыну пад усяку травіну.
Каса. *Р., Мат., 93, Слон. п.*

1640. Прыляцела пава і села сярод паплава, сталі яе біці, стала яна піці.
Каса. *Б., 170.*

1641. Ляцела пава цераз паплава, сталі яе біць, стала яна выць.

Каса. *1946, Староб.*

1642. Вылятала сава з вострава, віль, віль хвостам, ды і жых у востраў.

Каса пры касьбе. *Нк., 20.*

1643. Як травы пад'ем, то зубы ступлю, а як пяску з'ем, то зноў іх найду.

Каса. *F., 473.*

1644. Як травы паем, зубы прытуплю, пяску паем, то зноў навастру.

Каса. *Dyb., 164.*

1645. Пад'ем травы — зубы вытуплю, каменьчыка хвачу — зноў натачу.

Каса. *1959, Гом.*

1646. Сагнута ў дугу, летам на лугу, зімой на кругу.

Каса. *I. I., 1937, № 4, 18.*

1647. Прайшла парошка — стала дарожка, а як прыляцелі гусі з сямі нагамі — сталі харомы.

Каса, граблі, копы. *Нк., 20.*

1648. Узгадаю загадку, перакіну праз градку, вісі, мая загадка, да налецейка.

Каса, граблі, цэп, серп. *Нк., 20.*

1649. Адна матка дванаццаць сыноў мае, усё іх нажымае.

Граблі. *F., 470.*

1650. Адна матка дванаццаць сыноў мае і на ўсіх нацiскае.
Граблі. *Рп., 328.*

1651. Бацька з сажань, матка з пядзень, а дзеткі па мязінцу.
Граблі. *Нк., 20.*

1652. Сажань — бацька, локаць — маці, жменька дзетак.
Граблі. *Б., 168.*

1653. Бацька — сажань, маці — локаць, а дзяцей — жменька.
Граблі. *F., 470.*

1654. Маці з локаць, бацька з сажань, а дзеці па пальцу.
Граблі. *Рп., 334.*

1655. Бацька з сажань, маці з аршын, дзеці па каршчочку.
Граблі. *Д., 82.*

1656. Матка з локаць, бацька з сажань, а дзеткі па каршачку.
Граблі. *Р., сб., 325.*

1657. Рота няма, а зубы маюцца.
Граблі. *1960, Лоеў.*

1658. Зубастыя, а не кусаюцца.
Граблі. *1959, Гом.*

1659. Плаха суне, дзерава вяне, на тым месцы цэрква стане.
Граблі, сена, капа. *F., 470.*

1660. Маленькі, гарбаценькі летам бяжыць, а зімою ляжыць.
Серп. *1969, Пін.*

1661. Маленькі, гарбаценькі усё поле абскача.
Серп. *Ш., 9, Леп. п.*

1662. Маленькі, гарбаценькі, а ўсё поле абляцеў.
Серп. *Ш., 6, Віл. п.*

1663. Гарбаты дзядок ўсё поле аббегаў.
Серп. *F., 481.*

1664. Гарбаты дзед усё поле збегаў.
Серп. *Гт., 297, Кобр. п.*

1665. Крывенькі дзядок усё поле аббегаў.
Серп. *Ю., 293, Лід. п.*

1666. Гарбаценькі канёк усё поле выездзіў.
Серп. *Д., 93.*

1667. Гарбаценькі камісар усё поле папісаў.
Серп. *Р., сб., 319.*

1668. Кругленька ўсё поле пераскача.
Серп. *Р., Мат., 89, Кобр. п.*

1669. Крывенька, маленька ўсё поле аббегала.
Серп. *Р., Мат., 92, Слон. п.*

1670. Гарбаценькі, маленькі ўсё поле збегаў.
Серп. *Гт., 297, Кобр. п.*

1671. Крывенькі, маленькі, а ўсё поле злятае.

Серп у час жніва. *J., 12.*

1672. Маленькая, крывенькая ўсё поле абскакала.

Серп. *Ш., 497, Ігум. п.*

1673. Маленькі, крывенькі ўвесь свет абяжыць.

Серп. *Dyb., 162.*

1674. Скорчаны, згорблены цэла поле аббегае.

Серп. *W., 12, Дэвін. п.*

1675. Мой конік маленькі, гарбаценькі, а тры полі аб'ездзіў.

Серп. *Нк., 21.*

1676. Кругленька, маленька ўсё поле аблятала, зімой у клеці спала.

Серп. *F., 481.*

1677. Маленькі, крывенькі, гарбаценькі ўсё поле прабег і зноў дамоў прыбег.

Серп. *1963, Смарг.*

1678. Чорненькае, крывенькае ўсё поле аблятала і назад прылятала.

Серп. *1960, Капатк.*

1679. Маленька, гарбаценька ўсё поле абяжыць і дадому прыбяжыць.

Серп. *1950, Хойн.*

1680. Маленькі, старэнькі ўсё поле абяжыць і да хаты прыбяжыць.

Серп. *1948, Пруж.*

1681. Маленькі, гарбаценькі, усё поле абяжыць, а к вечару дамоў прыбяжыць.

Серп. *1963, Брасл.*

1682. Маленькі, гарбаценькі ўсё поле абскакаў і ўвесь год праляжаў.

Серп. *1946, Слуцк.*

1683. Маленькі, гарбаценькі ўсё поле праскача, дамоў прыбяжыць — цэлы год праляжыць.

Серп. *1963, Маладз.*

1684. Гарбаценькі, зубаценькі, а летам патрэбен для цэлага света.

Серп. *Dyb., 162.*

1685. Сам тонак, як паясок, маю востранькі насок, як выйду на поле ваяваці проціў высокіх панічоў у злаце, яны на мяне лезуць, а мае зубкі іх рэжуць.

Серп. *Зар., 20.*

1686. Сам я тонак, як паясок, у мяне востранькі насок, як выйду на поле ваяваці проціў высокенькіх панічоў у злаце, яны мяне паясаюць, а мае востранькія зубкі іх усіх перакусаюць.

Серп. *Н., 18.*

1687. Летам ходзіць, а ўзімку сляды відаць.

Серп і ржышча. *Нк., 20.*

1688. Рагаты, а не бык, хватае, ды не сыт, людзям аддае, сам аддыхаць ідзе.

Серп. *1960, Пух.*

1689. Загану загадку, закіну за градку, рок сышчу, рок пушчу.

Серп. *Р., Мат., 92, Слон. п.*

1690. Выйду ў поле ваяваць з высокімі панамі, а мае зубкі іх рэжуць.

Жыта і серп. *1965, Слон.*

1691. Стаіць паніч уверх нагамі.

Вілы. *Р., Мат., 88, Кобр. п.*

1692. Еду, еду на сівым дзеду, прыеду к лесу — скіну сівака к бесу.

Рубель. *Ш., 13, Раг. п.*

1693. Між дубінкі, між ляшчынкі — кусочак скурацінкі.

Цэп. *Шр., 208.*

1694. Паміж дубінкі, паміж ляшчынкі ляжыць кусок скурацінкі.

Цэп. *Ш., 498, Свянц. п.*

1695. Паміж дубінкі, паміж ляшчынкі вісіць кавалак скарамінкі.

Цэп. *F., 466.*

1696. Між дубінкі, між ляшчынкі — кавалачак (кавалак) скурацінкі (скаражынкі).

Цэп. *F., 466.*

1697. Паміж бінкі, паміж лінкі вісіць кусок скурацінкі.

Цэп. *1963, Маладз.*

1698. Між ялінкі, між дубінкі вісіць ласкут кажурынкі.
Цэп. *Д., 95.*

1699. Паверх ляшчынкі вісіць кусочак кажурынкі.
Цэп. *1948, Пруж.*

1700. Між дубоў, між ляшчыны ляжыць крышка скаржыны.
Цэп. *Р., Мат., 93, Слон. п.*

1701. Міжа дубу, міжа елі карова вісіць.
Цэп. *Нк., 21.*

1702. Міжа ялінкі ды міжа дубінкі вісіць кусочак кабылінкі.
Цэп. *Нк., 21.*

1703. Братцы-хватцы, сястрыцы-палізушкі.
Цапы і мётлы. *Д., 95.*

1704. Лятаюць гускі, дубовыя наскі, і гавораць: «То-та мы!»
Цапы. *Ш., 498, Барыс. п.; F., 466.*

1705. Ляцяць гуські, дубовыя наскі, ляцяць і гавораць: «То-то мы, то-то мы!»
Цапы. *1959, Гом.*

1706. Ляцелі гуські, дубовыя наскі, і крычалі «То-то-ты! То-то-я!»
Цапы. *1963, Маладз.*

1707. Ляцяць гускі, дубовыя наскі: «То ты, то я, то ты, то я».
Цапы. *1948, Пруж.*

1708. Круцішся, верцішся, на ноч павесішся.
Цэп. *F., 466.*

1709. Круцікца, верцікца, на ноч павесіцца.
Цэп. *Р., Мат., 86, Вайк. п.; 1948, Пруж.*

1710. Балаваліся, балаваліся — ды і павешаліся.
Цапы. *Нк., 21.*

1711. На паповым полі папутаны коні, вузлы знаць, да не развязаць.
Цапы. *Р., сб., 327.*

1712. У нашага Антонка сярэдзіна тонка.
Цэп. *F., 466.*

1713. Рыжыя цяляткі (кураняткі) паклалі хвасты на градкі.
Цапы. *Ш., 498, Віл. п.; Рп., 337.*

1714. Ішоў я па тутыру, зайшоў к Хіміру: «Хімір, Хімір, аддай мае лапонікі, пайду цяпер страляць».
Цэп. *Д., 95.*

1715. Матка-курапатка, дзеткі свячоны, а бацька кручоны.
Хлеў, снапы, цэп. *Гт., 296, Кобр. п.*

1716. Дыр багатыр, дзіравыя вочы.
Азярод. *F., 465.*

1717. Багатыр тыр, а дзіравыя вочы.
Азярод. *F., 465.*

1718. Стаіць Рыгор паміж гор, кіямі апёршыся.

Азярод. *Н. н., 13.*

1719. Стаіць Ягор летам адзеты, зімою голы.

Азярод. *1960, Кап.*

1720. Аснова саснова, уток саламяны.

Пераплёт на гумне, азярод. *Р., сб., 327; W., 12, Барыс. п.*

1721. З лесам раўняецца, а свету не відзіць.

Асяродак дрэва. *F., 464.*

1722. Лезу, лезу па жалезу, падай, куме, шапку.

Азярод. *1960, Капатк.*

1723. Лезу, лезу па белым жалезу, дайце мне пана-капітана, я яго павешу.

Азярод. *W., 12, Барыс. п.*

1724. Прыехалі камісары, усіх людзей павязалі.
Рыбакі, сетка, рыба. *Д., 92.*

1725. Прыехалі камісары і забралі гаспадары, а дом акном уцёк.
Рыбакі, рыба, вада, невад. *F., 480.*

1726. Прыехалі камісары, гаспадароў увязалі, а хата праз вакно пайшла.
Сетка, рыба, вада. *Ш., 498, Віл. п.*

1727. Наехалі камісары, усю сям'ю павязалі, хата ў вокны уцякла.
Рыбакі. *Р., сб., 327.*

1728. Наляцелі капітаны, усіх людзей пахапалі, а хата цераз вокны ўцякла.
Сець, рыба, вада. *Р., сб., 326.*

1729. Сані-рассамані хазяіна паймалі, двор у дзірку ўцёк.
Сець, рыба, вада. *Р., сб., 330.*

1730. Дзірак шмат, а вылезці няма куды.
Невад, сець. *І. І., 1937, № 4, 18; Ш., 8, Леп. п.*

1731. Хата рагата, вокан багата, як улезеш — не вылезеш.
Рыбацкая сетка. *І. І., 1937, № 2, 18.*

1732. Хата рагата, вакон багата, хто ўлезе, той не вылезе.

Рыбалоўчая сетка. *1949, Кліч.*

1733. Хата рагата, вакон багата, а хто ўвойдзе, той не выйдзе.

Браднік і рыба. *1949, Кліч.*

1734. Хата буката, вокан багата, а некуды вылезць.

Сетка, кош. *Р., сб., 334.*

1735. Хата буката, поўна вераб'ёў, некуды вылецець.

Сетка, кош. *Р., сб., 334.*

1736. Хатка-хатка, вокан багатка, як хто ўлезе, дык не вылезе.

Сетка, кош. *Р., сб., 334.*

1737. Поўна хата галубцоў нагната.

Нерат. *W., 13, Раг. п.*

1738. Увайшла пані ў сад, ды не выйшла назад.

Рыба ў сетцы. *Б., 172.*

1739. Майстар Гірка зрабіў будынка, дзе глянь, то дзірка.

Сетка. *Б., 173.*

1740. Семсот варот, адзін уваход.

Сетка, невад. *Ш., 498, Віл. п.; 1960, Лоеў.*

1741. Пашлю пасланца па мілага гасця, ці будзе госць, ці не будзе, а пасланец не вернецца.

Стралок, стрэльба, выстрал. *Ш., 498; W., 12, Двін. п.; Р., сб., 329.*

1742. Паслаў бы я пасланца па мілага гасця, госць ці будзе, ці не будзе, а пасланца не будзе.

Выстрал. *Б., 172.*

1743. Пашлю пасла па харошага гасця, госць ці прыйдзе, ці не, а пасол, верна, не прыйдзе.

Ружжо. *Д., 92.*

1744. Сухі Трахім далёка б'е.

Стрэльба. *1950, Хойн.*

1745. Цвёрды Мартын далёка плюе.

Ружжо. *Р., сб., 333; W., 5, Віл. п.*

1746. Сухі Марцін далёка шыбае.

Ружжо. *1960, Чач.*

1747. Палка, ды далёка смаліць.

Ружжо. *1967, Віл.*

1748. Сухі Максім, а доўга бяжыць.

Ружжо. *Нк., 19.*

1749. Сухі Мацейка далёка свішча.

Ружжо. *Нк., 19.*

1750. Крывенька, маленька, а далёка плюе.

Стрэльба. *F., 482.*

1751. Свінка-рудка плюе хутка.

Стрэльба. *1963, Смарг.*

1752. Загадаю загадку: вынь з тае ямы ягадку, абліжы ды ізноў улажы.

Ружжо. *Н., 18.*

1753. Што гэта за загадка, што ў трубе ягадка, выму, абліжу ды апяць палажу.

Ружжо. *Д., 92.*

1754. У чэрапе смерць.

Стрэльба. *Dyb., 160.*

1755. Стаіць у куточку смерць у чарапочку.

Стрэльба. *F., 482.*

1756. У куточку, у чарапочку стаіць смерць.

Стрэльба. *F., 482.*

1757. За печчу ў куточку сядзіць смерць у чарапочку.

Стрэльба. *F., 482.*

1758. У куточку на калочку нагла смерць вісіць.

Стрэльба. *Ч., 314, Бельск. п.*

1759. Круць, верць — у чарапочку смерць.

Стрэльба. *F., 482; Гт., 295; Б., 172, Пін. п.*

1760. Маленькі петушок, а як гойніць, дык на ўвесь лясок.

Стрэльба. *Нк., 19.*

1761. Ляцела цяцера ўчора, цяцера ўпала на хаду, век не найду.

Куля. *1946, Жытк.*

1762. Вылецела з дзіркі, ляцела, ляцела, ды ў цела і засела.
Куля. *Нк., 19.*

1763. Без крылляў — ляціць, без голасу — свішча.
Куля. *Нк., 19.*

1764. Доўгі камар далёка плыве.
Куля. *1949, Кір.*

1765. Маленька, кругленька, сіня, а генерала з каня скіне.
Куля. *Д., 164.*

1766. Малыш-каратыш чыхае жарам, абдае варам, агнём плюе, комам дуе.
Пісталет. *Н., 17.*

1767. Сярод лесу кусочак жалеза.
Піка. *Р., Мат., 92, Слон. п.*

1768. Без розума, а хітрая.
Пастка. *1960, Лоеў.*

1769. Спераду гарача, а ззаду халодна.
Каваль каля горна. *F., 473.*

1770. Спераду грэе, а ззаду вее.
Каваль зімою каля горна. *Н., 16.*

1771. Поп саграшыў, а дзяка калоцяць ці вешаюць.
Агонь і жалеза. *Н., 17.*

1772. Поп саграшыў, а дзяк пакутуе.
Агонь і жалеза. *Рп., 336.*

1773. Кожа гожа, а касцей сабакі не ядуць.
Пянька. *Д., 87.*

1774. Пайшла маці (баба) да Кіева, косці дома пакінула.
Пянька. *Р., сб., 329; Ш., 495, Мсцісл. п.*

1775. Сучка брэша, а ззаду восеўкі сыплюцца.
Мялка ў рабоце. *Нк., 21.*

1776. Сабака брэша, а пасейкі ззаду сыплюцца.
Мяліца. *Р., сб., 331.*

1777. За лесам, лесам яшчурава сучка брэша.
Мяліца. *Р., сб., 321.*

1778. За хлевам сучка брэша.
Церніца, трапло. *1948, Пруж.*

1779. Чорная сабачка за хляўцом брэша.
Церніца. *1960, Капатк.*

1780. Сучка без кішак брэша.
Церніца. *F., 466.*

1781. Пад дубовым кустом воўк карову трэ.
Церніца. *F., 466.*

1782. Ехаў пан-капітан, у дзевачкі папытаў: «Што за косці ляжаць, што сабакі не ядзяць?»
Церніца і кастрыца. *1950, Хойн.; 1962, Капатк.*

1783. У Скрэблах дровы рубаюць, а да Вілейшаў трэскі лятаюць.

Церніца. *F., 466.*

1784. Сухая баба косці гладае.

Церніца. *Б., 173.*

1785. За сцяною крамяною сучка косці грызець (грызе).

Церніца. *1946, Слуцк.; 1946, Староб.*

1786. За сцяною кошка косці грызе.

Церніца. *1946, Староб.*

1787. За сцяною касцяною курачка сакоча.

Церніца. *1946, Жытк.*

1788. Сонца-калёнца, пасярэдзіне жывіца, хто яе не знае, той не будзе жаніцца.

Шчотка для ільна. *1950, Хойн.*

1789. Сонца-калонца, у сярэдзіне жывіца, хто не адгадае, той не будзе жаніцца.

Шчотка. *1960, Пух.*

1790. Што гэта за свінка: на спіне дзеравяшка, на жываце шчацінка.

Шчотка. *1961, Добр.*

1791. Свінка-рудка, а хвост, як дудка.

Шчотка самадзельная. *Нк., 18.*

1792. Сухая пятніца косці грызе.
Часалка. *Ю., 293, Лід. п.*

1793. Сама пад страхою, а хвост мокры.
Кудзеля. *F., 474.*

1794. Адну казу маю і тую за хвост падымаю.
Прасніца. *Hur., 199.*

1795. Ляжыць на ложку, задраўшы ножку.
Прасніца. *1967, Вайк.*

1796. На дубе сяджу, скрозь клён гляджу, бярэзінаю падпіраюся.
Донца, грэбень, верацяно. *Р., сб., 326.*

1797. Чым я больш вярчуся, тым я больш таўсцею.
Верацяно. *1965, Кап.*

1798. Скачу, пляшу па гарынцы, што больш кручуся — таўсцею.
Верацяно. *Д., 81.*

1799. Што ходзіць дагары нагамі?
Верацяно. *Pietk., 451.*

1800. Пад клёнам сяджу, бярозаю трасу.
Верацяно бярозавае і грэбень кляновы. *Д., 82.*

1801. Што дарожкай ляцяць, тыя сухенькія, што пад стрэшкай стаяць, тыя мокрыя.
Ніткі на верацяне з кудзелі. *Hur., 199.*

1802. Пад страхою пяць паненак мокрыя, а па дарозе пяць сухія ідуць.

Пальцы жанчыны, калі яна прадзе кудзелю *1965, Навагр.*

1803. Пяць мокрых пальцаў, а пяць сухіх.

Прадзенне. *Ј., 11.*

1804. Пяць козак смокчуць стожак, а пяць у поле ідуць.

Пальцы і кудзеля. *Р., Мат., 89, Кобр. п.*

1805. Пяць авечак стажок скубуць, а пяць дарожкай бягуць.

Прадзенне. *Ј., 11.*

1806. Пяць скубуць, а пяць проч бягуць.

Пальцы ў час прадзення кудзелі. *Нк., 9.*

1807. Пяць уцякае, а пяць даганяе.

Пальцы ў час прадзення. *Д., 80*

1808. Пяць уцякаюць, а пяць даганяюць; пяць авечак пад'ядаюць, а пяць проч адбягаюць.

Пальцы на руках у час прадзення. *Д., 81.*

1809. Пяць-перапяць па дарожцы бяжаць, пяць-перапяць пад крышай стаяць.

Пальцы ў час прадзення. *Нк., 9.*

1810. Пяць ваўкоў пад страхой, пяць на дварэ; што пад страхой, тыя мокрыя, што на дварэ, тыя сухія.

Пальцы, калі прадуць пражу. *Р., сб., 329.*

1811. Дзесяць братоў ёсць: пяць мокрых пад стогам, пяць сухіх каля стогу.

Пальцы ў час прадзення. *Нк., 9.*

1812. У мацеры дзесяць сыноў: пяць у дарозе, а пяць дома.

Пальцы ў час прадзення. *Б., 171.*

1813. Сярод хаты стаіць чорт рагаты.

Калаўрот. *1948, Пруж.; 1963, Кап.*

1814. У (на) адным месцы крыжоў дзвесці.

Клубок. *Гт., 295, Навагр. п.; Р., Мат., 87, Кобр. п.; 1960, Брасл.; Dyb., 163; Б., 169; Нк., 12; F., 473; 1946, Староб.; 1948, Пруж.; 1960, Нясв.*

1815. Крыж на крыжы, сто крыжоў на яму.

Клубок. *Р., Мат., 90, Кобр. п.*

1816. Крыж на крыжы, хто ведае, не кажы.

Клубок. *Нк., 12.*

1817. Кругленька, маленька за хвасток не падняць.

Клубок. *F., 473.*

1818. Кругленькі (кругленькая), маленькі (маленькая), а за хвост не падымеш.

Клубок. *Нк., 12; 1948, Пруж.; 1961, Добр.*

1819. Кругла, без вугла, за хвост (за канцы) не падымеш.

Клубок нітак. *Д., 86; Ш., 491.*

1820. З вугла кругла, за хвост не падняць.
Клубок нітак. *М. в., 161.*

1821. Абручыкі, абручыкі, нідзе клёпачкі няма.
Клубок. *Р., сб., 327.*

1822. Поўна хата абручоў.
Клубок. *F., 473.*

1823. На чым найбольш абручоў?
На клубку. *F., 473; Шр., 208.*

1824. Чаго за хвост не падымеш?
Клубок нітак. *Ш., 492, Віл. п.*

1825. Бяжыць каток па сцяне, задраўшы хвасток, сеў у цямне.
Клубок. *F., 473.*

1826. Скінуўся ў сторану — застаўся хвост на сем вёрст.
Клубок нітак. *Ш., 492, Мсцісл. п.*

1827. Першы канец у жываце, а другі на верхнім кальцы, каб першы канец дастаць, трэба ўсе кольцы зняць.
Клубок нітак. *Рп., 336; 1960, Івац.*

1828. У кутку на прутку вісяць кундзялі, хто ведае, адкажы.
Клубкі нітак. *1960, Асіп.*

1829. Не ўздумаюць, не згадаюць, колькі на бочку абручоў наганяюць.
Клубок. *1946, Стараб.*

1830. Коціцца ні катушка, ні звер, ні птушка, ні камень, ні вада, не адгадаеш нікагда.

Клубок. *1969, Стол.*

1831. У лесе, у лесе тарарай брэша.

Сукала. *Р., сб., 319.*

1832. За лесам, лесам тарарай брэша.

Сукала. *Р., сб., 321.*

1833. Какашы, какашы, а хто знае, не кажы.

Сукала. *Р., сб., 325.*

1834. Стракочыць, лапочыць, а ў лес не хочыць.

Матавіла, сукала. *Нк., 18.*

1835. Скачу па хаце з работаю маею, што больш пакручваюся, то больш таўсцею.

Ручайка. *Dyb., 167.*

1836. Нагамі прэ, пузам трэ, рукамі перабірае.

Кросны. *1949, Кір.*

1837. Сярод хаты стаіць Сямён рагаты.

Ткацкі станок. *Р., Мат., 92, Слон. п.*

1838. Жоўценькі вапручоначак між загародак бегае.

Чаўнок. *Нк., 12.*

1839. За жоўтым парасяткам кішачкі цягнуцца.

Чаўнок з пражаю. *F., 467.*

1840. Пазаплоццю чырвоны парсючок бегае.

Чаўнок з пражаю. *F., 467.*

1841. Білі мяне, білі, білі, калацілі, на кавалкі рвалі, па полі цягалі, на ключ замыкалі і на стол паслалі.

Лён, настольнік. *Рп., 329.*

1842. Адно ляжыць, а дзесяцёх стаіць: без аднаго ніхто яго не пачне.

Сукно. *F., 482.*

1843. Два канцы, два кальцы, а пасярэдзіне цвік (гвоздзік) віціць.

Нажніцы. *H., 17; Dyb., 167; F., 477; Д., 90; 1946, Староб.; 1950, Хойн.; 1959, Лсп.; 1959, Гом.*

1844. Два кальцы, два канцы, пасярэдзіне пупок (пуп).

Нажніцы. *Р., сб., 320; Д., 90; Ш., 11, Двін. п.*

1845. Два канцы, два кальцы, пасярэдзіне жывіца, хто не адгадае, той не будзе жаніцца.

Нажніцы. *1962, Кап.*

1846. Кончык, кончык, пасярэдзіне гвоздзік.

Нажніцы. *1950, Хойн.*

1847. Вярцёста, круцёста, хто не адгоніць, нападзе кароста.

Нажніцы. *1946, Староб.*

1848. Маленькае, бяленькае ўвесь свет адзене.

Іголка. *1946, Слуцк. п.*

1849. Мала-малехенька ўсіх людзей адзяе.

Іголка. *Р., сб., 325.*

1850. Кругленька, даўгенька (маленька) ўвесь свет адзяе.

Іголка з ніткай. *F., 470.*

1851. Залаценькая, маленькая ўвесь свет адзяе.

Іголка. *Ш., 7, Віл. п.; Р., сб., 322.*

1852. Маленька, як мязінчык, увесь свет адзявае.

Іголка. *Б., 169.*

1853. Сіняя сінява ўвесь свет адзявае.

Іголка. *Д., 85.*

1854. Сіненькая, маленькая ўвесь свет адзявае (адзела).

Іголка. *Зн., 30, Маг. п.; Pietk., 449; Д., 85; М. в., 159; Ш., 491, Сен. п.*

1855. Маленькая, сіненькая ўсіх людзей адзяе.

Іголка. *Р., сб., 325.*

1856. Маленькая, ясненькая ўвесь свет адзяе.

Іголка. *Р., сб., 325.*

1857. Сівенька, маленька (тоненькая, маленькая), а ўвесь свет абшывае.

Іголка *J., 11; 1963, Брасл.*

1858. Маленька бабушка ўвесь свет адзявае.

Іголка. *1965, Кап.*

1859. Бег кот, праламаў плот.
Іголка. *1949. Кір.*

1860. Па полю ходзіць і дзіры робіць.
Іголка. *F., 477.*

1861. Воўк жалезны, а хвост льняны (канапляны).
Іголка з ніткай. *Н., 16; Гт., 300, Брэсц. п.; Ю., 293, Лід. п.; Зар., 24; Ш., 491, Віл. п.; F., 470.*

1862. Воўк жалезны, хвост партны.
Іголка і нітка. *Р., сб., 318.*

1863. Сама сталёвая, а хвост ільняны.
Іголка з ніткай. *Рп., 337.*

1864. Сам жасцяны, а хвост канапляны.
Іголка з ніткай. *Dyb., 163.*

1865. Жалезная галава, а парцяны хвост.
Іголка з ніткай. *Б., 169.*

1866. Свіння жалезна, а хвост канапляны.
Іголка з ніткай. *1963, Брасл.*

1867. Бегла свінка, залатая спінка.
Іголка. *1949, Кір.*

1868. Бегла свінка, залатая спінка, алляны хвосцік.
Іголка. *Р., сб., 318.*

1869. Бяжыць свінка, стальная спінка, хвост канапляны.

Іголка з ніткаю. *Шр., 208; 1946, Староб.; «Зорка», 1959, № 15.*

1870. Бегла свінка, шэранька спінка, а хвосцік ільняны.

Іголка з ніткай. *1950, Хойн.*

1871. Носік сталёвы, а хвосцік льняны.

Іголка з ніткай. *J., 10.*

1872. Нос стальны, хвост льняны.

Іголка з ніткай. *1959, Гом.*

1873. Бяжыць зайчык, ушчаміў хвосцік у плоцік.

Іголка і нітка. *1948, Кір.*

1874. Круглая гара, што ні крок, то нара.

Напарстак. *Рп., 333.*

1875. Прывёз свінню з Піцера, з усіх бакоў стыкана.

Напарстак. *1967, Лід.*

1876. У адной яме сем ям з ямай.

Напарстак. *Рп., 327.*

1877. На адной яме сто ям.

Напарстак. *1946, Староб.*

1878. З пяці бэляк хату строяць, а ўсе бэлькі цэлыя застаюцца.

Пруткі для вязання. *Нк., 13.*

1879. Цераз каня і быка свіння лён цягне.

Шавец шые боты. *1965, Кап.*

## ХАРЧАВАННЕ І ЕЖА

1880. Трасецца, калоціцца, аб усім свеце забоціцца.
Жорны. *Ш., 490.*

1881. Брат брата сячэ — бела кроў цячэ.
Жорны і мука. *Гт., 296, Кобр. п.; Р., Мат., 87, Кобр. п.; 1963, Кап.; 1948, Кобр.*

1882. На паліцы дзве лісіцы, што ні дай, то ўсё з'ядуць.
Жорны. *Б., 168; Ш., 490; 1960, Капатк.*

1883. На паліцы скачуць дзве лісіцы, што ім дадуць, то яны з'ядуць.
Жорны. *F., 486.*

1884. На паліцы дзве сініцы: што дадуць (пададуць), тое з'ядуць.
Жорны. *Ш., 496, Гом. п.; 1963, Смарг.; Н. н., 9.*

1885. Дзве сініцы ненасытны: што ні дадуць, то і з'ядуць.
Жорны. *Р., сб., 320.*

1886. Два вепры б'юцца між сабою, аж з іх пена цячэ.
Жорны і мука. *Н., 16.*

1887. Два вепры б'юцца, дзяруцца, паміж іх пена цячэ.
Мельнічныя калёсы, жорны. *Д., 89.*

1888. Два вепручкі сякуцца, а з іх пена падае.

Жорны. *Б., 168.*

1889. Два вепрукі рэжуцца, сярод іх пена цячэ.

Жорны і мука. *Нк., 17.*

1890. Два парсюкі дзяруцца, а паміж іх пена цячэ.

Жорны і мука. *Р., сб., 326.*

1891. Два парсюкі рэжуцца, паміж іх пена ляціць.

Жорны. *Ш., 490, Віл. п.*

1892. Два парсючкі рэжуцца, з іх пена валіць.

Жорны. *F., 486.*

1893. Два кабаны б'юцца, сякуцца, праміж іх пена цячэ.

Жорны. *М. в., 159.*

1894. Два зайцы рэжуцца — белая кроў ідзе.

Жорны, мука. *Л., 9.*

1895. Два кілашы грызуцца, а паабапал пена цячэ.

Жорны і мука. *Нк., 17.*

1896. Два кілуны рэжуцца, а з іх пена ідзе.

Жорны. *1963, Брасл.*

1897. Сівы конь выкідае з-пад сябе белы гной.

Жорнавы камень. *Ч., 308, Бельск. п.*

1898. Мех на мяху і кій навярху.

Жорны. *Гт., 299, Дзісн. п.*

1899. Мех на мяху, а салдат навярху.

Жорны. *Нк., 17.*

1900. Мяшок на мяшку, салдат на вяршку.

Жорны. *1960, Брасл.*

1901. Мех на мяху, чорт навярху, у дзірачку скача.

Мельніца (жорны) *Р., сб., 326.*

1902. Капа на капе, а навярху кій.

Жорны. *Ш., 490, Віл. п.*

1903. Радзіўся ў цьме, не бачыў ні сонца, ні луны, прыступілі людзі, прабілі грудзі, набілі жэзл і вянец, на тым яму і канец.

Мельнічны камень. *М. в., 159.*

1904. Радзіўся я ў цяні, не відзеў ні сонца, ні месяца, дабраліся да мяне людзі, прабілі мне наскрозь грудзі, жалезным абручам мяне падпаясалі і скакаць казалі.

Жорны. *Зар., 22.*

1905. Сівенькі канёк аўса хоча.

Жорны. *Нк., 17.*

1906. Купа на купе, трымбуль на пупе.

Жорны, млён. *Р., Мат., 88, Кобр. п.*

1907. За сцяною крамяною два мядзведзі гудуць.

Жорны. *1946, Слуцк.*

1908. За сцяною касцяною бугай раве.

Жорны. *1946, Староб.*

1909. За сцяною вяпрук гудзе.
Жорны. *Р., Мат., 90, Кобр. п.*

1910. У ліпнічку ваўкі выюць.
Жорны. *Нк., 17.*

1911. Кароўка мычыць, у небе хвосцік стырчыць.
Жорны. *Р., сб., 323.*

1912. Карова мычыць, угору хвост дзяржыць (тырчыць).
Жорны і млён. *Нк., 17; 1960, Брасл.*

1913. Стаіць Давыд, на кол (на калу) узбіт, яму даюць і кланяюцца.
Жорны. *М. в., 159; Р., сб., 330.*

1914. Стаіць Давід, да сцяны прыбіт, яго дораць і яму кланяюцца.
Жорны. *1965, Іў.*

1915. Сядзіць Давыд, калом прыбіт; яму даеш і кланяешся, а ён усё просіць.
Жорны. *Нк., 17.*

1916. Сітавіла-матавіла па-французску гаварыла, па-нямецку шапятала, па-турэцку лепятала.
Арфа (млынок для чысткі збожжа). *F., 464.*

1917. Стаіць на гары, крыламі махае, супраць ветру грудзі падстаўляе.
Вятрак. *1961, Добр.*

1918. Круціцца, верціцца цэлы век, а не чалавек.

Млын. *Dyb., 157; 1946, Староб.*

1919. На купіне талочыцца, малочыцца, уся яго вера калоціцца.

Вятрак. *F., 476.*

1920. Круціцца, клапоціцца, у гары возіцца, аж зямля калоціцца.

Млын. *Р., сб., 324.*

1921. Пціца — не пціца: на дзевяці нагах стаіць, ва ўсе бакі глядзіць, крылкамі махае, а лятаць не лятае.

Ветраны млын. *Нк., 15.*

1922. Стаіць гон на ганах, на дванаццаці нагах, кліча сына-скарына з-пад белага горада.

Млын. *Нк., 15.*

1923. На васьмі нагах стаіць, аж трыма вачыма на вецер глядзіць.

Вятрак. *Ч., 306, Бельск. п.*

1924. Крыллямі маша, а ляцець не можа.

Вятрак. *1965, Кап.*

1925. Усё махае, а паляцець не можа.

Млын. *1949, Акцябр.*

1926. Чатыры казы на адной назе.

Млын. *Б., 171.*

1927. Адзін дзед ніколі не наесца.

Млын. *Б., 171.*

1928. Бегла чачотка праз сямі варотка, прыйшоў чачот, даў ёй вецер — тыц і стала.

Млын. *F., 484.*

1929. Ляцела чачотка праз тры варотка, прыйшоў чэчык да амецік — і стой тут.

Млын. *F., 475.*

1930. Бяжыць чэмчык — пруц, мыц і стала.

Млын. *F., 484.*

1931. Трах-тарарах, вада бяжыць, барада трасецца.

Млын. *F., 476.*

1932. На гана́х, на гана́х, на чатырнаццаці нагах, шалусіны-балусіны з-пад белага мястэчка.

Вадзяны млын. *F., 476.*

1933. Сем семярэй, семера свіней, свінка свінцы — брат, семера парасят.

Млын. *1949, Кір.*

1934. Стаіць сава на купіне, трасецца, калоціцца аба ўсём свеце клапоціцца.

Млын. *Д., 89.*

1935. Сядзіць жораў на купіне, трасецца, калоціцца, а аб ім увесь свет клапоціцца.

Млын. *Ш., 494, Сен. п.*

1936. Стаіць кулік над вадою, круціцца, лапочыцца, аб ім людзі клапоцяцца.

Млын. *Р., сб., 332.*

1937. Стаіць мядзведзь на купіне, дрыжыць і калоціцца, а к яму ўвесь свет коціцца.

Млынок малы — «мядзвёдак» абмолвае цэлу аколіцу. *J., 14.*

1938. Стаіць дом нахлебны, усяму свету патрэбны, а ў тым доме гучы, крычы, на гуры заўлячэ і праз граты ўцячэ.

Млын. *1965, Навагр.*

1939. На рэках, на водах, на ракавых клешнях стаіць двор бялéбен, на ўвесь свет патрэбен.

Млын. *F., 476.*

1940. Стаіць вулей на балоце, не жне, не малоціць, а за хлеб грошы калоціць.

Млын. *1960, Кап.*

1941. Круць, верць — пад чарапочкам смерць.

Млын. *Гт., 297, Кобр. п.*

1942. Што гэта за загадка: сем пальцаў, адна пятка?

Млын. *F., 475.*

1943. Воўк (мядзведзь) стаіць, а вушы скачуць.

Ступа і таўкачы. *Р., сб., 318; Нк., 17; W., 7, Віл. п.; 1959, Гом.*

1944. Стаіць мядзведзь — на два бакі валюх-валюх.

Ступа і таўкачы. *Нк., 17.*

1945. У нашага Антонка спіна тонка.

Таўкач у ступе. *Dyb., 164.*

1946. У нашага Анатолькі спіна тонка.

Каўбаса на скаварадзе. *Р., сб., 333.*

1947. У нашага Антонка сярэдзіна тонка.

Таўкач. *F., 483; Д., 90.*

1948. Выскачылі юры з-пад каменнай гары, сталі над бабаю юрыць, аж хата дрыжыць.

Таўкачы і ступа. *Н., 19.*

1949. Матка гладка, бацька лысенькі, дзеткі вышчаркі.

Ступка, таўкач, зерне канапель. *Д., 87.*

1950. Усё поле на дзірачках.

Рэшата. *F., 480.*

1951. Дзірак многа, а вылезці некуды.

Рэшата. *F., 480.*

1952. Новая пасудзіна (пасуда), а ўся на дзірках.

Рэшата. *1949, Бабр.; 1959, Гом.; 1946, Стараб.*

1953. Дзерава новае, а ўсё ў дзірках.

Рэшата. *1963, Брасл.*

1954. З-пад ліпкі мяцеліца ідзе.

Рэшата. *Д., 91.*

1955. Пад ліпкаю — сумяцель.

Рэшата. *Р., сб., 328.*

1956. У лесе расло, па полі пасло, дадому прыйшло, бабамі трасло.

Сіта. *Ч., 316, Бельск. п.*

1957. У ліпавым кусце завіруха (мяцеліца) мяце.

Муку сеюць. *F. ,477; Н., 17.*

1958. Пад ліпавым кустом мяцеліца мяце.

Муку сеюць. *Нк., 11; Р., сб., 328; F., 480.*

1959. Пад ліпінкай (ліпай) мяцеліца мяце.

Муку сеюць. *Нк., 11; Ш., 498.*

1960. Пад ліпінкай белы сумёт.

Мука прасяваецца. *Нк., 11.*

1961. Каля гары белы заяц бегаў.

Муку сеюць. *Нк., 11.*

1962. Што пад нізам, тое мне, што навярху — табе.

Мука пад рэшатам, высеўкі. *Нк., 11.*

1963. Чырычыкі па ліпаваму масту скачуць.

Крупы ў рэшаце. *Б., 170.*

1964. Госпадзі, благаславі! З чаго хлеб, з таго і пірагі.

Мука. *Зар., 6.*

1965. Сіняе мора калышыцца, белы зайчык спаць лажыцца.

Мука. *Р., сб., 331.*

1966. Сама тоўстая, рубашка кароткая.

Дзяжа. *Д., 83.*

1967. Сярод хаты куст мяты.

Дзяжа. *F., 468; Шр., 209.*

1968. Сярод хаты стаіць (сядзіць) кусцік мяты.

Дзяжа. *Р., Мат., 93, Слон. п.; 1946, Староб.*

1969. Сярод хаты стаіць куст з ваты.

Дзяжа з цестам. *Рп., 339.*

1970. Сярод хаты корчык мяты.

Дзяжа. *1948, Пруж.*

1971. Без кліноў, без капытоў, само падыходзіць, ніхто яго не трывожыць.

Цеста. *Р., сб., 317.*

1972. Без костачкі, без жылачкі, адзін састаў і той устаў.

Цеста ў дзяжы. *Шр., 208.*

1973. Не шкадуюць мяне, мнуць, у печ гарачую кладуць, а як вымуць, дык нажом будуць рэзаць за сталом.

Хлеб. *І. І., 1937, № 1, 22.*

1974. Б'юць каламі, рэжуць нажамі, за тое так лупяць, што ўсе яго любяць.

Хлеб. *Рп., 329.*

1975. Б'юць мяне калкамі, рэжуць нажамі, за тое мяне губяць, бо мяне ўсе любяць.

Хлеб. *1946, Староб.*

1976. Нарадзіўся без рук, без ног, як вырас, то нічога не мог, а па смерці шмат дапамог.

Хлеб. *F., 466.*

1977. Карова ў пуні — хвост наружы.

Хлеб у печы і лапата. *Д., 95.*

1978. За пералазам сядзяць учатырох разам.

Чатыры булкі хлеба ў печы. *Р., Мат., 87, Кобр. п.*

1979. Пасад аўсяны, ток жалезны.

Блін і скаварада. *Нк., 11.*

1980. Жалезны ток, свіны пераскок, а грэцкі пасад.

Скаварада, сала для падмазкі і грэцкі блін. *Н., 18; Зар., 6; Р., Мат., 93, Слон. п.; F., 464.*

1981. Жалезны ток, свіны пераскок, пасад грачаны.

Скаварада, падмазка, блін. *Р., сб., 322.*

1982. Жалезны ток, свінячы пераскок, грэцкае пасаддзе.

Скаварада, сала і грэцкі блін. *Б., 172.*

1983. Жалезны ток, свіны піражок, аўсяны пасад.

Скаварада, падмазка, блін. *Ш., 487, Ігум. п.*

1984. Жалезны ток, свінячы пераскок, а жытні пасад.

Скаварада, падмазка, блін. *1946, Староб.*

1985. Жалезны ток, аўсяная пасцель.

Скаварада і блін. *Нк., 16.*

1986. Жалезны ток, свінячы пераскок, аўсяная пасцель.

Скаварада, падмазка і блін. *Нк., 16.*

1987. Плеш на гору, плеш пад гору, плеш цяпнеш, паравернеш.

Блін. *Ш., 487, Ігум. п.*

1988. На плеш капнеш, уставіш, папарыш, дастанеш, паправіш.

Блін. *Рп., 334.*

1989. Глядзіць кукішам (хвігай), а ўсе цалуюць.

Крэндзель, абаранак. *Н., 16; Рп., 330.*

1990. Каціліся каточкі па ліпаваму масточку, як увідзелі зару — шмыг у ваду.

Клёцкі высыпаюцца з рэшата ў гаршчок. *Нк., 11.*

1991. Каціліся катушачкі па ліпавай мастушачцы, каціліся-валіліся ў гліняны гарадок.

Клёцкі высыпаюцца з рэшата ў гаршчок. *Нк., 11.*

1992. Ляцелі чычы́ чэраз ліпавы карчы, а ў глінішчах селі.

Крупы сыплюць з рэшата ў гаршчок. *1948, Пруж.*

1993. Цацілася бірулічка па калінаваму масточку ў каменны гарадочак.

Гарох сыплюць у гаршчок. *Д., 82.*

1994. Глінскі біўся з Бульбінскім, а без Саламона і суду няма.

Бульба варыцца без солі. *Нк., 11.*

1995. Свёкар свякрыві дзёр скуру да крыві.

Бурак. *Нк., 25.*

1996. Захацелася, заманулася, ды мужык не даў, трэба ў каня адабраць і ахвоту сагнаць.
Авёс на кісель. *F., 470.*

1997. Матка — пукатка, дзеткі — верашчэткі, а бацька — лысун.
Макацёр, мак і мяла. *F., 475.*

1998. Маці — вярцеліца, дзеткі — трашчоткі, бацька лысы.
Макацёр, мак і мяла. *F., 475.*

1999. Матка — трашчатка, дзеткі — цукатачкі, а татка лысы.
Макацёр, мак і мяла. *F., 475.*

2000. Маці чорна, бацька лысы, дзеці трышчыкі.
Міска, мяла і семя. *Р., Мат., 90, Кобр. п.*

2001. Дзеткі — лушчаткі, бацька лысы пагнаў мышы.
Семя канаплянае. *Р., Мат., 88, Кобр. п.*

2002. Вадкае, а не вада, белае, а не снег.
Малако. *Рп., 344; 1967, Пруж.*

2003. Сівая карова праз дарогу пройдзе, а белая не пройдзе.
Сыроватка, цадзілка і тварог. *Нк., 11.*

2004. Сівая карова праз дарогу пройдзе, а белая засядзе.
Сыроватка, цадзілка, тварог. *Рп., 338.*

2005. У рубашцы радзіўся, а голы ходзіць.
Сыр. *1948, Пруж.*

2006. Прыбег Хвілька, забіў шпільку: «Ах Хвілька, харошая твая шпілька! Прыбягай паскарэй, забівай пакрапчэй».

Маслабойня. *Д., 87.*

2007. Сквозь сцены вала пякуць.

Яйцо варацъ. *Р., сб., 331.*

2008. Праз сцяну вала пякуць.

Яйцо варацъ. *Рп., 351.*

2009. У куточку — беленькі чарапочак.

Шалупайка. *F., 481.*

2010. Загану заганачку, закладу за градачку, пушчай будзе на Новы год.

Каўбаса. *Р., Мат., 87, Кобр. п.*

2011. Вісіць вісёнца, сядзіць сядзёнца, каб ты не вісеў, я б не сядзеў.

Каўбаса і кот. *1970, Астр.*

2012. Трашчыць, верашчыць, з балота не лезе.

Каўбаса на скаварадзе. *Р., сб., 333.*

2013. Круць, верць — на скаварадзе смерць.

Каўбаса. *Нк., 11.*

2014. За лесам лясанскім закрычала чырычэнька голасам паганскім.

Сала на патэльні. *F., 481.*

2015. На чорным полі бела гліна сквірыцца.

Сала на патэльні. *F., 481.*

2016. Чорна свінішча, ходзячы па сяле, свішча.

Скваркі на патэльні. *Г., 481.*

2017. Чорны нішчы па сяле свішча.

Сала на скаварадзе. *Р., Мат., 92, Слон. п.*

2018. Чорнае памялішча на таку свішча.

Подмазка. *1946, Староб.*

2019. У добрага мужа сярод пячы лужа.

Верашчака. *Ш., 487, Свянц. п.*

2020. Вяліка, як галава, а лёгка, як муха.

Пузыр. *Р., Мат., 91, Кобр. п.*

2021. І мяне мала ядуць і без мяне не ядуць.

Соль. *1949, Кір.*

2022. У вадзе радзілася, а вады баіцца.

Соль. *1946, Староб.; 1950, Браг.; 1959, Гом.*

2023. Хто на вадзе радзіцца, той вады баіцца.

Соль. *Р., сб., 334.*

2024. Што ў вадзе родзіцца, то ў вадзе і расходзіцца.

Соль. *Dyb., 164.*

2025. З вады вырасла, усяму свету згадзілася, як пабачыла сваю маці — у той час прапала.

Соль. *Б., 172.*

2026. На вадзе родзіцца, на агні вырастае, а як у ваду пападае— зноў прападае.

Соль. *Рп., 334; 1967, Кам.*

2027. За морам рубяць, а на наш стол шчэпкі ляцяць.

Соль. *Нк., 11.*

2028. А за морам дровы сякуць, а на ўвесь свет трэскі лятуць.

Соль. *Ш., 8, Леп. п.*

2029. Сякуць дуба, на ўвесь свет трэскі ляцяць.

Соль. *Р., сб., 333; Ш., 7, Віл. п.*

2030. На моры дуб сякуць, на ўвесь свет трэскі лятуць.

Соль. *Ніг., 198; Р., сб., 326; Д., 93.*

2031. Расце без кораня, цвіце без цвету, а служыць усяму свету.

Соль. *Б., 172.*

2032. Без лісця, без цвету служыць усяму свету.

Соль. *F., 481.*

2033. Чорненькая, маленькая ў караля на абедзе.

Перац. *Ю., 293, Лід. п.*

2034. Кругленька, маленька ў самога кроля (пана) на абедзе было.

Перац. *F., 478.*

2035. Лезу, лезу, не залезу, дай, кажа, перарэжу.

Мёд. *1949, Кір.*

2036. Белы, як снег, салодкі, як мёд.

Цукар. *1959, Гом.*

2037. Белы, як снег, у чэсці ва ўсех, і спадабаюся вам на бяду зубам.

Цукар. *Dyb., 166.*

2038. Возьмеш — чорна, нальеш — горка; пан крычыць: «Сладка». Мужык крычыць: «Гадка!»

Чай. *Нк., 11.*

2039. Душа кажа: «Згуба мая». Цела кажа: «Радасць мая».

Гарэлка. *Нк., 11.*

2040. Што гэта такое, скажы мне шчэра, што з чалавека зрабіць можа звера?

Гарэлка. *J., 11.*

2041. Вушка ў моры — хвост у горы.

Лыжка. *Нк., 17.*

2042. Шыя мая — вось такая, шундзер-мундзер — вось такі, завілючка — вось такая.

Апалонік. *1967, Шкл.*

2043. Вутка ў моры — хвост на заборы.

Апалонік. *1960, Сір.*

2044. Што ў яме ўверх хвастамі?

Лыжкі. *Нк., 17.*

2045. Не разыначка я — мяне ж усе смакуюць; не дзяўчыначка я — мяне ж усе цалуюць.

Лыжка. *Н.н., 27.*

2046. Ішоў чаборык цераз панскі дворык. Што гэта?

Лыжка. *Н. н., 27.*

2047. Вязушка вязе, сякушка сячэ, мокры Марцін ні сапе, ні храпе, толькі паварочваецца.

Лыжка, зубы і язык. *Нк., 17.*

2048. Дзеравяшка бярэ, касцяшка сячэ, а мокры Марцін падкладвае.

Лыжка, зубы, язык. *F., 474; 1949, Кір.*

2049. Кіну крывуліцу цераз тын на вуліцу, сякачыкі сякуць, Андрэй паварочвае.

Лыжка, язык, зубы. *Р., сб., 323.*

2050. Сізанькі селезень пад вадою (зямлёю) плавае.

Лыжка. *Нк., 17.*

2051. Нясу крывулічку ды ў тую вулічку.

Лыжку ў рот. *Р., сб., 327.*

2052. Крывулечка крывая ўвесь свет пітае.

Лыжка. *Н., 17.*

2053. Крывулька крывая, а ўсіх корміць.

Лыжка. *Рп., 324.*

2054. Худ канёк, а ўсё возера выпіў.

Лыжка. *Нк., 17; 1967, Стаўб.*

2055. Чатыры чатырнічкі, пяты паўнірнічак, шосты просты нясе крывулечку паміж тых ды ў вулечку.

Лыжка. *Ш., 493, Раг. п.*

2056. Ішлі трычэнчыкі, неслі крывулечку цераз тын да ў вулачку.

Тры пальцы нясуць лыжку ў рот. *Нк., 19.*

2057. Абліжы і зноў улажы.

Лыжка. *F., 474.*

2058. Што гэта за за́гадка, што ў яме ягадка, выйму, абліжу ды ізноў улажу.

Лыжка і міска з кашай. *Dyb., 160.*

2059. Загадаю за́гадку: улажу ў яму ягадку, выму, абліжу ды ізноў улажу.

Лыжка і міска з кашай. *Dyb., 159.*

2060. Я вам скажу загадку: вазьмі з ямы ягадку, абліжы і зноў улажы.

Лыжка. *W., 6, Віл. п.*

2061. Загадаю загадку: дастань з рота ягадку, абліжы і зноў улажы.

Лыжка са стравай. *Рп., 322.*

2062. Без чаго найбяднейшы чалавек абедаць не сядзе?

Без лыжкі. *F., 474.*

2063. І бальшая рошча, і малая рошча, а ўся ў качарэжках.

Лыжкі на стале. *Нк., 16.*

2064. Кругом (каля) ямы ўсе з кіямі.

Людзі з лыжкамі каля міскі. *Гт., 299, Дзісн. п.; Б., 167; Р., сб., 323; W., 8, Леп. п.; 1946, Староб.; 1960, Брасл.*

2065. Каля ямы стаяць людзі з кіямі.
Каля міскі з лыжкамі. *Зн., 30, Маг. п.; М. в., 161; 1949, Бабр.*

2066. Каля адной ямы ўсе з кіямі.
Міска і людзі з лыжкамі. *Ниг., 199; 1946, Жытк.*

2067. Над адной ямай усе з кіямі.
Над міскай з лыжкамі. *Р., сб., 326.*

2068. Каля ямы з булавамі.
З лыжкамі каля міскі. *Dyb., 159; F., 475; Р., Мат., 88, Кобр. п.; 1963, Маладз.*

2069. Над галавамі сядзяць з булавамі.
Над міскамі з лыжкамі. *Р., сб., 326.*

2070. Кругом ямы дзеці з каламі
Міска і лыжкі. *1960, Пух.*

2071. Кругамі старцы з кіямі.
Міска, а кругом лыжкі. *1950, Браг.*

2072. Кругом ямы [illegible] качаргамі.
Лыжка і міскі. *Д., 88.*

2073. Каля лунначкі ўсё вутачкі.
Міска з лыжкамі. *Нк., 17; Ш., 494, Слон. п.*

2074. Сярод мора — калодзеж.
Міска з ядой. *М. в., 159.*

## ХАТА І ЯЕ АБСТАЛЯВАННЕ

2075. Чорныя куры з седала, а белыя на седала.

Матэрыял для будынкаў. *F., 475.*

2076. Багат не багат, кругом рагат, а ў сярэдзіне пуста.

Вянок у зрубе. *Рп., 343.*

2077. Ішлі чарнічкі на вечарнічкі; як ляглі спаць, дык і цяпер спяць.

Брусы ў будынку. *Ш., 487, Гом. п.*

2078. Чатыры шчучкі, галоўкі ў кучцы, тулавы па-рознаму.

Сцены, вуглы. *Р., сб., 335.*

2079. У хаце чатыры, а ў вонках дык восем.

Вуглы. *Нк., 13.*

2080. У хаце чатыры, а на двары восем.

Вуглы. *1960, Івац.; 1967, Шарк.*

2081. Стаіць рубішча, у рубішчы варацішчы, у варацішчы гогаль, у гогаля шчогаль.

Дом, дзверы, печ, гаршчок. *Нк., 13.*

2082. Стаіць разрубіха, у разрубіхі разваліха, у разваліхі гогаль, у гогаля тыкаль.

Хата, дзверы, печ, качарга. *Нк., 13.*

2083. Стаіць турыца, у турыцы лісіца, у лісіцы лаханька, у лаханькі чорны жук плыве.

**Хата, дзверы, печ, гаршчок.** *Нк., 13.*

2084. Два браты адзін на аднаго глядзяць, а разам не сыйдуцца.

**Падлога і столь.** *Рп., 330.*

2085. Поўны дом незнаёмцаў.

**Сляды ў хаце.** *1948, Кобр.*

2086. Кожнаму госцю па пасцелі.

**Бярвенні ў сценах і мох.** *Д., 85.*

2087. Поўна хата гасцей, кожнаму пасцель.

**Бярвенні ў сценах і мох.** *Р., Мат., 93, Слон. п.; Ш., 494, Ігум. п.*

2088. Сто гасцей, сто пасцель, кожнаму госцю свая пасцель.

**Бярвенні ў сценах і мох.** *Б., 167.*

2089. У хаце само дзела робіцца.

**Трэшчыны ў сцяне.** *Б., 173; Нк,. 14.*

2090. Летась цар хадзіў, а сёлета след відзен.

**Мелавыя літары на сценах.** *Нк., 14.*

2091. І ў нас, і ў вас парасёнак увяз.

**Мох у сцяне.** *Ш., 494, Слон. п.; Д., 89.*

2092. Поўна хата вераб'ёў.

**Сукі ў сцяне.** *Р., Мат., 88, Кобр. п.; Dyb., 158; М. в., 159.*

2093. Поўна хата верабейкаў панагната.
Сукі ў сцяне. *Нк., 14.*

2094. Поўна хата верабейкаў і ўсе без галоў.
Сукі ў сцяне. *1946, Староб.; 1962, Капатк.*

2095. Сядзіць дзед у бядзе
Сук у сцяне. *Р., Мат., 89, Кобр. п.*

2096. Ні нажом, ні тапаром — само дзелаецца.
Шчыліны, трэшчыны. *Р., сб., 327.*

2097. Ходзіць курка-жаўтушка па сцяне і не шастае.
Сонечны зайчык. *Рп., 363.*

2098. Сядзіць дзядок, на хату гарбок.
Крук у сцяне. *Р., сб., 330.*

2099. Старэнькі (стары) дзядок на спіне гарбок.
Крук у сцяне. *Р., сб., 331; Ш., 7, Віл. п.*

2100. Сядзіць дзядок, уперад гарбок.
Крук. *Нк., 14.*

2101. Сядзіць дзядок, а наверсе гарбок.
Крук у сцяне. *1946, Староб.*

2102. Стары дзед на хаце гарбом сядзіць.
Крук у сцяне. *Б., 170.*

2103. Каля сцяны дзядок, вытырнуўшы свой гарбок.
Крук у сцяне. *Нк., 14.*

2104. Тырчыць Харытон на хату гарбом.
Крук. *Нк., 14.*

2105. Што на хаце гарбом?
Крук. *Нк., 14; 1969, Стол.*

2106. Па хаце граблі.
Крукі. *Нк., 14.*

2107. Мядзведзіца ў хаце, а хвост увонках.
Бэлька. *Нк., 13; 1967, Кам.*

2108. Валы ў хляве, а рогі на двары.
Бэлькі. *1963, Маладз.*

2109. Сярод хаты Сямён ляжыць.
Бэлька. *Ш., 486, Гом. п.; F., 465; 1960, Брасл.*

2110. Ад кута да кута стаіць баба распята.
Бэлька. *Гт., 295, Навагр. п.*

2111. Пасярэдзіне хаты стаіць Баўтрук распяты.
Бэлька. *1948, Пруж.*

2112. Цераз пуза — тры папругі.
Бэлькі. *1946, Староб.*

2113. Чатыры сястрыцы пайшлі ў чарніцы і цяперачка там.
Бэлькі ў хаце. *Нк., 13.*

2114. Чатыры сястрыцы пайшлі ў чарніцы — ніколі дамоў не вернуцца.
Бэлькі ў хаце. *Нк., 13.*

2115. На чэраве (пузе) чатыры жылы, хто не адгадае, той не будзе жывы.
Бэлькі ў хаце. *1946, Староб.*

2116. На чэраве тры жылы, хто не адгадае, той не жывы.
Бэлькі. *1962, Капатк.*

2117. Стаяць каровы ў хляве, а рогі на двары.
Кроквы. *1970, Ашм.*

2118. Уніз макушкамі, уверх камлямі.
Саламяная страха. *Нк., 13.*

2119. Уверх вярхамі, уніз камлямі.
Саламяная страха. *Рп., 341.*

2120. Аснова саснова, уток саламяны.
Страха. *1967, Астр.*

2121. Паверх лесу паляначка.
Зямля на страсе. *Б., 169.*

2122. Сярод хаты стаіць дзед гарбаты.
Печ. *1946, Староб.*

2123. Стаіць крошачка, не з'есць яе кошачка.
Печ. *Р., сб., 332.*

2124. Ляжыць крошка, не з'есць ні мыш, ні кошка.
Печ. *1967, Гор.*

2125. Кабыла бела ўсе дровы паела.
Печ. *F., 478; 1960, Пух.*

2126. Бела (сіва) кабыла ўвесь лес параела.
Печ. *Ч., 313, Бельск. п.; Гт., 300, Брэсцк. п.; Гт., 298, Кобр. п.*

2127. Бела кабыла ўсю лазу паела.
Печ. *1948, Кобр.*

2128. Белая кабыла ўсе дровы павазіла.
Печ. *1948, Пруж.*

2129. Які гэта звер: зімой есць, а летам спіць, цела поўнае, а крыві не мае? Сесць на яго сядзеш, а з месца цябе не звязе.
Печка. *Dyb., 167.*

2130. Што за скацінка: зіму есць, лета спіць. Чым яна цёпла? Крыві няма, а сядзь на яе — з места не павязе.
Печ. *Д., 90.*

2131. Стара баба цэлую зіму дзяцей агравае.
Печ. *Б., 171.*

2132. Цела цёпла, а крыві няма.
Печ. *F., 478; 1967, Маладз.*

2133. Скорзана, зборзана, без лыка звязана.
Печ. *Л., 41.*

2134. Сшыта, злаплена, а іголкі не было.

Печ. *Нк., 14.*

2135. Лата на лаце, а нітак не знаці.

Печ. *Ч., 313, Бельск. п.*

2136. Лата на лаце, а шва не знаці.

Печ. *F., 478; 1948, Пруж.*

2137. Маленькая шапачка ўся ў лапічках.

Печ. *Нк., 14.*

2138. Прыйшоў да мяне, уссеў на мяне, спацеў да поту, пайшоў на работу.

Чалавек на печы. *Ніг., 199.*

2139. Баран з хвайнян, гаўца з глінян

Памяло і печка. *Р., Мат., 88, Кобр. п.*

2140. Стаіць Рыгор паміж гор, кавіламі падпёршыся.

Стоўб у хаце пры печы. *Гт., 299, Двісн. п.; Нк., 14.*

2141. Стаіць Рыгор паміж гор віламі падпёрты.

Стоўб пры печы. *Ш., 497, Навагр. п.*

2142. А ў Астапка чорна шапка.

Стоўб пры печы. *F., 482.*

2143. Як у нашага пана пасярод пуза яма.

Стоўб у хаце. *Нк., 14.*

2144. Маці таўстуха, дачка краснуха, а сын перабор выскачыў на двор.

Печ, агонь, дым. *F., 478; Нк., 14; Р., сб., 325; Pietk., 450; W., 9, Леп. п.; Л., 20; 1946, Староб.; 1960, Пух.*

2145. Маці таўстуха, дачка рыжуха, а сын перабор выскачыў на двор.

Печ, агонь, дым. *Рп., 334; 1962, Кап.*

2146. Маці таўстуля, а дачка красуля, а сын перабор паляцеў на двор.

Печ, полымя, дым. *1961, Крыв.*

2147. Маці таўстуха, дочка красуха, а сын перапёл уцёк на двор.

Печка, агонь, дым. *Гт., 295, Навагр. п.*

2148. Маці таўсцюха, дачка залатуха, а сын перабор выскачыў на двор.

Печ, агонь, дым. *Dyb., 159.*

2149. Маці таўсцюха, дачка расцюха, а сын разбой пайшоў на двор.

Печ, агонь, дым. *F., 468.*

2150. Маці гладуха, дачка красуха, а сын перабор пабег на двор.

Печ, агонь, дым. *1946, Жытк.; 1963, Брасл.*

2151. Матка гладуха, дачка красуха, а сын харабёр пайшоў на двор.

Печ, агонь, дым. *Р., сб., 325; Ніг., 199.*

2152. Матка таўстуха, дачка краснуха, а сын Хвядос пайшоў да нябёс.

Печ, агонь, дым. *Ш., 496; Н., 17; 1960, Капатк.*

2153. Маці таўстуха, дачка харашуха, а сын Марміл пайшоў на двор.

Печ, агонь, дым. *Р., Мат., 90, Кобр. п.*

2154. Матка груба, дочка чырвона, а сын пад неба пайшоў.

Печ, агонь, дым. *F., 478.*

2155. Матушка харатушка, а сын Лявон пайшоў вон.

Печ, дым. *F., 478.*

2156. Маці чорна, дачка чырвона, а сын разгон пайшоў вон.

Сажа, агонь, дым. *1911—1912, Сакольскі п.*

2157. Поўны хлеў чырвоных кароў, прыйшла адна чорна — ўсе чырвоны паўганяла.

Печ, жар, качарга. *F., 478.*

2158. У хаце дровы гінуць, сівы воўк уносіць.

Печ і дым. *Б., 171.*

2159. Палажу скрылькамі, выну крошкамі.

Дровы ў печы. *Д., 84.*

2160. Чырвоны вол чорнага ліжа.

Агонь і гаршчок. *Б., 171.*

2161. Красулька чарнульку ліжа.

Агонь і гаршчок. *Р., сб., 323; F., 464; 1960, Івац.*

2162. Рыжы бык ды чорнага ліжа.

Агонь і гаршчок. *Ш., 495, Віл. п.*

2163. Рыжая карова неба ліжа.
Агонь у печы. *1970, Ашм.*

2164. Чырвона-рыжы чорнага ліжа.
Полымя. *Шр., 209.*

2165. Красько жука ліжа.
Полымя і галаўня. *Р., Мат., 88, Кобр. п.*

2166. Красненькі (ясненькі) петушок па жэрдачцы скача.
Агонь. *Д., 80; Нк., 27.*

2167. Чорны дзедзя па жэрдцы едзе.
Агонь. *1960, Капатк.*

2168. Чырвоны конік па дрэве бяжыць.
Агонь. *Рп., 342.*

2169. Ідзе пятух — кладка гніе.
Агонь. *Нк., 27.*

2170. Сядзіць чырвоненькі дзядок: ніхто яго не кране.
Агонь. *І. І., 1937, № 2, 8.*

2171. Чырвонае, маленькае хату згубіць.
Агонь. *Б., 171.*

2172. Бацькі няма, а сын на вайне.
Агонь і дым. *F., 464.*

2173. Яшчэ бацька не ўрадзіўся, а сын ужо на вайну пакруціўся.
Агонь і дым. *F., 464.*

2174. Ляціць матылька, дзе сядзе, там дзірка.
Іскра. *1967, Свісл.*

2175. Каля печы дзве бухавечы.
Пячуркі. *F., 478.*

2176. У кутку крошка — жоўтая сарочка, чорны падол.
Ямка ў печы для жару. *Нк., 14.*

2177. Кабыла з калітой.
Печ з ямкай. *Нк., 14.*

2178. Каліта поўна золатам наліта.
Пячурка з жарам. *М. в., 160.*

2179. Маленькая каліта ўся золатам наліта.
Жар у ямцы. *Нк., 14.*

2180. Поўна карыта золата наліта.
Жар у пячурцы. *Р., сб., 328.*

2181. Повен падпечак чырвоных яечак (авечак).
Вуголле, жар. *Ш., 498, Віл. п.; 1960, Гом.; 1962, Капатк.; 1963, Смарг.*

2182. Поўны засечак красных яечак.
Жар у пячурцы. *1949, Кір.; Нк., 14.*

2183. Поўна бочачка мукі, а паверсе жукі.
Попел, вуголле. *1946, Жытк.; 1969, Стол.*

17. Зак. 262

2184. Поўна бочка мукі, а наверсе чорныя жукі (сукі).

Попел і вуголле. *1946, Староб.*

2185. У маленькім хлявечку ўсё жоўтыя авечкі.

Жар у ямцы. *Нк., 14.*

2186. Маленькае, красненькае, не падымеш.

Жар. *1949, Акцябр.*

2187. Кладу скібкамі, а выму крошкамі.

Дровы і жар. *Нк., 14.*

2188. Гарбата баба чырвонцы лічыць.

Жароўня. *1948, Пруж.*

2189. Калі не згару, то і ў вадзе не ўтаплюся і ў зямлі не згнію. Хто я такі?

Вугаль. *Рп., 332.*

2190. Закапаю — не гніе, пушчу на ваду — паплыве.

Вугаль. *1946, Староб.*

2191. Стаіць цыган у золаце.

Гаршчок у печы. *Ш., 10, Леп. п.*

2192. Стаіць бычок, асмалены бачок.

Засланка. *Ш., 491, Свянц. п.*

2193. Ляжыць (стаіць) ваўчок, асмалены бачок.

Засланка. *М. в., 160; 1960, Пух.; 1946, Староб.*

2194. Ляжыць (бяжыць) воўк, абсмалены (абгарэлы) бок.
Засланка. *Д., 85; Р., сб., 318; Н., 16.*

2195. Бяжыць ваўчок, гарэлы бачок.
Засланка. *Ш., 8, Леп. п.*

2196. Бег ваўчок цераз раўчок, у яго смалены бачок.
Засланка. *Р., сб., 318; 1960, Чач.*

2197. У кожнай хаце ёсць такі воўк, што высмалены бок.
Засланка. *F., 485.*

2198. Бег (бяжыць) ваўчок, асмалены (абсмалены) бачок.
Засланка. *Ш., 489, Навагр. п.; 1949, Кір.; 1946, Жытк.; 1949, Кліч.*

2199. Адну казу ўсе за хвост цягаюць.
Засланка. *Б., 169.*

2200. Адну казу мае і тую за хвост падымае.
Засланка. *Dyb., 160.*

2201. Адну казу маем (маю) і тую падымаем (паднімаю).
Засланка. *Д., 85; Ш., 7, Леп. п.; 1962, Капатк.; 1960, Кап.*

2202. Адну казу маю і тую за хвост (штодня, штодзень) падымаю.
Засланка. *F., 485; Р., сб., 327; Л., 2; Гт., 295.*

2203. Баю, баю, адну казу маю і тую казу за хвост падымаю.
Засланка. *Р., сб., 317; Ш., 5, Віл. п.*

2204. Каля печы трыбух авечы.
Засланка. *Р., Мат., 88, Кобр. п.; F., 485.*

2205. Дзень карпее, ноч карпее, а як дым — аддыхае.
Засланка. *Нк., 16.*

2206. Бабанька Сох'я дзень і ноч сохла: ранне настала — проч адстала.
Засланка. *Нк., 16.*

2207. Сядзіць бабка ў хаце, а галава на хаце.
Печ і комін. *1960, Капатк.*

2208. Стаіць на крышы і ў піпку курыць.
Комін і дым. *Нк., 14.*

2209. На страсе сядзіць і люльку курыць.
Комін. *Рп., 335.*

2210. Вышэй за ўсіх стаіць, навакол глядзіць, у белай кашулі і люльку курыць.
Комін. *Рп., 330; 1960, Іваш.*

2211. Скрозь паталок мужык шкуру правалок.
Комін. *Д., 94.*

2212. Маленькі бычок усю ваду выпіў.
Комін. *Р., сб., 325.*

2213. Мой конік маленькі, а ўсё возера выпіў.
Комін. *Нк., 15.*

2214. Баран чорны, а зубы белыя.

Комін. *F., 473.*

2215. У нашага Астапка чорная шапка.

Комін. *F., 473.*

2216. Стаіць слуп, а ў ім дзірка.

Комін. *Рп., 339.*

2217. Сярод хаты стаіць поп гарбаты.

Комін. *1946, Жытк.*

2218. Фіту-фіту — поўна скрыня аксаміту.

Сажа ў коміне. *Шр., 209; F., 481.*

2219. Фіту-міту — поўная шафа аксаміту.

Комін і сажа. *Ш., 6, Віл. п.*

2220. Лезу, лезу на горку, адчыню каморку.

Юшка ў коміне. *1949, Кір.*

2221. На страсе валасамі трасе.

Дым. *1970, Астр.*

2222. Цераз сцену сукно цягнуць.

Дым. *F., 468.*

2223. Цераз акно цягне воўк сукно.

Дым. *Ю., 293, Лід. п.*

2224. Сіва сукно лезе ў акно.

Дым. *F., 468.*

2225. Серае сукно цягнецца ў акно.
Дым. *Д., 83.*

2226. Сіняе суконца паўзе ў ваконца.
Дым. *Нк., 14.*

2227. Наш брат-пракурат як устаў, то да неба дастаў.
Дым. *Р., Мат., 86, Ваўк. п.; F., 468.*

2228. Мой брат Кандрат як устане, да неба дастане.
Дым. *1948, Пруж.*

2229. Без ног падымаецца дыбам.
Дым. *Н., 15.*

2230. Без рук, без ног на печку ўзлез.
Дым. *Нк., 14.*

2231. Без рук, без ног на гору лезе.
Дым. *F., 468.*

2232. Без ног, без крылляў, а да неба ўзнімаецца.
Дым. *Рп., 356.*

2233. Без рук, без ног, без чэрава, а такі лезе на дзерава.
Дым. *F., 468.*

2234. Без рук, без ног, без чэрава ляціць вышэй дзерава.
Дым. *F., 468.*

2235. Без рук, без ног, а да неба дастане.
Дым. *1946, Староб.*

2236. Сізы Салівон пайшоў вон.
Дым. *Р., сб., 333.*

2237. Прыйшоў Халімон, завярнуўся і вон.
Дым. *Ш., 10, Леп. п.*

2238. Чорны малаточак пакаціўся ў куточак.
Дым. *F., 468.*

2239. Не шагае, а ходзіць.
Дым. *F., 468.*

2240. Яшчэ бацька не радзіўся, а сын на вайне набыўся.
Дым. *Шр., 209.*

2241. Яшчэ бацька не радзіўся, як сын пайшоў у маскалі.
Дым і агонь. *1946, Староб.*

2242. Пакуль бацька нарадзіўся, сын ажаніўся.
Дым і агонь. *1960, Пух.*

2243. Мяту, мяту — не вымету, як пара прыйдзе, то само выйдзе.
Дым. *Б., 168.*

2244. Ні свет ні зара бяжыць хвост задзіра́.
Дым. *Нк., 14.*

2245. Каля носу ўецца, а ў рукі ўзяць не даецца.
Дым. *F., 468.*

2246. Ад куста да куста стаіць баба распята.
Дым. *1948, Пруж.*

2247. Уніз насеннечкам, а ўгору карэннечкам.
Сажа. *F., 481.*

2248. Паміж лісіц свіння вісіць.
Дзверы. *Гт., 299, Дзісн. п.; Ш., 489; Нк., 13; 1961, Крыв.*

2249. Між лісіц парсюк вісіць.
Дзверы. *Р., сб., 326.*

2250. Між дзвюх лісіц скура вісіць.
Дзверы. *Д., 83.*

2251. Між лесу свіння вісіць.
Дзверы. *Нıг., 199.*

2252. Не шагае, а ходзіць.
Дзверы. *Нк., 13.*

2253. Стаіць у парогі чатыры рогі.
Дзверы. *Б., 168.*

2254. У сенях — і так, і сяк, а ў хаце — ніяк.
Дзверы. *Нк., 13.*

2255. Хто ні йдзе, дык вядзе, а на кут ні разачку не завядзе.
Дзверы. *Нк., 13.*

2256. Два (двое) стаяць, два (двое) ляжаць, пяты ходзіць, шосты водзіць.

Касякі, дзверы і чалавек. *Гт., 295, Навагр. п.; Нк., 13.*

2257. Два стаяць, два ляжаць, а пятая хода ходам ходзіць.

Вушакі і дзверы. *1962, Кап.*

2258. Два стаяць, два ляжаць, пяты ходзіць, за пуп водзіць, шосты песенькі пяе.

Дзверы, вушакі і чалавек. *Д., 83.*

2259. Два стаяць, два ляжаць, пяты ходзіць, шосты водзіць, сёмы спявае.

Дзверы, вушакі і чалавек. *F., 468; 1948, Кобр.*

2260. Два стаяць у адной шапцы, адзін ляжыць між ног, адны ходзяць, адзін водзіць, бо выйсці б не мог.

Вушакі, парог, дзверы і чалавек. *J., 11.*

2261. Як адсыпаю — более, як прысыпаю — менее.

Дзверы як адчыняюць і зачыняюць. *Р., сб., 337.*

2262. На кут іду, за пуп вяду.

Дзверы, ручка. *Р., сб., 326.*

2263. На кут ходзіць, за пуп водзіць.

Дзверы, ручка. *1960, Асіп.*

2264. Ідзе дзед на кут, вядзе бабу за пуп.

Дзверы. *Dyb., 163.*

2265. Ідзе баба на кут, цягне дзеда за пуп.

Дзверы. *Pietk., 449.*

2266. Хто ідзе, за пуп цягне.

Клямка. *Ш., 492, Віл. п.*

2267. Хто не йдзе, а ўсё старую бабу за пуп вядзе.

Дзверы, ручка. *Нк., 13.*

2268. Куды не іду, то ўсё за пупа цягну.

Клямка. *1946, Староб.*

2269. Сюды ідзе, туды ідзе, а за пуп бабу вядзе.

Дзверы. *F., 469.*

2270. Не мыўся, не маліўся, за пуп ўхваціўся.

Ручка ў дзвярах. *Ш., 9, Леп. п.*

2271. Сюды іду, туды іду, дзеда за бараду вяду.

Дзверы. *Р., Мат., 89, Кобр. п.*

2272. Туды йду — за жалеза бяру, адтуль йду — за жалеза бяру.

Клямка ў дзвярах. *Р., сб., 333.*

2273. Хто ні ідзе, той за нос пацягне.

Клямка. *Рп., 341.*

2274. Хто ні йдзе, той і бабку гняце.

Клямка. *1946, Староб.*

2275. Хто ні падойдзе, мяне за віхор возьме.

Ручка ў дзвярах. *Нк., 13.*

2276. Аднаго сука поўна рука.

Клямка. *Шр., 208.*

2277. Сюды стук, туды стук.

Засаўка. *Б., 169.*

2278. Як зіму, як лета — на адным палазку едзіць.

Засаўка. *Р., сб., 336.*

2279. Хто найбольш усяго бачыць?

Парог. *F., 478.*

2280. Пад печчу два карасі пякуцца.

Вушакі. *Б., 173.*

2281. Загану загаику, без прыганкі (прыгадкі) не адганеш.

Замкнуты замок або засаўка. *Р., Мат., 87, Кобр. п.*

2282. Не брэша, не кусае, а ў дом (хату) не пускае.

Замок. *Шр., 208; 1946, Староб.; 1950, Браг.; 1959, Глыб.*

2283. Не лае, не кусае, нікога ў дом не пускае.

Замок. *1949, Бабр.*

2284. Чорненькі сабачка не брэшыць, не кусаець і ў хату не пускаець.

Замок. *1959, Леп.*

2285. Маленькі сабачка не брэша, не кусае і ў хату не пускае.

Замок. *1949, Гом.*

2286. Маленькі сабачка звярнуўшыся ляжыць, не кусае, не лае, а ў хату не пускае.
Замок. *Нк., 16.*

2287. Ранены сабака не брэша, не кусае, нікога ў хату не пускае.
Замок. *1946, Староб.*

2288. Мой цюлінька маленькі, гарбаценькі і не лае, не кусае, а на двор не пускае.
Замок. *Нк., 16.*

2289. Маўчалівы сабачка дом сцеражэ.
Замок. *Р., сб., 326.*

2290. Малчон сабачка, а дом сцеражэ.
Замок. *F., 485; Ш., 491, Віл. п.*

2291. Маленькі, гарбаты сцеражэ хаты.
Замок. *Dyb., 163; 1967, Дзятл.*

2292. Маленькі, гарбаценькі, а хаты сцеражэ.
Замок. *1946, Староб.*

2293. Сам невялік, а ўвесь дом сцеражэ.
Замок. *Б., 169.*

2294. Верабейка гару дзяржыць.
Замок. *Нк., 16.*

2295. Верабей вала дзяржыць.
Замок. *Ш., 491.*

2296. Хвост на двары, нос у нары. Хто нос паверне, той і ў хату ўвойдзе.

Замок. *Рп., 341.*

2297. Што гэта за карова прывязана ў парога? Не б'еццa, не рыкае і ў хату не пускае.

Замок. *1960, Асіп.*

2298. Панскія дулі пагнуліся ў дугі.

Замок. *Л., 33.*

2299. Панскія служкі пагнуліся ў дужкі.

Замок. *Dyb., 158.*

2300. Панскія слугі пагнуліся ў дугі; як ім не гнуццa, няма ў што апрануццa.

Замкі. *1965, Кап.*

2301. Сюды круць, туды верць, а перакручу — будзе смерць.

Ключ. *Рп., 339.*

2302. На паповым полі папутаны коні, вузлы пазавязваны, хто не ўмее, то не паразвязвае.

Замкі. *1965, Кап.*

2303. Хто наўперад у цэркву уваходзіць?

Ключ. *Ю., 293, Лід.* ■

2304. Чорны вол выпіў вады дол.

Душнік, праз які выходзіў дым. *Dyb., 164.*

2305. На адным палазку зіму і лета ездзіць.
Валакавое акно. *Н., 17.*

2306. Зіму і лета на адным палазу ездзіць.
Валакавое акно. *Нк., 13; Д., 80.*

2307. Зіму і лета ездзіць, а ніколі не з'ездзіцца.
Валакавое акно. *Нк., 14.*

2308. Стаіць воўк пад страхой, хлопкамі дзірка заткнута.
Валакавое акно. *Р., сб., 332.*

2309. Рабая сучка ў плот завязла (увязла).
Акно. *Нк., 13; F., 484.*

2310. Рабая свіння ў плот увязла.
Акно. *Нιг., 199.*

2311. Сам светлы — рэбры чорныя.
Акно. *F., 464.*

2312. Самі белы, а рэбры чорныя.
Вокны. *Р., сб., 330.*

2313. Праз масток — крыток.
Рама ў акне. *Нк., 13.*

2314. Скрозь сцяну відаць.
Акно. *Нк., 13.*

2315. Скрозь цела свет відаць.
Акно. *Нк., 13.*

2316. Як удзень, так і ўночы — усё тыя вочы.

Вокны. *Л., 63.*

2317. Ці ўдзень, ці ўначы, вываліўшы бельмачы.

Акно. *F., 464.*

2318. Побач стаяць, на вуліцу глядзяць, а сябе ніколі не бачаць.

Вокны. *1961, Добр.*

2319. Поле шкляное, а межы дрывяныя.

Акно. *Нк., 13.*

2320. Поле сцяклянае, а межы дзеравяныя.

Акно. *1959, Леп.; 1968, Касц.*

2321. У хаце мерзне, на вуліцы — не.

Шкло ў акне. *Нк., 13.*

2322. Адно ноччу глядзіць і днём глядзіць, другое ноччу не адпачывае, а трэцяе і днём, і ноччу не адпачывае.

Вокны, ложак, зямля. *1962, Дзятл.*

2323. Многа ўзораў на карціне, а як хто дзьмухне — усё знікне, усё міне.

Шкло ў акне зімой. *1959, Гом.*

2324. Як прысыплеш, дык паменшае, а як адсыплеш, дык пабольшае.

Стаўні або маты. *Нк., 14.*

2325. Кругом хаты сінія лапаты.

Аканіцы. *1960, Капатк.*

2326. Не бразгае дзвярыма, у вокны не грукоча, а ў пакой увойдзе, калі захоча.

Святло. *1961, Добр.*

2327. Старэнькі дзядок зубкі папёк.

Светач (лучнік). *W., 10, Леп. п.*

2328. Цыган зубы папаліў.

Светач. *Ш., 497, Віл. п.*

2329. Цыган грыбы папёк.

Светач. *Р., сб., 334.*

2330. Маленькі цыганок лупкі папёк.

Светач. *Нir., 199.*

2331. У цыгана губы чорны.

Светач. *Нк., 18.*

2332. Стаіць Гаўрыла замазана (мазанае) рыла.

Каганец, светач. *Р., сб., 332; Нк., 18.*

2333. Вісіць Гаўрыла, памазаўшы рыла.

Свецец. *Р., сб., 318.*

2334. Есць белае, а астаўляе чорнае.

Лучына. *Гт., 298, Дзісн. п.*

2335. Разлажу я пасць — нікому не скласць: ні цару, ні царыцы, ні папам, ні дзякам, ні нам, дуракам.

Лучына. *Д., 88.*

2336. Чырвоны дзедзя па жэрдцы едзе.

Агонь па лучыне. *Dyb., 158; Ш., 497, Навагр. п.; F., 464; 1960, Івац.*

2337. На гару бягом, а з гары — ні з места.

Агонь па лучыне. *Нк., 18; 1967, Кам.*

2338. Па жэрдачцы чырвоненькі петушок скача.

Агонь па лучыне. *Н., 17.*

2339. Па беленькай жэрдачцы чырвоненькі петушок скача.

Запаленая лучына. *Зар., 20.*

2340. На беленькай кладачцы чырвоны певунок скача.

Агонь па лучыне. *Рп., 335.*

2341. Ідзе певень па кладцы, услед кладка гніе.

Агонь, лучына. *Р., сб., 322.*

2342. Чырвоны пеўнік па жэрдачцы сунецца.

Агонь па дранцы. *F., 464.*

2343. Чырвоны малойчык па жэрдачцы скача.

Агонь па дранцы. *F., 464.*

2344. Чырвоненькі панічык па жэрдачцы едзе.

Агонь па дранцы. *F., 464.*

2345. Не тое грозна, што дзярэцца розна, ды тое страшна, што на канцы ясна.

Запаленая лучына. *Нк., 18.*

2346. Маленькая сабачка, на насу балячка.
Запалка. *1968, Касц.*

2347. Сярод хаты вісіць дзед (змей) лупаты.
Лямпа. *I. I., 1937, № 2, 18; 1949, Акцябр.; 1960, Капатк.*

2348. Пасярод хаты вісіць чорт лупаты.
Лямпа. *1960, Асіп.*

2349. Петушок без кішок, а ў сярэдзіне — сонейка.
Лямпа. *1949, Бабр.*

2350. Сам голы (гол), а сарочка (кашуля) за пазухай.
Свечка. *F., 483; М. в., 159; Зн., 30; Dyb., 163; Р., Мат., 86, Вайк. п.; W, 12, Дзвін. п.*

2351. Сама гола, а за пазухай сарочка.
Свечка. *Шр., 209.*

2352. Сам гол, а сарочку за пазухай дзяржыць.
Свечка. *Р., сб., 330; 1959, Гом.*

2353. Сам голы, а рубашка ў сярэдзіне.
Свечка. *Нк. 18.*

2354. Сам пан голы, а сарочка ў сярэдзіне.
Свечка. *Б., 172.*

2355. Цела наружы, а сарочка ўнутры.
Свечка. *1961, Добр.*

2356. Слізка, нялоўка — у сяродку вяроўка.

Свечка. *Нк. 18.*

2357. Гарыць дубок, ані жару, ані попелу.

Свечка. *Нк. 18.*

2358. У агні мокне, у вадзе сохне.

Свечка. *Шр., 209.*

2359. Цела ілавое, нутро ільняное, макушка залатая.

Свечка ў час гарэння. *Нк., 18.*

2360. Цельца маладое, сэрца хліпучае, а галоўка ясненькая .

Свечка. *Р., сб., 333.*

2361. З двух канцоў роўнае, усё белае, як снег, і свеціць, як сонца.

Свечка. *Б., 172.*

2362. Сонца-калёнца, пасярод жывіца, хто не адгадае (угадае), не будзе жаніцца.

Свечка. *1960, Асіп.; 1946, Слуцк.*

2363. На чатырох кіёчках ляжыць дошка.

Стол. *Б., 173.*

2364. У нашай малодачкі чатыры калодачкі.

Стол. *Р., сб., 333.*

2365. Пад адной крышай чатыры браты стаяць.

Стол. *1959, Глыб.*

2366. Пад адной хацінай чатыры сястрыцы.

Ножкі стала. *Р., сб., 328.*

2367. Пад адной шапкай чатыры панічыкі жывуць.

Стол. *1946, Слуцк.*

2368. Пад адным брыльком чатыры хлопчыкі.

Ножкі стала. *Р., сб., 328.*

2369. Пад адным брылем чатыры паны (папы).

Стол. *Зн., 30; Н; 18; М. в., 159; Д., 95.*

2370. Пад адной рызкаю чатыры папы.

Ножкі стала. *Р., сб., 328.*

2371. Чатыры братцы пад адной крышай стаяць.

Ножкі стала. *1962, Кап.*

2372. Чатыры брацікі пад адным капелюшом стаяць.

Ножкі стала. *1963, Брасл.*

2373. Чатыры браты пад адною шапкаю стаяць.

Стол. *Гт., 297, Кобр. п.; Dyb., 165.*

2374. Чатыры дзяды пад адным капялюшом.

Стол. *Гт., 298, Кобр. п.*

2375. Чатыры дзяды пад адной шапкай.

Стол. *Р., сб., 335.*

2376. Чатыры дзядкі пад шляпкаю сядзяць.

Ножкі стала. *1946, Староб.*

2377. Чатыры заловачкі схілілі галовачкі пад адным капелюшом.

Стол. *1960, Асіп.*

2378. Чатыры панічы пад адным капелюшом.

Стол. *W., 8, Леп. п.*

2379. Чатыры панічыкі пад адным капелюшом сядзяць.

Ногі стала. *Ю., 293, Лід. п.*

2380. Чатыры паненкі пад адным капелюшом стаяць.

Ножкі стала. *1963, Маладз.*

2381. Чатыры паненачкі пад адным парасонікам (капелюшом) стаяць (сядзяць).

Ножкі стала. *F., 482; Р., Мат., 87, Кобр. п.*

2382. Стаіць сасна, на сасне лён, на льне жыта.

Стол, абрус, хлеб. *Р., Мат., 90, Кобр. п.*

2383. Стаіць сасна, на сасне ліпа, на ліпе гліна, на гліне свіння.

Стол ліпавы на сасновых нагах, а на ім міска з мясам. *F., 482.*

2384. Стаіць дубішча, на дубішчы ільнішча, на ільнішчы кароўкі ходзяць.

Стол. *Нк., 15.*

2385. Стаіць дуб, на дубе канапліна, на канапліне гліна, на гліне гарох, а ў гаросе свінні.

Дубовы стол, міса з гарохам і скваркамі. *Шр., 209.*

2386. Стаіць сасна, а на сасне ліпа, на ліпе канапліна, на канапліне гліна, а ў гліне свінкі рыюць.

Стол. *Ш., 498, Вайк. п.*

2387. Пастаўлю ліпішча, засцялю льнішча, а на льнішчы палажу ржышча.

Стол, абрус, хлеб. *F., 482.*

2388. Галовы ўмесце, а ногі розна.

Лавы ў хаце. *Ш., 493, Сен. п.*

2389. Рыжыя каровы паклалі ўмесце галовы.

Лавы ў куце. *Ниг., 198.*

2390. Дзве кароўкі злажылі галоўкі.

Лавы ў куце. *1967, Віл.*

2391. Ляжаць дзве сястрыцы: галовы ўмесце, ногі ўрозь.

Лавы ў хаце. *Нк., 15.*

2392. Плывуць шчучкі, морды ў кучкі, а хвасты ўрозь.

Лавы ў хаце. *Д., 87.*

2393. Шчучкі галоўкамі ў кучкі, а хвастамі поразь.

Лавы ў хаце. *Н., 18.*

2394. Ішлі чарнушкі на вечарушкі, як ляглі, дык і цяпер спяць.

Лаўкі. *Р., сб., 322.*

2395. Ішлі масковачкі, склалі галовачкі, леглі спаць і цяпер спяць.

Лаўкі. *Р., сб., 322.*

2396. Дзве Гапкі, трэці Гапон.

Дзве лаўкі і стол. *Нк., 15.*

2397. Дзве Гапушкі, трэці Гапон.

Дзве лаўкі і стол. *Д., 87.*

2398. Ёсць у маткі дзве дочкі Мар'і і сын Гапон.

Хата, лаўкі, палок для спання. *Р., сб., 321.*

2399. Мае чатыры нагі, а не звер.

Ложак. *F., 475.*

2400. Чатыры нагі, але не звярушка, многа пер'я, ды не птушка.

Ложак з падушкамі. *Нк., 15; Ч., 310, Бельск. п.*

2401. Чатыры нагі маю, але не звер, пух і пер'я маю, але не птах, душу і цела маю, ды не чалавек.

Ложак. *Ш., 492, Навагр. п.; Б., 169.*

2402. На чатырох нагах, да не жывёла, мае пух і пяро, да не птушка, мае душу і цела, да не заўсёды.

Ложак. *1960, Нясв.*

2403. Мае чатыры нагі — не пойдзе, мае пух і пер'е — не паляціць, мае душу, але не заўсёды.

Ложак. *F., 475.*

2404. Мае чатыры нагі, да не ходзіць, мае пер'е, да не паляціць, мае душу, да не заўсёды.

Ложак. *Pietk., 450.*

2405. Чатыры нагі, пух і пер'е, цела і душа.

Ложак, пасцель, чалавек. *Нк., 15.*

2406. У лесе было, лісце мела, цяпер трымае душу і цела.

Ложак. *Ч., 310, Бельск. п.*

2407. Адзін кажа: «Світай, божа». Другі кажа: «Змяркай, божа». А трэці кажа: «Як удзень, так уночы — вытрашчыўшы вочы».

Пасцель, дзверы, акно. *Гт., 296, Кобр. п.*

2408. Адзін кажа: «Світай, божа». Другі кажа: «Не дай, божа». Трэці кажа: «А мне ўсё роўна: як удзень, так і ўночы, стаю, вытрашчыўшы вочы».

Ложак, дзверы, акно. *Р., сб., 327.*

2409. Напхата пухам, ляжыць пад вухам.

Падушка. *1946, Староб.*

2410. Адно бруха, чатыры вуха.

Падушка. *1967, Гор.*

2411. Два брухі, чатыры рагі.

Падушка. *1950, Уздз.*

2412. Без рук, без ног, а сарочку (рубашку) просіць.

Падушка. *1950, Хойн.; 1963, Брасл.*

2413. Мядзведзь ляжыць, а яго скура да вады бяжыць.

Падушка. *F., 477.*

2414. Сама ляжыць, а шкура да вады бяжыць.

Навалачка. *1960, Нясв.*

2415. Пайшоў вол да вады, а трыбухі дома засталіся.

Гусь і падушкі. *F., 471.*

2416. Карова да вады пайшла, а трыбух дома пакінула.

Навалачка ў час мыцця. *Нк., 13.*

2417. Сярод хаты вярбовы корчык.

Калыска. *Р., Мат., 87, Кобр. п.*

2418. Сярод хаты сала вісіць.

Калыска. *Д., 88.*

2419. Сярод хаты вісіць кусок мяты.

Калыска. *1962, Дзятл.*

2420. Сярод хаты вісіць дзед гарбаты.

Калыска. *1946, Староб.; 1963, Кап.*

2421. У лесе расло, цяпер носіць душу і цела.

Калыска. *F., 472; 1960, Івац.*

2422. Вісіць кілка на чатырох жылках.

Калыска. *Д., 88; Р., сб., 318; Нк., 15.*

2423. Ходзіць па хаце, а слядоў не знаці.

Калыска. *1948, Пруж.*

2424. Па хаце ходзіць, а сцежкі не знаці.
Калыска. *Р., Мат., 91, Кобр. п.*

2425. Ходзіць певень па хаце і яго следу не знаці.
Калыска. *Б., 169.*

2426. Чатыры чатыркі, пятая растапырка, шостая жывушка.
Калыска і дзіця. *Д., 88.*

2427. Чатыры чатырнічкі, пятая падушачка, шостая жывушачка.
Калыска з дзіцем. *Нк., 15.*

2428. Чатыры чатырначкі, дзве растапырначкі, пятая пяёначка, а шостая ляжоначка.
Калыска, маці, дзіця. *1963, Маладз.*

2429. Цераз пляцень, цераз хату няслі бабу чаравату.
Скрыня. *1946, Жытк.*

2430. Стаіць балван на чатырох нагах, а калена ніводнага.
Шафа. *Нк., 15.*

2431. Ёсць такое дзіва, хто паглядзіць на то дзіва, убачыць сябе.
Люстэрка. *Б., 169.*

2432. Што за рэч: паглядзіш на яе — сябе ўбачыш.
Люстэрка. *Рп., 343.*

2433. Стаіць паненка, і хто не йдзе — глядзіць на яе.
Люстэрка. *1960, Асіп.*

2434. Што за кароль, што з аднаго чалавека два зробіць?
Люстэрка. *F., 474.*

2435. Што то за дарога, што хто ідзе, дык храмае?
Лесвіца. *Ш., 494, Гом. п*

# ХАТНЯЕ НАЧЫННЕ

2436. Ляціць вутка, гарэлая дзюбка.
Качарга. *Нк., 16.*

2437. Чорны конь лезе ў агонь.
Качарга. *1960, Лоеў.*

2438. Цыганка, паганка па золаце скача.
Качарга. *Ш., 493, Сянц. п.*

2439. Худая цыганка па золаце скача.
Качарга. *F., 471.*

2440. Бабка-крываножка па золаце скача.
Качарга. *F., 471.*

2441. Гарбатая кабыла золатам званіла.
Качарга. *Д., 87.*

2442. Баўцерава дачка хадзіла ў кут па золата.
Качарга. *F., 472.*

2443. Цяцерава нявеста па кутах ходзіць, а не шастае.
Качарга. *F., 472.*

2444. Сама з ногаць, а хвост з локаць.

Качарга. *Рп., 337.*

2445. У краснай гары крывулька скача: «Пастой, касматы чорт, дастанецца і табе».

Качарга і памяло. *Р., сб., 319.*

2446. Скакала лісіца па краснай гарэ: «Пастой, чорт лахматы, дастанецца й табе».

Качарга і памяло. *Р., сб., 331.*

2447. Поўны хлеў красак, як улез жук, так выгнаў да адной.

Вуголлі і качарга. *Р., Мат., 90, Кобр. п.*

2448. Поўны хлявец чырвоных авец, як прыйшла чорна, усіх выгнала.

Вуголлі і качарга. *1969, Стол.*

2449. Тысячу кароў, адна кульгавая ўсіх паганяла.

Качарга. *1946, Староб.*

2450. Стаіць Анох у сініх штанох.

Вілкі. *Д., 94.*

2451. Сеў у вазок і паехаў у аганёк.

Вілкі з чыгуном. *1960, Капатк.*

2452. Рагаты, да не бык, ежу бярэ, а не сыты, людзям падае, а сам у кут ідзе.

Вілкі. *Рп., 336.*

2453. У ікаўцá тры канца.

Вілкі. *1959, Леп.; Бяг.*

2454. Ні свет ні зара бегае хвост задзірá.

Чапяла. *Нк., 16.*

2455. Цыган цыганку за горб (грыб, чуб) цягне.

Чапяла, патэльня. *Ш., 5, Віл. п.; Р., сб., 334; Рп., 342.*

2456. Цыган цыганку за грыву павалок.

Чапяла і скаварада. *1968, Краснап.*

2457. Цындалечка невялічка, з кокаць, а хвост прышыт з локаць.

Чапяла і чапельнік. *Н., 19.*

2458. Сам, як дуб, а рубашка па пуп.

Чапяла. *Нк., 16.*

2459. Старэнькі дзедзька па золату скача.

Памяло. *Р., сб., 332.*

2460. Шамку-шамку, што ў маім мяшку?—Шпількі, іголкі, сам не знаю колькі.

Памяло з хвоі. *Р., сб., 335.*

2461. Пан Зелянецкі ўбраўся па-нямецкі, а лычкам падпераўся.

Памяло. *F., 477.*

2462. Быў на капальні, быў на таптальні, быў на кружары, быў на пажары.

Гаршчок. *Нir., 199.*

2463. Быў я на таўкачове і на мельнікове, і на пажары, і на базары.

Гаршчок. *Нк., 16.*

2464. Быў я на копалі, быў я на топалі, быў я на кружані, быў я на пажары, быў я на возе і быў я на таргу.

Гаршчок. *Ш., 488, Свянц. п.*

2465. Быў я на копцы, быў я на топцы, быў на скрыжалі, быў на пажары, на базары стаў — людзей карміць стаў.

Гаршчок. *1962, Кап.*

2466. Быў я на капаньцах і на кляпаньцах, быў і на пажары, быў і на базары. Як молад быў — людзей карміў, як стар стаў — спавівацца стаў, як памёр — косці выкінулі і сабакі не ядуць.

Гаршчок. *J., 13—14.*

2467. Выйду я на ганачкі, стану я на заступкі: «Мілы мой дахар, дай мне на вахар! Мір плача, есці хоча».

Гаршчок. *Р., сб., 319.*

2468. Быў я на пажары, быў я на базары, як стар стаў, пад вуглом галаву паклаў.

Гаршчок. *Р., сб., 318; 1959, Гом.*

2469. З зямлі радзіўся, на агні хрысціўся, на базар вазілі, па шчаках калацілі, на каня пасадзілі, у самы дым правадзілі.

Гаршчок. *1959, Гом.*

2470. Ляжыць у гары, божага свету не бачыць; прыйшлі адамавы дзеці, пачалі вярцеці, на курган круціць, на печах патапіць, жазлом за яго брацца, усякі можа ад яго пітацца.

Гаршчок. *Д., 82.*

2471. Сеў на конь, паехаў у агонь.

Гаршчок. *Рп., 338.*

2472. Малады Ягор сеў на конь, паехаў у агонь.

Гаршчок. *1960, Кап.*

2473. Ніхто не такоў, як Іванька Дуракоў (дурны): сеў на конь, паехаў у агонь.

Гаршчок. *Нк., 16.*

2474. У нагах топчуць, у агні гарыць, а імя яму...

Гаршчок. *Д., 82.*

2475. Што так па калена ў гразі?

Гаршчок. *Б., 168.*

2476. Стаіць цыган на золаце.

Гаршчок на вуголлях. *F., 469; J., 12; Гт., 296, Навагр. п.*

2477. Чорны цыган па золату ездзіць.

Гаршчок. *Д., 82.*

2478. Стаіць цыган па калена ў золаце.

Гаршчок. *1948, Пруж.; 1963, Кап.*

2479. Цыган едзе ў золата.

Гаршчок у печ. *Нк., 16.*

2480. Чарнец-маладзец па калена ў золаце стаіць.

Гаршчок. *Гт., 298, Кобр. п.; Б., 168.*

2481. Стаіць чарнец па калена ў золаце.

Гаршчок на вуголлі. *Р., сб., 332.*

2482. Рабінава нявестка па калені ў золаце стаіць.

Гаршчок у агні. *F., 469.*

2483. Сядзіць чорненькая курачка на красненькіх яечках.

Гаршчок на вуголлі. *Р., сб., 331.*

2484. Сядзіць маршалак у залатым крэсліцы.

Гаршчок, кацёл у печы. *Нк., 16.*

2485. Стаіць турыца, а ў турыцы — махaня, а ў махані — жук, а ў жуку — вада.

Гаршчок з вадою ў печы. *М. в., 160.*

2486. Як прыставіць, дык плыве, як адставіць, дык раве.

Гаршчок у печы. *Р., сб., 337.*

2487. Біўся Глінскі з панам Галубінскім, а без Селівона справы няма.

Гаршчок, апалонік, соль. *Р., сб., 317; 1959, Гом.*

2488. Жыве — не чалавек, памрэ — не радзіцель.

Гаршчок. *Д., 82.*

2489. Жыў-быў капітан, сем душ пракармляў. Прыйшлося яму ўміраць, ніхто не бярэцца хаваць. Выкінулі за вугал і сабакі не ядзяць.

Гаршчок. *W., 7. Віл. п.*

2490. Радзіўся — не хрысціўся, памёр — не правадзіўся.

Гаршчок. *Нк., 16.*

2491. Як родзіцца — круціцца, а па смерці сабакі касцей не ядуць.

Гаршчок. *Ш., 489, Віл. п.*

2492. Жыве, калоціцца і аб смерці забоціцца, як прыйдзецца паміраць, дык некаму пахаваць: сабакі не ядуць і людзі не бяруць.

Гаршчок. *Ш., 489, Ігум. п.*

2493. Як быў ратай, то ўвесь наш род ратаваў, як прыйшлося ўміраць — некаму касцей пахаваць.

Гаршчок. *F., 469.*

2494. Радзіўся кругляся, памёр не хрысцяся, як прыйшлося памерці — некаму касцей пагрэбці.

Гаршчок. *Р., сб., 329.*

2495. Як малады быў, то ў пажары быў і на купіне быў, а як памёр, то сабакі не ядзяць і людзі не глядзяць.

Гаршчок. *F., 469.*

2496. Як быў гадамай, усіх людзей гадаваў, як ён памёр, ніхто і касцей не пазбіраў.

Гаршчок. *1948, Пруж.*

2497. Жыў-быў капітан, сем душ прапітаў, прыйшлося яму ўміраць, ніхто не бярэ хаваць: выкінулі за вугал і сабакі не ядзяць.

Гаршчок. *Р., сб., 321.*

2498. Жыў пан-капітан, сем душ прапітаў, прыходзіцца пану паміраць, на яго людзі не глядзяць і сабакі не ядзяць.

Гаршчок. *Д., 82.*

2499. Прыехаў капітан, душу прапітаў, а як прыйшлося паміраць, дык некаму хаваць: у труну не кладуць, сабакі не ядуць.

*Нк., 16.*

Гаршчок.

2500. Прыехаў Канстанцін, сваё войска прапітаў, сам памёр — ваяваць некаму.

*Д., 82.*

Гаршчок.

2501. Што то за пан? У крэсла садзіцца — кожны дзівіцца, а як памрэць — і сабакі не будуць есць.

*Нк., 16.*

Гаршчок.

2502. Хадзіў хадашаў, дзеці гадаваў, прыйшлося паміраці—некаму касцей пахавацi.

*Б., 168.*

Гаршчок.

2503. Не доўга жыў, усіх карміў, калі ўпаў, ніхто касцей не сабраў.

*1967, Дзятл.*

Гаршчок.

2504. Што гэта за загадка, калі ўсюды гладка?

*Нк., 16.*

Скаварада.

2505. Чорна свінішча (днішча) па сяле свішча.

*F., 478.*

Патэльня.

2506. Жалезны ток, свіны падскок.

*F., 478.*

Патэльня і шкваркі.

2507. Вылецела сава з вастравá, кіў хвастом — ды й апяць у востраў.

*Нк., 16.*

Скаварада ў печ.

2508. Карантычка-карантак, калі едак, дык і так.
Скаварада. *Нк., 16.*

2509. Увесь бор роўны, дзве сасны вышэй.
Дзеравянае вядро. *Р., сб., 333.*

2510. Увесь лес роўны, дзве сасёнкі большыя.
Дзеравянае вядро. *Р., сб., 333.*

2511. Увесь лес роўны, толькі дзве лесяніны павышай.
Дзеравянае вядро з вушкамі. *Нк., 17.*

2512. Увесь лес у кружку, а дзве елі вышэй усіх.
Дзеравянае вядро з вушкамі. *Д., 81.*

2513. Двое браццяў ідуць у мора купацца.
Вёдры. *Нк., 17.*

2514. Два браты пабеглі ў рэчку купацца.
Вёдры. *1959, Гом.*

2515. Цераз мора кацiны хвост плыве.
Почапка. *Р., сб., 335; Р., Мат., 86; Гт., 295, Навагр. п.; Hur., 198; М. в., 159; F., 477; Dyb., 158; 1960, Пух.; 1959, Леп.*

2516. Праз мора кашачы (катоў) хвост.
Почапка. *Нк., 17; W., 8.*

2517. Цераз мора кручана кладка.
Асялко (почапка). *F., 477.*

2518. Ад вуха да вуха прывязана дуга.
Асялко. *F., 477.*

2519. Цераз раку кладачка.
Почапка. *Б., 167.*

2520. За вушы два канцы дугі трымаюць мора берагі.
Почапка ў вядра. *1961, Добр.*

2521. Журавы ляцяць, а слёзы капаюць.
Вёдры з вадою. *Нк., 17.*

2522. Арол ляціць, а з яго кроў капаціць.
Вядро з вадой. *F., 484.*

2523. Варона ляціць, з яе кроў капаціць.
Вядро з вадой. *1946, Слуцк.*

2524. Ні свет ні зара сагнуўшыся пайшоў са двара.
Каромысел. *Ш., 492, Гом. п.*

2525. Чуць свет ды зара нясуць гарбатага з двара.
Каромысел. *1961, Добр.*

2526. Ні свет ні зара пайшоў гнуты са двара.
Каромысел. *Р., сб., 327.*

2527. Гарбаты бес на дзеда ўзлез.
Каромысел. *Нк., 17.*

2528. Дзве галачкі сядзяць на адной палачцы.
Каромысел і вёдры. *1963, Брасл.*

2529. Два браты пузатыя на гару бягуць, а трэці гарбаты за чубы трымае.

Вёдры на каромыслe. *1960, Івац.*

2530. Два браты пузаценькія пад гору бягуць, трэці гарбаценькі за хахлы іх трымае.

Вёдры на каромыслe. *Н., 15.*

2531. Тры братца пайшлі на раку купацца, два купаюцца, а трэці на беразе валяецца.

Вёдры і каромысел. *1949, Кір.*

2532. Тры брацны пайшлі купацца. Два купаюцца, адзін сядзіць.

Вёдры і каромысел. *1968, Касц.*

2533. Іванец, на двух канцах рубец, а два катлы нясе.

Каромысел і вёдры. *Рп., 332.*

2534. Ляцелі тры галу́бы, селі на прарубы: адзін утапіўся, а двое кукуюць, покуль таго ратуюць.

Вёдры і каромысел. *Нк., 17.*

2535. Зубатая, гарбатая дзве свінні за віхор валачэ.

Жанчына з вёдрамі. *F., 465.*

2536. Сарока ў вадзе — хвост на о́твадзе.

Чарпалка. *Нк., 17.*

2537. Сарока ў вадзе — хвост на пагадзе́.

Карэц. *Р., сб., 331.*

2538. Галава ў вадзе, а хвост на сушы.

Коўш. *Рп., 330.*

2539. У добрага мужа сярод хаты лужа.

Чарпак. *1960, Брасл.*

2540. Зелена зялёнка, звязана галоўка.

Венік. *Р., Мат., 92, Слон. п.*

2541. Сярод хаты кусток мяты.

Венік. *Р., Мат., 86, Ваўк. п.*

2542. Сам з кокаць, барада з локаць, на сто сажань пуга.

Венік. *Нк., 18.*

2543. Храбёт — упярод, бруха — узад.

Венік. *Нк., 18.*

2544. Звязаны, а ўсё скача.

Венік. *І. І., 1937, № 2, 18.*

2545. Скручаны, зверчаны па (ўсёй) хаце скача.

Венік. *Н., 15; Б., 167; Р., сб., 331; Д., 81; 1959, Гом.*

2546. Сагнуўшыся, скорчыўшыся, па хаце скача.

Венік. *М. в., 161.*

2547. Скручана, змучана па хаце скача.

Мятла. *Рп., 338.*

2548. Скручаны, зверчаны, на кол уссажаны, па двару скача.
Мяцёлка. *1959, Гом.*

2549. Сергін-мергін па хаце скача.
Венік. *Р., Мат., 91, Слон. п.*

2550. Сухі Мартын па хаце скача.
Венік. *Р., сб., 333.*

2551. Сухі Стахій да па хаце скача.
Венік. *Б., 167.*

2552. Па хаце сухі Васілька скача.
Венік. *1946, Староб.*

2553. Сухі Даніла лычком падвязаўся і па хаце скача.
Венік. *1960, Капатк.*

2554. Без рук, без ног па падлозе скача.
Венік. *Рп., 329; 1959, Леп.; 1967, Калінк.*

2555. І нажом зразалі, і дратамі вязалі, а ён не плача, а па падлозе скача.
Венік. *1965, Іў.; 1968, Краснап.*

2556. Дзядок-барадач, лыкам падпаясаны, па падлозе ўпрысядкі скача.
Венік. *1961, Добр.*

2557. Невялікі мужычок, тоненькі паясок, пройдзе па хаце — пыл стаўбом.
Венік. *Н., 15.*

2558. Старэнькі дзядок па хаце пройдзе — пыл стаўбом пойдзе.

Венік. *Р., сб., 331.*

2559. Невялікі мужычок, тоненькі паясок, пройдзе па хаце — усю погань вымеце.

Мятла. *Рп., 335.*

2560. Невялічкі мужычок, ножкі тоўсценькія, падпяразан кароценька, а па хаце пройдзе — цэлу горбу знойдзе.

Венік. *Dyb., 163.*

2561. Ходзіць пані па каморы, лычкам падвязана.

Венік. *Б., 167.*

2562. Канёк-гарбунок усю хату аб'ездзіў.

Венік. *Р., сб., 323; 1967, Гор.*

2563. Мяне з дрэва наламалі, потым лыкам абвязалі, ну а я і не сумую ды па хаце ўсё танцую.

Венік. *І. І., 1937, № 4, 18.*

2564. Матаецца, шатаецца, а потым пад печ схаваецца.

Венік. Р., Мат., 88, Кобр. п.; 1948, *Пруж.; 1946, Староб.*

2565. Шаталася, маталася, пад прыпечкам схавалася.

Венік. *Гт., 296, 297, Кобр. п.*

2566. Маленькі мужычок лычкам падперазаны, шатаецца, матаецца, пад прыпечак схаваецца.

Венік. *1948, Пруж.*

2567. Туды бацъ, сюды бацъ, пад загнетам спацъ.
Венік. *W., 10, Леп. п.*

2568. Шатаецца, матаецца ды пад лаву (лавачку) хаваецца.
Венік. *Dyb., 163; 1948, Кобр.*

2569. Шатаецца, матаецца, у куточак хаваецца.
Венік. *1960, Нясв.; Кап.*

2570. Шаталася, маталася, да й пад сметнік папалася.
Венік. *Pietk., 451.*

2571. Круціўся, вярцеўся, у качарэжніку спацъ лёг.
Венік. *W., 12, Барыс. п.*

2572. Цалаваў, мілаваў ды пад печ падапхаў.
Венік. *Dyb., 163.*

2573. Шарык, шарык усю хату перашарыў і ў куточку стаў.
Венік. *1946, Жытк.*

2574. То сям пац, то там пац, пад прыпечкам спацъ.
Венік. *Ш., 488, Віл. п.*

2575. Скроб, скроб і пад прыпечкам лёг.
Венік. *Л., 41.*

2576. Шах, мах, пад прыпечак спаці бах.
Венік. *1948, Пруж.*

2577. Шах, мах — пад загнет спаць.

Венік. *Р., сб., 335.*

2578. Шадзіла-бадзіла па хаце хадзіла, пад загнет спаць лягло.

Венік. *Р., сб., 335.*

2579. У лесе вырас, а ў хату прыйшоў — у куце месца знайшоў.

Венік. *Рп., 340; 1967, Дзятл.*

2580. Тонка панна, найтанчэйша (танюсенька) усю хатку станцавала і ў куточку стала.

Венік. *F., 484.*

2581. У зялёным кабаточку стаіць паненка ў куточку.

Бярозавы венік. *F., 484.*

2582. Пад лаўкай гудзіць, на лаўцы гудзіць, а як найграецца, дык і сядзіць.

Венік. *Нк., 18.*

2583. Быў у мяне вол, ды не еў сена, адзін толькі мурог; я яму як даў між рог, дык пакаціўся пад парог.

Венік. *1946, Староб.*

2584. Круцілася па хаце і на месца стала.

Венік. *F., 484.*

2585. Пад лаваю сляпы Антон валяецца.

Венік. *F., 484.*

2586. Гагалёк бабу качае.

Венік у бані. *Н., 15.*

2587. Сам худ, а галава з пуд.

Бязмен. *W., 13, Барыс. п.; Н., 15; Р., Мат., 86, Вайк. п., Dyb., 166; Д., 80; F., 465; Шр., 209; 1946, Староб.; 1960, Капатк.; 1963, Леп.*

2588. Нос кручком, сам худ, а галава з пуд.

Бязмен. *1961, Добр.*

2589. Цяжэй галава за цела.

Бязмен. *Ч., 305, Бельск. п.*

2590. У жываце — баня, у носе — рэшата, на галаве — пупок, адна рука і тая на спіне.

Чайнік. *1965, Кап.*

2591. У небе — дзіры, у зямлі — дзіры, пасярэдзіне — агонь.

Самавар. *1962, Капатк.*

2592. Унізе — дзіра, угары — дзіра, а пасярэдзіне — вада.

Самавар. *Dyb., 163.*

2593. У небе — дзіра, у зямлі — дзіра, а пасярэдзіне — агонь і вада.

Самавар. *F., 481; 1959, Леп.*

2594. Уверсе — дзіра, унізе — дзіра, а ў сярэдзіне — агонь ды вада.

Самавар. *1960, Кап.*

2595. Пасярод возера аганёк блішчыць.

Самавар. *1949, Кір.*

2596. У нашае цёткі гарыць у сяродкі.

Самавар. *Р., сб., 333.*

2597. Стаіць мужык на масту, на ўсіх крычыць: «Абалью».

Самавар. *Нк., 18.*

2598. Стаіць поп на масту і крычыць: «Уцякайце, а то я вас вадою абалью».

Самавар. *1960. Асіп.*

2599. Сам дубовы, пояс вязовы, нос ліпавы.

Бачурка. *Нк., 17.*

2600. Дубовыя дубасы, чырвоныя паясы, пасярод тпрунька.

Кадушка, абручы, дно. *Д., 85.*

2601. Дуб, дубяс, ясяновы падпаяс, зверху дзірка, ззаду шпілька.

Бачонак. *Д., 81.*

2602. Дуб, ясень, сем паясоў, на баку дзірка, а ў заду шпілька.

Бочка. *Р., Мат., 87, Кобр. п.*

2603. Стаіць дзеўка на двары, на ёй голы пацюры.

Бочка. *Ч., 305, Бельск. п.*

2604. Стаіць бычок прабіты бачок.

Бачонак. *Р., сб., 332.*

2605. У аднаго парсюка два лычы.

Начоўкі. *Р., сб., 334.*

2606. У свінні два лычы.

Начоўкі. *Р., сб., 334.*

2607. Адзін вяпрук, а два лычы.
Начоўкі. *Рп., 328.*

2608. Сіненькі петушок бегае без кішок.
Бутэлька. *Ш., 487, Сен. п.*

2609. Увесь лес роўны, а адна галіна не роўна.
Дайніца. *F., 467.*

2610. Сухая (здохлая) кабыла ўсё сена паела.
Рэзгіны. *Р., сб., 322; 1963, Леп; Нк., 21.*

2611. Худ канёк — бокі відны, а ўсё сена паеў.
Рэзгіны. *Нк., 21.*

2612. Рабая карова на сцяне вісіць.
Рэзгіны. *Нк., 21.*

2613. Шашкі-машкі, дзве палавінкі.
Рэзгіны. *Д., 92.*

2614. Шынкі-брынкі (шынкін-брынкін) на дзве палавінкі.
Рэзгіны. *Д., 92.*

2615. Сухі Хацейка па падлавіччу бегае.
Пранік. *F., 479.*

2616. Ні вок, ні вушэй, а водзіць людзей.
Палка. *Нк., 18.*

2617. Ані воч, ані вушэй — сляпога водзіць.

Палка. *Нк., 18.*

2618. Ні вачэй, ні вушэй, а сляпцоў водзіць.

Палка. *Ч., 313, Бельск. п.*

2619. Няма чым паглядзець, а сляпых вядзе.

Палка. *1960, Лоеў.*

2620. Сам сляпы, а сляпому дарогу паказвае.

Кій. *1959, Гом.*

2621. У печцы цяпло паліцца, з-пад печкі попел валіцца.

Люлька. *Нк., 18.*

2622. Зверху дзірка, знізу дзірка, а хто корань спаліць, той смак пазнаець.

Люлька. *Р., сб., 322; 1967, Шарк.*

2623. Ідзе старчык, нясе стаўчык: і кіпіць, і варыцца, і далоў не валіцца.

Люлька. *Р., сб., 322.*

2624. Бацька гарбаты, маці пляската, дзеці кручаныя, на суку павешаныя.

Гумно, ток і цапы. *1960, Капатк.*

2625. Скручана, зверчана, без лык сплецена.

Печка ў бані. *Д., 90.*

2626. Усім цёпла — яму сцюдзёна, а ўсім сцюдзёна — яму цёпла.

Склеп. *Нк., 15.*

2627. Чым больш з яе бярэш, тым большая яна становіцца.

Яма. *І. І., 1937, № 4, 18.*

2628. Чым больш мы ў яе кладзём, тым меншай яна робіцца.

Яма. *Рп., 342.*

2629. На адным паваду сто каней павяду.

Частакол. *Б., 173; Г., 467.*

2630. Два браты адным поясам спавіты.

Калы ў плоце. *Нк., 15.*

2631. «Што ты стаіш, крывы, кульгавы?» — «Зялёныя, кудравыя сцеражу!»

Плот і жыта. *Нк., 15.*

2632. Не жывыя, а пішчаць.

Вароты. *1960, Брасл.*

2633. На вуліцы барабан даскамі абагбан, хто ідзе, той зазвініць.

Вароты. *Ш., 488, Віл. п.*

2634. Ідзе, кавыляе, спіну гнуць застаўляе.

Калодзеж. *1950, Хойн.*

2635. Еду, еду на сівым дзеду, пад'язджаю ка браду: «Дзед, лезь у ваду».

Калодзеж. *Д., 86.*

2636. Калода-калодзішча, балота-балоцішча, воўк утапіўся, два зайцы цягнуць.

Калодзеж, вядро, рукі. *М. в., 160.*

2637. Вісіць вісютка, ляціць крысютка — цап за вісютку.

Журавель у студні. *Ніг., 199.*

2638. Віса вісіць, хода ходзіць, хто не прыйдзе, той і доіць.

Журавель ля студні. *Рп., 330.*

2639. Стаіць высока, лезе глыбока, а хто прыйдзе — усім кланяецца.

Вочап у калодзежы. *1963, Маладз.*

2640. Чатыры чатыркі, дзве растапыркі, адзін шаптун і той скрыпун.

Калодзеж. *1960, Нясв.*

2641. Ляціць, крычыць, а з яго капаціць.

Вядро з вадой. *1960, Кап.*

2642. Сядзіць певень над вадою да з чырвонай барадою.

Крук над калодзежам. *1946, Староб.*

2643. Што гэта за пісар, што па ночы піша, уткне пяро ў каламар, а сам калыша.

Ключ з вядром у калодзежы. *Гт., 297, Кобр. п.*

2644. Вутка ў моры — хвост у горы.

Вядро і почапка. *Ш., 487, Сен. п.*

2645. Туды ідзе, скачучы, а назад, плачучы.

Вядро ў студні. *Dyb., 162.*

2646. На той свет ідзе — скача, з таго свету ідзе — плача.

Вядро ў студні. *1960, Пух.*

2647. На той свет ідзе, скачучы, назад, плачучы.

Вядро ў калодзежы. *1960, Нясв.; 1965, Кап.*

2648. Арол (сарока) ляціць, а з яго кроў капаціць.

Вядро з вадою. *Dyb., 162; 1872, Рэч. п. Рукап. аддз. б-кі Вільнюскага ун-та.*

2649. Ні свет ні зара бяжыць воўк з вазяра́.

Чалавек нясе ваду раніцай. *Нк., 10.*

2650. Стаіць баран, у яго (на ім) сто ран.

Калода (на якой дровы сякуць). *Нк., 18; 1948, Пруж.*

2651. Адзін баран, на ім сто ран.

Калода. *F., 472; Б., 169; Р., Мат., 89, Кобр. п.; 1963, Кап.*

2652. Ляжыць баран, у яго не злічыць ран.

Калода. *Nіг., 199.*

2653. Стаіць чорны баран, не столькі на ём воўны, як ран.

Калода. *F., 472.*

2654. Стаіць чорны баран, не так воўны, як ран.

Калода. *Шр., 209; 1960, Капатк.*

2655. Ёсць у мяне баран, не столькі воўны, сколькі ран.

Калода. *Р., сб., 321; Ю., 293, Лід. п.; 1959, Гом.*

2656. Быў у нас баран, на ім менш шэрсці, як ран.

Калодка. *Гт., 297, Кобр. п.*

2657. Ляжыць сярод хаты баран, няма на ім столькі воўны, колькі ран.

Калодка. *1946, Староб.*

2658. Баран-крутаран, няма столькі дырак, колькі ран.
Калодка. *1946, Староб.*

2659. Стаіць дурак, а на ём многа ран.
Калодка. *Б., 169.*

2660. Ляжыць баран, воўны не мае, увесь пасечаны.
Калодка. *Б., 169.*

2661. Без зубоў — есць.
Сякера. *Нк., 17; 1967, Пруж.*

2662. Цэлы дзень кланяецца, прыйдзе дамоў — расцягнецца.
Сякера. *F., 480.*

2663. Кланяецца, кланяецца, а прыйдзе да двору (дадому) — расцягнецца.
Сякера. *Д., 94; Dyb., 168.*

2664. За работай — кланяецца, дамоў прыйдзе — расцягнецца.
Сякера. *1959, Гом.*

2665. У лесе ўсё кланяецца, а прыйдзе дадому — расцягнецца.
Сякера. *1946, Староб.*

2666. Як у лес ідзе, то на хату глядзіць, а як дахаты ідзе, то на лес глядзіць.
Сякера за поясам. *F., 480.*

2667. У лес ідзе — дамоў глядзіць (пазірае), дамоў ідзе — у лес глядзіць (пазірае).
Сякера за поясам. *Нк., 17; 1949, Кір.; 1946, Староб.*

2668. У лес ідзе — на сяло дзівіцца, а ў сяло ідзе — на лес дзівіцца.

Сякера за поясам. *Р., Мат., 91, Кобр. п.*

2669. Ідзе чалавек у лес — у сяло дзівіцца, ідзе чалавек у сяло — у лес дзівіцца.

Сякера. *Б., 173.*

2670. Мар'янка-курцянка пабегла ў лясочак, пазбірала трасчышча, нагрэла касьцішча.

Сякера. *Р., Мат., 92, Слон. п.*

2671. Да сцяны вачыма, на хату плячыма.

Сякера. *Р., Мат., 89, Кобр. п.*

2672. Без работы яна пацее і ржавее.

Сякера. *1968, Краснап.*

2673. Бярвенні абчэша, палена расколе, сама не імкнецца, як іншы, да славы, стаіць сабе ціха ў куточку за лавай.

Сякера. *1967, Пруж*

2674. Сама, як шчэпка, дзяцей, як молі.

Піла. *Ш., 496, Віл. п.*

2675. Хутка грызе, дробна жуе, сама не глытае.

Піла. *Рп., 341.*

2676. Жучка жуе, сама не глытае і другому не дае.

Піла. *1965, Кап.*

2677. Скора есць: сама не глытае — другі сыты бывае.

Піла. *Нк., 18.*

2678. Зубы вострыя мае, дробна жуе, а не глытае.

Піла. *1961, Добр.*

2679. Зубы ёсць, а хлеба не есць; на работу ходзіць, хазяіна корміць.

Піла. *1959, Гом.*

2680. Звініць, выкідае і далей зарывае.

Піла. *1946, Староб.*

2681. І са звонам, і са спевам угрызаецца ў дрэва, раз — наперад, раз — назад, зубы ззяюць і апілкі ўніз ляцяць.

Піла. *1968, Краснап.*

2682. Сам дзеравяны, а галава жалезная.

Малаток. *1959, Гом.*

2683. Як вазьму цябе ў руку, трапна б'еш ты па цвіку.

Малаток. *1967, Пруж.*

2684. Са збітаю галавою па сяле ходзіць.

Долата. *F., 468.*

2685. Маленькі Сідорка кусае і выкідае.

Свярдзёлак. *F., 483; 1967, Кам.*

2686. Сівы жарабец праз сцену ржэ.

Свярдзёлак. *F., 483.*

2687. Сівы конь іржэ праз сцяну.

Свярдзёлак. *Р., Мат., 88, Кобр. п.*

2688. Чорны валішча праз сцяну свішча.
Свярдзёлак. *1969, Стол.*

2689. За сцяною вала пякуць, пайдзі туды — табе дадуць.
Свярдзёлак. *F., 483.*

2690. Праз сцяну вала пякуць, а хто прыйдзе, таму дадуць.
Свярдзёлак. *F., 483.*

2691. Скрозь сцяну грошы лічаць.
Свярдзёлак. *Нк., 18.*

2692. Брат-пракурат скрозь сцяну грошы лічыць.
Свярдзёлак. *Нк., 18.*

2693. Мой брат-праскурат скрозь сцены (сцяну) грошы лічыць.
Свярдзёлак. *Р., сб., 236; 1963, Брасл.*

2694. Мой брат Панкрат праз сцяну прыйшоў, мяшок грошай знайшоў.
Свярдзёлак. *Рп., 334.*

2695. Кандрат, мой брат, скрозь сцяну прайшоў да нічога не найшоў.
Свярдзёлак. *Pietk., 451.*

2696. Супрун крупы дзярэ.
Свярдзёлак. *Р., Мат., 90, Кобр. п.*

2697. Іграе, іграе, а Трахім смяецца.
Рубанак. *Р., сб., 322.*

2698. Нібыта фокуснік той стужкі, ён выкідае з роту стружкі.
Рубанак. *1967, Пруж.*

# АДЗЕЖА, АБУТАК, АЗДОБЫ

2699. Туды — рог, сюды — рог, палязай на вярох.
Рубашка. *Нк., 12.*

2700. Едуць раскаракі на нагакін двор.
Штаны. *Д., 96.*

2701. Ішоў, ішоў, дзве дарогі знайшоў і ў абедзве пайшоў.
Штаны. *Н., 19; М. в., 159; 1965, Іў.*

2702. У пятцы дзірачка, грыбком галава, не плаціць аброку і служыць без сроку.
Гузік металічны. *Н., 18.*

2703. Маленькі Данілка ў пецельку ўдавіўся (утапіўся).
Гузік. *Нк., 13; Рп., 325.*

2704. Білі мяне і калацілі, а з царом разам усадзілі.
Бялізна. *Нк., 12.*

2705. Сякуць, рубаюць, на моры трэскі лятаюць.
Адзежу мыюць, б'юць пранікам. *1946, Староб.*

2706. Зверху гола, знізу лахмата, цяплом багата.
Кажух. *1960, Пух.*

2707. У старым дубе месяц свеціць.

Кажух. *F., 473.*

2708. Удзень (днём), як абруч, а ўночы (ноччу), як вуж.

Пояс, дзяжка. *Гт., 297, Кобр. п.; Д., 90.*

2709. Удзень, як абруч, уночы (а ноччу), як вуж, хто адгадае, той (будзе) мой муж.

Пояс, папружка. *W., 11, Леп. п.; Dyb., 158; 1959, Гом.; Б., 171; Р., сб., 313.*

2710. Удзень, як абруч, уночы, як вуж, хто гэту загадку адгадае, то будзе мой муж.

Пояс, папружка. *F., 479.*

2711. Ты ідзі туды, а я туды і сыдземся на пуповай гары.

Пояс, папружка. *F., 479.*

2712. Ты, брат, ідзі туды, а я пайду туды ды на пуповай гары стрэнемся.

Канцы пояса пры завязцы. *Ш., 492, Мсцісл. п.*

2713. У нас заўсёды, а ў коней ніколі.

Абутак. *Рп., 327.*

2714. Увесь у крыжах, а павагі не мае.

Лапаць. *1959, Гом.*

2715. Цалаваў, мілаваў, за плот выкідаў.

Лапці. *Р., Мат., 90, Кобр. п.*

2716. Цалаваў, мілаваў, пад лаўку схаваў.

Лапці. *Ш., 493, Віл. п.; F., 474.*

2717. Цалую, мілую, выкіну за вакно — сабакі не ядуць.

Лапці. *Д., 87.*

2718. Збіў, скалаціў — вот і калясо, сеў і паехаў — вот і харашо, аглянуўся назад — толькі спіцы ляжаць.

Лапці. *1950, Хал.*

2719. Чорненькі парсючок два хвосцікі мае.

Лапаць. *F., 474.*

2720. Два парсюкі (парсючкі), а чатыры хвасты (хвосцікі).

Лапці і аборы. *Р., сб., 320; F., 474; 1960, Івац.; 1963, Леп.*

2721. Два япручкі (вепручкі), чатыры хвосцікі.

Лапці. *Р., Мат., 90, Кобр. п.; Б., 170.*

2722. Два кані, а чатыры хвасты.

Лапці і аборы. *1960, Івац.; Ш., 493; 1967, Пруж.*

2723. Два каты, чатыры хвасты.

Лапці і аборы. *Нк., 12; J., 11.*

2724. Два бобрычкі, а чатыры хвосцікі.

Лапці. *Нк., 12.*

2725. У ліпавым карытцы жывое шавяліцца.

Нага ў лапці. *Д., 90.*

2726. У ліпавым карытцы жывое мяса ляжыць.

Нага ў лапці. *Нк., 12; 1960, Іван.*

2727. Еду, еду, на старым дзеду, прыеду к лесу, кіну к бесу.

Лапаць. *Р., сб., 336.*

2728. Спаўю дзіцятка ды пад стол.

Абуванне. *1959, Леп.*

2729. Уставайце, хамутнікі, абувайце скрытутнікі, садзіцеся на ўсянікаў, завіце кастрывікоў: панёс шаце-баце.

Мужыкі, лапці, коні, сабакі ратуюць авечку ад воўка. *Нк., 12.*

2730. Сіненькі галубочак шмыг пад лубочак.

Качарыг (спіца для пляцення лапцей). *Ш., 493.*

2731. Сівенькі галубочак палез пад лубочак.

Спіца. *1965, Кап.*

2732. Хадзіў хаданак па чужых странах, прыйшлося памірацці — няма каму прыграбацці.

Чобат. *1969, Пін.*

2733. Бяжыць — скрыпіць, стане — маўчыць.

Боты. *Нк., 12.*

2734. Нашто я цябе брэў, нашто я цябе купляў, каб я ў тваю дыру сваё цела клаў.

Бот. *1960, Кап.*

2735. Зверху — чорна, у сярэдзіне — красна, як надзенеш — будзе пракрасна.

Боты. *1960, Пух.*

2736. Ступлю глыбока, сяду высока, вазьму два кутасы, паеду ў Кіеў.

Абуцца ў боты, сесці на каня. *1948, Пруж.*

2737. Сам у ботах, а хаджу на галаве.

Цвік у боце. *І. І., 1937, № 2, 18.*

2738. Хаджу на галаве, хаця і на нагах, хаджу я босы, хаця і ў сапагах.

Цвік у ботах. *1960, Нясв.*

2739. Сяджу на нагах, а хаджу на галаве.

Цвік у ботах. *«Ніва», 1957, № 19.*

2740. Скрозь вала, скрозь каня свіння лён валочыць.

Дратва. *Р., сб., 331.*

2741. Скрозь плятня вала цягнуць.

Дратва. *Р., сб., 331.*

2742. Залез баран у быковую шкуру.

Панчоха ў боце. *Нк., 13; 1960, Івац.*

2743. Не на тое я цябе купляў, каб на цябе пазіраць, а на тое цябе браў, каб сваё цела ў тваю дзірку саджаць.

Панчоха. *1949, Кір.*

2744. Пад прыпечкам драбязы (драбяжы), хто ведае (знае, калі ведаеш), не кажы.

Пацеркі. *Л., 32; F., 477; 1946, Староб.; 1936, Маладз.*

2745. Пад прыпечкам рубяжы (грабяжы, капяжы), хто ведае, не кажы.

Пацеркі. *Нк., 18; Нит., 199; Д., 87; Р., сб. 328; Б., 167; 1946, Староб.; 1960, Нясв.*

2746. На прыпечку рубяжы, пад прыпечкам рубяжы, хто ведае, не кажы.

Пацеркі. *Нк., 12; Р., Мат., 90, Кобр. п.; 1948, Пруж.*

2747. Пад прыпечкам карбяжы, а хто знае, не кажы.

Пацеркі. *1964, Лун.*

2748. Пад печчу дрыбяжы, а хто ведае, не кажы.

Пацеркі. *F., 477.*

2749. Бочка мясна, абручы серабра́ныя.

Пярсцёнак. *Нк., 12.*

2750. Дзяжа мясная, абруч жалезны.

Пярсцёнак. *Нк., 12; 1965, Іў.; 1960, Івац.*

2751. На мясной дзяжурцы жалезны абручок.

Пярсцёнак. *Нк., 12.*

2752. Мясная бочка, залаты вобруч.

Пярсцёнак на пальцы. *Р., сб., 326.*

2753. Мясная бочачка, залатыя абручыкі.

Пальцы і пярсцёнкі. *Р., Мат., 91, Кобр. п.*

2754. Між пяці бочак залаты вяночак (клубочак).

Пярсцёнак. *F., 478.*

2755. Пяць мальчыкаў, пяць гулянчыкаў, кожды мальчык у свой гулянчык.

Пальчатка. *1950, Хойн.*

2756. Пяць пунь, адны вароты.

Пальчатка. *Ш., 496, Віл. п.; Нк., 12; 1967, Дзятл.*

2757. Ні мяса, ні касцей, а ўсё — аб пяць пальцаў.

Пальчатка. *Нк., 12.*

2758. Дзесяць братоў у дзве шкуры адзеты.

Рукі ў рукавіцах. *1960, Пух.*

2759. Дзесяць пальцаў, а ногцяў няма.

Пальчаткі. *Рп., 322.*

2760. Сухі Мартын з-за гары свіней гоне.

Грэбень. *Р., сб., 332.*

2761. Касцяной, масцяной з гары свіней гоніць.

Грабяшок. *1946, Староб.*

2762. Хлопец ма́лы пацынгалы з лесу коней выганяе.

Грэбень, валасы. *1948, Пруж.*

2763. Дзявоцкі вярстат кругом рагат, у сяродкі пуст.

Вянок. *Нк., 12.*

2764. Сяду вярхом, не ведаю на ком, знаёмага сустрэну — зараз саскочу.

Шапка. *І. І., 1937, № 1, 22.*

2765. Вярхом сядаю, на каго не знаю, знаёмага ўбачу — адразу саскочу.

Шапка. *1960, Івац.*

2766. Не звер, а махнатая, не конь, а з вушамі.

Шапка-вушанка. *Рп., 325.*

2767. Складзеш — клін, развернеш — блін.

Парасон. *1967, Пліс.*

2768. Шахцель-пяхцель, чатыры рахтычкі.

Воз. *Р., сб., 335.*

2769. Чатыры сястрыцы пайшлі ў брусніцы.

Каламажка. *Ш., 5, Віл. п.*

2770. Чатыры чатыраначкі паехалі на паляначкі, злавілі вутку, пасадзілі ў закутку.

Воз, поле, капа, гумно. *Р., сб., 335.*

2771. Чатыры чатыраначкі пабеглі на паляначкі, ухвацілі вутачку, пасадзілі ў закутачку.

Воз, поле, снапы, гумно. *F., 484.*

2772. Чатыры чатыраначкі ляцелі ў паляначкі, злавілі вутачку і пасадзілі ў закутачку.

Калёсы, сена і пуня. *Н. н., 19.*

2773. Чатыры чатыраначкі пабеглі на паляначкі, злавілі вутачак, пасадзілі ў закутачак.

Калёсы, снапы, гумно. *1960, Пух.*

2774. Чатыры чатыраначкі пабеглі ў паляначкі, прынеслі вутку, пасадзілі ў закутку: «Сядзі вутка тут, бо табе дан кут».

Воз, снапы, гумно. *Ю., 293, Лід. п.*

2775. Ляцелі тры вароны, селі на вароты, сталі кукаваць. Перша: «Мне лета летаваць». Другая: «Мне зіму зімаваць». А трэцяя: «Мне ўсё роўна».

Калёсы, сані, конь. *1949, Бабр.*

2776. Ляцелі тры галіцы, селі на мяліцы да пытаюць адна ў другой: «Што табе лепш?» Адна гаворыць: «Мне лета». Другая: «Мне зіма». Трэцяя: «Мне ўсё роўна».

Воз, сані, конь. *М. в., 161.*

2777. Ляцелі тры галіцы, палі-селі на мяліцы. Адна кажа: «Мне ўлетку лепей». Другая кажа: «Мне ўзімку лепей». Трэцяя кажа: «Мне ўсё роўна, што ўлетку, што ўзімку».

Калёсы, сані, конь. *Д., 86.*

2778. Ляцелі тры галкі, селі на праталкі. Адна кажа: «Мне ўзімку добра». Другая: «Мне ўлетку лепш». А трэцяя: «Мне дык ўсё роўна».

Воз, сані, дуга. *Нк., 19.*

2779. Бяжыць кляшчом з доўгім хвастом, а за ім тарабан з дошчак загібан.

Запрэжаны конь. *Р., сб., 318.*

2780. Чатыры тапыры, пятая лапыра, шостая пёстрая, сёмая вострая.

Запрэжаны конь. *Нк., 21.*

2781. Дуб ды вяз, а ў сяродцы пляс.

Запрэжаны конь. *Нк., 21.*

2782. Ляціць апастол з доўгім хвастом, за ім барабан з дашчок выбіван.

Запрэжаны конь, воз. *Нк., 21.*

2783. Дзінь-бразь — у чарапочку гразь.
Падкова. *Р., сб., 320.*

2784. Адна палка ў дзвюх печках гарыць.
Вось. *Нк., 19.*

2785. На дзераве жалеза.
Вось. *F., 485.*

2786. Брат брата даганяе і дагнаць не можа.
Колы. *Pietk., 450.*

2787. Брат брата гоніць і ніколі не дагоніць (мала карку не зломіць).
Колы. *Ч., 310, Бельск. п.; F., 472.*

2788. Два браты бягуць, а два даганяюць і дагнаць не могуць.
Колы. *W., 11, Двін. п.*

2789. Чатыры браты даганяюць адзін другога і ніколі не даганяць.
Колы. *F., 472.*

2790. Чатыры брацікі: два ўцякаюць, два даганяюць.
Колы. *1963, Брасл.*

2791. Чатыры братцы бягуць, друг друга не нагоняць: два маленькіх, два вялікіх.
Колы. *Д., 86.*

2792. Чатыры браты ляцяць: два ўцякаюць, а два даганяюць, адзін аднаго не дагоняць.
Колы. *1963, Маладз.*

2793. Чатыры браты бягуць, адзін другога гоніць, ніяк не зловіць, а каб нагнаў, то б адзін другому шыю зламаў.

*Гт., 300, Брэсцк. п.*

Колы.

2794. Чатыры чатыранкі беглі на палянкі і адна адну не даганяць.

*1946, Староб.*

Колы.

2795. Чатыры чатыраначкі пабеглі ў паляначкі, адна аднае не дагоніць.

*F., 472; 1946, Староб.*

Колы.

2796. Чатыры чатырнянкі пабеглі на палянкі. Яны парамі бягуць, а сайціся не магуць.

*1960, Асіп.*

Колы.

2797. Чатыры браты на свеце: два меншыя наперадзе, два большыя ззаду, спяшаюцца, а адзін другога не дагоніць.

*Dyb., 168.*

Колы.

2798. Чатыры сястры бягуць адна за адной, ды ніколі не даганяць адна другую.

*Б., 169.*

Колы.

2799. Браты за братамі гоняцца, да дагнаць не спаромяцца.

*Н., 16.*

Колы.

2800. Два браты ўцякаюць, а два даганяюць, але ж ні пярэднія не могуць уцячы, ні заднія дагнаць.

*Рп., 331.*

Колы.

2801. Два брацікі ўперадзе, два брацікі ззаду, друг друга даганяюць.

*1950, Хойн.*

Колы.

2802. Два братцы па дарожцы бягуць, двое другіх даганяюць, адстаць не адстануць і дагнаць не могуць.
Колы. *1959, Гом.*

2803. Большы меншага не дагоніць.
Колы. *Гт., 297, Кобр. п.*

2804. Век пажывалі, адзін аднаго не даганялі.
Колы. *Ш., 492, Віл. п.*

2805. Чатыры сястрыцы пабеглі ў брусніцы.
Колы. *Р., сб., 335.*

2806. Ехалі сахонаўцы, выпілі піва па конаўцы і гарэльцы па чвэрці; качаюцца, валяюцца, як чэрці.
Колы. *Нк., 19.*

2807. Чатыры браткі, пасля зімы знаць слядкі.
Колы. *1962, Капатк.*

2808. Ехаў крутанос, даў нямку ў нос; нямко маўчыць, а крутанос далей імчыць.
Кола і камень. *1965, Свісл.*

2809. Бег марынос, даў нямку ў нос, нямко плача, а марынос скача.
Кола і камень. *F., 473.*

2810. Адкіну адное, адкіну другое, выму жывое.
Распрэгчы каня. *Шр., 208.*

2811. Адкіну браўно (бервяно), адкіну другое й выведу жывое.
Распрэгчы каня. *М. в., 161; 1960, Івац.*

2812. Адкіну (кіну) палена, адкіну (кіну) другое — выведу жывое.
Распрэгчы каня. *Нк., 21; Р., сб., 323.*

2813. Адкіну палена, адкіну другое і скіну крывое — выведу жывое.
Распрэгчы каня. *F., 464.*

2814. Адхіну адну сцяну, адхіну другую і выведу жывую.
Распрэгчы каня. *Dyb., 164.*

2815. Як ляжыць — ніжэй ката, а як устане — вышэй каня.
Дуга. *1946, Староб.; 1963, Маладз.*

2816. Як ляжыць, то меншае за ката, а як устане, то большае за каня.
Дуга. *Гт., 300, Брэсц. п.*

2817. Як ляжа на зямлю, ніжэй за ката, а як устане, вышэй за каня.
Дуга. *1948, Пруж.*

2818. Як стаіць, дык вышэй каня, як ляжыць, дык ніжэй вераб'я.
Дуга. *Нк., 20.*

2819. Як стаіць, то вышэй за каня, а як ляжыць, то ніжэй за ката.
Дуга. *F., 468; Ш., 90, Барыс. п.; 1960, Кап.*

2820. Стану — вышэй каня, лягу — ніжэй ката.

Дуга. *Рп., 338.*

2821. Ляжыць — з ягня, устане — вышэй каня.

Дуга. *Ш., 9, Леп. п.*

2822. Як ляжыць — ніжэй вераб'я, а як устане — (то) вышэй каня.

Дуга. *Ш., 490, Сен. п.; Л., 62; F., 468.*

2823. У лесе ўцята, у лазні гбата, у краме ўзята.

Дуга. *Нк., 20.*

2824. Не піўшы, не еўшы, крычыць ашалеўшы.

Званок. *Нк., 20.*

2825. Воўны клачок, дрэва сучок і саломы пучок.

Хамут. *Ш., 498, Леп. п.; 1965, Іў.*

2826. Клён ды ясень — зняў ды ў засень.

Хамут і дуга. *Нк., 20.*

2827. На вілачках страх.

Пуга. *Р., сб., 326.*

2828. Як тое называецца, што папалам складаецца, хоць зубоў не мае, але кусаецца.

Пуга. *Ш., 492, Навагр. п.*

2829. Што то такое, што скручанае ўдвое, зубоў не мае, а добра кусае.

Нагайка. *Ч., 311, Бельск. п.*

2830. Бягуць сычыкі, задраўшы лычыкі.

Сані. *W., 8, Леп. п.; Р., сб., 318.*

2831. Ляцелі чырычыкі, задраўшы лычыкі.

Санкі. *Dyb., 194; 1946, Староб.*

2832. Ляцелі чычыкі, задраўшы лычыкі, да пана Белянеўскага (Бельскага).

Сані к стогу. *1948, Пруж; 1963, Кап.*

2833. Два браты бягуць, на неба глядзяць.

Палазы ў санях. *Б., 171.*

2834. Бягуць два панічыкі, задраўшы лычыкі, і масла ядуць.

Сані. *1946, Староб.*

2835. Бягуць чырычыкі, задраўшы лычыкі, бягуць і масла ядуць.

Сані. *Гт., 295, Навагр. п.*

2836. Бягуць чырычыкі, задраўшы лычыкі, на неба глядзяць і масла ядзяць.

Сані. *Р., Мат., 88, Кобр. п.*

2837. Ляцяць гускі, дубовыя наскі, на неба глядзяць і масла ядзяць.

Сані. *1969, Стол.*

2838. Беглі чырычыкі, задраўшы ўгору лычыкі, масла ядзяць і на неба глядзяць.

Сані. *1946, Староб.*

2839. Пабег у лясок, задраў насок.

Сані. *Ш., 497, Віл. п.*

2840. Задраў (задраўшы) насок, пабег (пабеглі) у лясок.

Сані. *Р., Мат., 86, Вайк. п.; F., 481; 1960, Капатк.; 1949, Кір.*

2841. Бяжыць (бягуць) у лясок, задраўшы насок.

Сані. *W., 5, Віл. п.; Dyb., 159; Р., сб., 318; 1959, Гом.*

2842. Паўзулькі паўзуць, рагулькі вязуць; едуць калаціць таго пана, што жыве на балоце.

Сані, вілы, стог. *1948, Пруж.*

2843. Два ваўкі бягуць, на неба глядзяць.

Галоўкі ў санях. *W., 5, Віл., п.; Р., сб., 319.*

2844. Беглі два воўкі, задраўшы галоўкі.

Сані. *1946, Жытк.*

2845. Ехалі масковачкі, задралі галовачкі, як леглі спаць, дык і цяпер спяць.

Сані. *Р., сб., 336.*

2846. Дзве паненкі сыр кroяць.

Сані, снег. *1949, Акцябр.*

2847. Дзве сястрыцы сцюдзёным малачком мыюцца.

Палазы. *Нк., 19.*

2848. На гарбатых братах дзеці цешацца.

Сані. *Рп., 334.*

2849. Ляцяць гускі-лебядзі і гаворацць: «Што-то мы».

Сані. *F., 481.*

2850. Мішка ды Грышка ды дзве палазёнкі.

Санкі. *1962, Дзятл.*

2851. У лес едзеш — у лес дзівіцца, з лесу едзеш — дадому дзівіцца.

Палазы ў санях. *Б., 171.*

2852. Спінка і лаўка, дзве Пелагейкі і пяць братоў Панкратоў.

Сані. *Нк., 19.*

2853. Восем братоў Кандратоў, два брацеННікі Амілляны ды дзве сястры Улляны.

Сані. *Нк., 19.*

2854. Адзін кажа: «Мне зімой добра». Другі кажа: «Мне летам добра». Трэці кажа: «Мне ўсё роўна».

Сані, калёсы, конь. *1960, Брасл.*

2855. Восем васьмей, пяць па пяцей, дзве во якіх ды дзве во якіх — моцька ды роцька.

Сані, вязы, аглоблі, палазы, падсядзёлак, хамут. *Нк., 19.*

2856. Бег крыванос, даў нямку пад нос, крыванос пагнаўся, нямко астаўся.

Сані і камень. *Шр., 208.*

2857. Пад гару — каняшкі, угору — дзеравяшкі.

Лыжы. *1959, Гом.*

2858. Без калёс, а едзе.

Лодка. *1969, Стол.*

2859. Еду, еду, следу нету.

Лодка. *1949, Бабр.*

2860. Еду, еду — ні дарогі, ні следу.

Лодка. *1962, Капатк.*

2861. Ідзе, ідзе — следу нету, машу, машу — знаку нету.

Лодка. *1948, Кобр.*

2862. Еду, еду — следу нету, сяку, сяку — крыві нету.

Лодка. *1963, Брасл.*

2863. Еду, еду — следу нету, рэжу, рэжу — крыві нету, сяку, сяку — трэсак нету.

Човен. *Ш., 8. Леп. п.*

2864. Еду не дарогаю, паганяю не пугаю, азіраюся назад: следу не знаць.

Плысці на чоўне. *Dyb., 161.*

2865. Еду, еду — ні дарогі, ні следу, конь без хваста, пуга без пасвіста.

Плысці на чоўне. *F., 479.*

2866. Еду, еду па сінім жалезу, зірну назад — следу няма.

Лодка. *Р., сб., 336.*

2867. Еду, еду — ні дарогі, ні следу, свішчом паганяю, на ваду пазіраю.

Плысці на чоўне. *F., 479.*

2868. Еду, еду на старым дзеду, кіем папіхаю, на смерць пaглядаю.

Човен. *W., 8, Леп. п.*

2869. Еду, еду — нету следу (следу нету) і як назад аглянуся (азірнуся) — смерці баюся.

Лодка. *Н., 17; Д., 88; М. в., 159.*

2870. Еду, еду — ні следу. Пужкаю махаю, на смерць пазіраю.

Лодка. *1946, Староб.*

2871. Еду, еду — ні дарогі, ні следу; каня паганяю, на смерць пaглядаю.

Ехаць на лодцы. *1946, Староб.; 1950, Браг.*

2872. Еду я, еду—ні дарогі, ні следу, вяслом паганяю, на смерць пaглядаю.

Плысці на чоўне. *Dyb., 161; Б., 173.*

2873. Ох, еду, еду — ні дарогі, ні следу, бічом каня паганяю, на смерць пaглядаю.

Плысці на чоўне. *F., 479.*

2874. Еду, еду — следу нету; каня паганяю, на смерць пагля-даю: конь без хваста, а пуга без свістá.

Човен. *Ш., 499, Віл. п.*

2875. Еду па раўнядзі, ад смерці на тры пядзі і пад нагамі неба.

Лодка. *Н., 17.*

2876. Ехаў, ехаў — следу няма, рэзаў, рэзаў — крыві няма.

Плысці на чоўне. *F., 479.*

2877. Еду, еду — следу нету, рэжу, рэжу — крыві нету, назад аглянуся — смерці баюся.

Лодка. *Р., сб., 336.*

2878. Воз без калёс, дарога без пяску, свішчом паганяе, на смерць паглядае.

Плысці на чоўне. *F., 479.*

2879. На сухім еду, сухім паганяю, на смерць паглядаю.

Лодка, вясло. *Р., сб., 327.*

2880. Іду, нідзе следу не найду.

Лодка на вадзе. *Р., Мат., 92, Слон. п.*

2881. Не канём едзе, не пугай паганяе і на смерць паглядае.

Едзе на лодцы. *«Ніва», 1957, № 19.*

2882. Конь таго не павязе, што сутула павязе.

Лодка. *Б., 170.*

2883. Сутула-гарбаты, на сілу багаты, сто канёў не павязе, што сутула панясе.

Човен. *Ш., 10, Леп. п.*

2884. Сутулава-гарбаты, сто каней не павязе, што на горбе панясе.

Лодка. *Р., сб., 332.*

2885. Горб гарбаты, на сілу багаты, сто каней не павязе, што горб адзін панясе.

Лодка. *Р., сб., 319.*

2886. Гарбулька гарбата, на сілу багата; таго сто каней не павязе, што гарбулька на гарбе панясе.

Поезд, рака. *Р., Мат., 87, Кобр. п.*

2887. Сам гарбаты, на сілу багаты, таго конь не павязе, што на ім чалавек панясе.

Віціна (рачное грузавое судна). *Dub., 157.*

2888. Біч без ля́ску, дарога без пя́ску.

Вясло, рака, лодка. *Гт., 298, Кобр. п.*

2889. Пуга без ля́ску, а дарога без пя́ску, а конь без прыхей.

Вясло, рака, лодка. *Б., 173.*

2890. Воз без калёс, біч без ля́ску, а дарога без пя́ску.

Лодка, вясло, рака. *Гт., 296, Кобр. п.*

2891. Пузаты, чорны па вадзе плыве.

Човен. *Б., 173.*

2892. Ляжыць вол на баку, глядзіць на раку.

Лодка. *Р., Мат., 91, Слон. п.*

2893. Без сякеры, без явара мосціць масты да Кіева.

Лодка. *Б., 170.*

2894. Прыйшоў хтось, узяў штось, пайшоў бы я шукаці, ды дарогі не знаці.

Чалавек і човен. *Б., 173.*

2895. Вухі калышуцца, а пуза плыве.

Вёслы і лодка. *Нк., 19.*

2896. На адным паваду сто коней павяду.

Віціна, плыт. *F., 484; Р., Мат., 94, Слон. п.*

2897. Ні рыба, ні звер, а жыве на вадзе, даўней і цяпер з ёю вайну вядзе.

Карабель на моры. *J., 13.*

2898. Бяжыць на вадзе, а на кані ніхто не дагоніць.

Параход. *Б., 171.*

2899. Сам ідзе, сам вядзе і сам возіць.

Лакаматыў. *Д., 88.*

2900. Імчыцца абоз на сотні калёс.

Цягнік. *1961, Добр.*

2901. Імчыцца конь, вочы — агонь, сто вазоў прэ, народ вязе.

Цягнік. *1959, Гом.*

2902. Двое вачэй наперадзе, імчыць па вёсцы і горадзе. А як не наесца — не рушым ні з месца.

Паравоз, аўтамабіль. *«Зорка», 1959, № 18.*

2903. Ем я вугаль, п'ю ваду, цягну абоз на сто калёс.

Паравоз. *1950, Хойн.; 1960, Капатк.*

2904. За лесам лясанскім, за полем палянскім, там гукала Кацярына голасам шатанскім.

Цягнік. *1946, Староб.*

## ШЛЯХІ-ДАРОГІ

2905. Кася на ўвесь свет расцяглася (разнясласся).
Дарога. *Б., 168; 1946, Староб.*

2906. Пара́ся на ўсей свет распярлася.
Дарога. *F., 467.*

2907. Ляжыць Рыгор паміж гор, а як устане — неба дастане.
Дарога. *1960, Слуцк.*

2908. Ляжыць князь, расцягнясь, як устане — неба дастане.
Дарога. *W., 11, Дзвін. п.*

2909. Ляжыць Лася, расцяглася, а як устане, то й неба дастане.
Дарога. *1963, Брасл.*

2910. Ляжыць Вася (Ася, Рася, Кася), прасцяглася, як устане — да неба дастане.
Дарога. *Р., сб., 324; W., 13, Раг. п.*

2911. Ляжыць Дора-Тадора, каб устала, то да неба б дастала.
Дарога. *1960, Асіп.*

2912. Ляжыць Разя расцягназя, як устане, дык і неба дастане.
Дарога. *Д., 84.*

2913. Ляжыць Рася (Кася), на ўвесь свет (усе стораны) расцяглася (распялася), а каб устала, то да неба б дастала.

Дарога. *F., 467.*

2914. Е на свеце Кася, на цэлы свет расцяглася, каб устала, дык і неба б дастала.

Дарога. *Ш., 490, Ігум. п.*

2915. Ой, я разляглася, але каб устала, то да неба дастала б. Каб рукі і ногі — я б мора звязала, каб рот, ды язык — я ўсё расказала б.

Дарога. *1967, Зэльв.*

2916. Ляжыць на зямлі паніч, ён доўгі, як біч. Каб устаў, то да неба б дастаў.

Дарога. *F., 467.*

2917. Каб устала, дык да неба б дастала.

Дарога. *«Зорка», 1957, № 1.*

2918. Як устане (дык да) — неба дастане.

Дарога. *Р., Мат., 90, Кобр. п.; 1949, Кір.*

2919. Каб стала, то неба б дастала, каб рукі мела, так злодзея б дастала.

Дарога. *1960, Нясв.*

2920. Як ляжыць, ніжэй ката, а каб устала, то неба б дастала.

Дарога. *1962, Кап.*

2921. Вілы, вілы, кожнаму мілы, каб усталі, то да неба б дасталі.

Дарога. *F., 468.*

2922. Стаяць вілы, абое мілы, стаў думаць, гадаць, каторыя ўзяць.

Дарога. *F., 468.*

2923. Стаяць вілы, абое мілы, ні ўздумаць, ні ўгадаць, каторыя ўзяць.

Дарога. *F.. 468*

2924. Ляжыць страла пасярод сяла, да кожнага двара пасынкі папускала.

Дарога. *1969, Стол.*

2925. Ляжыць яліна, кожна на двор галіна.

Дарога. *F., 480.*

2926. Доўгае вужышча па ўсяму свету свішча.

Дарога. *1946, Староб.*

2927. Цягнецца нітка, а на клубок не зматаць.

Дарога. *Рп., 363.*

2928. Каці, каці клубок і не разматаеш.

Дарога. *1970, Астр.*

2929. Ідзе то ў гору, то ў даліну, то лесам, то полем, а сама не варушыцца.

Дарога. *Рп., 358.*

2930. Вузкая палоска бяжыць ад горада да горада, ад вёскі да вёскі.

Дарога. *1962, Светл.*

2931. Ад дома да дома ходзіць, а ў дом не заходзіць.

Дарога. *1968, Касц.*

2932. Ідзе мядзведзь па вуліцы, а мядзведзяткі ў кожную забягаюць хатку.

Дарога і сцежкі. *Р., сб., 322.*

2933. Да кожнай каморы ёсць падборы.

Дарога і сцежкі. *1967, Вайк.*

2934. Ляжыць сасна на ўвесь свет красна і к каждаму двару па сучку.

Дарога і сцежкі. *Д., 84.*

2935. Стаіць вярба і ў кожны двор галіна.

Дарога і сцежкі. *1946, Староб.*

2936. Ад хацёнкі, да хацёнкі патыканы рагацёнкі.

Сцежкі. *F., 482.*

2937. Усё поле на шнурках.

Межы. *Д., 89.*

2938. Ляжайка ляжыць, на ёй таратайка бяжыць.

Дарога і воз. *F., 468.*

2939. Сам (сама) не бачыць, а другому паказвае.

Верставы слуп. *Б., 167; Д., 82.*

2940. З места не рушыцца, а на сябе многа чаго зносіць.

Мост. *Нк., 15.*

2941. Мядзведзь не мядзведзь, а пчол абдзірае.

Пан, поп. *Бел. н., 143.*

2942. Вош не вош, а за мужыцкім каўняром жыве.

Пан, поп. *Бел. н., 143.*

2943. Трое жывуць, скуру дзяруць, голымі пускаюць. Хто адгадае?

Пан, поп і стараста. *Бел. н., 143.*

2944. Мудры мудрэц гусёй арэць.

Пісар. *Гт., 299, Дзісн. п.*

2945. Мудры мудрэц па сірану арэ, белы хлеб жарэ.

Пісар на рабоце. *Нк., 10.*

2946. Ні давернешся — б'юць, пераварнешся — б'юць.

Служба ў царскай арміі. *Л., 25.*

2947. У нашага вала ў баку дзіра, а пад хвастом кірмаш.

Карчма. *F., 472.*

2948. Ніхто нічога не відзеў, а тыц-мыц, туды-сюды — й няма.

Аб пакражы. *Л., 29.*

2949. Многа, на цэлу печ цэглы трэба.

Прагнасць. *F., 470.*

2950. Жыве без цела, гаворыць без языка, ніхто яго не бачыць, а кожны чуе.

Сумленне. *Dyb., 165.*

2951. Цар відзіць рэдка, пастух усягды, а бог ніколі.

Адзін аднаго (цар цара і г. д.). *Р., сб., 334.*

2952. Круглае, малое ўсякаму трэба.

Грошы. *Б., 168.*

2953. Кругленька, маленька, а кожнаму (а ўсяму свету) міленька.

Грошы. *F., 470; Dyb., 168.*

2954. Росту малога, стану пякнога, хто яго мае, усяго дастане.

Грошы. *Р., сб., 329.*

2955. Малатамі куюць і нам даюць.

Грошы. *Рп., 333; 1967, Стаўб.*

2956. Сам кароль куе і нам дае.

Грошы. *F., 470.*

2957. У Маскве рубяць, сюды шчэпкі ляцяць.

Грошы. *Д., 83.*

## СЯМЕЙНЫЯ АДНОСІНЫ

2958. Два браты, а адзін з іх мой дзядзька. Хто другі?

Бацька. *1967, Свісл.*

2959. Ішоў чалавек дарогай, ажно ўдваіх сена грабуць:

— Калі брат з сястрою — памажы, божа, а мужык з жаною — смешкі да жарты.

— А не брат з сястрою, не мужык з жаною, мая матка яе матцы свякроўка была.

Бацька з дачкою. *Р., сб., 322, 323.*

2960. Жнуць пара людзей. Ідзе чалавек і говорыць:

— Памагай бог! Калі муж з жаною — уцешна, калі брат з сястрою — успешна.

А яна адказвае:

— Не брат з сястрою, не муж з жаною, а яго маці маёй маці — свякроў была.

Дачка з бацькам. *1960, Нясв.*

2961. — Памагай, божа,— сказаў прахожы жнуўшаму старому з маладою жанчынаю.

— Дзякуй,— адказаў стары.

— Калі брат з сястрою — спешна вам, а калі муж з жаною — смешна нам.

— Не брат з сястрою, не муж з жаною, а толькі мая маці яе матцы была свякрова.

Бацька з дачкою. *Н., 17.*

2962. Сядзіць дзіця на гародзе, сядзіць і гаворыць: «У мяне ёсць бацька, маці, а я ім не сын».

Дачка. *1959. Гом.*

2963. Старая ты вуштабурка (уштабрыка), ляжыш ты на бахтары, я, молада, была ў тараторні, прыляцеў паляцітар, ухапіў пабудзітара, сеў на бялітар над харытарам, да й даўбе.

Нявестка гаворыць свекрыві, што ляжыць на пасцелі: «Я была на вуліцы, прыляцеў каршун, схапіў пеўня, сеў на бярэзіне над дарогаю і есць». *Р., сб., 331.*

2964. Пяць раз гарэў, адзін раз строіўся.

Пяць дочак замуж аддаваў і аднаго сына жаніў. *1963. Леп.*

2965. Што за звярочак: па хаце ходзе, ніхто яму не шкодзе, усякі яго ўважае, дарогу саступае.

Дзіця. *Л., 60.*

2966. Сярод хаты лужа стаіць, а на лужы рыба ляжыць.

Дзіця. *F., 468.*

2967. Чатыры чатырачкі і дзве растапырачкі, сёмы вяртун.

Вяроўкі, калыска, дзіця. *Ш., 490, Свянц. п.*

2968. На гары Растуты ляжаць людзі пабіты, у іх галовы пазвязваны; прыбег шулда-булда, ухапіў махотачку: «Мані памыйнічку, даганяй шулду-булду, адымай махотачку».

Снапы, воўк, дзіця, маці, муж. *М. в., 160.*

2969. Пад горадам, пад Быхавам, ляжаць галовы падбрытыя, між тых людзей ляжыць кавекуш. Прыбег путынька, ўзяў кавекуш:

— Ідзіце, скажыце матульцы, няхай садзіцца на котку (воз), маніць аўсянкіна, даганяе путыньку, адымае кавекуш.

Снапы, дзіця, воўк, маці, конь. *Д., 81.*

2970. Ішла какошачка дарожкаю, несла кугатачку, напаткаў яе кантопелька і адабраў кугатачку. Прыйшла какошанька дадоменьку:

— А мой мілы свяціцелю, сядай на парабомдачку, пабяры ты мянкіннікі, дагані кантопелька, адбяры кугатачку.

Жанчына, дзіця, воўк, мужык, конь, сабакі. *F., 465.*

2971. Прыляцеў белагор да ўхапіў дрыгуна.

— А ты, шэльма, дзе была?

— На прыпечку сядзела, лапытэчкі давала.

Ястраб, курыца, жанчына карміла дзіця. *F., 483.*

2972. Прыехаў госць без вясцей, еў мяса без касцей.

Малое дзіця і грудзі маці. *Нк., 8.*

2973. Прыехаў госць без вясцей, просіць мяса без касцей.

Дзіця просіць грудзі ў маці. *Д., 82.*

2974. Прыйшоў госць без вясцей, паеў курачку без касцей, курачка цэлая і госць сыты.

Дзіця і грудзі маці. *Рп., 326.*

2975. Жывы жывога есць і ў вочы глядзіць.

Маці корміць дзіця. *Рп., 322; 1967, Пруж.*

2976. Свой сваю есць і ў вочы пазірае.

Дзіця і грудзі маці. *1949, Кір.*

2977. Жывая жывуліца жывое мяса есць.

Дзіця ссе грудзі маці. *F., 468.*

2978. Маленькая, беленькая, на стале не бывае, а ўвесь свет пітае.

Грудзі маці. *Р., сб., 325.*

2979. Кругленькая, маленькая, на стале не бывае, увесь свет пітае.

Грудзі маці. *Д., 82.*

2980. Увесь свет пітае, а на стале не бывае.

Грудзі маці. *Б., 168.*

2981. Белы лебедзь на блюдзе не быў, усе людзі елі.

Грудзі маці. *1946, Жытк.*

2982. Белая бутэлечка, чырвоная шыйка.

Грудзі маці. *F., 467.*

2983. Бутэлечка крышталёва, у ёй вада здарова, хто жыў, хто ўміраў, той яе ўжываў.

Грудзі маці. *F., 467.*

2984. Нова пляшачка поўна віначка, хто яго не ўжываў, той смаку не знаў.

Грудзі маці. *Р., Мат., 89, Кобр. п.*

2985. Круглае, як яблык, салодкае, як цукар, на талерцы не бывала, увесь свет выжывяла.

Грудзі маці. *F., 467.*

2986. Кругла, як гарбуз, салодка, як цукар, на стале не бывае, а ўсякі гэта ўжывае.

Грудзі маці. *Dyb., 157.*

2987. На паповым полі папутаны коні, мозуль знаці, а не развязаці.

Вянчаныя. *Р., Мат., 89, Кобр. п.*

2988. Два арлы арлуюць, адно яйцо балуюць.

Кума, кум і дзіця. *Нк., 16.*

2989. Два арлы арлуюць, чужое яечка балуюць.

Кума, кум і дзіця. *Д., 86.*

2990. Тры арлы арлуюць, адно яечка балуюць.

Кум, кума, поп пры хрышчэнні дзіцяці. *Нк., 8.*

2991. Пад дубам райскім, пад крыжом царскім два арлы арлуюць, адно яйцо балуюць.

Хрышчэнне дзіцяці. *Р., сб., 328.*

2992. Ёсць на свеце адно і для ўсіх яно нужно.

Імя. *1959, Кір.*

2993. Ёсць на свеце адно к усяму гадно.

Імя. *1960, Пух.*

2994. Прыйшоў хтось, узяў штось, гонішся за ім, нямаведама за кім.

Смерць. *Нк., 18.*

2995. Прыйшоў нехта, узяў нешта, ганіся за тым, хто ведае за кім.
Смерць. *Нк., 7.*

2996. Прыйшоў нехта, узяў нешта, ні яго дагнаць, ні ў яго адабраць.
Смерць. *Р., сб., 329.*

2997. Яе просяць, яе ждуць, а як прыйдзе, то хавацца пачнуць.
Смерць. *Б., 172.*

2998. Мяне часта просяць і чакаюць, а як толькі прыйду, то хавацца пачынаюць.
Смерць. *Dyb., 166.*

2999. Пташка лятае — краскі зрывае, кладзе — выраўняе.
Смерць. *Нк., 7.*

3000. За табою стаіць дуб, ніхто яго не абыдзе, ніхто яго не аб'едзе: ні цар, ні царыца, ні красна дзявіца.
Смерць. *1960, Пух.*

3001. Адзеўся не так, абуўся не так, як выйшаў (а пайшоў) за варота, не вернецца (не вярнуўся) аніяк.
Нябожчык. *Ш., 208; 1965, Навагр.*

3002. Умёр — не паграбён; мой дом ні з дрэва, ні з гліны зрабён.
Тапелец. *F., 484.*

3003. Я не быў тым, што цяпер ты, а ты будзеш тым, што цяпер я.
Дзіця мёртванароджанае. *Б., 168.*

3004. Кожнаму трэба, а сам сабе не зробіш.
Труна. *1965, Свісл.*

3005. Кожнаму трэба, а ніхто сам сабе не робіць.
Труна. *1965, Іў.*

3006. Равуцікі равуць, бягуцікі бягуць, сухалецiна ляжыць, нічога не кажа.
Плач па нябожчыку. *Р., сб., 329.*

3007. Паравунькі равуць, пацякунькі цякуць, сухое дзерава ляжыць, нічога не кажа.
Плач па нябожчыку. *Р., сб., 329.*

3008. Пацякушкі цякуць, равушкі равуць, сухадрэвіну вязуць.
Слёзы і плач па памёршаму. *Нк., 9.*

3009. Зімой ездзяць, а летам сляды знаць.
Магіла. *Р., сб., 322.*

3010. У адным месце клубкоў з дзвесце.
Могілкі. *Б., 169.*

3011. Шатуліцы, матуліцы, ні сяла, ні вуліцы.
Могілкі. *F., 475.*

3012. Мігу-мігулкі — ні сяла, ні вулкі, там людзі жывуць.
Могілкі. *Б., 169.*

3013. Мігу-мігуліцы — ні сяла, ні вуліцы, пеўні не пяюць, а людзі жывуць.
Могілкі. *1964, Лун.*

3014. Стаіць Мікуліца — ні двара, ні вуліцы, людзі жывуць, а петухі не пяюць.

Могілкі. *Нк., 8.*

3015. Стаіць сяло Мікуліца — ні двара, ні вуліцы, як уз'едзеш, ніколі не з'едзеш.

Могілкі. *Нк., 8.*

3016. Сяло Мікулічы — ні двара, ні вуліцы, хто туды едзе, той не прыедзе.

Могілкі. *1950, Хойн.*

3017. Сяло заселена, петухі (а пеўні) не пяюць і людзі не ўстаюць.

Могілкі. *F., 475; Dyb., 165; 1960, Івац.*

3018. Дзярэўня заведзена, сабакі брэшуць, петухі пяюць, а людзі не ўстаюць.

Могілкі. *Р., сб., 320.*

3019. Харомы нізкія, суседзі блізкія, разам жывуць, адзін к аднаму не ходзяць.

Могілкі, нябожчыкі. *Д., 89.*

3020. Ёсць такое месца, што пеўні не пяюць і людзі не ўстаюць.

Могілкі. *1963, Маладз.*

3021. Вёску завялі, сабакі брэшуць, петухі пяюць, а людзі не ўстаюць.

Могілкі. *W., 7, Віл. п.*

## ШКОЛА, АСВЕТА

3022. Ноччу маўчыць, удзень гамоніць, маці другая, дзяцей навучае.

Школа. *Рп., 324.*

3023. Без языка, а гаворыць.

Кніга. *Ш., 492, Свянц. п.*

3024. Не чалавек, а размаўляе.

Кніга. *1965, Кап.*

3025. Хто яго сее, той і разумее.

Кніга. *1949, Кір.*

3026. Белае поле, чорнае насенне (семя), хто яго сее, той разумнее (разумее).

Кніга, пісьмо. *Dyb., 157; J., 10; 1949, Кліч., Староб.; 1968, Краснап.*

3027. Зямля белая, насенне чорнае, пяцёра аруць, двое сочаць, адзін кіруе.

Кніга і чалавек. *«Зорка», 1959, № 28; 1968, Краснап.*

3028. Не куст, а з лістамі (лісточкамі), не кашуля, а пашыта.

Кніжка. *Рп., 367; 1949, Староб.; 1963, Маладз.*

3029. Не куст, а з лісточкамі, не чалавек, а расказвае.
Кніжка. *1946, Староб.*

3030. Не куст, а з лісточкамі, не рубашка, а сшыта, не чалавек, а расказвае.
Кніга. *1959, Гом.; 1911—1912, Сакольскі п.*

3031. Расчыніцца ночка — глянуць з яе лісточкі, хто іх разглядае, той многа пазнае.
Кніга. *Рп., 367.*

3032. Росту малога, стану пякнога (прыгожага), хто яго знае, той розум мае.
Кніга. *Р., сб., 329; 1965, Іў.*

3033. Усё там: і зямля, і неба, і вада.
Кніга *1950, Маладз.*

3034. У моры-алатáры бярвенні не катáны, хто іх пакатае, той і адгадае.
Кніга. *1967, Лід.*

3035. Быў сабе дурань, на дошку дзівіўся, зрабіўся разумны.
Кніга і чытач. *Б., 169.*

3036. Яе мы сябрам называем, яна ж нам тайны адкрывае, мы з ёй павінны век дружыць, бо вучыць нас на свеце жыць.
Кніга. *1968, Краснап.*

3037. Кінь на зямлю — не разаб'ецца, кінь на ваду, то расплывецца.
Папера. *Dyb., 164.*

3038. Кінь аб камень — не разаб'ецца, кінь на воду — расплывецца.

Папера. *1965, Кап.*

3039. Аб камень стукнеш — не разаб'ецца, а на воду кінеш — расплывецца.

Папера. *1962, Кап.*

3040. Кіну аб сцену — не разаб'ецца, пушчу на воду — раскуецца.

Папера. *1946, Староб.*

3041. Бі — не разаб'ецца, пусці на ваду — расплывецца.

Папера. *F., 478.*

3042. Чорны колер, гусіны арол.

Пісьмо. *Ш., 496.*

3043. Без душы, без цела за сто міль ляцела.

Пісьмо. *1950, Браг.*

3044. Без крылляў, а ляціць, без языка, а гаворыць.

Пісьмо. *1959, Гом.*

3045. Скруціў, змуціў, за мора пусціў.

Пісьмо. *Р., Мат., 92, Слон. п.*

3046. Закіну за мора — і там гавора.

Пісьмо. *1968, Краснап.*

3047. На Маскве рубяць, сюды трэскі ляцяць.

Пісьмо. *Р., сб., 326.*

3048. У Расеі дровы рубаюць, а ў поле трэскі лятаюць.
*Р., Мат., 88, Кобр. п.*
Пісьмо.

3049. Белае поле, чорнае насенне разумны сее.
*Гт., 299, Брэсцк. п.*
Пісьмо.

3050. Белае поле, чорнае насенне, той будзе мудры, хто яго пасее.
*F., 479.*
Пісьмо.

3051. Бела галубка ў хату ўляцела, што знала, усё расказала.
*1960, Пух.*
Пісьмо.

3052. Гусак па сірану ходзіць.
*Нк., 10.*
Пісьмо.

3053. Зямельку белую гусенькай пераворвае, чорныя семінкі запахвае.
*Нк., 10.*
Пісьмо.

3054. Чорная гусыня па сняжку пахадзіла: ні тапаром адсекчы, ні лапатай адгрэбці.
*Нк., 10.*
Пісьмо.

3055. Заўсёды я тонкая і худая, ды ў тым мая сіла, што п'ю я чарніла.
*Рп., 365.*
Прамакатка.

3056. Пяцьма валамі ды адной сахой пашуць.
*1950, Хойн.*
Аловак.

3057. Ляжыць паленца, а ў сярэдзіне сэрца.
*1963, Маладз.; 1968, Краснап.*
Аловак.

3058. Роўная з лесам, а самой не відаць.

Аловак. *Рп., 367.*

3059. Галаву адрэж, сэрца вымі і дай піць — а стане гаварыць.

Гусінае пяро. *Dyb., 166.*

3060. Дай піць — будзе гаварыць.

Пяро, чарніла. *1949, Акцябр.*

3061. Тры браты на адным кані па белым полі едуць.

Пальцы, ручка, папера. *Рп., 327.*

3062. На агні не гарыць, на вадзе не тонець.

Слова. *Нк., 9; 1960, Івац.*

3063. Крылляў не маю, а хутка лятаю, сам мяне выпусціш, ды потым не зловіш.

Слова. *Рп., 324.*

3064. З выгляду — мячык на восі стаячай, а сіла такая — усю зямлю трымае.

Глобус. *Рп., 366.*

3065. Пад шклом сяджу, у адзін бок гляджу.

Стрэлкі компаса. *1963, Маладз.*

3066. Дзень прыбывае, а ён худае (убывае).

Каляндар. *1960, Лоеў.; 1968, Краснап.*

3067. Гадавы кусточак кожны дзень губляе лісточак, год пройдзе — увесь ліст атойдзе.

Каляндар. *1959, Гом.*

3068. Певень пяе на варотах, высунуўшы язык з рота.

Званок. *Рп., 335; 1967, Кам.*

3069. Не піў, не еў, а крычыць, як ашалеў.

Званок. *1960, Іван.*

3070. Зроду ён не есць, не п'е, песні голасна пяе, ці з урока, ці на урок ён падае свой галасок.

Званок. *1968, Краснап.*

3071. Чорна яліна ўвесь свет заваліла, каля яе кавалі куюць.
Ноч і песні. *Б., 171.*

3072. У лесе радзіўся, на руках плача.
Скрыпка. *М. в., 159.*

3073. У лесе родзіцца, дамоў прыносіцца — і плача.
Скрыпка. *Нк., 19.*

3074. У лесе сцята, у хляве (каморы) узята, а на руках плача.
Скрыпка. *Dyb., 162; Гт., 296, Навагр. п.; Б., 172; Р., Мат., 93, Слон. п.; 1949, Кір.*

3075. У лесе сцята, да хаты узята, на руках плача.
Скрыпка. *F., 481; Р., Мат., 86, Ваўк. п.*

3076. У балоце сцяў, у хляве зняў, у рукі ўзяў — плача.
Скрыпка. *Нк., 19.*

3077. У балоце сцята, у хляве ўзята, на руках плача.
Скрыпка. *Нк., 19.*

3078. У лесе сцята, у клеці ўзята, а на руках плача.
Скрыпка. *W., 11, Леп. п.; Д., 93.*

3079. У лесе нарадзілася, на вяселле згадзілася.

Скрыпка. *Зар., 26; 1960, Івац.*

3080. У лесе радзілася, у лесе хрысцілася і на вяселле прыгадзілася.

Скрыпка. *1946, Староб.*

3081. У лесе сцята, на рукі ўзята, плача, а не дзіця.

Скрыпка. *1965, Навагр.*

3082. У лесе сцята, у каморы ўзята; ляжыць — маўчыць, возьмеш у рукі — плача.

Скрыпка. *1946, Староб.*

3083. У лесе вырасла і лісце мела, у людзі пайшла — плакаць стала.

Скрыпка. *1960, Нясв.*

3084. У лесе вырасла, з лесу вынеслі, у руках плача, хто слухае, той скача.

Скрыпка. *1969, Пін.*

3085. У лесе адрублена, у лаўцы куплена, на руках плача.

Скрыпка. *Р., сб., 319.*

3086. У лесе сцята, у краме ўзята, на руках плача.

Скрыпка. *1960, Кап.*

3087. За лесам лясенскім закавала зязюленька голасам паненскім.

Скрыпка. *F., 481.*

3088. Пяе петушок з чатырох кішок.

Скрыпка. *Нк., 19.*

3089. Петушок без кішок — харашэнька пяе.

Скрыпка. *Ш., 497, Віл. п.*

3090. Чырвоненькі петушок пяець без кішок.

Скрыпка. *1959, Леп.*

3091. Ляжыць — маўчыць, а возьмеш — заплача.

Скрыпка. *Р., сб., 324.*

3092. Як ляжыць, то маўчыць, а як возьмеш на рукі, то заплача.

Скрыпка. *Гт., 298, Кобр. п.*

3093. Ляжыць — маўчыць, а возьмеш у рукі — плача.

Скрыпка. *1946, Староб.*

3094. Як ляжыць, то маўчыць, а вазьмі — закрычыць.

Скрыпка. *Б., 172.*

3095. Дзіцятка на рукі ўзята, на руках плача.

Скрыпка. *Д., 93.*

3096. За гарою крамяною суха Ева плача.

Скрыпка. *1969, Стол.*

3097. Вясёлае дзерава вясёла спявае, конь на баранах хвастом махае.

Скрыпка. *Б., 172.*

3098. Што плача і жалю няма?

Скрыпка. *1967, Дзятл.*

3099. Плыве без повада, расце без кораня, а плача без слёз.

Вада, камень, скрыпка. *1960, Нясв.*

3100. У ліпавым кусце мядзведзь раве.

Цымбалы, скрыпка. *Р., сб., 319; Ш., 7, Віл. п.; F., 481.*

3101. За лесам палянскім, за полем лясанскім крычыць Кацярына голасам шатанскім.

Труба. *Ю., 293, Лід. п.*

3102. Ходзіць каля лесу, пяе куралесу, не пятух, не курыца — дзеравяны нос.

Труба (пастухова). *Ш., 498, Мсцісл. п.*

3103. Ходзіць каля лесу, крычыць кукарэку, не курыца, не пятух — дзеравяны нос.

Дудка. *Д., 84.*

3104. У лесе выразана, гладка выцясана, заліваецца, як называецца?

Дудка. *1967, Слон.*

3105. Стаіць стоўп, а ў тым стаўпу дзірка.

Труба. *Б., 173.*

3106. Сама длінная, бок дзіравы, канец закручысты, а пішчыць.

Жалейка. *Нк., 18.*

3107. І поўна, і роўна — канцы граюць.

Дудка. *Нк., 19.*

3108. Раве, як цялёнак, плача, як рабёнак; ні мяса, ні кішок, тольк адзін трыбушок.

Дуда. *Нк., 19.*

3109. Сам пусты, голас густы, дроб выбівае, людзей сабірае.

Барабан. *1949, Акцябр.*

3110. Цень, цень, вышэй горада пляцень.
Царква. *Р., сб., 333.*

3111. У адзін гарод (гарох) сем дарог.
Царква. *Нк., 7.*

3112. Уверх мядзіна, уніз пляціна на сто стаўбоў, на тысячу рублёў.
Царква. *Нк., 7.*

3113. Яна не воласць, не карчма, а шмат няслі туды дабра.
Царква. *Бел. н., 144.*

3114. Стаіць карова-палова, у яе залатыя рогі.
Царква. *Нк., 7.*

3115. Стаіць карова бура, глядзіць з гуры, вочы шкляныя, рогі залатыя.
Царква. *Р., сб., 332.*

3116. Кароўка бурка, пасе яе Юрка, ногі камяныя, рогі залатыя.
Царква. *1963, Маладз.*

3117. Стаіць каравёнка за згарадзёнкай: бокі палавыя, рогі залатыя.
Царква. *Нк., 7.*

3118. Карова бура́я, вырасла стара́я. Рогі залатыя, вочы шкляныя.

Царква. *Нк., 7.*

3119. Кароўка рабенька наелася кругленька, ножкі залатыя, вочкі шкляныя.

Касцёл. *F., 473.*

3120. Ляцеў птах цераз божы дах: «Вот тут маё дзела агнём з'ела».

Пчала, царква, свечы. *Р., сб., 324.*

3121. Ляцеў птах цераз папоў дах і кажа: «Тут мая сіла ўся агнём села».

Пчала, царква, свечы. *Б., 171.*

3122. Ляцеў птах цераз божы дах: «Ах, божа, мой божа, тут мая праца гарыць».

Пчала, царква, свечкі. *Н. н., 15.*

3123. Ляцеў птах цераз божы дах, сеў на варотах у чырвоных ботах: «Божа мой, божа, дзе мая сіла падзелась: ці на агні пагарэла, ці на вадзе патанула».

Пчала, царква, воск. *Д., 91.*

3124. Ляцеў птах цераз божы страх, сеў на магілу: «Ой, божа мой мілы, не магу з табой гаварыць — мая сіла гарыць».

Пчала, царква, свечы. *Р., сб., 324.*

3125. Хто ўперад за ўсіх у цэркву лезе?

Царкоўны ключ. *Нк., 7.*

3126. Поўны хлявец авец, а адзін баран чорны і той бляець.

Царква, людзі, поп. *Гт., 299, Дзісн. п.*

3127. Сам барадаты, пузам багаты.
Поп. *Бел. н., 143.*

3128. Дуб кару знае, а кара дуба не знае.
Ксёндз. *F., 474.*

3129. Кадзіла ў руках трымае, кадзілам махае, з кадзіла дым прэцца. Як ён завецца?
Поп. *Бел. н., 143.*

3130. Хто з жывога і з мёртвага бярэ?
Поп. *Бел. н., 143.*

3131. Служыць саборна, а есць падворна.
Поп. *Бел. н., 143.*

3132. І ў царкву ходзіць, і людзям шкодзіць.
Поп. *Бел. н., 143.*

3133. Ходзіць па хатах, людзей дурманіць, пра бога маніць.
Поп. *Бел. н., 144.*

3134. Шэсць дзён гуляе, а сёмы «работае» і торбу грошай бярэ.
Поп. *Бел. н., 143.*

3135. Многа трэба, кажа, для неба, а ён не аддае, ды сам жарэ.
Поп. *Бел. н., 143.*

3136. У хляве адзін баран бляе.
Поп у царкве. *Dyb., 163.*

3137. Поўны хлявец авец, а пасярэдзіне баран бляець.
Поп. *Бел. н., 143.*

3138. Поўна пуня авец нагната, а між іх баран чорны.
Поп і людзі ў царкве. *Д., 90.*

3139. Повен хлявец авец, а між імі адзін баранец.
Людзі ў царкве і поп. *Ч., 310, Бельск. п.*

3140. Повен хлявец авец, адзін баран бляець.
Людзі ў царкве і поп. *Р., сб., 328.*

3141. Повен хлявец авец, а адзін баранец.
Людзі ў царкве і поп. *Dyb., 162; 1969, Стол.*

3142. Стаіць між белых авец чорны баранец.
Людзі і поп. *Р., сб., 332.*

3143. Поўны хлявец авец, паміж імі адзін блеюнец.
Людзі ў царкве і поп. *Р., Мат., 90, Кобр. п.*

3144. Поўны хлявец усякіх авец, а проці іх адзін баран бляець.
Царква, поп, людзі. *F., 466.*

3145. Поўна хата авец, пасярэдзіне баранец.
Поп. *1946, Жытк.*

3146. Паўнюсенька хата белых авец, а сярод іх чорны баран бляець.
Царква, людзі, поп. *Нк., 7.*

3147. Пасярод белых авец стаіць чорны скапец.

Людзі, поп. *Нк., 7.*

3148. Поўна пуня авец, а перад імі пастух песні пяець.

Царква, людзі, поп. *Н., 19.*

3149. Рыкнуў (зароў) вол на сем сёл.

Звон. *Pietk., 451; F., 486.*

3150. Раве вол на сем сёл.

Звон. *Н., 16.*

3151. Крыкнуў вол на сем сёл, яго не відаці, а голас чуваці.

Звон. *Гт., 296, Кобр. п.*

3152. Рыкаў вол за сем гор, нідзе не відна, толькі голас чутна.

Звон. *Р., Мат., 87, Кобр. п.*

3153. За гарою вол рычыць, яго не відаць, толька голас слыхаць.

Звон. *F., 486.*

3154. За сем гор раве вол, яго не відаць, толькі голас чуваць.

Звон. *1911—1912, Сакольскі п.*

3155. Рычыць вол за сем гор, яго не відаць, а голас яго чуваць.

Звон. *F., 486.*

3156. Сівы вол выпіў вады дол і рыкнуў на сем сёл.

Звон. *Р., Мат., 91, Слон. п.*

3157. За сем гор рыкнуў вол.

Звон. *Р., Мат., 86, Вайк. п*

3158. Сівыя валы да неба рулы.

Званы. *Р., Мат., 88, Кобр. п.*

3159. У лесе рубяць, а шчэпкі на сяло ляцяць.

Звон. *Гт., 298, Кобр. п.*

3160. У лесе рубяць, на сяло трэскі ляцяць.

Звон. *Р., Мат., 89, Кобр. п.*

3161. За лесам рубаюць, да нас трэскі лятаюць.

Звон. *Шр., 208.*

3162. У сяле рубаюць, а за сяло трэскі лятаюць.

Звон. *Б., 169.*

3163. За гарою дровы рубяць, у сяло трэскі ляцяць.

Звон. *Р., Мат., 92, Слон. п.*

3164. За морам дровы сякуць, а к нам шчэпкі лятуць.

Звон. *Нк., 8.*

3165. Дуб сякуць, а на ўвесь свет голас ідзе.

Звон. *Ш., 5, Віл. п.*

3166. Дуба сякуць, на ўвесь лес адгалосак ідзе.

Звон. *Р., сб., 320.*

3167. У Пераросці дровы рубяць, на Івакі трэскі ляцяць.
Звон. *Р., сб., 319.*

3168. Сядзіць петушок на вароцех, як запяе, дык у тры вярсты чуць.
Звон. *Р., сб., 331.*

3169. Певень пяе на варотах, высунуўшы язык з рота.
Званіца і звон. *Н., 16.*

3170. Сядзіць петушок у вароцех, пусціў косы да полу, як запяе, адгалосак ідзе.
Звон. *Р., сб., 331.*

3171. Певень сядзіць на варотах у жалезных ботах, пусціў косы да зямлі, голас да неба.
Званіца і звон. *Н., 16.*

3172. Сядзіць пятух на варотах у чырвоных ботах, косы да неба, а хвост да зямлі.
Звон. *Нк., 8.*

3173. Стаіць пятух на варотах у чырвоных ботах, пусціў касу да зямлі, а голас да неба.
Звон. *Нк., 8.*

3174. Сядзіць пятух на варотах, голас да неба, а хвост да зямлі.
Звон. *Ш., 492, Свянц. п.*

3175. Сядзіць пятух на варотах у чырвоных чаботах, голас да неба, косы да зямлі.
Звон. *Д., 86.*

3176. Ляцела пава, села на прыправе, пусціла косы да зямлі, а голас да неба.

Звон на званіцы. *М. в., 160.*

3177. Крахнула вутка, за морам чутка, сабраліся дзеткі, да не адной маткі.

Звон, людзі. *М. в., 160; Д., 86.*

3178. Крыкнула вутка, на небе чутка, сабраліся дзеткі не адной маткі.

Звон, людзі. *1963, Брасл.*

3179. Крыкнулі вуткі, на ўвесь свет чуткі, сабраліся дзеткі, да не адной маткі.

Званы, людзі. *W., 8, Леп. п.*

3180. Кракнула вутка, за морам чутка: «Збірайцеся, вуцяняткі, да сваёй маткі».

Званы, людзі. *Нк., 8.*

3181. Крыкнула вутка, за морам чутка, сабраліся вуцяняткі, усё не адной маткі.

Звон, людзі. *Р., сб., 324.*

3182. Ішоў бык, пад бабчу шмыг, бабча завыла, як лыка забіла.

Званар і звон. *Н., 16.*

3183. Людзей гукае, а сам у царкву не заглядае.

Звон. *Pietk., 451.*

3184. Хто гэта людзей склікае, да сам у касцёле не бывае?

Звон. *F., 486.*

3185. А ў нашага татулькі залатыя батулькі: як забаўтаюцца, дык усе дагадаюцца.
Звон. *Нк., 8.*

3186. Сярод сяла вісіць кіла.
Звон. *1946, Слуцк.*

3187. Божжу хвалу за хвост цягаю: хвала крычыць, што хвост баліць.
Звон. *Ш., 492, Віц. п.*

3188. Жывы б'е, а мёртвы раве.
Звон. *Нк., 8.*

3189. Жывы мёртвага б'е, а мёртвы крычыць на ўсё горла.
Звон. *Рп., 365.*

3190. Лезу, лезу па жалезу, вылезу на мост, дзергану быка за хвост, бык зараве, увесь народ сабярэ.
Звон. *1946, Староб.*

3191. Чатыры арлы адно яйцо зняслі.
Евангелле. *Б., 168.*

3192. Летась кароль ехаў, а сёлета сляды значны.
Каляды. *Р., сб., 325.*

3193. На крашчэнскую каляду вылі ваўкі на ляду.
Крэсны ход на Ярдань. *Бел. н., 143.*

3194. Як цэлы год ждалі, то мясам прымалі, а як адпраўлялі, то цыбулькаю частавалі.
Запускі і пост. *Г., 486.*

3195. Лёг мост на сем вёрст, а на канцы макавы цвет.

Вялікі пост і вялікдзень. *W., 12, Барыс. п.*

3196. Сем міль масту, а ў канцы цвет, ды на ўвесь свет.

Вялікі пост і. вялікдзень. *Dyb., 163.*

3197. Ляжыць мост на сем вёрст, на тым масту яблынька, на яблыньцы — цвет на ўвесь свет.

Вялікдзень. *Р., сб., 324.*

3198. Стаіць мост на сем вёрст, у канцы маста стаіць яблыня, пусціла цвет на ўвесь белы свет.

Вялікі пост і вялікдзень. *Д., 95.*

3199. Ёсць мост — сем вёрст, у канцы таго маста стаіць яблынька, на той яблыньцы красны цвет, пайшла радасць на ўвесь свет.

Пост і вялікдзень. *Р., сб., 320—321.*

3200. Ляжыць мост на сем вёрст, на канцы маста — залатая вярста.

Пост і вялікдзень. *1963, Маладз.*

## РОЗНЫЯ

3201. Стаяць кійкі, а цераз тыя кійкі доўгія шнуркі.

Тэлеграф. *Б., 173.*

3202. Патыліца слініцца, спераду патрэбная, а ўжываецца толькі адзін раз.

Паштовая марка. *Рп., 367.*

3203. Хата кругом свеціцца.

Кошык. *Б., 170.*

3204. Ідзе без ног, б'е без рук.

Гадзіннік. *F., 486.*

3205. Без ног ходзіць, без рук б'ецца, хто гляне — задзівіцца.

Гадзіннік. *F., 486.*

3206. Ног не мае, а ідзе, рук не мае, да б'е, а ў сваім сэрцы сакрэт крые.

Гадзіннік. *J., 12.*

3207. Ног няма, а ходзіць, рота няма, а гаворыць, калі спаць, калі ўставаць і калі работу пачынаць.

Гадзіннік. *1965, Віл.*

3208. Ног не маю, а хаджу, хоць нямы я, а скажу, калі спаць, калі ўставаць, калі працу пачынаць.

Гадзіннік. *«Зорка», 1957, № 2.*

3209. Аўкае, бразгае, верціцца і ходзіць увесь век, а не чалавек.

Гадзіннік. *Dyb., 165.*

3210. Стучыць, грыміць, вярціцца, нікога не баіцц, ходзіць увесь век, а не чалавек.

Гадзіннік. *F., 486.*

3211. Круціцца, верціцца, шчытае свой век, што сам не чалавек.

Гадзіннік. *F., 486.*

3212. Пад чарапочкам б'е чорт малаточкам.

Гадзіннік. *1969, Стол.*

3213. Стукае, ківаецца, ды ніколі не стамляецца.

Гадзіннік. *1946, Староб.*

3214. Ідзе, ідзе, а з месца не сыйдзе.

Гадзіннік. *Рп., 366.*

3215. Шатаецца, матаецца, да ўсё ў адным месцы.

Гадзіннік. *F., 486.*

3216. Ходзіць, ходзіць, а з месца не сходзіць.

Гадзіннік. *1949, Кір.*

3217. Увесь свой век ходзіць, а з месца не сыходзіць.

Гадзіннік. *1961, Добр.*

3218. Хто заўсёды ідзе напярод, а ўсё стаіць на адным месцы?
Гадзіннік. *Dyb., 166.*

3219. Ідуць круглыя суткі, не стаяць ні мінуткі, а ўсё на адным месцы.
Гадзіннік. *1959, Гом.*

3220. Ідзе, паспяшаецца, а з месца не трогаецца.
Гадзіннік. *Р., Мат., 86, Ваўк. п.*

3221. Дзень і ноч сакоча, а есці не хоча.
Гадзіннік. *F., 486.*

3222. Ні цела, ні душы, а ўсё рухаецца.
Гадзіннік. *1967, Астр.*

3223. Не есць і не п'е, ходзіць і б'е.
Гадзіннік. *Ч., 316, Бельск. п.*

3224. Хістаецца, матаецца, ніколі не перастане.
Гадзіннік. *Б., 173.*

3225. Круглы млынок, а ў ім поўна калёсікаў і дарагія каменні: і дзень і ноч меле — мукі ні жмені.
Гадзіннік. *Рп., 366.*

3226. Бацька: «Хочаш, Пранук, я табе загадаю загадку. Скажы мне, што гэта: Не есць, не п'ець, а ходзіць і б'ець?» Пранук: «А хто ж, як не наш вучыцель».
Гадзіннік. *Н. н., 15.*

3227. Ківаецца, матаецца, чыкае, пстрыкае як дзень, так ноч, каб людзям неяк памоч. У пору ён іх будзіць і да ўставан-

ня прудзіць. Ён загадае спаць, есці альбо працаваць. Няма ж такой асобы, каб не мела з яго знадобы. Цяпер найбольш пан, слуга і мужык да яго саўсім прывык, бо ў кішэні яго носіць альбо на сцяне красавацца просіць; без яго на свеце не было б парадку. Падзіўляйцеся, угадайце.

Гадзіннік. *J., 14.*

3228. Сядзіць Пахом на кані вярхом, сам няграматны, а чытаць памагае.

Акуляры. *1959, Гом.*

3229. Што такое перад намі: дзве аглоблі за вушамі, на глазу па калясу і сядзёлка на насу.

Акуляры. *1946, Слуцк.*

3230. Скрозь сцяну грошы лічаць.

Акуляры. *Нк., 18.*

3231. Скура тоўста, а пад скурай пуста.

Мячык. *І. І., 1937, № 4, 18.*

3232. Яго б'юць, а ён не плача.

Мячык. *1962, Дзятл.*

3233. Кругленька, маленька, яго б'юць, яно не плача, а толькі скача.

Мячык. *1950, Хойн.*

3234. Б'юць яго рукамі, б'юць яго нагамі, ён не скардзіцца, не плача, моўчкі лётае і скача.

Мячык. *1959, Глыб.*

3235. Болей б'ём — ён лепей скача, не сярдуе і не плача. Моцна ўдарыш — не дагоніш, а ў вадзе з ім не патонеш.

Мячык. *«Зорка», 1957, № 8.*

3236. Пляшыць крошка на адной ножцы.

Ваўчок. *1960, Брасл.*

3237. Чым яе больш цягнеш, тым карацейшая робіцца.

Папяроса. *1965, Слон.*

3238. Адна белая калода ды ўсю цёмную пушчу з народу звядзе.

Калода карт робіць згубу шулерам. *J., 12.*

3239. Сам чырвоны, конь вароны, сеў ды й паганяе.

У бані. *Нк., 10.*

3240. І дождж-пралівень, і мароз-траскун усюды ходзіць, а напіцца нейдзе.

У бані. *Нк., 10.*

3241. У возеры ваўкі выюць.

Каменне ў бані. *Нк., 15.*

3242. У ельнічку-бярэзнічку ад вадзіцы-макрыцы ваўкі выюць.

Каменне ў бані. *Нк., 15.*

3243. Тры дні паліць, тры дні зрэе, тры дні пасыхае.

Адзёр. *Б., 170.*

3244. Што сіне не сінячы?
Неба. *1946, Староб.*

3245. Што гарыць без полымя?
Сонца. *1960, Капатк.; 1946, Староб.*

3246. Што пячэ без полымя?
Сонца. *1946, Староб.*

3247. Што гэта свеціць без агню?
Сонца. *F., 482.*

3248. Што гарыць без агню?
Зара. *W., 7, Віл. п.; Р., сб., 336.*

3249. Чаго на свеце багацей няма?
Зямлі. *Д., 84.*

3250. Што жырней усяго?
Зямля. *1965, Кап.*

3251. Што бяжыць без повада?
Вада. *W., 7, Віл. п.; F., 484; Р., сб., 335; 1946, Староб.*

3252. Што бяжыць без повада? Што гарыць без полымя? А сіняе не сінёна? Што ўецца каля дрэўца?

Вада, сонца, неба, хмель. *«Зорка», 1959, № 20.*

3253. Што расце без кораня?

Камень; сажа ў коміне. *Р., сб., 336; Б., 169; Нк., 26; F., 472; 1946, Староб.; 1960, Капатк.*

3254. Што расце без цвету?

Папараць. *F., 478.*

3255. Што бела не белячы?

Лебедзь, снег. *Р., сб., 336; F., 486; 1946, Староб.*

3256. Што чорна не чэрнючы?

Воран. *Р., сб., 336; F., 474; 1946, Староб.; 1960, Кап.*

3257. Што рабое, ды не фарбавана?

Дзяцел. *Б., 168.*

3258. Якая птушка імя пісьменніка носіць?

Гогаль. *1969, Краснап.*

3259. Хто ляціць без крылляў?

Вецер. *I. I., 1937, № 2, 18.*

3260. Што без ног бяжыць, без рук стучыць?

Вецер. *I. I., 1937, № 2, 18.*

3261. Што радчайшае ад вады?

Вецер. *Б., 167.*

3262. Што без вады плавае?

Воблака. *1968, Касц.*

3263. Хто малюе без рук і алоўка?

Мароз. *«Зорка», 1959, № 22.*

3264. На чым знаку не наложыш?

На вадзе і агні. *Нк., 27.*

3265. Што зімою камлём уверх расце?

Ледзяшы. *1965, Іў.*

3266. Што чалавеку самае мілае?

Сон. *Б., 172, Пін. п.*

3267. Што ёсць на свеце наймілейшае?

Сон. *F., 481.*

3268. Што быстрэй усяго на свеце?

Думка. *1965, Кап.*

3269. Чаго лягчэй на свеце няма?

Думкі *Д., 84.*

3270. Што самае мякчэйшае?

Далонь. *1946, Староб.; 1949, Кір.*

3271. На чым мякчэй спаць?

На руцэ. *F., 476.*

3272. Без чаго чалавек жыць не можа?
Без сну. *F., 481.*

3273. Без чаго хлеб не спячэш?
Без скарынкі. *1967, Віл.*

3274. Што на сабе не ўчуеш?
Рост. *Нк., 9.*

3275. Хто гаворыць на ўсіх мовах?
Язык. *I. I., 1937, № 2, 18.*

3276. Што размаўляе на ўсіх мовах?
Рэха. *1960, Лоеў.*

3277. Які год цягнецца адзін дзень?
Новы год. *1969, Лун.*

3278. Хто (што) смяецца без голасу?
Конь. *W., 5, Віл. п.; Р., сб., 336.*

3279. Што без слёз плача?
Скрыпка. *F., 481.*

3280. Што плача, а слёз не мае?
Скрыпка. *1960, Капатк.*

3281. Чаго і з сцяны не вырубіш?
Цень. *1948, Пруж.*

3282. Што ад сцяны не адчэшаш?
Сонечны свет. *Нк., 28.*

3283. Што на свеце ўсім трэба?

Назва. *1961, Віл.*

3284. Без чаго на свеце нічога не бывае?

Без назвы. *1960, Пух.*

3285. Без чаго чалавек не можа жыць?

Без імені. *F., 471.*

3286. Што гэта за прынада, што ўсяму свету нада?

Імя. *1950, Маладз.*

3287. Хто без чаго не абойдзецца?

Чалавек без імені. *Б., 173.*

3288. Што дзяўчына пакідае, калі выходзіць замуж?

Прозвішча. *1967, Дзятл.*

3289. Без чаго чалавек ніколі есці не можа?

Без солі. *F., 481.*

3290. Хто з барадой родзіцца?

Казёл. *1959, Гом.*

3291. Што ў хаце, ды не відна?

Цяпло. *Нк., 27.*

3292. Што кругом (каля) хаты не абнясеш?

Ваду ў рэшаце. *Ш., 10, Леп. п.; Б., 167.*

3293. Чаго не абнясеш кругом хаты?

Вады ў рэшаце. *Ш., 487, Віл. п.*

3294. Чаго не можна абнесці кругом хаты?

Вады ў прыполе. *F., 484.*

3295. Што цераз хату не перанясеш?

Ваду ў рэшаце. *Р., сб., 336.*

3296. За чым вада ў графіне?

За сцяклом. *1967, Гор.*

3297. Што (чаго) цераз хату не перакінеш (не перакінуць)?

Пяро. *Ш., 10, Леп. п.; Ш., 495, Свянц. п.; 1959, Бяг.; 1960, Кап.*

3298. Што цераз хату не перашыбнеш?

Пяро. *Р., сб., 336.*

3299. Чаго да хаты (к хаце) не прыставіш?

Дарогі. *Д., 84; Ш., 490, Свянц. п.*

3300. Якая ў рыбы кроў?

Халодная. *1965, Кап.*

3301. Якога дрэва больш у лесе?

Круглага. *1960, Пух.*

3302. Што трэба пры стале?

Рот. *Нк., 9.*

3303. За чым ядуць?

За сталом. *1968, Касц.*

3304. Што спачатку жанчына робіць з гаршком, калі пачынае варыць абед?

Паглядзіць у яго. *1960, Капатк.*

3305. Што (самае) апошняе робіць чалавек, калі кладзецца спаць?

Садзіцца на ложак. *1965, Кап.*

3306. Што робіць дворнік, калі ў яго на галаве сядзіць верабей?

Спіць. *1970, Ашм.*

3307. На што каню хамут кладуць?

На шыю. *F., 476.*

3308. Чым карова ўперад ходзіць?

Целам. *1960, Нясв.*

3309. Чаму карова кладзецца?

Бо садзіцца не ўмее. *1960, Нясв.*

3310. На што карова хвост задзірае?

На спіну. *1960, Нясв.*

3311. Укінь камень у ваду. Які ён будзе?

Мокры. *F., 476.*

3312. Які ў моры камень?

Мокры. *1960, Капатк.*

3313. Пад які куст заяц садзіцца, калі дождж ідзе?

Пад мокры. *1960, Нясв.*

3314. Пад якім кустом заяц сядзіць, як дождж ідзе?

Пад мокрым. *1948, Пруж.*

3315. Дзе заяц сядзіць, як дождж падае?

Пад мокрым кустом. *F., 477.*

3316. Бег сабачы, брэх сабачы, а не сабака.
Сучка. *1946, Слуцк.*

3317. Дом робяць, у што цвікі б'юць.
У плешку. *1948, Пруж.*

3318. Без чаго хаты не пабудуеш?
Без стуку. *1967, Віл.*

3319. У што першы цвік гналі, як Маскву будавалі?
У плешку. *1963, Маладз.*

3320. Чаму певень заплюшчыўшы вочы спявае?
Каб паказаць курам, што напамяць ведае. *1965, Кап.*

3321. Чаму пастух пугу носіць?
Бо сама не ходзіць. *1960, Нясв.*

3322. Ад чаго гусь (качка) плыве (плавае)?
Ад берага. *F., 465; Д., 83; Нк., 22; 1960, Пух.; 1965, Кап.*

3323. Ад чаго ў вуткі ногі чырвоныя?
Ад кален. *1949, Кір.*

3324. Ці можа страус назваць сябе птушкай?
Не, бо гаварыць не ўмее. *1970, Астр.*

3325. Чаму вароны ў лес ляцяць?
Да іх лес не ляціць. *1960, Нясв.*

3326. Якая вёска лятае?

Варона. *1970, Астр.*

3327. Што бывае пасля сямі гадоў?

Восьмы. *Нк., 28.*

3328. Чаму купляюць чобаты?

Бо дарма не даюць. *1960, Капатк.*

3329. Чаму шапку купляюць?

Таму што дарма не даюць. *1965, Кап.*

3330. Што кладзе мельнік на галаў, як ідзе ў млын?

Шапку. *1967, Клецк.*

3331. Чаму сабака хвастом верціць?

Таму што хвост сабакам вярцець не можа. *1965, Кап.*

3332. Якая мушка не лятае?

На стрэльбе. *1968, Краснап.*

3333. Дзе гарады без людзей, а рэкі без вады?

На глобусе, на карце. *1960, Асіп.; 1946, Староб.*

3334. Чаму добра, калі дарогу чалавеку перабяжыць воўк, і чаму дрэнна, калі заяц?

Добра таму, што воўк чалавека не з'еў
і дрэнна таму, што чалавек не злавіў зайца. *1948, Кар.*

3335. Што пасярэдзіне Кіева стаіць?

Літара «Е». *1965, Кап.*

3336. Што стаіць пасярэдзіне Волгі?

Літара «Л». *1960, Капатк.*

3337. Што стаіць пасярод зямлі?

Літара «М». *1968, Касц.*

3338. Дзе сярэдзіна зямлі?

Дзе стаіш. *1967, Зэльв.*

3339. Што ў Адама наперадзе, то ў Евы ззаду.

Літара «А». *1947, Староб.*

3340. Чаму ў Парыжы сена не сохне?

Рака Сена. *1949, Кір.*

3341. Палавіна якой літары засейваецца хлебам?

Е (пол-е). *1950, Браг.*

3342. Вёз чалавек гонты, а гонты яго з елі.

Гонты з ёлкі. *1963, Смарг.*

3343. На гары Арарацe жылі тры сабакі: Жучка, Мучка, Акатора — іх маці.

Акатора. *1965, Кап.*

3344. Колькі гарошын увойдзе ў адну шклянку?

Ніводнай, бо гарох не мае ног. *1970, Ашм.*

3345. З якіх варот Пётр I выязджаў на вайну?

З адкрытых. *1968, Касц.*

3346. Па чаму Пётр Першы хадзіў у чырвоных ботах?

Па зямлі. *1968, Касц.*

3347. Ляцела сарока, за ёю сорак. Колькі ляцела?

Двое. *1946, Слуцк.; 1948, Пруж.*

3348. Як і цапу́, так і лапу́, выбілі капу́ без сараку̂, без петаку́, без пятнаццаці снапоў. Колькі яны змалацілі?

Нічога. *1965, Кап.*

3349. Дваццаць без пятнаццаці, трох не далажыўшы, двух не далічыўшы. Колькі будзе?

Нічога. *Dyb., 159.*

3350. Стаяла ізба, а ў ізбе было сем акошак, [redacted] на кожным акошку сядзела сем кошак, а ў кожнай кошкі было па сем кацянят. Колькі ў іх ва ўсіх было ног? Увайшоў і я ў ізбу і маіх было дзве нагі.

Дзве нагі, а ў катоў — гэта ж лапы. *1946, Староб.*

3351. Дзве дачкі, дзве мацеры і бабулька з унучкай? Колькі ўсіх?

Трое (бабка, маці, дачка). *1963, Маладз.*

3352. Ляцела статка гусей. Насустрач ім адна гусь:
— Здраствуйце сто гусей!

— Нас не сто гусей. Каб нас было яшчэ столькі, паўстолькі, чэцьверць столькі і ты, адна гусь, тады было б сто гусей. Колькі ляцела гусей?

1965, *Кап.*

Трыццаць шэсць гусей.

3353. Ляцела два статкі гусей. Першы статак гаворыць:
— Дайце нам адну гусь, тады у нас будзе пароўну.
А другі статак гаворыць:
— Дайце вы нам адну гусь, тады ў нас будзе ў два разы больш.
Колькі было гусей у адным і другім статку?

1962, *Кап.*

Пяць і сем.

3354. Ляцелі галкі, стаялі палкі. Як сядуць яны па адной — галка лішняя, як сядуць яны па дзве — палка лішняя. Колькі было галак і колькі палак?

1965, *Кап.*

Тры палкі і чатыры галкі.

3355. Ішлі ўтраіх. Знайшлі кашалёк з грашыма. Першы паглядзеў, колькі там было грошай, і палажыў сваіх столькі ж, а пасля ўзяў шэсць капеек і перадаў другому. Другі паглядзеў, колькі там засталося, палажыў столькі ж і ўзяў таксама шэсць капеек, а потым перадаў трэцяму. Трэці паглядзеў, колькі там засталося, палажыў столькі ж і ўзяў таксама шэсць капеек, пасля чаго ў кашальку нічога не засталося. Колькі там было грошай?

1965, *Кап.*

Пяць капеек з чвэрцю.

3356. Чатыры гіры весяць сорак фунтаў. Якога весу павінна быць кожная з іх, каб можна было імі зважыць любую колькасць ад сарака фунтаў.

Першая гіра — 1 фунт, другая — 3 фунты, трэцяя — 9 фунтаў, чацвёртая — 27 фунтаў.

1965, *Кап.*

3357. Ішоў брат з сястрою і муж з жаною, найшлі тры сыры. Як яны падзялілі?

Па аднаму сыру. *1965, Кап.*

3358. Запалілі чатыры свечкі, адну патушылі, колькі засталося?

Адна. *1959, Кір.*

3359. З дзевяці бумажак дваццаць рублёў?

Адна — 10 руб., адна — 3 руб.
і сем — па 1 руб. *Р., Мат., 94, Слон. п.*

3360. Раздзяліць дваццаць рублёў, каб выйшла дзевяць бумажак.

1 — 10 руб., 7 — па 1 руб.
і 1 — 3 руб. *1946, Староб.*

3361. Сем семярэй, семера свіней, свінка, свінчын брат і семера парасят?

Усяго 65. *Р., Мат., 94, Слон. п.*

3362. Падзяліць сорак каней у дзевяць стайняў, каб не было пароўну.

У 4 стайнях па 5 каней, а ў 5
стайнях па 4 кані. *1950, Хойн.*

3363. За сто рублёў купіць сто штук быдла: валы па дзесяць рублёў, каровы па пяць, падцёлкі па паўрубля.

Вол — 1, кароў — 9,
падцёлкаў — 90. *Р., Мат., 94, Слон. п.*

3364. Купец купіў за дваццаць грошай дваццаць яек: качыныя — па тры грошы, гусіныя — па два грошы, а курыныя — па паўгроша. Колькі было куплена качыных, гусіных і курыных яец?

Качынае — 1, гусіных — 5,
курыных — 14. *Р., Мат., 94, Слон. п.*

3365. Несла гаспадыня ў кошыку дзесяць яец, а дно ўпала. Колькі засталося?

Нічога, усе разбіліся. *1965, Кач.*

3366. Сядзіць у кругу чатыры кошкі, супраць кожнай кошкі па тры. Колькі было разам?

Чатыры. *1949, Кір.*

3367. Янук, Пятрок і Сцёпка забаўляліся ў арэхі, усё складалі іх на кучкі і лічылі. А наймудрэйшы з іх быў Пятрок. Вось ён і кажа:
— Глядзіце, мальцы! Як я злажу свае арэхі з Януковымі, а адбяру адтуль столькі, колькі мае Сцёпка, то застанецца дваццаць арэхаў. Праўда?
— Праўда.
— А як я злажу свае арэхі са Сцёпкавымі да адбяру столькі, колькі мае Янка, то ўжо застанецца толькі дзесяць арэхаў. Так?
— Так.
— А як вы разам зложыце, а я адбяру столькі, колькі маю сам, то ўжо нічога не застанецца. Праўда?
— Праўда.
— Колькі ж арэхаў меў кожны хлопец?

Янук — 10, Пятрок — 15,
Сцёпка — 5. *Н. н., 34.*

3368. Муж з жонкай насілі буракі ў пограб, а маленькі Сымонка забаўляўся каля іх:
— Што ж ты, Сымонка, маме не памагаеш?—жартуючы сказаў бацька.— Бачыш, як яна прыстала.

Дзіця схапілася, набрала ў падолак буракоў ды і нясець.
— Ну, колькі ж ты, Сымонка, прынёс? — пытае бацька.
— Дваццаць,— адказаў Сымонка.
Глянуў бацька ў падолак, усміхнуўся і сказаў:
— Не, сынку! Як бы ты ўзяў столькі, да паўстолькі, ды чэцверць таго, ды я табе даў два буракі, ды мама два, ды ты сам яшчэ выкапаў два, тады было б дваццаць.
Колькі было буракоў у Сымонкі?

Восем. *Н. н., 23.*

3369. Пералічыце пяць дзён папарадку, не называючы чыслаў і назваў дзён.

Пазаўчора, учора, сёння, заўтра, паслязаўтра. *І. І., 1937, № 2, 18.*

3370. Як паставіць чатыры салдаты ў адным боце?

Зняць у кожнага па аднаму боту. *Р., сб., 337.*

3371. Вёз адзін чалавек ваўка, казу і капусту. Воўк усё хоча казу з'есці, а каза — капусту, ён ім не дае. Прыехаў да рэчкі. Трэба яму перавезці іх на той бераг. А човен маленькі, больш як дваіх не возьме: або яму браць з сабою ваўка, або казу, або капусту. Прыдзецца некалькі разоў ездзіць. Задумаўся чалавек. Як жа мне перавезці, каб бяды не выйшла. З ваўком паеду — каза капусту з'есць. З капустай паеду — воўк казу з'есць. Казу павязу, а на другі раз як зрабіць?

Спачатку трэба перавезці казу, потым — ваўка, а казу забраць назад. Пасля перавезці капусту і, нарэшце, вярнуцца забраць казу. *І. І., 1937, № 3, 18.*

3372. Які прадукт харчавання можна зварыць з соллю адзін фунт на адзін фунт, каб можна было есці?

Яйкі. *1960, Капатк.*

3373. Жыў памешчык. Быў у яго сторож. Памешчыку трэба было ехаць у горад, але сторож перасцярог яго, сказаў, што будзе крушэнне поезда. І сапраўды, на другі дзень крушэнне поезда адбылося. Памешчык спытаў:

— Адкуль ты знаў, што будзе крушэнне?

— Я спаў і сніў гэта,— адказаў сторож.

Памешчык падзякаваў сторажу за перасцярогу, узнагародзіў яго і выгнаў з работы. Чаму памешчык выгнаў з работы стоража?

Таму, што сторож спаў. *1960, Капатк.*

3374. Хто гэта геній дваццатага века замест раба стварыў чалавека?
Ленін. *Ж., 324.*

3375. Што чалавеку самае дарагое?
Радзіма. *1964, Кап.*

3376. Не агонь, а чырвоным колерам гарыць, не птушка, а ў паднябессе ўзлятае, не ліхтар, а ўсім людзям шлях асвятляе.
Крамлёўская зорка. *1964, Кап.*

3377. Якая з'явілася новая зорка?
Чырвонаармейская. *ЧА., 82.*

3378. Чырвоным колерам гарыць, над галовамі ўецца, заўсёды ўперадзе ідзе, як завецца?
Сцяг. *1964, Кап.*

3379. Чырвоны колер мае, у паветры лунае, заўсёды наперадзе ідзе і людзей за сабой вядзе.
Сцяг. *1964, Кап.*

3380. Хто хоча жыць — з ім павінен дружыць. Каб ён быў, нельга драмаць, як ён ёсць, можна спакойна спаць. Хто яго кране — навек сам засне.
Мір. *1964, Кап.*

3381. Хто ўвесь век жыве маладым?

Камсамол. *1964, Кап.*

3382. Зроблена з металу рабочымі рукамі, па сусвету пралятае.

Спадарожнік. *1962, Светл.*

3383. Плыве ў прасторы, ды не ў моры, караблём завецца, а ля зорак уеццца.

Касмічны карабель. *1964, Кап.*

3384. Да зорак паляцеў, на зямлю з-за воблак глядзеў. Сонца абагнаў і зноў на зямлю стаў.

Касманаўт на касмічным караблі. *1964, Кап.*

## САВЕЦКАЯ АРМІЯ, АБАРОНА РАДЗІМЫ

3385. Зроблен проста, канец вострый, мала важа, але стаіць на стражы.

Штык. *ЧА., 83.*

3386. Ляціць варанец, не трэба ні пуга, ні дубец, толькі аглоблі канец.

Кулямёт. *ЧА., 83.*

3387. Без крылляў ляціць, без голасу свішча.

Куля. *Рп., 364.*

3388. Малыш-каратыш чыхае жарам, абдае варам, агнём дзьме, жалезам плюе.

Пісталет. *Рп., 366.*

3389. На гары-гарушкі стаяць дзве старушкі, ахнуць-грохнуць — усе людзі глохнуць.

Пушкі. *1949, Бабр.*

3390. Па балоту ідзе, не тоне ў вадзе, ідзе праз рвы, але нежывы.

Танк. *ЧА., 82.*

3391. Паўзе чарапаха — стальная рубаха.

Танк. *1949, Бабр.*

3392. Брэша як сабака, каб была скарэй драка.

Фашыст.

*ЧА., 82.*

3393. Пуза з гумалястыкі, на мундзіры свастыка, есць усё, што ўкрадзена, што гэта за гадзіна?

Фашыст.

*Газ. «Бальшавіцкі шлях». Орган Полацкага РК КП(б) Б, 1943, № 12.*

3394. Масць — рыжа-цёмная, вочы — бессаромныя, крыважэрны і люты, б'юць яго ўсюды. Адгадайце цяпер, што гэта за звер?

Гітлер.

*Газ. «Бальшавіцкі шлях». Орган Полацкага РК КП(б)Б, 1943, 11 верасня, № 9*

3395. Як сонца гарыць, хутчэй за вецер ляціць, дарога яе ў паветры вісіць, па сіле сабе роўных не мае.

Электрычнасць. *1964, Кап.*

3396. Еду, еду, ні дарогі, ні следу, куды ні прыеду, людзям дабро прынясу.

Электрычнасць. *1963, Леп.*

3397. Маленькая, залаценькая, высока вісіць, у зямлю глядзіць.

Электрычная лямпачка. *1964, Кап.*

3398. Вісіць ігруша, а нельга скушаць.

Электрычная лямпачка. *1949, Кліч.*

3399. Што за груша, нельга скушаць?

Электрычная лямпачка. *1949, Бабр.*

3400. Вісіць ігруша — есці нельга, бо ў сярэдзіне агонь.

Электрычная лямпачка. *Рп., 365; 1968, Краснап.*

3401. Нітка, а кусаецца.

Электрычны дрот. *ДСБ., 256.*

3402. Вось якія ў нас справы, інжынеры нашы правы: здабылі агонь з вады, і загулі правады.

Гідраэлектрастанцыя. *1959, Гом.*

3403. Па тканаму мору жалезны карабель плыве, мора пад ім шуміць і ўслед высыхае. Сам жа карабель тады кранецца, як да сцяны прыпрэцца.

Электрычны ўцюг. *1964, Кап.*

3404. Дзе мароз улетку водзіцца?

У халадзільніку. *1964, Кап.*

3405. У якім кутку ўлетку мароз трашчыць?

У тым, дзе халадзільнік стаіць. *1964, Кап.*

3406. Яна на яго злосна бурчэла, кідала яго і вярцела; яно ж пасля гэтага дзела памаладзела.

Пральная машына. *1964, Кап.*

3407. Гаворыць ціха, а за тысячу кіламетраў чутно.

Радыё. *1936, Клім.*

3408. Без языка жыве, не есць, не п'е, а гаворыць.

Радыё. *Рп., 365.*

3409. Языка не мае, а гаворыць і спявае.

Радыёпрыёмнік. *1961, Добр.*

3410. Языка хоць і не мае, на ўсіх мовах размаўляе. Хочаш — песню заспявае, хочаш — весела зайграе.

Радыё. *«Зорка», 1959, № 34.*

3411. Ёсць у нас сяброўка, дома ёй усё-усё вядома, языка яна не мае, а гаворыць і спявае.

Радыё. *1967, Бабр.*

3412. Усім у вушы лезе, а сам глухі, усё табе раскажа, а нямы, каго хочаш развесяліць, а сам не ўсміхнецца.

Радыё. *1964, Кап.*

3413. На страсе жораў сядзіць, у хаце на стале скрынка стаіць, у пакоі святло патушана, а ўвесь свет відаць.

Тэлевізар. *1964, Кап.*

3414. Без ног, а бяжыць, без голасу, а крычыць, вочы, як ко-
лы, ды не бачыць нікога.

Аўтамабіль. *Рп., 364.*

3415. Хто ні ўдзень, ні ўночы не заплюшчвае вочы, а ўсё ў да-
рогу ўглядаецца?

Аўтамашына. *1964, Кап.*

3416. Махін махае, хто адгадае?

Машына. *Шр., 208.*

3417. Ем я вугаль, п'ю ваду, цягну абоз на сто калёс, а завуся...

Паравоз. *Рп., 365.*

3418. У грудзях агонь гарыць, у жываце вар кіпіць, дымам дых-
ціць, парам пыхціць, хуценька бяжыць.

Паравоз. *1965, Кап.*

3419. Хоць не конь, а вязе воз з цэлы абоз.

Паравоз. *1964, Кап.*

3420. Бяжыць па вадзе, а на кані не дагоніш.

Параход. *Рп., 365.*

3421. Што такое? Паляцела высока, не відаць вокам.

Самалёт. *ЧА., 83.*

3422. Без ніякага страху і гора пралятае рэкі і мора.

Самалёт. *Рп., 364.*

3423. Гудзе, як пчала, ляціць, як страла, крыламі не махае, хто адгадае?

Самалёт. *ЧА., 83.*

3424. Не авадзень, а гудзе, не птушка, а ляціць, есці не есць, а п'е ваду, што гарыць.

Самалёт. *1964, Кап.*

3425. Трашчыць, а не кузнечык, ляціць, а не птушка, вязець, а не конь.

Самалёт. *ЧА., 83.*

3426. Гудзіць, трашчыць, над палямі ляціць.

Самалёт. *1969, Стол.*

3427. Ляцела, гудзела, спусцілася і села.

Самалёт. *ЧА., 83.*

3428. Крылле мае, а не птушка, людзей возіць і адпачынку не просіць.

Самалёт. *Рп., 366.*

3429. Крылы мае, высока лятае, людзей возіць, адпачынку не просіць.

Самалёт. *«Зорка», 1957, № 2.*

3430. Нерухомыя крыллі, а пралятае за гадзіну дзесяткі міляў.

Самалёт. *Рп., 367.*

3431. Ляцела пціца-небыліца.

Самалёт. *1949, Кір.*

3432. Стаяць кійкі, а на кійках доўгія шнуркі.

Тэлеграф. *Рп., 368.*

3433. Цэлыя кнігі могуць перадаць на сотні кіламетраў, а ніводнай пылінкі не перакінуць і на адзін крок.

Тэлеграф, радыё. *Рп., 369; 1968, Краснап.*

3434. Гудзіць, стракоча, крылляў не мае, хто адгадае?
Трактар. *ДСБ., 256.*

3435. Конь сталёвы, аўса не просіць, а арэ і косіць.
Трактар. *Рп., 366.*

3436. Конь стальны арэ, жне і косіць і есці не просіць.
Трактар. *1959, Бяг.; Леп.*

3437. Жалезны конь, у жываце агонь, есці (аўса) не просіць, арэ, жне і косіць.
Трактар. *ДСБ., 256; 1936, Клім.*

3438. Жалезны конь, у жываце агонь, сам арэ і косіць і есці не просіць.
Трактар. *1950, Хойн.*

3439. Аўсом не кормяць, пугай не гоняць, а як араць пачне — сем плугоў вязе.
Трактар. *Рп., 364.*

3440. Цуглі ў рот — не хачу, на вадапой — не хачу, аўса — не хачу, а хочаш — паару і памалачу!
Трактар. *І. І., 1937, № 4, 18.*

3441. Без аброці, без дугі цягне ў полі ён плугі.
Трактар. *1970, Ашм.*

3442. Конь вялікі зямлю арэ, а сена і ў рот не бярэ.
Трактар. *1959, Гом.*

3443. Як конь, зямлю апрацоўвае, а сена не есць.
Трактар. *«Зорка», 1959, № 24.*

3444. Ходзіць сіла, а за ім капіла — здабываюць калач.
Трактар і плуг. *Рп., 368.*

3445. Ходзіць полем з краю ў край, рэжа чорны каравай.
Трактар. *1960, Лоеў.*

3446. Ад рання да ночы на полі стракоча.
Трактар. *1959, Глыб.*

3447. Чорны жук па полі паўзе, гудзе і вые, зямлю рые.
Трактар. *1961, Добр.*

3448. Жук па вуліцы паўзе, на сабе ён груз вязе, яго вочы свецяць зорачак ярчэй.
Трактар. *1968, Касц.*

3449. Арэ — гудзіць, стаіць — маўчыць.
Трактар. *1936, Арш.*

3450. Із-за лесу, із-за гор едзе мазаны Ягор.
Трактар. *1968, Касц.*

3451. Пыхціць, трахціць, гудзе, раве, пяць цялег разам вязе.
Трактар. *1936, Бярэз.*

3452. Паставяць — стаіць, загадаюць — ідзе, ніколі не сядзіць; як бы ні працаваў — не томіцца.
Трактар. *1964, Кап.*

3453. Што гэта за машына, што разам жне і малоціць, а ідзе — ажно зямлю калоціць?
Камбайн. *1936, Бярэз.; ДСБ., 256.*

3454. Што гэта за жняя ўвішная: толькі сярпом павядзе — у прыполі зерне трымае?
Камбайн. *1964, Кап.*

3455. Сам жне і малоціць, але лодырам хлеба не плоціць.
Камбайн. *ДСБ., 256.*

3456. Жалезны конь, у жываце агонь, есці не просіць, а жне і малоціць.
Камбайн. *Рп., 365.*

3457. Шуміць і стракоча ад ранку да ночы, па полі шагае, рукамі махае.
Жняярка. *Рп., 369.*

3458. З крыллямі, а не птушка, з сярпом, а не жняя, з коламі, а не воз.
Жняярка. *ДСБ., 256; І. І., 1937, № 2, 18.*

3459. Крылы ёсць, а не лятае, полем-нівай прабягае. Не дзяўбе яна, не топча — цэлы дзень пяе, стракоча. Ураджай з па-

лёў збірае, людзям слаўна памагае. Летам у полі, а зімою ў будынку пад страхою.

Жняярка. *«Зорка», 1959, № 37.*

3460. Па полю ўлетку паўзе, траву хутка грызе.

Касілка. *ДСБ., 256.*

3461. Па сенажаці паўзе, траву грызе.

Касілка. *Рп., 367.*

3462. Не крот, а капае, лап не мае, а сеянае з зямлі выкідае.

Бульбакапалка. *Рп., 367; 1968, Краснап.*

3463. Гусь па вуліцы ідзе, дзюбай вуліцу грызе.

Экскаватар. *1970, Астр.*

3464. Які бацька кожны дзень дзяцей пералічвае?

Настаўнік. *1964, Кап.*

3465. Яна нарадзілася, але ніколі не ўмірае, хто з ёю пазнаецца, ніколі ўжо не растаецца.

Пісьменнасць. *1964, Кап.*

3466. Калі адзін піша белым па чорнаму, а ўсе астатнія чорным па беламу?

На ўроку ў школе. *1964, Кап.*

3467. У школе жыве, з вучнямі дружыць і кожнаму верна служыць.

Парта. *1964, Кап.*

3468. У школе пражывае, шмат гаспадароў мае, што год іх мяняе і ўсім дапамагае.

Парта. *1964, Кап.*

3469. У школе жыве і хоць нямая і не рухаецца, а кожнага навучыць, як сядзець і стаяць, як пісаць і чытаць.

Парта. *1964, Кап.*

3470. Галубачка белая ў хату заляцела, а дзе і што сустракала, пра ўсё расказала.

Газета. *1959, Гом.*

3471. Сарока-белабока да хаты прыляцела, у парозе села, з-за мяжы і з ўсёй краіны прынесла навіны.

Газета. *1964, Кап.*

3472. Як тая рэч завецца, што цэлы год лічыць і ніколі не саб'ецца?

Каляндар. *1964, Кап.*

3473. Што ў першы дзень года пачынаецца, а ў апошні канчаецца?

Каляндар. *1964, Кап.*

3474. Якое лісце ўдзень па аднаму лістку асыпаецца?

Лісткі календара. *1964, Кап.*

3475. Сам малы, а шмат чаго ведае.

Каляндар. *1964, Кап.*

3476. Хто, глянуўшы высока ўверх, скрыпае зубамі і чаму?

Поп. Таму, што высока на царкве заместа крыжоў чырвоны сцяг. *Бел. н., 144.*

3477. Дваццаць два чалавекі забіць мяне хочуць; як заб'юць, адзінаццаць радуюцца, адзінаццаць сумуюць, а я жывы застаюся.

Футбольны мяч. *1964, Кап.*

3478. Лесам і полем ідзе, дзецям падаркі нясе, а прыходзіць раз у год — якраз пад Новы год.

Дзед Мароз. *Рп., 359.*

3479. Поўна хата людзей, шчасце льецца з грудзей.

Вечарынка. *1961, Светл.*

3480. Не ткачыха, а адзявае, не шавец, а абувае, не гаспадыня, а корміць, не чараўніца, а цуды робіць.

Хімія. *1964, Кап.*

3481. Загадачку загадаю, на гармошцы заіграю, каму гонар і слава, каму заўсёды брава?

Стаханаўцу. *Газ. «Звязда», 1937, № 216.*

3482. На полі ўборка ў поўным разгары, усе на рабоце, а хто на базары?

Гультай. *1961, Брэсц.*

3483. Ні калодка і ні пень, а ляжыць цэлы дзень, не жне і не косіць, а есці просіць.

Гультай. *1967, Слон.*

3484. Без матораў гудуць, без пілотаў лятаюць, без іголак, а балюча колюцца.

Пчолы. *1961, Добр.*

3485. Вые, як звер, а бегае быстрэй самалёта.

Вецер. *1949, Кір.*

3486. У хаце свячу, машыны кручу, а пераверне́ш мяне — мышэй лавіць пачну.

Ток — кот. *Рп., 368.*

3487. Сам весіць грам, а ловіць рыбу з кілаграм.

Кручок. *1969, Лун.*

# АСНОЎНАЯ ЛІТАРАТУРА І ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

Б.— Пинчуки. Этнографический сборник (Песни, загадки, пословицы, обряды, приметы, предрассудки, поверья, суеверия и местный словарь). Собрал в Пинском уезде Минской губернии Д. Г. Булгаковский. Записки ИРГО по отделению этнографии, т. XIII, вып. 3. СПб, 1890.

Бел.— Часоп. «Беларусь». Мінск.

Бел. н.— Беларускі народ супроць папоў і рэлігіі. Мінск, 1939.

ВК — Пословицы и загадки русские и литовские. Виленский календарь на 1866 год.

Гт.— Сборник памятников народного творчества в Северо-Западном крае, вып. I. Под. ред. П. А. Гильтебрандта. Вильна, 1866.

Д.— Добровольский В. Н. Загадки, записанные в Смоленском уезде. Живая старина, № 1—2. СПб, 1905.

ДСБ — Дарэвалюцыйная і Савецкая Беларусь у народнай творчасці. Мінск, 1938.

Ж.— Жанчына ў беларускай народнай творчасці. Мінск, 1940.

Зар.— Загадкі. Каляндар «Заранка» на 1919 год. Мінск, 1919.

Зн.— Зеньковичи В. и А. Верования и обряды жителей Могилевской губернии — белорусов. Труды имп. о-ва любителей естествознания, антропологии и этнографии, т. XXVIII. М., 1877.

«Зорка» — Загадкі, апублікаваныя ў газеце «Зорка» (Беласток) у розныя гады.

І. І.— Загадкі. «Іскры Ільіча». Мінск, 1937.

Л. — Ляцкий Е. А. Материалы для изучения творчества и быта белорусов. М., 1898. (Зап. у Барысаўскім пав. Мінскай губ.)

Мсц.— Пословицы и загадки. Месяцеслов на 1866 год. Вильно, 1866.

М. в. — Загадки (употребительнейшие в Могилевском уезде). Могилевские губернские ведомости, 1849, № 9.

Н.— Носович И. И. Белорусские пословицы и загадки. СПб, 1869.

«Ніва» — Загадкі, апублікаваныя ў газеце «Ніва» (Беласток) у розныя гады.

Нк.— Простонародные загадки. Собрал в Витебской губернии Н. Я. Никифоровский. Витебск, 1898.

Н. н.— Загадкі. У кн.: Беларускі календар «Нашае нівы» на 1911 год. Вільна, 1911.

Н., Слов.— Носович И. И. Словарь белорусского наречия. СПб, 1870.

Р., Мат.— Материалы по этнографии Гродненской губернии, вып. I. Под ред. Е. Романова. Вильна, 1911.

Р., сб.— Романов Е. Р. Белорусский сборник, т. I, вып. 1—2. Киев, 1886.

Рп.— Беларускія прыказкі, прымаўкі і загадкі. Склаў Я. Рапановіч. Мінск, 1958.

Ч. — Труды этнографическо-статистической экспедиции в Западно-Русский край, снаряженной имп. Русским географическим обществом. Юго-западный отдел. Материалы и исследования, собранные П. П. Чубинским, т. I, вып. 2. Пословицы, загадки, колдовства. Петербург, 1872.

ЧА — Чырвоная Армія і абарона Радзімы ў беларускай народнай творчасці. Мінск, 1938.

Ш.— Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. II. СПб, 1893.

Шр.— Шырма Р. Р. Беларускія народныя песні, загадкі і прыказкі, т. I. Мінск, 1947.

Ю.— Юркевич И. Остринский приход Виленской губернии Лидского уезда. Этнографический сборник, вып. I. СПб, 1853.

Dyb.— Zagadki białoruskie z gub. Mińskiej. Zebrał Dr. Władysław Dybowski. Zbiór wiadomości do antropologii krajowej, t. X. Kraków, 1886.

F.— Federowski M. Lud Białoruski na Rusi Litewskiej, t. IV. Warszawa, 1935.

Hur.— Hurynowicz A. Zbiór rzeczy białoruskich (z gminy Wiszniewskiej, parafii Żodzińskiej, powiatu Święciańskiegó, gubernii Wileńskiej). Zebrał i ułożył A. Hurynowicz. Zb. wiad. do antropologii krajowej, t. XVII. Kraków, 1893.

J.— 100 prykazak, zahadak, prydumak i gawendaŭ dla pażytku Biełaruskaho (Krywickaho) narodu. Sabrau A. J. (Jelski). Wilna, 1908.

Pietk.— Pietkiewicz. Cz. Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego, t. II. Materiały etnograficzne. Warszawa, 1938.

W.— Zagadki białoruskie. Zebrał Leon Wasilewski. Materyały antropologiczno-archeologiczne i etnograficzne, t. II. Kraków, 1897.

## Скарачэнні назваў раёнаў БССР

Акцябр.— Акцябрскі
Арш.— Аршанскі
*Арэх.— Арэхаўскі
*Асв.— Асвейскі
Асіп. — Асіповіцкі
Астр.— Астравецкі
Ашм.— Ашмянскі
Б.-Каш.— Буда-Кашалёўскі
Бабр.— Бабруйскі
*Баг.— Багушэўскі
Баран.— Баранавіцкі
Барыс.— Барысаўскі
Бераст.— Берастовіцкі
Беш.— Бешанковіцкі
Браг.— Брагінскі
Брасл.— Браслаўскі
Брэсц.— Брэсцкі
Бых.— Быхаўскі
*Быц.— Быценскі
*Бяг.— Бягомльскі
Бял.— Бялыніцкі
Бяроз.— Бярозаўскі
Бярэз.— Бярэзінскі
*Вас.— Васілевіцкі
*Васіліш.— Васілішкаўскі
Валож. — Валожынскі
Ваўк.— Ваўкавыскі
Верхнядзв.— Верхнядзвінскі
Ветк.— Веткаўскі
*Ветр.— Ветрынскі
*Відз.— Відзаўскі
Віл.— Вілейскі
Віц.— Віцебскі
Воран.— Воранаўскі

* Раёны, адзначаныя зорачкай, зараз расфарміраваны або перайменаваны.

*Выс.— Высокаўскі
Ганц.— Ганцавіцкі
Гарад.— Гарадоцкі
*Гарадз.— Гарадзішчанскі
Глуск.— Глускі
Глыб.— Глыбоцкі
Гом.— Гомельскі
Гор.— Горацкі
Гродз.— Гродзенскі
*Грэск.— Грэскі
*Д.-Гар.— Давыд-Гарадоцкі
*Даман.— Даманавіцкі
*Дамач.— Дамачэўскі
Дзівін.— Дзівінскі
*Дзісн.— Дзісненскі
Дзярж.— Дзяржынскі
Дзятл.— Дзятлаўскі
Добр.— Добрушскі
Докш.— Докшыцкі
Драг.— Драгічынскі
*Дрыб.— Дрыбінскі
*Дрысен.— Дрысенскі (гл. Верхнядзвінскі)
Дубр.— Дубровенскі
*Дуніл.— Дунілавіцкі
Ельск.— Ельскі
Жабінк.— Жабінкаўскі
*Жабч.— Жабчыцкі
*Жалуд.— Жалудоцкі
Жлоб.— Жлобінскі
*Журав.— Журавіцкі
Жытк.— Жыткавіцкі
*Засл.— Заслаўскі
Зэльв.— Зэльвенскі
Іван.— Іванаўскі
Івац.— Івацэвіцкі
*Івян.— Івянецкі
*Ільян.— Ільянскі
Іў.— Іўеўскі
*Казл.— Казлоўшчынскі
Калінк.— Калінкавіцкі
Кам.— Камянецкі
*Камар.— Камарынскі
Кап.— Капыльскі
*Капатк.— Капаткевіцкі
Кар.— Карэліцкі
Карм.— Кармянскі
Касц.— Касцюковіцкі
Кір.— Кіраўскі
Клецк.— Клецкі
Клім.— Клімавіцкі
Кліч.— Клічаўскі
Кобр.— Кобрынскі
*Кос.— Косаўскі
*Кох.— Коханаўскі
Краснап.— Краснапольскі
*Краснаслаб.— Краснаслабодскі
Кругл.— Кругл янскі
Круп.— Крупскі
*Крыв.— Крывіцкі
Крыч.— Крычаўскі
Лаг.— Лагойскі
*Лагіш.— Лагішынскі
Лельч.— Лельчыцкі
*Лен.— Ленінскі
Леп.— Лепельскі
Лёзн.— Лёзненскі
Лід.— Лідскі
Лоеў.— Лоеўскі
Лун.— Лунінецкі
Люб.— Любанскі
*Любч.— Любчанскі
Лях.— Ляхавіцкі
Маг.— Магілёўскі
Маз.— Мазырскі
Маладз.— Маладзечанскі
Малар.— Маларыцкі
Маст.— Мастоўскі
*Мех.— Mexaўскі
Міёр.— Міёрскі
Мін.— Мінскі
*Мір.— Мірскі
Мсціслаў.— Мсціслаўскі
Мядз.— Мядзельскі
Навагр.— Навагрудскі
*Навам.— Навамышскі
Нар.— Нараўлянскі
Нясв.— Нясвіжскі
Пар.— Парыцкі
Паст.— Пастаўскі
Петр.— Петрыкаўскі
Пін.— Пінскі
*Плешч.— Плешчаніцкі
*Пліс.— Пліскі
Пол.— Полацкі
*Пораз.— Поразаўскі
*Прап.— Прапойскі (гл. Слаўгарадскі)
Пруж.— Пружанскі
Пух.— Пухавіцкі
Раг.— Рагачоўскі
*Радашк.— Радашковіцкі
*Радун.— Радунскі
Рас.— Расонскі

*Рудзен.— Рудзенскі
Рэч.— Рэчыцкі
Саліг.— Салігорскі
*Сап.— Сапоцкінскі
Светл. — Светлагорскі
*Свір.— Свірскі
Свісл.— Свіслацкі
*Свяц.— Свяцілавіцкі
Сен.— Сенненскі
*Сір.— Сіроцінскі (гл. Шумілінскі)
Скід.— Скідальскі
Слаўг. — Слаўгарадскі
Слон.— Слонімскі
Слуцк.— Слуцкі
Смал. — Смалявіцкі
Смарг.— Смаргонскі
Ст.-Дар.— Старадарожскі
*Староб.— Старобінскі (гл. Салігорскі)
Стаўб.— Стаўбцоўскі
Стол.— Столінскі
*Стрэш.— Стрэшынскі
*Сур.— Суражскі
Талач.— Талачынскі
*Тур.— Тураўскі
*Увар.— Уваравіцкі
Уздз.— Уздзенскі
*Ул.— Ульскі
Уш.— Ушацкі
*Хал.— Халопеніцкі
Хойн.— Хойніцкі
Хоц.— Хоцімскі
*Целях.— Целяханскі
*Церах.— Церахоўскі
Чав.— Чавускі
Чач.— Чачэрскі
Чэр.— Чэрыкаўскі
Чэрв.— Чэрвеньскі
Шарк.— Шаркоўшчынскі
Шкл.— Шклоўскі
Шуміл.— Шумілінскі
Шчуч.— Шчучынскі
*Юрац.— Юрацішкаўскі

## Скарачэнні назваў былых паветаў

Барыс. п.— Барысаўскі п. Мінскай г.
Бельск. п. — Бельскі п. Гродзенскай г.
Брэсц. п.— Брэсцкі п. Гродзенскай г.
Ваўк. п.— Ваўкавыскі п. Гродзенскай г.
Віл. п.— Вілейскі п. Віленскай г.
Гом. п.— Гомельскі п. Магілёўскай г.
Дзвін. п.—Дзвінскі п. Віцебскай г.
Дзісн. п.— Дзісненскі п. Віленскай г.
Ігум. п.— Ігуменскі п. Мінскай г.
Кобр. п.— Кобрынскі п. Гродзенскай г.
Леп. п.—Лепельскі п. Віцебскай г.
Лід. п.— Лідскі п. Віленскай г.
Маг. п.— Магілёўскі п.
Маз. п.— Мазырскі п. Мінскай г.
Мсціcл. п.— Мсціслаўскі п. Магілёўскай г.
Навагр. п.— Навагрудскі п. Мінскай г.
Пін. п.— Пінскі п. Мінскай г.
Раг. п.— Рагачоўскі п. Магілёўскай г.
Сакольскі п.— Сакольскі п. Гродзенскай г.
Свянц. п.— Свянцянскі п. Віленскай г.
Сен. п.— Сенненскі п. Магілёўскай г.
Слон. п.— Слонімскі п. Гродзенскай г.

## Іншыя скарачэнні

АГТ — Архіў Геаграфічнага таварыства СССР
АІМЭФ — Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.
б.— былы
бел.— беларускі
бл.— блакнот

в.— вёска
вар.— варыянт
вобл.— вобласць
вол.— воласць
воп.— вопіс
вуч.— вучань (вучаніца)
гл.— глядзіце
г. п.— гарадскі пасёлак
губ.— губерня
зап.— запісаў (запісала)
заўв.— заўвага
ін-т — інстытут
л.— ліст
м.— мястэчка
м/г — магнітаграма
наст.— настаўнік
п.— павет
пар.— параўнаць
пас.— пасёлак
пед.— педагагічны
перадр. — перадрукавана
р.— раён
с.— сяло
скар.— скарочаны
спр.— справа
с/с — сельсавет
ст.— стагоддзе
ст. ст.— старога стылю
стар.— старонка
студ.— студэнт
сш.— сшытак
укр.— украінскі
ф.— фонд
ЦДзА — Цэнтральны дзяржаўны архіў
хут.— хутар

## ПРЫРОДА І ЧАЛАВЕК

Загадкі аб прыродзе, трэба меркаваць, належаць да найбольш старажытных. У многіх выпадках у іх праявіліся яшчэ анімістычныя погляды на з'явы прыроды. Паходжанне большасці гэтых загадак таму можна аднесці да эпохі першабытнаабшчыннага ладу.

### Неба і нябесныя свяцілы

5. Вар.: Кругленька, залаценька увесь свет абяжыць. F., 482.

15—20. З'яўленне вобразаў цара, царыцы, Сіяна (17), г. зн. біблейскай гары Сіон, а таксама вобразаў пана, пані, атрыбутаў феадальнай культуры (гл. далейшыя заўвагі) дае падставу меркаваць аб больш познім узнікненні дадзеных загадак, прынамсі, у эпоху феадалізму.

21. Вар.: Кацілася катушка — ні звер, ні птушка... 1966, Кап.; Нк., 28; Кацілася кадушка... 1963, Смарг.

29. Вар.: Ходзіць курка-жаўтушка па сену і не шамае. Р., сб., 334.

49. Вар.: Сярод клеці... 1966, Кап.

55. Праным — спрадзеным.

56. Бачурачка — бочачка.

63. Вар.: Расцялю рагожку, пасыплю гарошку, пакладу хлеба крайчык. Д., 90; Пасцялю рагожку, пасыплю гарошку і акрайчык хлеба палажу. Нк., 28.

66. Кулідка — бохан хлеба.

79. Гл. заўв. да 15—20.

### Зямля і вада

84. Загадка параўнальна позняя. Магла ўзнікнуць пад уплывам развіцця школьнай адукацыі.

85—88. Загадкі гэтыя ўзніклі з развіццём земляробства.

89. Трубка — сувой палатна.

90. Паясніца — запас паясоў у скрыні, якія нявеста назапашвала да свайго вяселля.

104. Вар.: Адзін кажа — пабяжым, другі кажа — паляжым, а трэці кажа — пашатаемся. 1949, Кір.; 1962, Кап.; Адзін кажа — паляжым, другі кажа — пабяжым, трэці кажа — паківаемся. Dyb., 163; J., 12, 1960, Брасл.

115. Вар.: Сутула-гарбата, сілкай багата і конь таго не звязе, што яна знясе.— Рака, па якой гоняць плыты. Нк., 27.

123. Вар.: Конь бяжыць, а кожа ляжыць. 1949, Кліч.

## Стыхіі і з'явы прыроды

Земляробства — спрадвечная аснова гаспадарчай дзейнасці беларускага селяніна — заўсёды залежала ад стыхій і з'яў прыроды. Таму апошнія і з'явіліся аб'ектам вялікай колькасці загадак. Асабліва яны загадваюцца на атмасферныя ападкі, якія найбольш непакоілі селяніна, бо ад іх залежаў ураджай.

159. Вар.: Сівенькі жарабец па ўсім полі іржэць. Рп., 362.

160—163, 187, 224, 227—229, 232, 245—248, 255, 261, 295, 296, 299. Гл. заўв. да 15—20.

229. Вар.: Ішла панна ўначы, пагубіла ключы, месяц бачыў, а сонца ўкрала. Б., 172.

288. У суткі — у прамежак паміж хатамі.

318. Лут — луцце, лыка.

## Час, поры года

Загадкі гэтай групы выяўляюць народныя веды ў галіне календара і нагляданні над адметнымі з'явамі розных адрэзкаў года і сутак.

339—342, 347, 348. Гл. заўв. да 15—20,

344. Заклюўка — надзяўбаная кураняткам шкарлупка выседжанага яйка.

345. Сямідон — ад сем дзён (тыдзень); я я — яйка.

387, 388. Трось — трыснёг.

## Раслінны свет

Прыродна-геаграфічныя ўмовы Беларусі вызначылі з'яўленне значнай групы загадак, аб'ектам якіх паслужыў раслінны свет, асабліва лясная флора. У гэтых загадках праявіліся народныя веды і шматвяковыя нагляданні беларускага селяніна над прыродай.

400, 403—406, 423, 425—428, 474—481, 483, 486, 487, 498, 519—521. Гл. заўв. да 15—20.

419. Плахта — каляровая жаночая паясная адзежа.

435. Ірмак — асабовае муж. імя Ярмак (Ярмола, Ермалай).

445. Вар.: У маленькім у гаршчочку кашка смашненькая. Р., сб., 319.

465, 466. Гл. 439, 440 з адгадкай «Жолуд».

523. Гл. падобную загадку на дзядоўнік (518).

532. Вар.: Без рук, без ног, без чэрава, а такі ўзлез на дзерава; ...драполіцца на дзерава. F., 466.

## Палявыя культуры

Аб'ектамі загадак з'явіліся асноўныя традыцыйныя культуры, якія спрадвеку вырошчваліся на Беларусі,— жыта, пшаніца, авёс, ячмень, лён, каноплі, гарох, грэчка.

541. Вар.: ...Ну, няхай мая загадка да налецця ляжыць. 1959, Гом.

548. На вургане — тое, што і на кургане, на ўзвышшы, высокім месцы.

554, 555. Гл. 549 з адгадкай «Авёс».

556, 557, 560, 563, 566, 568, 570—573, 596, 599. Гл. заўв. да 15—20.

560. Вар.: Ці вялік кіомаш, ці малы кіомаш, а ўсё сінія шапачкі.— Лён у час цвіцення. Нк., 25.

579. Вар.: Летам — сасонка, а зімою — кароўка. Н., 16.

592. Лямпёшачка — ляпёшка.

## Гароднія культуры

У гэтай групе загадак знайшлі сваё месца важнейшыя культуры, якія спрадвеку вырошчваліся на гародах беларускіх сялян,— цыбуля, капуста, буракі, гуркі, гарбузы, морква, рэпа, мак. Звяртае на сябе ўвагу амаль поўная адсутнасць загадак на бручку (толькі два тэксты — 750 і 755) і рэдзьку (адзін тэкст — 759). Тлумачэнне гэтай з'явы трэба шукаць, відаць, у асаблівасцях гістарычнага развіцця земляробства на Беларусі. Характэрна, што ў вядомым зборы рускіх загадак Д. Н. Садоўнікава (Загадки русского народа. М., 1959) таксама толькі адна загадка на бручку (838), затое восем загадак, не лічачы варыянтаў, на рэдзьку (802—809). Адносна бручкі можна меркаваць, што яна, відаць, належыць да параўнальна позніх, завезеных на Беларусь культур. Таму і не знайшла амаль адлюстравання ў творчасці загадак. І не здарма ў некаторых мясцовасцях Расіі бручку называлі немкай, галанкай (В. И. Даль. Толковый словарь, т. I. М., 1955, стар. 133). Аб познім з'яўленні бручкі ў рускіх і беларусаў можа сведчыць і разнастайнасць рускіх назваў гэтай гародніны (гл. В. И. Даль, там жа). На Беларусі бручка таксама вядома пад рознымі назвамі — бруква, букса, кручка, грышына, булька, вэмбрух і інш.

Адносна бульбы добра вядома, што з'явілася яна на Беларусі толькі ў другой палавіне XVII — пачатку XVIII ст. На працягу першай палавіны XIX ст. высаджвалася сялянамі яшчэ на гародах. Таму і аб бульбе выяўлены ўсяго 2 загадкі (600, 601), якія мы змясцілі ў групу загадак на гароднія культуры.

Наяўнасць толькі адной загадкі на рэдзьку цяжка вытлумачыць. Ва ўсякім выпадку больш старажытнай гародняй раслінай з'яўляецца рэпа (на яе і больш загадак — 7 запісаў. 752—758), але і рэдзька належыць да вельмі даўніх культур. Магчыма, не ўсе загадкі на яе выяўлены.

604—617, 637—639, 646, 663, 664, 689, 690, 730, 732, 733, 742—744, 747, 749, 758, 770, 780, 786—790. Гл. заўв. да 15—20.

604. Вар.: Сядзіць пані ў зялёным жупані, хто яе ўбача, той заплача. Р., сб., 330.

625. Сцяга — сцежка.

643. Шашуха — свавольніца.

648. Мэндалёва — Мэндаля (яўр. імя).

671. Тындэль, тындэлічка — загадкавыя словы.

678—679. Вонках — звонку.
680—683. Цвіклі — ластавіца, трохкутная ўстаўка пад пахай сялянскай кашулі.
714—716. Гл. падобныя 703—706 з адгадкай «Агурок». Вар.: Н., 18; 1949, Кір.; 1963, Смарг.
732. Гл. падобную 695 з адгадкай «Агурок».
749. Вырвасы — гарэзнікі, свавольнікі.
767. Тысёнц (польск.) — тысяча.
771. Прысяч — прысягнуць.
782—784. Брат-пракурат — загадкавае слова для сугучча.

## Садавіна

У параўнанні з гародніцтвам садоўніцтва ў старой беларускай вёсцы было развіта слаба. У адпаведнасці з гэтым і загадкі на садавіну складаюць адносна невялікую групу. Кола аб'ектаў гэтых загадак таксама невялікае — пераважна яблыня і яблыка, часткова ігруша і сліва — найбольш пашыраныя ў нас садовыя культуры. Сюды ж мы аднеслі і маліну, хаця загадкі маюць на ўвазе, відаць, маліну лясную. Загадкі на яблыка або яблыню ў многіх выпадках таксама маюць на ўвазе лясныя дзічкі (793—799).
798. Вар.: Паверх леса дзяжа кісне, а хто прыйдзе — кіем трэсне. Р., Мат., 88, Кобр. п.
804—808. Гл. падобныя 443, 444 з адгадкай «Жолуд».

## Чалавек

Чалавек, яго сутнасць, будова яго цела з'явіліся шырокай тэмай творчасці загадак. Таму загадкі на чалавека складаюць значную групу, больш 180 тэкстаў, і, як і многія іншыя загадкі на прыроду, з'яўляюцца праяўленнем народных ведаў.
825, 826. Тры (два) гады вісець — маецца на ўвазе дзіця ў калысцы, якая ў хаце падвешвалася да бэлькі.
832. Калуб — кадоўб, выдзеўбаная бочка.
834. Зіпала — вока, мігала — вейкі.
826—828, 837, 849, 956, 968. Гл. заўв. да 15—20.
850. Лятарка — ліхтар, тут вока.
859, 960, 862—872, 874—876, 896. Талалай, талалайка, талалайчык, таралай, тарандай, тарарай, тарадай, таратайка, талатай, талалуй — званок, тут язык.
916. Зіруць — выглядаюць.
917—919. Пролам, прaруба, парубка — палонка.
920. Вар.: У адной пуні да сем варот. Рп., 327.

## Хатняя жывёла

Гадоўля хатняй жывёлы спрадвеку існавала на Беларусі поруч з земляробствам і арганічна звязана з ім. Загадкі маюцца на ўсе віды прадуктыўнай і рабочай жывёлы, якую трымаў у сваёй гаспадарцы беларускі селянін, а таксама на тыя жывёліны, якія жылі пры чалавеку (сабака, кот).

1008. Бодні — рогі, ад дзеяслова бадаць; махта — хвост, ад дзеяслова махаць.

1011. Як і чатыры папярэднія загадкі, нагадвае ўмоўную прафесійную мову рамеснікаў (Гл. Е. Р. Романов. Белорусский сборник, вып. IX. Вильна, 1912).

1020, 1021. Будычкі, дыкалы — саскі вымя каровы. Словы, надуманыя для рыфмы.

1025—1027. Па смерці — танцы выдаў; памёр — стаў танцаваць; памрэ — так у танцы ідзе. Маецца на ўвазе валовая скура, з якой выраблялася матэрыял на боты.

1045. Маюцца на ўвазе чатыры нагі каня і дзве нагі конніка.

1046. Маюцца на ўвазе грыва, хвост і вочы.

1061. Загадваецца таксама на калыску, што падвешвалася да бэлькі ў хаце.

1066, 1080, 1086, 1093, 1095, 1128—1130, 1132, 1133, 1137, 1138, 1145, 1150—1155. Гл. заўв. да 15—20.

1077. Немцы — тут нямыя.

1083, 1085. Піргічыкі, чырычыкі — словы, відаць, гукапераймальныя, азначаюць парасят, што вішчаць. (Пар. прымаўку: «Пішчыць, што свіння ў плоце»).

1087—1095. Рында, рычечка, рэнда, рыўка, рыцька, рычка — назвы свінні, якія ўзніклі ад яе ўласцівасці рыць лычом зямлю. Каляда — тут воўк, бо ваўкі менавіта «на каляды», зімой гойсаюць, шукаючы спажыву.

1097. Гл. падобныя 443, 444 з адгадкамі «Жолуд».

1103, 1104, 1106. Балабонь, балабан, балобан, балаба — словы гукапераймальныя. Азначаюць авечку, барана, што бляюць.

1114. Па сваёй форме загадка літаратурнага паходжання.

1125. Гл. заўв. да 1114.

1163. Кульбачка — кiёк. Маецца на ўвазе пчалінае джала.

## Хатняя птушка

Пераважная большасць загадак гэтай групы абрала сваім аб'ектам курыцу і пеўня — найбольш пашыраную хатнюю птушку, якую заўсёды разводзілі ў гаспадарцы беларускага селяніна. З астатняй хатняй птушкі ў беларускіх загадках фігуруюць гусь і качка. Многа загадак на яйка — важны прадукт харчавання і прадмет абмену і гандлю.

1175—1177, 1181, 1182, 1189, 1227—1229, 1231—1238, 1242—1245, 1248—1252, 1265, 1267—1273, 1278, 1291, 1292. Гл. заўв. да 15—20.

1190—1193. Гл. заўв. да 1011.

1200. Трункі — напіткі (ад ням. Trünk — напітак).

1209. Барыльца — закрытая бочачка з адтулінай і затычкай.

1217. Няма яму сачочка — няма як сачыць, глядзець.

1248. Курка знесла яйка (першы раз радзіўся), з яйка вылупіўся пеўнік (другі раз). Верацьяму — час паказвае, служыць замест гадзінніка.

1251, 1252. Чорт баіцца — па даўняму павер'ю, як запяе певень, уся «нячыстая» сіла знікае.

1253. Кляўцы — ад клявец, малаток (для накоўвання жорнаў, кляпання касы). Гл. Н., Слов., стар. 266.

1279. Бірулі цы — гл. заўв. да 1209.
1281. Гл. падобныя загадкі 655 і 661 на капусту.
1288. Шуплем — шуфлем.

## Дзікія жывёлы

Сярод промыслаў і дапаможных заняткаў беларускага селяніна паляванне на ляснога звера займала невялікае месца. Таму загадкі на дзікую жывёлу складаюць нязначную групу (каля 30). Большасць іх (каля 20) загадвае на ваўка, бо ён прыносіў асаблівую шкоду сялянскай гаспадарцы і падлягаў узмоцненаму знішчэнню. З іншых жывёлін у загадках фігуруюць заяц, найбольш пашыраны аб'ект палявання, і вожык, які вабіў складальнікаў загадак сваім калючым «узбраеннем».

1306, 1313, 1325, 1326. Гл. заўв. да 15—20.
1307, 1308, 1310—1317. Гл. заўв. да 1011.

## Птушкі

Загадкі данай тэматычнай групы загадваюць на некаторых з найбольш блізкіх і вядомых селяніну прадстаўнікоў мясцовай арнітафауны, што гняздзяцца паблізу дамоў і ў лесе. Гэта — бусел, варона, сарока, верабей, ластаўка, дзяцел, зязюля і інш.

1334, 1338, 1340, 1347, 1348, 1357—1359, 1369, 1370. Гл. заўв. да 15—20.
1350—1352. Маецца на ўвазе доўгі хвост сарокі. Доўша — даўжэйшая.
1368. Па форме літаратурнага паходжання.

## Рыбы

У параўнанні з паляваннем рыбалоўства на Беларусі было больш пашырана. На малых рэках і азёрах існавала ўсюды спажывецкая лоўля рыбы, на буйных вадаёмах здаўна развіта і прамысловае рыбалоўства. Адпаведна з гэтым загадак на рыбы больш, чым загадак на паляўнічую фауну.

Характэрна, што загадкі загадваюць на рыбу наогул, не вылучаючы асобныя пароды яе. Толькі адна загадка адзначае ўюна (1380), лоў якога быў вядомы на малых балотных рэчках, асабліва на Палессі. Уюна сушылі і назапашвалі на зіму. Яшчэ больш загадак на рака, промысел якога быў значна пашыраны аж да пачатку XX ст., да з'яўлення паўсюднага памору на яго.

1375, 1383, 1384, 1387, 1388. Гл. заўв. да 15—20.

## Га́ды, паўзуны

Сярод іншых прадстаўнікоў мясцовай фауны беларускаму селяніну добра знаёмы і га́ды, якіх нямала плодзіцца, асабліва ў лесе. У загадках найбольш падкрэсліваецца тая небяспека, якую гады ўяўляюць для чала-

веке. Даная тэматычная група загадак невялікая (12 тэкстаў разам з варыянтамі).

1416—1418. Цыпуля, шыпуля, шыпуляе — ад шыпець; шчыпуля — ад шчыпаць, кусаць.

## Насякомыя

Загадак пра насякомых даволі многа (звыш 90 тэкстаў). Значная частка іх (звыш 30) загадвае на блыху, прусака, муху, якія былі сапраўдным бічом для сялян, што жылі ў цесных перанаселеных хатах, у антысанітарных умовах. З іншых насякомых аб'ектам загадак больш за ўсё былі камар (17 тэкстаў), які таксама моцна дапякаў жыхарам лясоў і балот, жук (19 тэкстаў), які вабіў уяўленне складальнікаў загадак сваім выглядам і паводзінамі, і мурашка-працаўнік (10 тэкстаў).

1426, 1442—1449, 1457, 1469, 1476, 1480, 1483—1486, 1510—1512, 1515. Гл. заўв. да 15—20.

1433, 1436. Гл. падобныя загадкі 1424, 1425 на муху́.

1444. Вар.: Чорненька, маленька караля падымае. Р., Мат., 93, Слон. п.

1477. Вар.: Ляціць пціца, нос, як спіца, хто яе прабівае, той кроў пралівае. 1960, Нясв.

1478, 1479. Па народных назіраннях камары з'яўляюцца ў маі («перад Міколам», святам, якое адзначалася 9 мая).

1483. Пятроў дзень (29 чэрвеня) — разгар лета, калі камары праяўляюць яшчэ вялікую актыўнасць. Ельня — павятовы горад Смаленскай губерні. Кельня — манашаская келья.

1485. Запеў танінy — тоненькім галаском.

1486. У колбе — у калысцы (рус. колыбель).

1513. Цеслі — цесляры.

1516. Локаць — старадаўняя мера даўжыні.

## ГАСПАДАРКА І МАТЭРЫЯЛЬНЫ БЫТ

У параўнанні з загадкамі на прыроду загадкі на гаспадарку і матэрыяльны быт у тым выглядзе, у якім яны дайшлі да нас, у большасці выпадкаў узніклі ў эпоху феадалізму, у час, калі склаліся асноўныя асаблівасці матэрыяльнай культуры беларускай народнасці. Больш познія загадкі, эпохі капіталізму, адзначаюцца ў каментарыях у адпаведных месцах.

## Сельская гаспадарка

Сельская гаспадарка з'яўлялася спрадвечным заняткам і крыніцай існавання беларуса. Аснову яе складала земляробства. Загадкі гавораць пра земляробчую працу і яе плён, пра нівы і сенажаці, на якіх праліваў пот беларускі селянін, пра малацьбу на таку, догляд жывёлы, пчол і г. д.

1519, 1536, 1565—1567, 1569, 1570. Гл. заўв. да 15—20.

1526. Вар.: Шчука сунець, лес вянець, на тым месцы касцёл станець. Ш., 497, Віл. п.

1537. На Патужавай гары — відаць, мясцовая назва ўрочышча.

1541. Загадка, відаць, кніжнага паходжання.

1546, 1547, 1557. Гл. заўв. да 1011.
1559. Загадка кніжнага паходжання.
1566, 1567. Красніцы — кросны.

## Земляробчыя прылады

Загадкі гэтай даволі значнай групы (каля 155 тэкстаў) складзены на асноўны набор немудроных старажытных прылад апрацоўкі зямлі і ўборкі ўраджаю — саху, барану, касу, граблі, серп, цэп. Загадкі пра саху і яе лемяшы не пакідаюць сумненняў у тым, што гэта асноўная землеапрацоўчая прылада беларуса спрадвеку была двурогай (1573, 1574, 1577, 1578, 1586, 1588, 1591—1600). Яна замяніла больш даўнюю прыладу — драўлянае адназубае рала або адназубую саху, аб якой захавалася толькі адна загадка (1572). Загадкі на барану таксама зафіксавалі найбольш характэрны тып гэтай прылады на Беларусі — плеценую барану на 25 зубоў (1602—1609). У пашыраным на Беларусі тыпе сярпа загадкі (1660—1684) падкрэсліваюць перш за ўсё яго характэрную рысу — выразную акругласць («гарбатасць»). Загадкі на плуг (1579—1583, 1587) значна больш позняга паходжання. Яны маглі ўзнікнуць толькі ў канцы XIX — пачатку XX ст., калі гэта прылада ў сялянскай гаспадарцы пачала інтэнсіўна выцясняць драўляную саху.

1577, 1578, 1590, 1599, 1600, 1610—1612, 1659, 1667, 1685, 1686, 1690, 1691, 1711, 1715—1717, 1723. Гл. заўв. да 15—20.

1629. Вар.: Сучка бялява ўвесь свет ізваляла. 1946, Староб.

1651. Пядзень — пядзя, даўняя мера даўжыні.

1652—1654. Локаць — даўняя мера даўжыні.

1655, 1656. Каршчок, каршачок — дробная мера. Гл. Н., Слов., стар. 247 (Каршок-кулачок — мера з кулачок).

1689. Загану — загадаю.

1695. Скарамінка — ад скаромнае, скураніна.

1697. Бінка — тут дубінка, дубовая палка; лінка — тут ялінка.

1700. Скаржына — скурат, скураніна (слова, відаць, спаланізавана).

1714. Гл. заўв. да 1011.

## Промыслы і рамёствы

Розныя промыслы, рамёствы і хатнія вытворчасці заўсёды з'яўляліся дапаможнымі заняткамі беларускага селяніна. Натуральна, што яны знайшлі сваё месца і ў тэматыцы беларускіх загадак (больш 160 тэкстаў). Аднак не ўсе промыслы і рамёствы, нават значна пашыраныя, парадзілі загадкі. Сярод змешчаных у гэтым раздзеле маюцца загадкі толькі на рыбацтва, паляванне і іх прылады, невялікая колькасць загадак на кавальства (4 тэксты) і асабліва многа на апрацоўку льну, канапель і шэрсці (прадзенне, ткацтва і шыццё), найбольш пашыраную хатнюю вытворчасць жанчыны-сялянкі ў старой беларускай вёсцы. Вядомыя ў беларускай вёсцы дрэваапрацоўчыя рамёствы (бандарства, калясніцтва і інш.) і ганчарства знайшлі сваё адлюстраванне толькі ў загадках на прадукцыю гэтых рамёстваў (загадкі гэтыя змешчаны ў раздзеле «Хатняе начынне»).

1724—1728, 1738, 1771, 1772, 1782, 1802, 1814—1816, 1875. Гл. заўв. да 15—20.

1729. Сані-рассамані — санкі-разваакі.
1730. Вар.: Дзірак многа, а вылезці нікудой.— Рыбалоўная сетка. Р., сб., 320.
1758. Нагла — тут адкрыта, яўна.
1760. Гойнуць — гойкнуць, крыкнуць.
1777. Яшчурава — ад яшчар, яшчарыца і ў сэнсе даўгая.
1783. Скрэблы, Вілейшы — відаць, назвы вёсак.
1828. Кундзель — лахматы сабака. У Н., Слов., 269; Кундыль — мянушка сабакі, кудла.
1831, 1832. Тарарай — гл. заўв. да 859.

## Харчаванне і ежа

Загадкі гэтай значнай групы (больш 200 тэкстаў) даюць уяўленне аб асноўных асаблівасцях харчавання беларускага селяніна, спосабах прыгатавання важнейшых прадуктаў і характэрных рысах ежы. Загадкі апавядаюць пра прыгатаванне мукі на хатніх жорнах і ў млынах, пра хлебапячэнне, розныя мучныя, крупяныя, малочныя, мясныя і іншыя стравы, а таксама пра парадак прыёму ежы.
1895, 1896. Кілашы — кілуны, парсюкі нелягчаныя.
1906. Трымбуль — слова, якім у загадцы названы, відаць, той шпянёк, на які насаджан верхні камень жорнаў.
1910. Ліпнічак — тут драўляная аправа жорнаў з ліпы.
1911. Стрычыць — тырчыць.
1922, 1932. Гон, ганы — плыты.
1929, 1930. Чэчык, чэмчык — чачот (птушка). Амецік — тут вецер.
1938. Граты — краты.
1941. Гл. падобныя загадкі 1379—1381 на рыбу і 1759 — на стрэльбу.
1949. Вышчаркі — вясёлыя, ад вышчырацца — смяяцца.
1955. Сумяцель — мяцеліца.
1964, 1994, 2033, 2034, 2046, 2062, 2071. Гл. заўв. да 15—20.
1986. Вар.: Яшная пасцеля, зялезны ток, свіннэй пераскок. А. Шлюбскі. Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны, ч. І. Мінск, 1927, стар. 61.
2007, 2008. Гл. падобную загадку 1218 на яйка.
2013. Гл. падобныя загадкі 1379—1381 на рыбу, 1759 — на стрэльбу, 1941 — на млын.
2015. Сквірыцца — скварыцца.

## Хата і яе абсталяванне

Жыллё і ўсё, што акружала беларускага селяніна ў яго хаце, паслужылі аб'ектамі асабліва вялікай групы загадак (каля 400 тэкстаў). Найбольш загадак складзена пра самую хату, яе будову і асобныя яе часткі, пра печ, якая займала важнейшае месца ў хаце, і асноўныя прадметы традыцыйнай сялянскай мэблі — стол, лавы, ложак.
2076, 2078, 2079, 2080. Тут падкрэсліваецца характэрная асаблівасць зрубнай тэхнікі пабудовы беларускай сялянскай хаты, звязванне бярвенняў у вянок з выступаючымі канцамі.
2084. Гл. падобныя загадкі 925—943 на вочы.

2090, 2143, 2178, 2179, 2188, 2191, 2218, 2270, 2298—2300, 2302, 2303, 2319—2321, 2323, 2325, 2328—2331, 2335, 2344, 2354, 2367, 2369, 2370, 2378—2381, 2394, 2395, 2407, 2408, 2433, 2434. Гл. заўв. да 15—20.

2135, 2136. Гл. падобныя загадкі 655—660 на капусту.

2177. Запіс, відаць, няпоўны.

2178. Вар.: Поўна каліта золатам паліта. Д., 90.

2218, 2219. Фіту-фіту, фіту-міту — загадкавыя словы, ужытыя для рыфмы.

2248—2250. Лісіцы — тут вушакі.

2288. Цюлінька — цюцька, сабачка.

2305—2308. Валакавое акно — маленькае вузкае акенца, адтуліна ў даўніх курных хатах, якое закрывалася драўлянай засаўкай.

2320. Вар.: Межы дзеравяныя, палі сцякляныя. 1949, Кір.

2329. Грыбы — тут губы.

2370. Вар.: Пад аднэю рызаю чатыры папы. Д., 95.

2380. Вар.: Чатыры паненачкі пад адным капялюсікам стаяць. W., 5, Віл. п.

## Хатняе начынне

Гэта група загадак служыць як бы працягам папярэдняй. Загадкі загадваюць на рэчы і прылады, без якіх не абыходзілася ніводная сялянская хата і дамашняя гаспадарка. Аб'ектамі многіх загадак (каля 200) паслужылі прадметы і прылады гаспадыні-сялянкі: качарга, вілкі, чапяла, памяло, гаршкі, скаварада, вёдры, каромысел, чарпак, мятла, а таксама ночвы, бочкі, дайніца, бязмен і інш. Да больш позніх належаць загадкі на самавар, які ў больш заможных гаспадарках паявіўся ў канцы XIX — пачатку XX ст.

2442. Баўцерава дачка — Баўтрукова (муж. імя Баўтрук, Баўтрамей, Варфаламей).

2445, 2446, 2461, 2463—2466, 2468, 2469, 2476—2481, 2487, 2489, 2490, 2494, 2497—2501, 2527, 2561, 2580, 2581. Гл. заўв. да 15—20.

2450. Анох — асабовае муж. імя (Анупрэй, Ануфрый).

2457. Цындалечка — загадкавае слова без сэнсу.

2462—2466, 2469. Загадкі на гаршчок маюць на ўвазе ўвесь працэс яго вырабу: здабыванне гліны, мяшанне, фармаванне на кругу, абпал у горне і г. д.

2467. Дахар і вахар — словы, падобныя да слоў умоўных, прафесійных жаргонаў. Азначаюць, відаць, таго, хто дае, і тое, у чым вараць.

2508. Карантычка-карантак — загадкавыя словы, характэрныя для многіх твораў загадак.

2537. Напагадзе — ад пагадзіць, пачакаць.

2549. Сергін-мергін. Гл. заўв. да 2508.

2551. Стахій — асабовае муж. імя (Стах, Яўстафій).

2578. Шадзіла-бадзіла. Гл. заўв. да 2508.

2513. Пацюры — пацеры, пацеркі. Тут — абручы.

2613, 2614. Шашкі-машкі, Шынкі-брынкі — гл. заўв. да 2508.

### Гаспадарчыя будынкі

З усіх гаспадарчых будынкаў сялянскага двара толькі гумно, якое звычайна ставілася ўводдаль сядзібы і ўяўляла найбольшую каштоўнасць, а таксама пограб адзначаны ў некалькіх загадках. З астатніх збудаванняў на сядзібе беларускага селяніна ў загадках знайшлі адлюстраванне толькі агарожа, вароты і асабліва калодзеж дзякуючы яго важнай ролі ў гаспадарцы і жыцці.

2637, 2643. Гл. заўв. да 15—20. Калямар — чарніцьніца.

### Гаспадарчыя прылады

Гэта група яднае загадкі на гаспадарчыя прылады, якія неабходны на сялянскіх дварах, у хатніх работах: доўбня, калода і сякера, патрэбныя для колкі дроў, піла, малаток, свярдзёлак, гэбель і інш.

2666—2669. Сякера затыкаецца за пояс лязом назад.

2673, 2681, 2683, 2698. Па форме загадкі літаратурнага паходжання.

### Адзежа, абутак, аздобы

Гэта параўнальна невялікая група загадак (каля 70 тэкстаў). Яны загадваюцца на некаторыя асобныя часткі адзежы (кашулю, штаны, кажух, пояс) і іх дэталі, на абутак, галоўным чынам лапці і аборы, а таксама боты, на аздобы (пацеркі, пярсцёнкі), галаўныя ўборы і г. д.

2699. У загадцы гаворыцца пра спосаб надзявання рубашкі — спачатку рукавы, а потым цераз галаву «на вярох» — на верх.

2702, 2704, 2714, 2734, 2743, 2767. Гл. заўв. да 15—20.

2711, 2712. Спосаб падпяразвання.

2729. Гл. заўв. да 1011.

2730. Качарыг — завостраная драўляная або касцяная прылада — шыла для пляцення лапцей (рус.— кочедык). Іншыя беларускія назвы: спіца, сугак, сугака, падвірак.

2751. Дзяжурка — дзяжа, дзежка.

2760—2762. Свіней, коні выганяць — вычэсваць вошы. Пацынгалы — ад спаланізаванага пацягваць.

### Транспартныя сродкі

Без мінімальных сродкаў транспарту не магла абысціся ніводная сялянская гаспадарка. Звазіць снапы з поля, сена з лугоў і паплавоў, рыначныя сувязі — усё гэта патрабавала пэўных транспартных сродкаў, як сухапутных, так і водных, пашыраных асабліва ва ўмовах Палесся. Таму і ўзнікла адпаведная група загадак на сялянскі воз і яго часткі, на сані, збрую і чоўны. З развіццём чыгуначнага траспарту на Беларусі з другой палавіны XIX ст. з'яўляюцца загадкі на цягнік і паравоз (2899—2904).

2768. Шахцель-пяхцель, рахтычкі — звычайныя для жанру загадак загадкавыя словы, часта гукапераймальныя, якія не паддаюцца перакладу. У першым выпадку падкрэслены грукат і скрып воза, якія рухаецца па дарозе, у другім слова азначае калёсы. Гл. таксама заўв. да 1011.

2782. Апастол — відаць, пастол, лапаць.

2792. Л я ц я ц ь — бягуць (дыялектызм).
2806. С а х о н а ў ц ы — відаць, ад назвы вёскі.
2823, 2832, 2834, 2842, 2845, 2846. Гл. заўв. да 15—20.

### Шляхі-дарогі

Побач з транспартнымі сродкамі ў беларускіх загадках знайшлі сваё адлюстраванне і шляхі зносін рознага віду — грунтовыя дарогі Беларусі. Гэтай тэме прысвечана больш 35 загадак.

2908, 2916, 2919. Гл. заўв. да 15—20.

2913. Вар.: Ляжыць Рася, расцяглася, як устане, так і неба дастане. Гт., 299, Дзісн. п.; Н., 15.

## ГРАМАДСКІ І СЯМЕЙНЫ БЫТ

У параўнанні з двума папярэднімі раздзеламі загадак на прыроду і матэрыяльны быт, наступныя раздзелы, у прыватнасці дадзены раздзел пра грамадскі і сямейны быт, невялікія. Тлумачыцца гэта тым, што загадкі па сваёй прыродзе пераважна матэрыялізаваны, яны гавораць пра рэчы матэрыяльныя і значна менш пра адцягненыя паняцці. Гэтым яны выразна адрозніваюцца ад прыказак і прымавак, якія шырока трактуюць ідэалагічныя пытанні. Таму нават у пытаннях грамадскага і сямейнага быту, як і ў пытаннях культуры, як будзе відаць далей, трактуюцца пераважна з'явы прадметныя.

### Грамадскі быт

Вынікаючы з адзначанай асаблівасці жанру, у загадках гэтай групы знайшлі сваё адлюстраванне пераважна матэрыялізаваныя з'явы, звязаныя з грамадскім бытам. Аб'ектамі загадак з'яўляюцца тут прадстаўнікі эксплуататарскіх класаў (пан, поп), а таксама прадстаўнікі царскай адміністрацыі, варожыя народу (валасны старшыня, пісар), такія з'явы грамадскага быту беларускай вёскі, як карчма, вячоркі і г. д. Толькі часткова закранаюцца заганныя рысы людзей і грамадскага жыцця (зладзейства і інш.). Развіццё грашова-таварных адносін парадзілі загадкі на грошы. Амаль усе загадкі гэтай групы ўзніклі ў класавым грамадстве.

2944. Г у с ё й а р э ц ь — маецца на ўвазе пісанне гусіным пяром, што ў пэўнай ступені сведчыць аб часе ўзнікнення гэтай загадкі, не пазней першай палавіны XIX ст.

2945. С і р а н — снегавая корка (заўв. Нк., 10), г. зн. пісар піша па беламу (па белай паперы).

### Сямейныя адносіны

Загадкі гэтай параўнальна невялікай групы (29 тэкстаў) трактуюць некаторыя сваяцкія сувязі (бацька — дачка, свякроў — нявестка) і асабліва

вылучаюць у сям'і малых дзяцей і маці-карміцельку, што сведчыць пра асаблівую ўвагу народа да мацярынства.

2963. Вуштабурка, уштабрыка, бахтар і інш.— словы па свайму характару падобны да слоў умоўнай, «тайнай» мовы, якія часта фігуруюць у загадках.

2968—2971. Гл. заўв. да 2963.

### Сямейныя абрады і звычаі

Загадкі гэтыя датычаць народных абрадаў, звычаяў і ўяўленняў, звязаных з асноўнымі момантамі ў жыцці чалавека: вяселлем (адна загадка), нараджэннем (6 тэкстаў) і асабліва смерцю (29 тэкстаў). У загадках на смерць адлюстраваны народныя ўяўленні пра яе і характарызуюцца абрады пахавання нябожчыка і галашэння над ім. З галашэннямі звязаны і асобныя загадкі пра месца пахавання — могілкі.

2987, 2990, 2991, 3000. Гл. заўв. да 15—20.

3007, 3008. Загадкі пра чаканне і запрашэнне смерці маглі ўзнікнуць толькі ў невыносных умовах прыгнечанага жыцця працоўных, пры безвыходных абставінах.

## КУЛЬТУРА

У загадках, якія датычаць духоўнай культуры беларусаў, таксама закранаюцца, як ужо адзначалася, пераважна прадметныя праяўленні гэтай галіны народнага жыцця. Гэта, відавочна, больш познія загадкі аб школе і наогул аб асвеце, загадкі, якія характарызуюць некаторыя бакі народнага мастацтва (музыку і спевы), загадкі, звязаныя з даўнімі вераваннямі, царквой, рэлігійнымі святамі і іншымі з'явамі духоўнага жыцця.

### Школа, асвета

Аб самой школе ў гэтай групе занатавана толькі адна загадка, усе ж астатнія загадваюць асабліва на такія прадметы і з'явы, звязаныя са школай і асветай, як кніга, пісьмо і пісьмовыя прылады, школьныя дапаможнікі і г. д. Многія загадкі гэтай групы ўзніклі параўнальна позна, у XIX—XX стст., а некаторыя загадкі, магчыма, і кніжнага паходжання.

3026. Вар.: Чорнае насенне, белае поле, хто яго сее — той разумнее. 1963, Маладз.

3027. Папера, літары, пальцы рукі, вочы, розум. Гл. таксама загадку 3324.

3042, 3052—3054. Загадкі ўзніклі ў часы, калі яшчэ пісалі гусінымі пер'ямі.

3052. Сіран. Гл. заўв. да 2945.

### Музыка, спевы

Загадкі адзначаюць тут важнейшыя музычныя інструменты, якія складалі аснову беларускага народнага інструментарыя, асабліва скрыпку (29 тэкстаў), а затым духавыя інструменты — пастуховы трубы, дудкі і дуду

(8 тэкстаў), цымбалы (1 загадка). Загадка 3071 вельмі вобразна малюе народнае спяванне.

3072—3084. Даўней у народных музыкаў ва ўжыванні былі пераважна самаробныя скрыпкі. Аб гэтым гаворыцца ў адзначаных загадках: У лесе радзілася, сцята, вырасла і г. д.

3085, 3086. Больш познія загадкі на пакупныя скрыпкі: У лаўцы куплена, у краме ўзята.

3097. Конь на баранах хвастом махае — смычком з конскага воласу па струнах з барановых кішак.

### Рэлігія, царква, святы

Характэрнай асаблівасцю гэтай групы з'яўляецца амаль поўная адсутнасць загадак на старадаўнія вераванні, яны, відаць, не захаваліся. Усе загадкі датычаць хрысціянскай рэлігіі. Яны загадваюць на царкву і царкоўны інвентар, на духавенства і набажэнствы, на царкоўныя званы. Невялікую колькасць загадак (9 тэкстаў) загадваюць на важнейшыя святы, таксама звязаныя пераважна з царкоўным календаром,— каляды, вялікі пост і вялікдзень.

У многіх загадках праявіліся развіццё народнага атэізму, крытычныя адносіны да царквы і духавенства, выкрыццё іх эксплуататарскай сутнасці (гл. 2123, 3137, 3140—3145).

3131. Бытуе таксама як прымаўка.

3143. Блеюнец — баран.

3158. Рулы — раўлі, рыкалі (дыялектызм).

3160. Перарост, Іvакі — назвы вёсак на Гомельшчыне (зараз Добрушскага р-на).

### Розныя

Тут сабраны загадкі пра іншыя прадметы культуры, якія не ахоплены загадкамі папярэдніх раздзелаў. Большасць іх загадвае на такія рэчы, як гадзіннік (24 тэксты), акуляры, мячык, на лазню, якую ведалі пераважна ва ўсходніх раёнах Беларусі. Узнікненне гэтых загадак трэба аднесці да больш позняга часу, пераважна да канца XIX — пачатку XX ст.

## ЗАГАДКІ-ЖАРТЫ, ЗАГАДКІ-ЗАДАЧЫ

Асобную катэгорыю загадак складаюць загадкі-жарты і загадкі-задачы. Яны таксама займалі адпаведнае месца ў народным вуснапаэтычным рэпертуары. Гэта пераважна смешныя запытанні з нечаканым адказам, пабудаваныя часта на ігры слоў і добра вядомых сітуацыях. Загадкі-задачы таксама пераважна жартоўнага характару, аднак вырашэнне іх патрабуе ад слухачоў немалой кемлівасці.

### Загадкі-жарты, загадкі-пытанні

Гэты тып загадак па сваёй форме ўяўляе сабою звычайнае пытаннежарт, якое амаль заўсёды пачынаецца словамі «што», «хто», «чаго». Тэма-

тыка іх самая разнастайная: з'явы і аб'екты прыроды, жывёлы, расліны і інш. Многія з гэтых загадак бытуюць не толькі асобна, але і ўплецены ў паэтычную тканіну некаторых песень і казак (напр., «Што бяжыць без повада?» — Вада). Некаторыя загадкі з гэтай групы, часткова кніжнага паходжання, з'яўляюцца свайго роду крыптонімамі (ад грэч. Kryptos — таемны, схаваны і onoma — імя), заснаванымі на будове асабовых імёнаў, геаграфічных назваў (напр., «Што стаіць пасярэдзіне Волгі?» — Літара «л». Гл. 3335—3337, 3339), або на ігры слоў (3350, 3342, 3343).

3325. Варона — вёска ў Астравецкім р-не.

### Загадкі-задачы

Загадкі-задачы з'яўляюцца сапраўднымі ўзорамі народнай займальнай матэматыкі і дасціпнасці. Рашэнне гэтых задач прымушае слухачоў глыбока задумацца і часта патрабуе ад іх адпаведных вылічэнняў і кемлівасці. Асобныя задачкі таксама пабудаваны на ігры слоў (3347, 3365, 3369) або з'яўляюцца проста жартамі (3350, 3370, 3373).

3347. Сорак — сарока самец.

3348. Капа — адзінка ліку: 60.

3358. Тры свечкі згарэлі, а адна, патушаная, засталася.

## ЗАГАДКІ САВЕЦКАГА ЧАСУ

Традыцыя творчасці загадак працягваецца ў савецкі час. Аднак яны напоўнены ўжо зусім новым зместам. Яго вызначыла само шматграннае жыццё савецкага народа. Новымі аб'ектамі сучасных загадак зрабіліся яркія з'явы з жыцця Савецкай краіны, сацыялістычныя пераўтварэнні ў грамадскім, матэрыяльным і духоўным быце народа. Апрача загадак, прысвечаных рэвалюцыі і Радзіме, найбольшая частка новых загадак адлюстроўвае тэхнічны прагрэс, які дасягнуты ва ўсіх галінах гаспадаркі і культуры савецкага народа. У адпаведнасці з гэтым усе сабраныя новыя загадкі (114 тэкстаў) падзелены ў зборніку на 7 тэматычных груп.

### Ленін, Савецкая краіна, мір

Тут творы пра Леніна, Савецкую Радзіму, савецкую эмблему — пяцікантовую зорку, пра чырвоны сцяг рэвалюцыі і барацьбу за мір. Тут жа змешчаны загадкі пра поспехі савецкай навукі і тэхнікі ў асваенні касмічнай прасторы. Яны пачалі ўзнікаць адразу пасля першых савецкіх спадарожнікаў і касмічных караблёў. Большасць загадак гэтай групы запісана ў час экспедыцыі ІМЭФ АН БССР 1964 г.

### Савецкая Армія, абарона Радзімы

Запісы пераважна даваенных гадоў, таму аб'ектамі большасці загадак з'яўляюцца тут прадметы ўзбраення савецкіх воінаў таго часу. Тры загадкі з часоў Вялікай Айчыннай вайны загадваюць на фашыстаў і Гітлера.

### Электрычнасць, радыё, тэлебачанне

Усё тое новае, што ўвайшло ў быт працоўных вёскі за гады Савецкай улады, знайшло сваё адлюстраванне ў загадках. Гэта датычыць перш за ўсё электрыфікацыі вёскі. Першыя загадкі на «лямпку Ільіча» з'явіліся ўжо ў канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў. Яны нараджаюцца і ў наш час. У 30-я гады ўзнікаюць загадкі на радыё. З пранікненнем у вёску розных бытавых электрапрыбораў з'явіліся загадкі на электрапрас, халадзільнік, пральную машыну (3403—3406). У апошнія гады аб'ектам новых загадак робіцца тэлевізар.

### Транспарт і сувязь

Сярод новых сродкаў транспарту асаблівую ўвагу складальнікаў сучасных загадак прыцягнуў самалёт. Пра яго ў гэтай групе найбольш загадак (11 з 20). Апрача таго, маюцца загадкі на аўтамабіль, паравоз, параход. Са сродкаў сувязі аб'ектам загадак з'яўляецца тэлеграф.

### Новая сельскагаспадарчая тэхніка

У гэтай групе загадак, якая налічвае 30 тэкстаў, асноўнае месца займае трактар, што сімвалізуе сабой сацыялістычную перабудову вёскі (19 тэкстаў). Першыя загадкі пра трактар пачалі ўзнікаць у 30-я гады. Пасля трактара адпаведнае месца сярод аб'ектаў загадак займаюць камбайн, жнярка, касілка. Да больш новых належыць загадка на бульбакапалку, якая сярод іншай сельскагаспадарчай тэхнікі з'явілася ў пасляваенныя гады.

3456. Падобная загадка 3437 на трактар.

### Школа, асвета, культура

Тэма гэта вядома і дарэвалюцыйнай творчасці загадак. Тут яна набыла далейшае развіццё ў загадках пра школу, пісьменнасць і настаўніка, газеты, фізкультуру, новы быт.

### Розныя

Тут змешчаны загадкі пра розныя з'явы ў жыцці Савецкай краіны. Некаторыя загадкі хоць і загадваюць на традыцыйныя аб'екты (пчолы, вецер), але ўся іх вобразная сістэма ўжо новая, пачэрпнутая з сучаснай рэчаіснасці.

# АСАБОВЫ ПАКАЗАЛЬНІК ЗБІРАЛЬНІКАЎ

# ЗМЕСТ

## КУЛЬТУРА



## ЗАГАДКІ-ЖАРТЫ, ЗАГАДКІ-ЗАДАЧЫ



## ЗАГАДКІ САВЕЦКАГА ЧАСУ




На белорусском языке. **Загадки.** Издательство «Наука и техника». Минск, Ленинский проспект, 68. Рэдактар М. Дубоўская. Мастацкае афармленне В. Саўчанкі. Тэхнічны рэдактар І. Валахановіч. Карэктар В. Сарванава. Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. АТ 16627. Здадзена ў набор 28/III 1972 г. Падпісана да друку 28/VIII 1972 г. Фармат 60×84¹/₁₆. Папера друк. № 1. Друк. арк. 28,0. Уч.-выд. арк. 11,2. Выд. заказ 243. Друк. заказ 262. Тыраж 10500 экз. Цана 87 к. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР і Дзяржкамітэта СМ БССР па друку. Мінск, Ленінскі праспект, 68.